ГРОДЗЕНСКАЕ АБЛАСНОЕ АДДЗЯЛЕННЕ ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ
«САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ»

# НОВЫ ЗАМАК

ЛІТАРАТУРНЫ АЛЬМАНАХ. ГРОДНА. MMXVII

ЗАСНАВАНЫ Ў 2012 ГОДЗЕ
ВЫПУСК 6



МІНСК «КНІГАЗБОР» 2018



# ПРОЗА СТАРОГА ГОРАДА

## ВІКТАР ВАРАНЕЦ

### Гармата

Кароль Швецыі Карл XII сядзеў за накрытым сталом у сялянскай хаце і няспешна снедаў у адзіноце. З нядаўняга часу ён забараніў, насуперак прыдворнаму этыкету, яшчэ каму-кольвек прысутнічаць у час трапезы. Карл даеў салдацкую кашу, запіў некалькімі глыткамі крынічнай вады і выцер вусны сурвэткай. Пасля чаго паклаў у рот два пальцы і гучна свіснуў. Тут жа ў пакоі з'явіўся камер-юнкер барон Беркенгельм.

— Якія навіны, барон? — запытаў кароль.

— Ваша вялікасць, позна ўначы ў лагер прыбыў князь Радзівіл з Гродна ў надзеі, што вы акажаце міласць і прымеце яго.

— І чаму мне ўвесь час даводзіцца мець справу са здраднікамі? — Карл скамячыў сурвэтку і кінуў на стол. — Добра, паклічце яго.

Праз хвіліну на парозе з'явіўся высокі грузны мужчына сярэдніх гадоў.

— Добрай раніцы, ваша вялікасць, — госць крыху схіліў галаву, але ўся яго постаць выказвала годнасць і самапавагу. — Я князь Караль Станіслаў Радзівіл, прадстаўнік наймагутнейшага роду Рэчы Паспалітай!

Карл адкінуўся на спінку крэсла і з яўнай пагардай у голасе прамовіў:

— Я слухаю вас, князь.

Радзівіл зразумеў, што сесці яму не прапануюць, пачырванеў ад гневу, але перадолеў сябе.

— Ваша вялікасць, я тэрмінова пакінуў Гродна, каб паведаміць, што ў горадзе сабрана больш за дзве сотні гармат, прызначаных для ўзмацнення арміі цара Пятра, а таксама шмат харчовых прыпасаў. Гарадзенскі гарнізон малакалькасны і слабы, таму ваша вялікасць можа адным рашучым ударам захапіць і горад, і ўсю артылерыю.

Карл павярнуўся да Беркенгельма:

— Графа Піпера да мяне.

Барон імгненна знік за дзвярыма.

— Паслухайце, князь, — кароль ужо з цікавасцю разглядаў Радзівіла, — а якая вам карысць ад гэтай здрады?

Твар Радзівіла імгненна збялеў. Ён расправіў плечы і з годнасцю адказаў:

— Здраджвае той, хто прысягаў на вернасць. Я цару Пятру не прысягаў. Больш за тое, я адмовіўся падтрымаць па яго загадзе войска самазванца Аўгуста сваёю шляхтай і грашыма. Мая шабля належыць каралю Станіславу Ляшчынскаму. І за гэта Пётр загадаў закаваць мяне ў жалеза, маю сям'ю адправіць у Сібір, а палац перадаць

генерал-фельдмаршалу Агільві. Але верныя людзі паспелі папярэдзіць мяне. І з таго часу для мяне не існуе большай справы, чым справядлівая помста маскоўскім варварам.

Тым часам у пакой увайшоў тайны саветнік граф Піпер.

— Граф, — строга запытаў шведскі кароль, — ці ведаеце вы, што ў Гродне сканцэнтравана вялікая колькасць гармат цара Пятра?

— Так, Ваша вялікасць, — спакойна адказаў саветнік, — я гэта ведаю са слоў князя Радзівіла. А з данясення аўстрыйскага пасла я ведаю, што ў горадзе знаходзіцца не дзвесце, а амаль тры тысячы адзінак гэтай зброі. І зараз нашы лазутчыкі ў Гродне высвятляюць, хто салгаў.

— Цудоўна, — Карл ускочыў з крэсла, — дзвесце ці тры тысячы — ролі не адыгрывае. Яны будуць маімі. Тэрмінова сюды ўсіх генералаў!

26 студзеня 1706 года шведскія войскі раптоўна з’явіліся пад сценамі Гродна. Разам з генерал-лейтэнантам Стэйнбокам Карл агледзеў умацаванні горада і прыйшоў да высновы, што крэпасць узяць штурмам немагчыма. Тады ён загадаў палкам Стэйнбока ўзяць горад у асаду, а сам з асноўнымі сіламі зноў кінуўся ў пагоню за саксонскім каралём Аўгустам.

Генерал-фельдмаршал фон Агільві сядзеў у гасцявой зале палаца Радзівілаў у акружэнні вышэйшых афіцэраў Гродзенскай крэпасці.

— Панове, — звярнуўся ён да прысутных, — цар Пётр запэўніваў мяне, што шведы заняты каралём Аўгустам і зараз ім няма справы да Гродна. Таму наш гарнізон і лічыўся сціплым, але вельмі важным рэзервам расійскай арміі. І вось, насуперак звычайнай ваеннай логіцы, мы аказаліся ў асадзе. Што будзем рабіць далей, панове?

Першым падаў голас князь Рапнін.

— Ваша светласць, наш, як вы сказалі, сціплы рэзерв налічвае 41 батальён пяхоты, 4 батальёны грэнадзёраў і 6 драгунскіх палкоў. Па маіх звестках, гэта ў паўтара раза больш, чым у шведаў, якія трымаюць нас у асадзе. У крэпасці сабрана дзве сотні гармат. Таму прапаную пры падтрымцы артылерыі нанесці ўсімі сіламі сакрушальны ўдар па ворагу і зняць асаду.

І Рапнін ваяўніча прытупнуў нагой.

Слова ўзяў генерал Галарт.

— Я з задавальненнем выслухаў шаноўнага князя. Але вымушаны рашуча запярэчыць. Па-першае, мы не ведаем дакладную колькасць салдат у шведскай групоўцы пад Гроднам. Па-другое, мы не маем дазволу яго царскай вялікасці Пятра Аляксеевіча на выкарыстанне рэзерваў арміі ў баявых дзеяннях. Рэзерв на тое і рэзерв, каб яго берагчы. Таму я прапаную адправіць кур’ера да цара Пятра для высвятлення становішча, а пакуль адседзецца за моцнымі сценамі крэпасці.

Пачалі выступаць і іншыя афіцэры. Меркаванні дыяметральна раздзяліліся. Частка прысутных падтрымлівала рашучыя дзеянні Рапніна, іншыя даказвалі слушнасць прапаноў Галарта. Агільві нарэшце ўзняў руку — і вэрхал сціх.

— Панове, я ўважліва выслухаў вас, і вось мой загад як камандуючага. Адправіць кур’ера з данясеннем да цара Пятра Аляксеевіча. Узмацніць абарону і адрамантаваць крапасныя ўмацаванні. І ніякіх ваенных сутычак. Будзем чакаць. Усе могуць быць вольнымі.

Застаўшыся адзін, Агільві ўзяў са стала маленькі срэбраны званочак і пару разоў яго страсянуў. Тут жа ў дзвярах узнік ад’ютант генерал-фельдмаршала.

— Паклічце Майсея Пельціса.

Праз хвіліну ў залу ўвайшоў стары яўрэй з доўгімі пэйсамі і рэдкай сівой бародкай.

— Добрага дня яснаму пану, — нараспеў вымавіў Майсей і нізка схіліўся перад генерал-фельдмаршалам.

— Праходзь, Майсей, — ветліва адазваўся Агільві, — сядай у крэсла.

Майсей акуратна сеў на самы край, нібы баючыся, што крэсла не вытрымае яго высахлага цела.

— Прашу даравацъ, ваша светласць, — зноў заспяваў стары, — але што можа даць такому яснаму пану бедны яўрэй Пельціс?

— А мне сказалі, што Майсей Пельціс — самы багаты і паважаны ў Гродне яўрэй. Няўжо мяне падманулі?

— Так і ёсць, святлейшы мой пане. Злыя языкі так мянтузяць, нібы карась хвастом па патэльні. Адныя нагаворы, адная злосць, прошу пана.

Агільві ўсміхнуўся.

— Добра, — перарваў ён галашэнні старога яўрэя. — Бедны дык бедны. Але ёсць магчымасць стаць багатым. Што ты на гэта скажаш?

Майсей тут жа спыніў енк і ўжо з цікавасцю паглядаў на генерал-фельдмаршала.

— Светлы пан жартуе са старога Майсея?

— Не, не жартую. Мне патрэбна дапамога надзейнага чалавека. І яна будзе добра аплачана.

— Спяшаюся запэўніць яснага пана, што больш надзейнага, чым Майсей Пельціс, вы ад Масквы да Варшавы не знойдзеце… — і Майсей бліжэй падсунуўся да Агільві.

— У мяне сабралася нямала розных залатых рэчаў. Іх трэба вывезці з горада, але каб ніхто пра гэта не ведаў. Зараз на дарогах неспакойна, навошта лішні раз рызыкаваць.

— А ці дазволіць ясны пан запытацца старому Майсею, колькі таго золата сабралася?

— Пудоў шэсць-сем.

У Майсея ажно акругліліся вочы.

— Такі, гэта не малы кавалак, каб ніхто не заўважыў, светлы пане.

— У тым і справа, што вялікі кавалак. А абозам не адправіць — надта кідаецца ў вочы.

— А дазволіць ясны пан яшчэ запытацца беднаму габрэю?

— Пытайся.

— А што гэта за рэчы з золата?

— Ну што, кубкі, талеркі, фігуркі жывёл. Ёсць вялікі гетманскі скіпетр. Ну і іншая драбяза.

— Стары Майсей так разумее, не дай Бог пана пакрыўдзіць, што гэта рэчы збеглага князя Радзівіла, у пакоях якога маю гонар размаўляць з ясным панам?

— Гэта канфіскаваныя рэчы здрадніка і злачынцы Радзівіла. І мой абавязак даставіць гэтае золата ў Санкт-Пецярбург. Толькі вось як?

Пельціс задумаўся, гледзячы ў акно палаца. Раптам яго твар пасвятлеў, і ён рашуча павярнуўся да Агільві.

— Калі ваша светласць не забудзе ў сваёй міласці пра старога габрэя, я скажу пану, што рабіць.

Агільві нахіліўся, выцягнуў адну з шуфлядаў стала і дастаў прыгожы залаты кубак, аздоблены каштоўнымі камянямі.

— Тады гэта рэч будзе тваёй.

У Майсея імгненна загарэліся вочы.

— Ці абавязкова ясны пан павінен давезці да Пецярбурга золата ў выглядзе кубкаў, талерак і фігурак жывёл?

— Не, неабавязкова. Але да чаго ты вядзеш? — насцярожыўся генерал.

— Тады, пане, усё проста. У мяне ёсць стары сябар Ёшка Кіпман. Гэта вельмі добры майстар па адліву гармат. Ён за невялікую ласку пана пераплавіць усё золата і выльле з яго гармату. Знешне яна будзе выглядаць як сотні іншых, толькі з гербам вяльможнага пана. Ваша светласць зможа правезці яе хоць праз усю Еўропу, і ніхто ні пра што не здагадаецца…

Асада Гродна доўжылася ўжо трэці месяц, калі генерал-фельдмаршал сабраў чарговую вайсковую нараду.

— Панове! — пачаў свой выступ Агільві. — Прыйшоў час для рашучых дзеянняў. Мы атрымалі загад цара Пятра Аляксеевіча тэрмінова пакінуць горад. Маланкавым ударам мы прарвём шведскую асаду ў брэсцкім накірунку і рушым на Украіну, дзе стаіць армія генерала Галавіна. Яго царская вялікасць таксама загадвае максімальна аблегчыць вайсковыя калоны, каб не завязнуць у палескай гразі і хутка адарвацца ад ворага. У сувязі з чым загадваю ўсю маёмасць спаліць, гармат пакінуць з разліку адна на батальён. Астатнія ў Нёман. Пачатак аперацыі прызначаю на чацвёртага красавіка. З Богам, панове!

Афіцэры моўчкі ўсталі, пакланіліся і пакінулі залу. Агільві падышоў да кніжнай шафы, націснуў плячом на яе — і шафа прытапілася ў сцяне, адкрыўшы праход у невялічкі пакойчык. На падлозе ў металічных скобах ляжала гармата, каля якой, прыплюшчыўшы вочы, драмаў Майсей Пельціс. Пачуўшы крокі, ён прыўзняўся і пакланіўся генерал-фельдмаршалу.

— Добры дзень, ясны пан! Вось і ваш заказ.

Агільві наблізіўся да гарматы і пачаў з цікавасцю яе разглядаць. Рэч была зроблена па-майстэрску і знешне нічым не адрознівалася ад звычайнай гарматы. Нават былі заўважны невялічкія чорныя кропачкі ад пораху. Упрыгожваў гармату фамільны герб Агільві — арол з распасцёртымі крыламі.

— Цудоўна! — усклікнуў генерал. Ён дастаў кашэль з грашыма і кінуў у рукі Майсею. — Разлічыся з майстрам і трымай язык за зубамі.

— Так, вяльможны пан, стары Майсей хутчэй адрэжа сабе язык, чым успомніць пра гэтую гармату.

І, кланяючыся, ён выйшаў з пакойчыка праз другія дзверы, што вялі на задні двор палаца. Следам выйшаў і Агільві. На двары яго ўжо чакалі чатыры салдаты на чале з вусатым сяржантам.

— Гармату пагрузіць у штабную фурманку! — загадаў генерал-фельдмаршал і не крануўся з месца, пакуль не пераканаўся, што загад выкананы.

Руская армія выступіла з Гродна дзвюма маршавымі калонамі і паспяхова пачала перапраўляцца праз Нёман па плывучым мосце, практычна не сустракаючы супраціўлення шведаў.

На правым беразе Нёмана з абодвух бакоў моста стаялі сямёнаўцы і ўважліва сачылі за парадкам на пераправе. Любую фурманку з маёмасцю тут жа адцягвалі ўбок і спіхвалі ў раку. Не менш пільна пералічвалі і гарматы.

— Адна на батальён!— увесь час паўтараў вусаты капітан. — Астатнія ў Нёман.

Неўзабаве пад'ехала чарговая фурманка.

— Чыя фурманка? — строга запытаў капітан.

— Штаба Праабражэнскага палка.

Капітан зазірнуў у вазок. Там шчыльна стаялі нейкія скрыні і ляжала гармата з выявай арла.

— А гармата для чаго штабу палка? — зноў запытаўся вайсковец.

— А Бог яе ведае, — адказаў фурманшчык. — Ляжала ўжо з раніцы.

— Непарадак, — крэкнуў капітан і павярнуўся да салдат. — Выкінуць да халеры.

Дужыя сямёнаўцы хуценька выцягнулі гармату генерал-фельдмаршала Агільві і пхнулі з высокага берага ў Нёман. Рака імгненна праглынула яе, як і дзясяткі папярэдніх гармат.

А коні, адчуўшы, як палягчэў вазок, весялей пабеглі праз мост.

Руская армія бадзёра выбіралася са шведскай асады.

**Гістарычная даведка.**

*Як толькі шведская армія адышла ў Саксонію, Пётр І загадаў палкоўніку князю Аляксею Галіцыну, узяўшы тры батальёны пяхоты, вадалазаў і афіцэраў, якія непасрэдна скідвалі гарматы ў Нёман, вярнуцца ў Гродна і падняць гарматы. Галіцыну ўдалося знайсці толькі адзінаццаць гармат. Тым часам высветлілася, што гарадзенцы ўжо паспелі падняць і прадаць частку гармат. Аднак знайсці і вярнуць гэтыя гарматы не ўдалося.*

*У верасні 1966 года падчас расчысткі рэчышча Нёмана былі падняты некалькі пятроўскіх гармат, якія сёння знаходзяцца ў Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі. Залатой гарматы сярод іх не было…*

## Вайны без ахвяр не бывае?..

Сухамлінаў нячутна ўвайшоў у кабінет і пачціва замёр каля дзвярэй. Мікалай Аляксандравіч нешта паспешліва пісаў, седзячы за рабочым сталом. Хвіліны праз дзве ён уставіў у чарнільны прыбор ручку, нечаму задаволена ўсміхнуўся і ўзняў галаву.

— Добры дзень, Уладзімір Аляксандравіч! Праходзьце, калі ласка. Сядайце.

І паказаў рукою на вольнае крэсла каля стала.

Ваенны міністр Расійскай імперыі, генерал-ад'ютант Уладзімір Аляксандравіч Сухамлінаў няспешна прайшоў праз кабінет, сеў у крэсла. Увесь гэты час Мікалай Аляксандравіч Раманаў, Імператар Усерасійскі, Цар Польскі і Вялікі Князь Фінляндскі, не зводзіў напружанага позірку са свайго міністра.

— Слухаю Вас, Уладзімір Аляксандравіч, — вымавіў імператар і крыху адхінуўся на спінку крэсла.

Сухамлінаў адкрыў папку, што прынёс з сабою, і, час ад часу заглядаючы туды, пачаў дакладваць.

— Апошняя інфармацыя з фронту, Ваша імператарская вялікасць! Дзясятая германская армія ў раёне Коўна нечакана нанесла моцны ўдар па левым флангу Дзясятай арміі генерала Сіверса. У выніку чаго 3-і армейскі корпус генерала Епанчына быў поўнасцю разбіты, адкрыўшы правы фланг 20-га корпуса генерала Булгакава. Наша 10-я армія пад моцным націскам германцаў была вымушана спешна адысці да Аліты. У выніку чаго 20-ы корпус акружаны нямецкімі войскамі ў раёне крэпасці Гродна.

Міністр на хвіліну спыніўся і паглядзеў на імператара. Той напружана маўчаў, счапіўшы перад сабой пальцы рук. Сухамлінаў вярнуўся да даклада.

— Генеральны штаб прапануе ўзмацніць гарнізон Гродзенскай крэпасці, перакінуўшы туды 15-ы армейскі корпус генерала фон Торклуса. Аб'яднаўшы сілы гарнізона і 15-га корпуса, ударыць у сапоцкінскім кірунку па нямецкай арміі і вырваць 20-ы корпус з акружэння.

— Я не супраць, — паспешліва адказаў Мікалай Аляксандравіч. — Рабіце, як лічыце слушным. І дай вам Бог удачы!

Ён падпісаў нейкую падсунутую міністрам паперу, стрымана кіўнуў яму галавою і стомлена заплюшчыў вочы. Раманаву ўспомнілася восень 1914 года, калі адбылася паездка ў крэпасць Гродна. Была субота, стаяла цудоўнае сонечнае надвор'е. На гродзенскім вакзале імператара сустракалі камендант крэпасці генерал-лейтэнант Кайгародаў, начальнік штаба, начальнік артылерыі. За іх спінамі тоўпіліся вышэйшыя афіцэры гарнізона. Пасля прадстаўлення афіцэраў і лёгкага сняданку Мікалая Аляксандравіча на аўто павезлі аглядаць крапасныя ўмацаванні. Вуліцы горада былі запоўнены гарадзенцамі, якія бурна віталі імператара і кідалі перад аўто кветкі. Уздоўж дарогі на каравул стаялі салдаты гарнізона. Усё было па-святочнаму ўрачыста і пакінула ў Раманава найлепшыя ўражанні. Ён тады агледзеў IV форт, 19-ю батарэю, узнагародзіў шэраг афіцэраў і ў добрым настроі пакінуў горад. Ужо на вакзале Кайгародаў запэўніў імператара, што крэпасць Гродна — адзін з наймацнейшых бастыёнаў у Еўропе і ніхто не зможа яго захапіць. Што ж, надышоў час адказаць за свае словы…

У кабінеце каменданта крэпасці Гродна генерал-лейтэнанта Кайгародава сабраліся камандзіры ўсіх вайсковых адзінак гарнізона. Пра вынікі апошняй разведкі дакладваў камандзір 523-й брыгады Дзяржаўнага апалчэння палкоўнік Бот.

— Па-першае, немцы ўчора захапілі горад Сейну, і з іх раз'ездамі мае казакі сутыкнуліся ў лесе пад Сапоцкінам, а гэта, шаноўныя, усяго 30 кіламетраў ад Гродна.

Па-другое, мы сустрэлі разведчыкаў 20-га корпуса генерала Булгакава. Корпус знаходзіцца ў акружэнні, і Булгакаў просіць 18 лютага ўдарыць адначасова з імі па немцах у сапоцкінскім кірунку. Інакш корпус будзе поўнасцю вынішчаны ворагам.

Па-трэцяе, трэба тэрмінова заняць нашы перадавыя фартыфікацыі ў Навумавічах, што дазволіць сарваць імклівае наступленне германцаў на Гродна. У мяне ўсё!

— Дзякуй, Ілья Пятровіч, — Кайгародаў выцягнуў з папкі нейкую паперу, абвёў вачамі прысутных і прадоўжыў:

— Я атрымаў загад, падпісаны ваенным міністрам. Ён перадае нам Дзясятую армію і прапануе, калі дазволяць абставіны, дапамагчы з прарывам корпусу Булгакава. Мы параіліся з афіцэрамі штаба, выслухалі меркаванне начальніка разведкі і прыйшлі да наступнай высновы. Улічваючы пераўзыходзячыя сілы германскіх войск, да прыбыцця корпуса фон Торклуса ні аднаго салдата за межы крэпасці без майго дазволу не выводзіць. Наяўныя сілы не распыляць. У Навумавіцкі форт пераходзіць позна і немэтазгодна. На дапамогу 20-му корпусу зможам выступіць, толькі папоўніўшы рэзервы сіламі 10-й арміі, якая, па звестках Генеральнага штаба, у дадзены момант адыходзіць у гродзенскім кірунку.

— Дазвольце сказаць, — не вытрымаўшы, ускочыў Бот. — Калі мы не дапаможам зараз 20-му корпусу, ён не пратрымаецца да прыходу 10-й арміі.

Яму тут жа адказаў начальнік штаба генерал-маёр Лашчылін.

— Што ж, мы дапускаем і такую верагоднасць. Але вайны без ахвяр не бывае, палкоўнік. Мы ж, у сваю чаргу, за гэты час збяром моцны кулак у крэпасці і дамо добры адлуп ворагу, калі на гэта прыйдзе час. А вось калі мы выступім зараз і наша атака праваліцца, дык і Булгакаву не дапаможам, і горад не захаваем.

У гэты самы час у штабе 20-га корпуса генерала Булгакава таксама адбывалася нарада. На сцяне вісела карта мясцовасці, і начальнік штаба палкоўнік Войніч тлумачыў прысутным афіцэрам асноўныя этапы прарыву з нямецкага акружэння.

— Пачатак аперацыі прымеркаваны на чатыры гадзіны раніцы. Сігналам стане артылерыйская падрыхтоўка. Капітан Сянцоў, колькі ў вас засталося снарадаў?

Начальнік артылерыі няспешна ўстаў, расправіў вусы і далажыў:

— На кожную з дзевяці захаваных пасля баёў гармат акурат прыпадае па 12 снарадаў. Усяго 108 адзінак.

— Добра, — працягваў палкоўнік,— такім чынам, пасля артылерыйскай падрыхтоўкі полк штабс-капітана Мельца атакуе германцаў у раёне Свяцка. Палкоўнік Штэйн са сваім палком наносіць удар правей Валавічоўцаў. Вам, панове, і трымаць першы ўдар. Следам па ўтвораным калідоры рухаюцца астатнія часткі ў вызначаным парадку. У гэты ж час, але ўжо ў тыл праціўніку, удараць часткі Гродзенскай крэпасці. Сігналам паслужыць наша артпадрыхтоўка. І памятайце: ні ў якім выпадку не спыняцца, не залягаць. Толькі наперад! Гэта наш адзіны шанц вырвацца з акружэння. Камандзіраў частак папрашу ўзяць прадпісанні…

Батарэя прапаршчыка Дземідовіча складалася з дзвюх гармат і шасці салдат абслугі. Пасля гібелі капітана Дзягілева і яшчэ дваіх афіцэраў рэшткі батарэі перайшлі пад камандаванне гэтага дваццацічатырохгадовага хлопца. Усе падначаленыя салдаты былі значна старэйшыя па ўзросце, і гэта крыху бянтэжыла прапаршчыка, хоць ён не падаваў выгляду. Тым больш, што ўсе яго загады выконваліся хутка і старанна. Салдаты, за выключэннем вартавога каля гармат, драмалі ў сялянскай хаце. Не спалася толькі яму, Максіму Дземідовічу. Здавалася, ужо багата пабачыў вайны за апошні месяц, але нейкае хваляванне перад ранішнім боем не давала спакойна

заснуць. Ён накінуў на плечы шынель і выйшаў на двор. Марознае паветра прыемна казытала ў носе, зорачкі па-сяброўску падміргвалі з вышыні бязмежнага неба. І так было прыемна, і так раптам захацелася жыць, што ажно мурашкі пабеглі па спіне…

Калі стрэлкі гадзінніка паказалі 4:00, прапаршчык Дземідовіч ціха загадаў:

— Зараджай!

Клацнулі затворы гармат.

— Агонь!

Калі хвілін праз восем снарады скончыліся, замковы радавы Зотаў кінуў у жэрла кожнай гарматы па гранаце. У гэтую ж хвіліну справа і злева пачулася гучнае «ўра». Пачаўся прарыў. Дземідовіч выцягнуў з кабуры рэвальвер і скамандаваў сваім байцам:

— За мной!

Яны беглі па полі, як і сотні іншых салдат, хваляй накатваючы на страшныя ў сваёй маўклівасці нямецкія акопы, што былі добра бачны ў празрыстым месяцавым святле. Яшчэ крышачку, яшчэ хвілінку — і імклівай ракой расцякуцца яны па акопах…

І тут застракатаў нямецкі кулямёт:

— Та-та-та!

Яго адразу ж падтрымаў другі, трэці… І ланцуг атакуючых захістаўся на бягу, пачаў разбівацца на асобныя кучкі. Салдаты падалі, уставалі і зноў падалі, гэтым разам назаўсёды. Дземідовіч бег разам з усімі, і жах сціскаў яго сэрца. Справа і злева ўздымалася ад выбухаў зямля, наперадзе захлёбваліся крывавым ліўнем варожыя кулямёты, а пад нагамі трупы, трупы, трупы. І так хацелася ўпасці, закрыць галаву рукамі і закрычаць на ўсё горла:

— Госпадзі, заступіся, выратуй мяне з гэтага пекла!

Але за спінай кацілася новая хваля салдат, якая таксама пераступала целы сваіх баявых сяброў, і заставалася Максіму толькі адно — бегчы на варожыя акопы. Вось ужо 50 метраў засталося да іх, 30… А немцы, ахопленыя азартам крывавай бойні, стралялі і стралялі, сеючы навокал свінцовую смерць. І калі іх акопы накрыла апошняя хваля звар’яцелых ад перажытага салдат, пачалася разня…

XX корпус так і не дачакаўся дапамогі Гродзенскага гарнізона. І таму вырвацца з акружэння і дайсці да Гродзенскай крэпасці здолелі толькі два палкі. Астатнія салдаты былі або забіты, або трапілі ў палон. Сярод нямногіх шчасліўцаў, што выжылі ў гэтай мясарубцы, аказаўся і прапаршчык Максім Дземідовіч, апошні ацалелы з батарэі капітана Дзягілева.

Вялікія страты панеслі і германскія войскі. 31-я і 42-я нямецкія дывізіі 21-га корпуса пасля таго бою былі настолькі абяскроўлены, што сіл на атаку Гродзенскай крэпасці зусім не засталося. І 6 сакавіка 1915 года немцы без бою адступілі ад сцен Гродна. За ўдалую абарону крэпасці Гродна генерал-лейтэнант Кайгародаў быў узнагароджаны ордэнам Святога Уладзіміра 2-й ступені і ордэнам Белага Арла з мячамі. Начальніку штаба генерал-маёру Нікандру Аркадзьевічу Лашчыліну пажалавана Георгіеўская зброя. Былі ўзнагароджаны і іншыя вышэйшыя афіцэры гарнізона. Прапаршчык Дземідовіч быў накіраваны ў артылерыйскую батарэю 26-га армейскага корпуса і праз два месяцы ў раёне Ліпска загінуў падчас артылерыйскага абстрэлу.

## Чырвоная скрыня

Фелікс Эдмундавіч Дзяржынскі сядзеў адзін у купэ вагона, гартаў нейкія тэрміновыя паперы, але ў думках быў вельмі далёка ад іх. Цэнтральны камітэт адправіў жалезнага Фелікса з Вільні ў Беласток аператыўна стварыць новы польскі рэвалюцыйны ўрад. Бальшавікі спяшаліся пераможна закончыць вайну з буржуазнай Польшчай, пасля чаго і спатрэбіцца сваё, менавіта бальшавіцкае, кіраўніцтва. І ён, Фелікс Дзяржынскі, выканае загад партыі, як, зрэшты, заўсёды і было. Іншае непакоіла Фелікса Эдмундавіча. Тэлефанаваў брат Казімір з Гародні. Вакол яго дома пачалі круціцца нейкія падазроныя асобы, неаднаразова пыталіся ў суседзяў пра самога Казіка: калі бывае дома, калі адсутнічае; пра Фелікса: ці тэлефануе, ці не збіраецца прыехаць… Казімір не ведае, хто яны і што ім трэба. І ўвогуле, ёсць важная справа, пра якую па тэлефоне не скажаш. Можа, прыехаў бы ў Гродна да брата, як абяцаў калісьці?

І праўда, Фелікс так і не сабраўся за гэтыя гады заехаць да брата і забраць тую чырвоную скрынку, што аддаў на часовае захоўванне. А абяцаў…

Перад вачыма пабеглі падзеі не такога ўжо і далёкага 1918 года. Ніхто нават з бальшавіцкіх кіраўнікоў не верыў, што яны здолеюць утрымаць уладу, якая літаральна звалілася ў рукі. Немцы, Карнілаў, Дзянікін, Калчак — хто толькі не марыў задушыць маладую савецкую краіну… Аднаго вечара Дзяржынскаму патэлефанаваў старшыня УЦВК Якаў Свярдлоў і папрасіў тэрмінова зайсці.

Свярдлоў сядзеў за сталом і нешта пісаў. Убачыўшы Дзяржынскага, махнуў рукою на крэсла. Праз якую хвіліну скончыў пісаць, закрыў папку і, жвава ўскочыўшы, пачаў нервова хадзіць па кабінеце.

— Фелікс Эдмундавіч, партыя ведае вас як адданага і бясстрашнага бальшавіка. І вы самі добра бачыце, у якой мы сёння знаходзімся сітуацыі. Ворагі сціскаюць кальцо вакол Петраграда. Рабочыя еўрапейскіх краін, на падтрымку якіх мы так спадзяваліся, не ўзнялі сцяг рэвалюцыі ў сваіх сталіцах. Заканчваюцца харчовыя запасы. Баюся, больш за тры-чатыры тыдні мы не пратрымаемся. І сёння наша галоўная задача — захаваць кіраўнічае звяно партыі. Рэвалюцыю мы яшчэ зробім, а вось такія адданыя і правераныя партыйныя кадры ў адзін дзень не адновіш. Таму, на выпадак вымушанай эміграцыі ці працы ў падполлі, мы ў розных месцах закладаем схованкі з дакументамі і каштоўнасцямі. Гэта дапаможа выстаяць партыі ў першыя гады буржуазнага тэрору. За адну такую схованку будзеце адказваць вы, дарагі мой Фелікс Эдмундавіч. Партыя верыць вам, і таму неабходна знайсці надзейных людзей у Паўночна-Заходнім рэгіёне Расіі і размясціць у іх вось гэтую скрыню.

Свярдлоў паказаў на стол, дзе сапраўды стаяла чырвоная скрыня.

— Аддаць гэтую скрыню вашы людзі павінны будуць толькі чалавеку, які скажа пароль «Добры дзень. Я прыехаў з Разліва па перадачу для дзядзькі». Вашы прапановы, Фелікс Эдмундавіч?

Дзяржынскі на хвіліну задумаўся.

— У мяне, таварыш Свярдлоў, зараз гасцюе родны брат. Ён з Гродна. Днямі збіраецца назад. Больш надзейнага чалавека цяжка і знайсці.

— Цудоўна, — адразу пагадзіўся Свярдлоў. — Жадаю поспехаў. І памятайце: абсалютная сакрэтнасць!

Ужо назаўтра Казімір Дзяржынскі ў суправаджэнні двух ахоўнікаў у цывільным рушыў у Гродна. А яшчэ праз тыдзень ахоўнікі далажылі, што аб'ект быў дастаўлены да месца пражывання без праблем. Неўзабаве памёр Свярдлоў, у сейфе якога знайшлі некалькі пашпартоў на розныя прозвішчы, грошы, залатыя вырабы. Рэвалюцыйныя падзеі закруцілі ў сваім віры Фелікса, і ён цалкам забыўся пра тую сустрэчу са Свярдловым. А тут гэты званок ад Казіка.

Краіна Саветаў паступова падымалася на ногі, але ворагаў вакол было яшчэ дастаткова. І што, калі нехта завалодае чырвонай скрыняй? Казімір, праўда, нічога пра скрыню не казаў, але прасіў чамусьці тэрмінова прыехаць. Так, перасцерагчыся ўсё роўна трэба. Скрыню неабходна забраць. І як мага хутчэй!

У невялічкім доме на Віленскім завулку, што месціўся ў цэнтры Гродна, сабралася ўся група. Ілья Забяльшанскі агледзеў прысутных і задаволена хмыкнуў: баявік са стажам, арганізатар славутага замаху на Сталыпіна, ён даўно ўжо не бачыў разам столькі сапраўдных таварышаў-баевікоў, адданых справе сацыялістаў-рэвалюцыянераў.

— Ну што, таварышы, першая частка нашага плана паспяхова спрацавала: Фелікс Дзяржынскі сапраўды занепакоіўся. Як паведамілі нашы людзі з бальшавіцкага ЦК, заўтра ён будзе праездам у Гродне. Такім чынам, мы адклікаем групу з Беластока, і ўжо ўначы яна далучыцца да нас. А цяпер план аперацыі.

Забяльшанскі сеў у крэсла за сталом, астатнія размясціліся хто на чым.

— Цягнік з Дзяржынскім прыбывае на чыгуначны вакзал а сёмай гадзіне раніцы. Сустракаць яго будуць мясцовыя чэкісты і на аўто адвязуць у былы палац Максімовіча, дзе цяпер месціцца Гродзенскі рэвалюцыйны камітэт. Размовы, справаздачы, абед — мяркую, прамарудзяць яны дзесьці да вечара. Пасля чаго Фелікс наведаецца да брата. Сцяпан, што ў нас з засадай?

Падняўся змрочнага выгляду дужы дзяцюк.

— У хаце Дзяржынскага ўвесь час знаходзяцца нашы людзі ў складзе чатырох асоб. За мінулыя суткі да Казіміра ніхто не заходзіў, нічым не цікавіўся. Заўтра далучацца яшчэ пяцёра нашых людзей, прыцягнулі ўжо кулямёт. Яшчэ трое размесцяцца ў хлеўчуку, што насупраць хаты. З Феліксам, як паведамілі з Масквы, звычайна ходзяць толькі два ахоўнікі. Такім чынам, Дзяржынскі будзе акружаны і нейтралізаваны.

— Добра, а што з Казімірам?

— Пасля таго, як мы ўсё ж «угаварылі» Казіміра патэлефанаваць брату, — усміхнуўся здаравяк, — пасадзілі яго ў падвал, дзе ён і чакае сустрэчы з Феліксам.

— Што ж, таварышы, — Забяльшанскі падняўся з крэсла, — заўтра прыйдзе час адплаты бальшавікам за смерць у засценках ЧК нашых таварышаў, за здраду нашай агульнай справе! Мы пакажам моц сацыялістаў-рэвалюцыянераў! Нашы сябры з Масквы лічаць гэтую акцыю пачаткам вялікага тэрору, які прывядзе да істотных перамен ва ўладных структурах Расіі. Ужо запланаваны новыя акцыі падобнага тыпу. Поспехаў, таварышы!

Казімір пакратаў разбітыя вусны і скрывіўся: яны прыпухлі і крывавілі. От жа паскуды, навучыліся біць! Сапраўдная банда. І тое, што яны хочуць забіць Фелікса, гэта

зразумела. Нездарма ж столькі катавалі, каб патэлефанаваў брату. Таксама зразумела, што не пакінуць у жывых і самога Казіміра: нашто ім такі небяспечны сведка… Па праўдзе кажучы, калі бандыты ўламіліся ў хату, Казік быў упэўнены, што прыйшлі па скрыню. Але за гэтыя дні ніхто і слова не закінуў пра яе. Значыць, ім патрэбны толькі Фелікс, а пра скрыню яны не ведаюць. І білі толькі з адной мэтай: выцягнуць з яго дапамогай Фелікса ў Гродна. Бандытаў Казімір не вельмі і баяўся. Так, узброеныя дужыя баевікі, так, жорсткія і хуткія на кулак, але не прафесіяналы. Вось кінулі аднаго ў падвале, спешна агледзеўшы памяшканне, і павылазілі наверх, маўляў, холадна тут і нікуды палонны не дзенецца. А ў Казіміра пад бочкай з салёнымі агуркамі патаемны лаз зроблены — акурат за дрывотню. Яшчэ ў васямнаццатым выкапаў, як вярнуўся з Масквы, на такі вось экстрэмальны выпадак. Зрэшты, не толькі ён выкапаў. Ужо з чатырнаццатага года пачалі гарадзенцы капаць сабе схроны і лазы, бо вайна ёсць вайна. Таму збегчы з падвала не праблема. Пытанне, калі? Па-першае, трэба папярэдзіць Фелікса. Але калі знікнуць зараз, баевікі разбягуцца і выканаюць свой план у іншым месцы. А добра было б накрыць усіх разам. І цяпер. Па-другое, як паведаміць Феліксу, калі той ужо дзесьці на пад’ездзе да Гродна. Казімір надоўга задумаўся. Гадзіны праз паўтары азваўся вартаўнік.

— Жэрці хочаш? — з’едліва запытаўся той і кінуў пад ногі палоннаму кавалак хлеба. — Бяры, а агуркоў у бочцы наловіш.

І з рогатам зачыніў люк. А ў галаве Казіміра імгненна нарадзілася ідэя. Ён перасунуў бочку крыху наперад, намацаў века лаза і пацягнуў на сябе. Затым скочыў у дзірку і засунуў века. У поўнай цемры навобмацак Казік прапоўз па тунэлі і неўзабаве выбраўся наверх. Як і меркаваў, на двары ўжо добра сцямнела. Казімір накіраваўся да суседа-міліцыянта, які жыў праз два дамы.

Фелікс Эдмундавіч уважліва выслухаў старшыню Гродзенскага павятовага ваенна-рэвалюцыйнага камітэта таварыша Лігера пра вынікі барацьбы з контррэвалюцыяй у Гродне і застаўся незадаволеным.

— Тэрор і толькі тэрор мы павінны супрацьпаставіць контррэвалюцыйнай дзейнасці. Колькі чалавек вы арыштавалі за апошні месяц? Дваццаць? А павінны дзвесце! Колькі расстралялі? Траіх? А чаму не дзвесце? Добранькімі хочаце быць? З чыстымі ручкамі застацца? Не, шаноўныя, не выйдзе! Рэвалюцыі без крыві не бывае, таварыш Лігер! У ЦК не задаволены вашай працай.

Яшчэ праз дваццаць хвілін Фелікс Эдмундавіч Дзяржынскі з двума чэкістамі ехаў па вячэрнім горадзе, кіруючыся ў Новы Свет, аддалены раён горада. Машына спынілася на Садовай вуліцы. Адзін з ахоўнікаў выйшаў з аўто і рушыў да дома № 3. А ў ім ужо напагатове стаялі шасцёра мужчын з наганамі ў руках. Яшчэ адзін прыпаў да кулямёта ля акна.

— Гатовыя? — прыцішана запытаў Ілля Забяльшанскі. — Страляць па маім загадзе.

І ўсе напружана пачалі ўглядацца ў ноч. Яны не чулі, як на кухні ціхенька падняўся люк у падлозе і з падвала пачалі вылазіць узброеныя чэкісты. Як не чулі і тыя, што схаваліся ў хлеўчуку, калі дзве постаці наблізіліся да задняй сценкі пабудовы і пачалі паліваць яе нейкай вадкасцю.

А тым часам чалавек з аўто падняўся на ганак і гучна крыкнуў:

— Ці ёсць хто жывы? Можна зайсці?

Ілля адчыніў фортку:

— А вы да каго?

— Мне Казімір Дзяржынскі патрэбны.

— Ёсць такі. Заходзьце, калі ласка!

У гэты самы момант чэкісты, што хаваліся на кухні, ускочылі ў пакой і пачалі страляць у спіны баевікоў. Пачуўшы стрэлы, двое за хлеўчуком чыркнулі запалкай і падпалілі будыніну, кінуўшы ў дадатак праз маленькае акенца гранату. Грымнуў выбух. Хвіліны праз тры бой закончыўся. З машыны вылез Фелікс Эдмундавіч і няспешна ўвайшоў у дом. Навокал ляжалі забітыя эсэры. Разгарачаныя боем, чэкісты задаволена ўсміхаліся свайму славутаму начальніку. З-за спінаў выйшаў Казімір.

— Прывітанне, Фелікс!

— Прывітанне, брат! — адказаў Фелікс Эдмундавіч і моцна паціснуў таму руку. — Дзякуй за дапамогу. Добра папрацавалі.

— Адну справу робім.

Яны прайшлі ў невялічкую спальню.

— Што са скрыняй? — строга запытаў Фелікс Эдмундавіч.

Казімір моўчкі ўстаў і выйшаў з пакоя. Праз колькі хвілін вярнуўся назад са скруткам у руках. Разгарнуў нейкія анучы, і на свет з’явілася чырвоная скрынка. Твар Фелікса прасвятлеў:

— А за гэта табе асаблівая падзяка! Ну як, нацярпеўся ад бандзюкоў? Нічога, яны за ўсё нам адкажуць.

Ён павярнуўся да дзвярэй.

— Славінскі!

У пакой увайшоў малады чалавек у пацёртай скуранцы.

— Прызначаю цябе старшынёй павятовага ВРК. Паперы аформім пазней. Бяры байцоў, і да раніцы каб сто закладнікаў сядзелі ў ЧК.

— Зразумела, таварыш Дзяржынскі! Што потым з імі рабіць?

— Раніцай публічна ў расход.

Славінскі імгненна знік. А браты яшчэ доўга сядзелі, успаміналі родных, знаёмых, падзеі апошніх гадоў, не звяртаючы ўвагі на стрэлы і крыкі з вуліцы…

## Сустрэча

Яны былі вельмі старымі людзьмі. Настолькі старымі, што мінакі паварочваліся ім услед і са здзіўленнем хіталі галовамі. Яны не бачыліся пяцьдзясят гадоў. Але ўвесь гэты час памяталі адзін пра аднаго. Жылі ў розных краінах і нават на розных кантынентах. Але заўсёды вярталіся ў памяці на вулачкі роднага Гродна. Калісьці яны пакляліся абавязкова сустрэцца, ды праз розныя справы ўсё ніяк не выпадала. Але днямі памёр у Бразіліі Мірон Шмягельскі, малодшы з іх. І яны зразумелі, што клятву трэба тэрмінова выконваць.

І вось яны на такой знаёмай з дзяцінства вуліцы Элізы Ажэшкі. Тры сябры, раскіданыя воляй лёсу па ўсім свеце, але аб’яднаныя дзяцінствам і мілым сэрцу горадам.

Яны не адчувалі сваіх гадоў, а былі ўсё тымі ж Юзэкам, Міхалам і Віктарам, што восемдзесят гадоў назад ішлі гэтай жа брукаванай дарогай і марылі пра будучае.

Яны пазнавалі будынкі і дрэвы, дзівіліся новаму і радаваліся, што горад не стаў за гэты час чужым і незнаёмым. Вось дом Эйсманта, дзе на першым паверсе працавала цукерня, каля вітрыны якой заўсёды тоўпіліся малыя. «Dom strzelca», да якога імклівымі крокамі спяшаліся польскія афіцэры ў прыгожых канфедэратках. А вось і Свята-Пакроўскі сабор.

Пачаў накропваць дробненькі дожджык. Юзэк прапанаваў зайсці ў якую-небудзь кавярню, што ўтульна размясціліся на вуліцы Дамініканскай, а зараз Савецкай. Сябры збочылі ў падвальчык з настальгічнай назвай «Карчма». У невялікім утульным зальчыку амаль нікога не было. І яны змаглі поўнасцю аддацца сваім успамінам. У гутарцы не прыкмецілі, што зала паступова запоўнілася наведвальнікамі. Прыцішана загучала музыка. Неўзабаве на невялічкай імправізаванай сцэне з'явіўся малады хлопец, аніматар. Ён пра нешта жартаваў, праводзіў вясёлыя конкурсы, шчыра намагаючыся раскатурхаць залу. Але сябры яго не чулі і нават не заўважалі, захопленыя сваімі размовамі. Неўзабаве ажыўленне і гоман у зале дасягнулі такога ўзроўню, што прыцягнулі на хвіліну і іх увагу. Новая гульня з залай датычылася ведання гарадзенскай гісторыі. Вядучы з мікрафонам у руках задаваў чарговае пытанне.

— Самы стары кінатэатр у нашым горадзе?

Пакуль прысутныя думалі, нечакана для сяброў і, магчыма, нават для самога сябе падняў руку Юзэк і амаль выкрыкнуў:

— «Палонія» на Гараднічанскай!

Тады не стрываў ужо Міхал і не менш гучна запярэчыў:

— Ну якая ж «Палонія»? Самы стары кінатэатр — «Сатурн» на вуліцы генерала Орліча.

У зале стала зусім ціха. Прысутныя з цікавасцю разглядалі гэтых прыстойна апранутых немаладых людзей, не разумеючы, пра што тыя гавораць. Вядучы падышоў да століка старых і, зазіраючы ў невялікую картку, з павагай у голасе абвясціў:

— Нашы шаноўныя госці не толькі правільна адказалі на пытанне пра самы стары кінатэатр, але і правільна агучылі адну з ранейшых назваў гэтай установы, што, дарэчы, павінна было стаць нашым наступным пытаннем. Гэта сапраўды кінатэатр «Чырвоная зорка», які першапачаткова называўся «Эдэм», а ў 30-я гады — «Палонія». Апладысменты пераможцу!

І хлопец уручыў дзеду квіток на нейкую дыскатэку.

Тады падняўся з месца Міхал.

— Чакайце, — запярэчыў ён. — Дык а чаму не «Сатурн» найстарэйшы кінатэатр у Гродне? Ён жа быў пабудаваны раней за «Палонію»…

Аніматар неяк вінавата пацiснуў плячыма:

— Дык яго няма. Узарвалі ў шасцідзясятыя гады.

Міхал моўчкі сеў на месца. А вядучы павёў далей сваю гульню:

— Самы вялікі касцёл у нашым горадзе?

Нехта з месца тут жа крыкнуў:

— Езуіцкі касцёл!

— Правільна! — пагадзіўся аніматар і падарыў чарговы квіток пераможцу.

— Дазвольце, шаноўны, — зноў не вытрымаў Юзік. — Як жа правільна? Усім вядома, што самай вялікай з’яўляецца Фара Вітаўта!

— На жаль, — адказаў хлопец, — Фары Вітаўта не існуе. Яе ўзарвалі ў шасцідзясятыя гады.

І адразу ўсім стала бачна, як збялелі твары дзядоў, якімі разгубленымі і безабароннымі яны сталі выглядаць.

— Ну а самая старая царква ў Гродне? — запытаўся вядучы.

— Каложа! — амаль хорам выгукнула зала.

— І што, яе не ўзарвалі ў шасцідзясятыя? — з ужо не прыхаванай іроніяй запытаўся Юзік.

— Уявіце сабе, не!

Тады з месца падняўся Віктар, які маўчаў да гэтага часу:

— А дом з лілеямі на Банкавай?

— Ёсць, і зараз рэстаўрыруецца.

— А Брыгіцкі кляштар?

— Таксама ёсць і дзейнічае.

— А Новы Свет?

— І гэты раён амаль цалкам захаваўся…

І пасвятлелі твары старых, адлягло на сэрцы, павесялелі вочы. Яны ўсталі са сваіх месцаў і пакрочылі да выхаду, каб зноў апынуцца на вулачках свайго вечнага і такога любімага горада! Сваёй Гародні…






нарадзіўся 18 красавіка 1962 года ў Гродне. Скончыў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы (1985). Працуе ў Гродзенскім дзяржаўным медыцынскім універсітэце. Аўтар 14 вучэбных і вучэбна-метадычных дапаможнікаў, шэрагу артыкулаў па пытаннях беларускай медыцынскай тэрміналогіі. Выдаў «Русско-белорусский медицинский словарь» (2005), «Руска-беларускі тлумачальны слоўнік медыцынскіх тэрмінаў« (2012), «Дыялектны слоўнік медыцынскіх тэрмінаў Беларусі». Піша вершы і прозу. Неаднаразова быў лаўрэатам літаратурных конкурсаў газеты «Звязда». Кіраўнік універсітэцкага літаб’яднання «Катарсіс», рэдактар трох літаратурных зборнікаў сяброў клуба. Аўтар кнігі паэзіі і прозы «Рамізнік».

## АРКАДЗЬ ЛІЦЬВІН

# Цуд
*(урывак з рамана)*

> Светлай памяці Войцех Жаляроўскі, з іншай шляхтай удваццацёх ад Масквы ў замку Гродзенскім увязненыя, з дапамогай Найсвяцейшай Панны з вязніцы на паўтара кап'я высокай, праз выбітую за тры гадзіны мура ў сажань дзіру ўніз як на руках Анельскіх спусціліся і былі вызвалены.
>
> *Надпіс у алтары капліцы Маці Божай Кангрэгацкай у кафедральным касцёле Святога Францыска Ксаверыя*

(Сюжэт «Цуда» падказаны надпісам, змешчаным у гарадзенскім кафедральным касцёле Святога Францыска Ксаверыя і вынесеным у якасці эпіграфа. Надпіс паведамляе, як ураталіся два дзясяткі шляхты напярэдадні смяротнага пакарання маскавітамі. Мужнасць і рашучасць, пра якую можна было здагадвацца, не прайшла міма памяці нашчадкаў. Не дзіва, што і духавенства старалася выкарыстаць падзею ў сваіх мэтах і звязвала яе выключна з дапамогай Божай Маці праз невялікі абраз Найсвяцейшай Марыі Панны Студэнцкай (перад тым Кульбацкай), пранесены адным з паланёных у вязніцу. Змаганне шляхецкіх і магнацкіх згуртаванняў супраць каралеўскага двара і духавенства, якія стараліся пашырыць свае палітычныя ўплывы і працягнуць у Рэч Паспалітую так ненавісную вальналюбнай шляхце абсалютную манархію, складае змест і дух рамана. Чытачам прапануюцца два раздзелы з дванаццаці.)

2

*Яго правялебнасць рэктар і пан прэфект. Вялікія цуды маленькага абразка. Станоўчыя і адмоўныя рысы Януша Рудніцкага-Налуцкага. Паляванне на ганца, прывід ці ўспаміны? Сініца ў руках ці журавель у небе? Пагоня і непатрэбны стрэл. Біцца ці раз'ехацца? Надзённыя клопаты пана прэфекта. Дадатковыя абавязкі магістра навіцыяў.*

Пан прэфект, нібы падкінуты спружынай, спяшаўся насустрач яго правялебнасці. Стрыманасць магла б падацца недахопам павагі. Але рэктар Гарадзенскага езуіцкага калегіума ласкавым рухам далоні спыніў падначаленага.

— Рады бачыць брата ў добрым здароўі і належнай сіле. Адно і другое вельмі патрэбны дзеля той задачы, якая ўскладзена на яго моцныя плечы, бо маім, на жаль, шмат што ўжо не пад сілу.

Прэфект не памыляўся наконт ласкавасці прынцыпала, але грэла думка, што высокае начальства належна ўзважвае абавязкі кіравання школай.

— З дазволу вашай правялебнасці я ўдакладніў бы сітуацыю сцверджаннем, што дзіву даешся, як ваша правялебнасць знаходзіць час між процьмы спраў і на маю сціплую.

— Мушу, сыне мой, — ледзь прыкметная ўсмешка кранула вусны рэктара.

У асяроддзі вышэйшага кіраўніцтва калегіума такая вольнасць абыходжання даравальная. Абодва зручна размясціліся ў разьбяных крэслах, выкладзеных падушкамі. Не кожнаму веку і пасадзе пасуе аскетызм.

— Вось і зараз маю пэўныя заўвагі па асобных справах.

— Засмучаны, што сваёй нядбаласцю адбіраю час вашай правялебнасці. Спадзяюся, здолею выправіць дапушчаныя хібы, — павініўся адданы жаўнер Лаёлы.

Рэктар міласціва кіўнуў галавою:

— Калі б усумніўся, са скрухай шукаў бы каго іншага. Але досыць пра гэта, каб не спаўзці на смешнасць альбо грэх пыхлівасці.

Смяяцца мог бы толькі адзін з прысутных, і прэфект ведаў каторы.

— Я ўвесь увага, ваша правялебнасць.

— Як рухаецца справа з укладаннем ліста яго правялебнасці віленскаму біскупу? Ці стараюцца нашы выхаванцы?

Прэфект з глыбокай пашанай пахіліў галаву.

— Менавіта пад такім знакам працуе наш невялікі, але насамрэч старанны гурт. З асаблівым пачуццём ва ўсім, што датычыць абраза Найсвяцейшай Марыі Панны Кульбацкай, якую мы, — асцярожна ўдакладніў ён, — пачынаем называць Студэнцкай.

Рэктар ледзь варухнуў брывом, але не запярэчыў.

— Не шкодзіць, — прамовіў у роздуме. — Не першая назва, але, дасць Бог, стане апошняй і сталай. Абраз павінен асесці ў сценах нашага касцёла. Ніхто лепш, чым Таварыства Езуса, не ўжые ягоных цудаў на хвалу святой каталіцкай веры.

— Немалых старанняў каштавала вашай правялебнасці, — нагадаў прэфект, — атрымаць абраз з рук пана Жаляроўскага. Я думаю, гэта падзея ўгрунтавала лёс абраза. Спадзяюся, яго правялебнасць біскуп Катовіч прыхіліцца да нашай просьбы і абраз будзе прызнаны цудадзейным.

— У значнай меры гэта будзе залежаць ад таго, наколькі пераканаўчым будзе ліст студэнцкай кангрэгацыі, — азваўся рэктар. — Не мушу нагадваць, што недапушчальным было б нейкае вальнадумства ў трактаванні цудадзейных з’яў.

Для прэфекта сказанае было не так напамінкам, як загадам. Апісанне дадатковых цудаў да раней пратакольна сцверджаных магло трапіць у пастку бязглуздых чутак, адвольных тлумачэнняў і спакуслівых прыдумак апантаных фанатыкаў.

— Звярну ўвагу на адну акалічнасць, — зазначыў яго правялебнасць. — Пан Жаляроўскі не павінен набыць у нашых распрацоўках рыс празмерна набожнага, тым больш святога. Адзначэнне ўчынкаў яго не міне, але… — маўчанне было значнейшым за прамоўленае.

— Разумею, ваша правялебнасць, — паслухмяна адгукнуўся прэфект, счакаўшы належную хвілю. — Маем пэўныя складанасці з цудам уцёкаў з Гарадзенскага замка, якім і пан Жаляроўскі быў уратаваны. Асабіста сачу за гэтым.

Рэктар выразна ажывіўся.

— Калі праявіцца неабходнасць, — папярэдзіў ён, — кожны просты вузел падзей мы павінны заблытаць так, каб самы горкі скептык не асмеліўся аспрэчыць наша трактаванне цудаў. Цуды належаць таму, хто іх даходліва патлумачыць.

Пастукваючы далікатнымі пальцамі па галаве грыфона на парэнчы крэсла, рэктар памаўчаў некалькі працяглых хвілін. Адчувалася, што надае значную вагу цуду ўцёкаў. Можа, таму, што ажно два дзясяткі вернікаў атрымалі дапамогу Найяснейшай Панны Марыі напярэдадні непазбежнай гібелі ад рукі маскоўскага ката?

— Уцёкі шляхты з замка высвятляйце, пазбягаючы ўсплёску пустых размоваў, непатрэбных успамінаў, — зазначыў яго правялебнасць. — Не давайце сваім падапечным залішняй самастойнасці і спыняйце непатрэбныя роспыты і пошукі. Наяўных сведчанняў даволі, а шмат хто з удзельнікаў тых падзей яшчэ не пакінуў гэты свет… Апроч сапраўдных знойдуцца ўяўныя… Цуд адбыўся, належыць дзівіцца і дзякаваць Маці Божай за яе бязмерную ласку.

— Хачу запэўніць вашу правялебнасць, што мы выбралі самых здольных, — запэўніў прэфект, — і не пакідаем іх без дапамогі і належнага назірання.

Маўчанне прынцыпала занепакоіла прэфекта. Нешта заставалася нявысветленым, але што? Абы рэктару яно не здалося наўмысна прытоеным.

— Як я даведаўся, аднаму з іх дазволена выправіцца ў непрацяглы, спадзяюся, выезд са сваім апекуном?

Прэфект сквапліва падтакнуў. Абазнанасць начальства не дзівіла: у самога шпігуноў хапае.

— Януш Налуцкі, студыёзус Пінскага калегіума. Трапіў да нас з прыватных прычын, маючы выдатныя рэкамендацыі, хоць пакуль не вызначыўся з паклікáннем да Ордэна, — прэфект уздыхнуў з добра ўдаваным шкадаваннем. — Па атрыманых ведах амаль схаластык, а заможнасць робіць яго вельмі пажаданым набыткам для Таварыства Езуса. Маладзён варты захадаў, і я ўзяў на сябе смеласць з прычыны недыспазіцыі вашай правялебнасці на той момант. Апякун вельмі настойваў, а паколькі сваім часам зрабіў шчодрыя запісы на Пінскі калегіум і нашаму нядаўнім часам не пашкадаваў…

Пан рэктар ведаў цану ахвяраванням і сам належным чынам прыхіляў суворыя статуты для тых, хто не скнарыцца.

— Рашэнне хоць і выключнае, але слушнае, — адзначыў няспешна. — Шчодраму ахвярадаўцу належыць паблажлівасць.

Задаволены прэфект пастараўся мацней абгрунтаваць сваю вольнасць.

— Януш Налуцкі найлепшы ў лаціне. А гэта, ваша правялебнасць пагодзіцца, у дадзеным выпадку здольнасць неабходная. Ізноў жа прывітальная прамова пры даручэнні…

На твар рэктара набегла лёгкая хмурынка, і прэфект прыкусіў язык, але, выглядала, пазнавата.

— Спадзяюся, агалошваць яе будзе гарадзенскі выхаванец. Ці ўжо не маем прыдатных?

Гонар вучэльні быў найперш, гэта ясна. Належала як найхутчэй супакоіць начальства.

— Пінчук, з дазволу вашай правялебнасці, толькі давядзе тэкст да належнага ўзроўню дасканаласці, — запэўніў прэфект. — Як першы рытар года, адпавядае гэтым патрабаванням. Агалосіць прамову наш гарадзенскі студыёзус. На апошніх дыспутах вызначыліся некалькі адпаведных. І Мацей Сароцкі ў ліку найлепшых.

— У гэтым вам няма роўных, — рэктар палагодзіў свой тон да ласкавасці.

— Маю добрых памочнікаў, — сціпла патлумачыў прэфект. — Між іх Мацей Сароцкі і Януш Налуцкі з самых старанных.

Што ж, кіраўнік школы не ўчора пакінуў навіцыят, разумее важнасць падзеі.

— Цалкам верагодна, — сцішаным голасам даверыўся яго правялебнасць, — з'яўленне бліжэйшым часам у нашым калегіуме praepositi studiorum, а гэта экзамен нам абодвум. Сам яго правялебнасць генерал Павел Аліва даў аналіз працы школ нашай правінцыі яшчэ восем год таму, пра гэта вам вядома. І кіраванне той ацэнкай надалей абавязуе.

Прэфект пахіліў галаву, аддаючыся непазбежнаму. Дасць Бог, вышэйшае начальства ў навуках улічыць ягоныя старанні. Але яго правялебнасць не дазволіў супакоіцца.

— Наш правінцыял, яго правялебнасць Павел Бохэн, — з глыбокай пашанай працягваў рэктар, — даслаў ліст з пералікам заўваг і напамінанняў пра нездавальняючы стан навучання ў правінцыі. А тыя зыходзяць ад намесніка генерала. Так што мусім у адведзены нам час старанна выправіць сваю гаспадарку, — тон быў хутчэй суцяшальны.— Але чаму гэта я не прыпамінаю такога, па-свойму важнага, выпадку з пінскім студыёзусам?

Пільнае вока прэфекта згледзела, што начальства не папракае, а толькі спрабуе прыпомніць. Урэшце ён, прэфект, прымае новых вучняў ды пераводзіць з класа ў клас, а тут зусім іншае. Але…

— Ім, ізноў жа з-за адсутнасці вашай правялебнасці, займаўся пан асістэнт. Маючы пэўныя канфідэнцыяльныя звесткі з Пінскага калегіума, ад самага пачатку вырашылі пакарыстацца нашым звыклым спосабам.

Гады і хваляванне даваліся ў знакі, і прэфект перахапіў паветра.

— Цэлы шэраг прычын, — працягваў тлумачэнні, — падказаў запісаць студыёзуса пад новым прозвішчам ад родавага герба Налуч. Першая прыступка дзеля паслаблення ранейшага ўплыву і паступовай змены асабовасці.

Чакаў, што рэктар пацікавіцца сапраўдным імем пінскага студыёзуса, але яго правялебнасць крануў тэму шырэй.

— Будзем спадзявацца, педагагічнае крэда Ордэна і тут прыдасца. На адлегласці вальнадумныя апекуны, а тут, я разумею, менавіта такі выпадак, не адолеюць нашага ўплыву. Лагодна, але настойліва скіраваць выхаванца належнай дарогай! Не ўпершыню мы сутыкаемся з нежаданнем беларускай шляхты служыць Святому Айцу па нашых статутах. Прозвішча ад герба — выдатная знаходка! Нібы сваё, не выкліча незадаволенасці, адцісне ранейшае без болю і супраціву.

Прэфект выпрастаў спіну, нібы рэкрут перад генералам.

— Мы займаемся цяжкой працай па выхаванні моладзі, — падхапіў урачыста, — адзіна дзеля хвалы Бога і дабра Айчыны… — ён выразна націснуў на апошняе слова.

Яго правялебнасць з лёгкай усмешкай кіўнуў галавою.

— Менавіта Айчыны, — абодва выдатна разумеліся. — Пэўныя недасканаласці шляхціцаў-пераросткаў можна сцярпець, калі ў цэлым маем добры плён перавыхавання.

Прэфект ледзь стлуміў уздых палёгкі.

— Спадзяюся, дзядзька Януша, пан Імполь Рудніцкі ўганаруе гэты плён шчодрым запісам, — выказаўся ўпэўнена.

Твар яго правялебнасці ізноў спахмурнеў, і пальцы чутна застукалі па парэнчы. Не ў звычаі Ордэна, каб ніжэйшы рангам не паведаміў вышэйшаму штосьці істотнае. Але чаму гэта дробязь так уразіла яго правялебнасць? Ну, можа, не вельмі, але ўсё ж…

— Значыць, важнай для нас справай заняты пляменнік гэтага павятовага Кромвеля! — у тоне рэктара чулася занепакоенасць і ледзь улоўная пагроза вінаватым у такім недаглядзе. — Брат падпаў пад зманлівае абаянне пана Рудніцкага.

Зірнуў на падначаленага і злітаваўся. Урэшце, сам спрактыкаваны дыспутант, а толькі зараз пачуў сапраўднае імя студыёзуса. І варта прызнацца, не на запытанне. Урэшце, выпраўляць памылку давядзецца перапалоханаму пану прэфекту.

— Не першы пан, і, баюся, не на ім гэта рыса пана Рудніцкага атрымае апошнюю перамогу, — рэктар супакоіў перапалоханага падначаленага.

Прэфект дзякаваў Богу і яго правялебнасці за ўласкавенне і трымцеў, каб не занадта глыбока пайшлі далейшыя роспыты. Ой, як не хацелася прызнавацца, што адпускаў Януша, каб належным чынам наставіць Мацея Сароцкага. Як-ніяк, той, лічы, каад'ютар, паслухмянасць ужо ў крыві. А што прыяцелі, то слугі Езуса даўно навучыліся вылечваць ад гэтага састарэлага пачуцця, як шмат ад якіх іншых… Не хацеў бы прызнацца і ў тым, як гэты звышздольны студыёзус, замест пекнай лацінай выкладаць цудадзейныя падзеі, палез шукаць сведчанні і запісы таго часу, не ўсведамляючы, як гэта небяспечна. Чым далей, тым глыбей, і прэфект мусіў бы прызнацца, што спахапіўся пазнавата.

Студыёзус і прэфекту нёс трывогі, хоць не думалася, што яны нейкім чынам сугучныя пачуццям начальства, пачынаючы ад яго правялебнасці. Досвед адданага жаўнера Ордэна падказваў, што кола закруцілася і шмат хто ў гэтым руху хутка будзе заняты…

…Сваім часам цяжка папрацавалася на ўсталяванае, утульнае, мяккае жыццё, — думалася пану рэктару па дарозе да сваіх пакояў. — З маладосці па сталы век жаўнер Ордэна. А часам і проста жаўнер… І сёння абавязаны думаць і дбаць пра тых, хто ніжэй, не трацячы з поля зроку тых, хто над табою. Не згледзіш небяспеку для іх, то сцягнеш яе на сябе і страціш усталяванае, утульнае жыццё, можа нават само жыццё… Ордэн не даруе нядбаласці. Калі не ў меру цікаўны студыёзус у сваіх пошуках натрапіць на які ліст, гэта можа стаць катастрофай. А ў некага са старых чаму не мог захавацца? Ці ўсё выкарыстана, каб стлуміць тую цікаўнасць, каб перакабаціць студыёзуса на адданага слугу Езуса? Каб і на розум яму не прыйшло ўзгадаць, што было некалі. А было ж…

…Не надта здарожаныя жаўнеры лена сноўдаліся па знішчаным маёнтку. З усёй забудовы ацалела невялічкая камора, якую заняло начальства. Прымацаваўшы жэрдку да двух яблынь з пажухлай ад полымя лістотай, зладзілі просценькую канавязь. Знайсці што-кольвек вартае надзеі не было. Што не паспелі звезці гаспадары, забралі маскавіты. Бой калі і быў, то кароткі, бо ні слядоў крыві, ні целаў.

— А ў тым папярэднім, то хоць нос заляпі, — нагадаў малады жаўнер крыху сталейшаму.

— Ты, браце Трахіменя, аніяк не можаш стаць жаўнерам, — папракнуў сталейшы. — А што ж будзе ў бітве, дзе стосы мерцвякоў адзін на адным, ды яшчэ з разваленымі чэравамі?

Бедны Трахіменя аж здрыгануўся і абараніўся крыжам ад жудаснага прывіду.

— Пан, выпраўляючы, больш пра здабычу казаў.

— Здабыча, вядома, заўсёды ёсць, — мудра прамовіў старэйшы, падчапіўшы мыском бота палову гаршка. — Толькі каму, браце, яна дастаецца?

— Няўжо простым жаўнерам нічога не пакідаюць? — загадзя пакрыўдзіўся маладзён.

Старэйшы зарагатаў.

— Ды я не пра тое. Нешта і нам перападае. Я да таго, што здабычу мае той, хто і перамогу. Скеміў? А перамагаць і непрыяцелю здараецца. Тады і тваё можа стаць ягоным.

Маркотны выраз твару сведчыў, што горкая праўда дайшла да розуму Трахімені. Абодва замоўклі, панура абыходзячы камору і няўцямна прыглядаючыся да рознага друзу пад нагамі.

— Відаць, з дабром паўцякалі, — папракнуў невядомых гаспадароў Трахіменя. — калі, канешне, у палон не трапілі.

— Які табе палон? — чмыхнуў старэйшы. — Каму ўзбрыдзе цягнуць некага з такой далечы? Пахаваліся, — сцвердзіў упэўнена.— Інакш бы тут і ляжалі б.

— Глядзі, Платон, што гэта? — Трахіменя падняў нешта, што было калісьці кашалём ці невялікай торбай.

— Дай сюды! — зацікавіўся Платон Бойнар, здольны належным чынам ацаніць знаходку. — Бач, шабляй рассечана, — паказаў вялікі разрэз, які перацяў і рэмень падвескі. — Ого! А што гэта тут?

У торбе свяцілася нейкая паперына.

— Давай, браце, агледзім, можа, што лепшае знойдзецца?

Але апроч учацвёра перагнутага аркуша нічога не было. Платон адкінуў торбу, услед гатовы быў шпурнуць непатрэбную паперыну, але раптам схамянуўся.

— А зірнем, браце, што гэта нам у рукі трапіла.

Абодва як на каманду апусціліся на заімшэлае бервяно, кінутае тут невядома калі. Усё ж так зручней, а часу заняць так ці гэтак няма чым. Платон Бойнар паважна разгортваў знаходку, а цікаўны Трахіменя стараўся зазірнуць паўзверх рукі знаўцы.

— Па-маскоўску пісана, — аб’явіў той.

— Разбярэш? — усумніўся Трахіменя.

— А то не! — пагардліва пырхнуў асвечаны Бойнар. — Нездарма ж мяне Платонам клічуць. Некалі, кажуць, быў такі мудрагел. Іменнік мой.

Не так лёгка, як старанна прагледзеў напісанае. Чытаць для маладога было б зашмат гонару. Але ж разам ваюецца, непрыгожа крыўдзіць.

— Дзівы-дзівосы, браце, — прамовіў навучальна. — Чалавек пры сведках замацаваў подпісам, што будзе служыць цару-бацюхну і хоць бы да самага скону не адступіцца.

— Бач ты! — усклікнуў Трахіменя. — Але ж гэта здрада каралю!

Мудры Платон зірнуў на маладога прыяцеля, як не пазнаючы.

— Кеміш, хлопча, — нібы абнадзеіў, што мае шанец выбіцца ў людзі. — Але за тую здраду маёнткі гэтага чалавека ніхто не кране. І сямейнікаў ягоных таксама. Вось такі ход. Просты, але хітры. І Найяснейшы пан не шмат на гэтым страціць.

— А што, — пахваліў спрыт невядомага Трахіменя. — Калі шляхціц маёмасны, шкада ўсяго пазбавіцца. А павернецца іначай, то цара кіне, а перад каралём павініцца.

— І так можа быць,— пагадзіўся Бойнар.

Аглядаючы паперыну, нібы ўжывую бачыў неблагі дварок, а можа і некалькі, фальваркі там, млыны на рэчках з рыбнымі сажалкамі. Сам бы не рызыкнуў такое страціць. Ну і гэты чалавек не рызыкне — ні другі раз, ні трэці, калі апынецца перад выбарам. Абы яго знайсці, калі жывы, вядома. Трахіменя гэты назаўтра пра ўсё забудзецца, а пакуль што абы языком не мянціў.

— А ты ведаеш, браце Алісей, — ці не ўпершыню прыгадаў, як яго па імені, — гэта папера нам можа прыслужыцца. Раптам у яго неблагі маёнтак? А як мы туды прыйдзем…

— Куды?

— Туды, дзе гэты чалавек жыў! — сярдзіта адказаў Платон. — Няўжо так цяжка дапетрыць?

— А можа, ён і не загінуў, — надзея на лепшае пачала падсвечваць і Алісею. — Служыў цару? Служыў. То аддавай, пане-браце, свой дварок.

Пан Бойнар паляпаў маладога вымагальніка па калене, тыцнуў у паперыну сінім ад пораху пальцам.

— Ты, канешне, зух, але таму чалавеку не пан-брат, — памаўчаў, пакуль прыяцель змірыцца са сваім нешляхетным статусам. — Але не ў гэтым бяда. Сам жа разумееш, калі мы падкажам і ўлады забяруць ягоныя добры, то ці нам з табою аддадуць?

Гэта «нам з табою» лашчыла вуха, але тое, што «не аддадуць», абрынула сэрца ў халодную прорву.

— Трасцу, браце! Мацнейшыя знойдуцца, — дакінуў зверху хітры Платон.

— Твая праўда, — уздыхнуў бедны летуценнік. — Тады ці варта аддаваць гэту паперу ўладам?

Слушнасць меркавання чарговы раз належала маладому.

— Не тое што аддаваць — слоўца не піскнем! — як загад выклаў Бойнар і сувора ўтаропіўся ў аднадумца. — Я вось што надумаў. Мы да гэтага чалавека з дабром, — палашчыў далонню аркушык. — «Разумеем, пане-браце, прыцiснулі цябе, змусілі. Але і ты нас зразумей. Паперыну ўладам аддаць належала, а мы, рызыкуючы, толькі табе паказваем». Скеміў? — пытанне рубам да невядомага шляхціца Алісею падалося ўзнагародай.

— Аддзяч, пане, за старанне! — усклікнуў ён весела, не спакусіўшыся на братэрства.

Затое бліжэйшага, нібыта шляхціца, асмеліўся ляпнуць па калене, і Платон нават не пакрыўдзіўся, зачараваны прывідам лёгкай здабычы.

— Кажам яму так: удзень нікога не бойся і ноччу спі сном праведніка, — закончыў гучным рогатам. — Але плаціцьмеш ад таго дня, калі пачалі ахоўваць тваю таямніцу.

Што ў нас сёння? Другі тыдзень ліпеня, адна тысяча шэсць соцень і шэсцьдзясят год ад Нараджэння Хрыстова. Вось і падлічы, пане-браце, колькі нам завінаваціўся.

— А праўда! Вайна ж яшчэ немаведама калі скончыцца, — усцешыўся Трахіменя.

Салодкія мары не далі абодвум заўважыць, што іх даўно слухае маўклівая асоба ў чорным. Але вось яна пераступіла два разы, і далікатная далонь апусцілася на паперу. Лагодна, але настойліва пацягнула яе з рук Платона.

— Сквапнасць да чужога, дзеці мае, нікому не прынесла шчасця, — прамовіў святы айцец да знямелых ад нечаканасці прыяцеляў.

Страта, здавалася, надзейнага прыбытку агаломшыла абодвух. Панурыліся, няздольныя да супраціву.

— …як і залішняя гаварлівасць з кім бы то ні было пра гэту паперу, — ціхай пагрозай павеяла ад апошніх словаў святога айца.

Езуіт памахаў аркушам перад тварамі нядошлых авантурнікаў і старанна скруціў яго ў тугую трубку, каб выгладзіліся зморшчыны і скамечанні. Сунуў звой у рукаў, паківаў пальцам і аддаліўся.

— Вось табе і маеш! — крэкнуў Платон. — Спадзяваліся жураўля з неба, а ён і сініцу з рук забраў. Але з гэтым не паспрачаешся. Ён і афіцэрам загадвае.

— А навошта яна яму?

— Ну ты, хлопча, дзівак! — хоць на гэтым прасцяку мог сарваць злосць. — Сёння ён манах, а заўтра…

Платон Бойнар не паспеў усведаміць небараку Алісея, кім можа стаць заўтра айцец Юльян, бо на парозе каморы паказаўся камендант гэтага невялікага значка.

— Збірайцеся, хлопцы! — крыкнуў на ўвесь былы падворак. — Мяняем дыспазіцыю!

Павярнуўся да езуіта, які акурат наблізіўся.

— Калі нехта не памыліўся, птушка ляціць проста ў сіло.

Езуіт кіўнуў у адказ і ледзь варухнуў вуснамі, робячы ўсмешку.

— Лепш яму да нас, чым да маскавітаў, — выказаўся стрымана. — Там яго лёс быў бы марны. Маглі даведацца, што гэта ён падказаў пану Фердынанду Рору пра атрад з Гародні. Ваяўнічы арандатар знішчыў атрад падчыстую.

— Гэта недзе пад Зэльвай, — удакладніў камендант. — І гарматы, і порах не трапілі пад Ляхавічы і не вярнуліся да Гародні. Усё лягчэй было фартэцыі адбівацца. Не дзіва, што Іван Хаванскі раз’юшыўся. Але і шляхта з-пад Ваўкавыска ды Ліды можа ганца папракнуць. Вунь як папомсціўся на іх Хаванскі. Людзі, дзякаваць Богу, па большасці паспелі схавацца, але маёмасць…

Езуіт паківаў галавою, але ні ў голасе, ні ў вачах не прамільгнула і ценю спачування.

— Так. Не дзіва, калі мясцовая шляхта перахопіць патрэбнага нам чалавека.

Каменданту апошняе сцверджанне не спадабалася. Ён кінуў на святога айца позірк, поўны прытоенага падазрэння.

— Не ўсе бачаць ягоны ўчынак так спрошчана. Як ваяр, ён быў абавязаны учыніць пэўныя захады. Калі б на той атрад напаў не партызан Рор, а войска гетмана, паводзіны князя Хаванскага прадказаць лёгка. Ён жа ад пачатку кампаніі загадаў знішчаць шляхту пад корань. Не раз і не два пацвердзіў, што для ўсіх вылюдак.

Пярэчанняў не прагучала, але і падтрымкі сваіх меркаванняў камендант не дачакаўся.

— Як я разумею, мая задача — злавіць ганца і забраць у яго паперы?

— І ўчыніць допыт, — змрочна ўдакладніў езуіт. Злавесны тон прымусіў каменданта спахмурнець.

— Але ж гэта ганец вялікага гетмана да каменданта дывізіі левага крыла, а не вораг, — падкрэсліў пасады двух вайскаводцаў Вялікага Княства. — Так мне казалі.

— Так, — суха пацвердзіў езуіт. — Але паперы пры ім могуць аказацца датычнымі змовы супраць двара. Для васпана не таямніца, што кароль не надзяляе вялікага гетмана Княства поўным даверам, хоць і вярнуў яго ў войска. Павел Сапега застаецца Сапегам і з найлепшым рэгімэнтарам караля спрэчкі не спыняе.

— Да яснепана Чарнецкага, на думку караля найлепшага рэгіментара, можна выставіць шмат прэтэнзій, — прамовіў паручнік з ноткай упартасці. — Для мяне хопіць таго, як выпрошваў у караля маёмасць выдатнага ваяра Кміціча, прапануючы збройна здушыць канфедэратаў.

— Але ж палкоўнік Кміціч бунтаўнік, так што Найяснейшы пан…

— Але найлепшаму рэгімэнтару кароннага войска не прыстала быць карнікам над рэгімэнтамі Вялікага Княства, — зазначыў афіцэр, не даючы голасу езуіту. — Канфедэрацыя была праўная, як і яе маршалак Кміціч. Добра, што Найяснейшы пан не захацеў, ці збаяўся, пакарыстацца такой сумніўнай паслугай.

— Бачу, вы стаіце больш за Паўлам Сапегам, чым за сваёй дывізіяй.

Святы айцец старанна даследаваў характар каменданта, каб ведаць, чаго чакаць ад яго ў бліжэйшых падзеях.

— Зусім не так, і гэта вам кожны пацвердзіць. Але ваярскі куншт і адвагу цаню і паважаю. Занадта рускі ваявода сквапны. Ведаю дакладна, што адабраў у сваіх жаўнераў палонных. Дзеля чаго? Дзіцяці ясна — самому атрымаць выкуп. Яснепан Чарнецкі ўсе здабытыя гарматы і харугвы адаслаў у свой Тыкоцін. А належала пакінуць у Вялікім Княстве.

— Усё ж нездарма ліцвінаў папракаюць, што больш пра сваё Княства дбаюць, чым пра дабро караля, свайго пана.

Магло падацца, што наўмысна паддражнівае маладога афіцэра, не спрактыкаванага ў абыходжанні з прыдворнымі святарамі. Адно што таго ані колькі не абыходзіла прыхільнасць ці незадаволенасць прыстаўленага да яго чарняца.

— Дбаць пра Вялікае Княства азначае клапаціцца пра Рэч Паспалітую, ойча. Бо мы, ды яшчэ Украіна, атрымліваем першыя ўдары. І крыўдна, калі гэтага не ўлічваюць. Вось і вялікі гетман, несумненна, пакрыўдзіўся на «слаўнага рэгімэнтара» і ў той жа дзень разам з войскам пагнаўся ад Ляхавіч за маскавітамі.

Езуіт нагнаў на твар задуменнасць і на дадатак паціснуў плячыма:

— А ці была патрэба так спяшацца? Можа, пана гетмана гнала пыха і прага большай славы, чым у пана Чарнецкага?

— На маю думку, ойча, у нашага вялікага гетмана заслуг не менш, — рашуча запярэчыў паручнік. — Проста пра яго не крычаць у Варшаве. І клопат у яго не пра свой адзіны Быхаў і не пра сваю ўласную толькі славу. Ён дабро Вялікага Княства мае на першым месцы. А ў пана Чарнецкага адна думка, як на ліцвінскіх карках у Маскоўю

ўварвацца і каралю пра сваё перамогі дакладваць. Што да Міра, які ўзяў 29 чэрвеня, то там гэтулькі ж славы, колькі клопату. Сто дваццаць маскавітаў чулі пра паразу галоўнага войска, па жменьцы пораху спалілі і паддаліся. А ў Варшаву крык панёсся: «Замак захапілі!»

Чарнец спахмурнеў ад такой вольнасці ў меркаваннях.

— Усё ж раю пану памятаць, што яго начальнік — пан абозны Міхал Казімір Пац, які не дорыць вялікага гетмана прыязнасцю, — нагадаў павучальным тонам.

Афіцэр пацiснуў плячыма:

— Мяне яснепаны да свайго таварыства не запрашаюць, так што ні сварыцца, ні мірыцца з-за мяне ім не давядзецца.

Ён бесклапотна засмяяўся і рушыў да жаўнераў, што закончылі сядланне. Святы айцец знік у каморы і праз хвіліну аб'явіўся ледзь не кавалерыстам. Нават шпоры прыладзіў да добра падагнаных ботаў. Скочыў у сядло так, што і жаўнеры пераміргнуліся.

...Пазіцыю выбралі зручную, але, як часта бывае, ганец вылецеў з нечаканага напрамку, бакавой сцежкай. А тут яшчэ невысокі хвойнік перад палянай, і коні замарудзілі, прабіваючыся між калючых лапак. Пакуль апынуліся на дарозе, ганец праімчаў міма пад лямант жаўнераў.

— Гэй! Стой! Стой, халера!

Вершнік маланкавым поглядам пераканаўся, што небяспека толькі з аднаго боку, і махнуў бізуном. Конь кінуўся ў галоп, знікаючы за паваротам дарогі.

— Гэта ён! Услед! Не ўцячэ!

Вершнікі падагравалі адзін аднаго, і пагоня была ўпартая. Калі на прамым адрэзку дарогі ўцякач стаў бачны, нехта не ўтрымаўся і стрэліў. Для ганца дай Божа сілы каню, гнаць і адарвацца! Але не заўсёды шанцуе. Пагоня насядала, на чарговай прамізне густа сыпанулі пісталетныя стрэлы, і скрозь стукат капытоў аж да ганца даляцела злоснае:

— Не страляць, халера! Не страляць! — паручнік спадзяваўся на лепшае ў дрэнным.

Але тут жа грымнула мацней, нешта стукнула ганцу ў плечы і на момант адабрала сілу і памяць. Паваліўся на шыю каня, але сабраў сілы, дацягнуўся да пісталета, выстраліў, не мерачыся, у прыдарожныя зараснікі і выпусціў зброю з аслабелай рукі. Але чалавек не здаваўся, і другі пісталет паслаў кулю проста ў пясок дарогі. Конь даўно запаволіў бег і цяжка аддыхваўся, а вершнік, нібы выканаўшы апошні абавязак, пачаў спаўзаць з сядла ўніз галавою. Пагоня была побач, адзін ухапіў каня пад цуглі, другі прыціснуў свайго ўшчыльную і падтрымаў бездапаможнае цела. Двое імгненна спешыліся і, асцярожна пераняўшы параненага, паклалі на траву ўзбоч дарогі.

— Дыхае, — паведаміў жаўнер на маўклівае пытанне каменданта.

Афіцэр нахіліўся з сядла, прыгледзеўся. Выпрастаўся на страмёнах і знайшоў поглядам неразумнага стральца, усё яшчэ з мушкетам у руках.

— Што ты нарабіў, доўбня негабляваная! — не тоячы злосці і прыкрасці, крыкнуў афіцэр. — Ты чым думаў? Тым, на чым шапку носіш, ці тым, што на сядло абапіраецца?

Жаўнеры падтрымалі каменданта стрыманым смехам.

— Баяўся, што ўцячэ, — невыразна прамармытаў вінаваты, спрабуючы апраўдацца.

— А з мушкета навошта? — не мог супакоіцца афіцэр. — Конь яго змораны, і так бы дагналі.

— Я мерыўся каню па нагах, — выразней прамовіў жаўнер. — Ды вось…

— Ты, няздара, гэтаму чалавеку боты мыць не варты! А жыцця пазбавіў!

Жаўнер кінуў збянтэжаны позірк на постаць у чорным побач з афіцэрам. Камендант міжволі згледзеў ледзь прыкметны рух павекаў манаха. Можа, падалося?

— Агледзелі? Што там у яго? — аклікнуў жаўнераў ля параненага.

— Усё яшчэ дыхае, — не то здзіўлена, не то незадаволена адказаў старэйшы.

Стоячы на каленях, нібыта высвятляў стан параненага, неўпрыкмет вымацваючы кашалёк ці нешта падобнае. Не можа ганец без граша ў кішэні выправіцца ў белы свет.

Трэці добраахвотнік займаўся канём. Але ў сядзельных торбах, апроч звычайных для такога занятку рэчаў, нічога не знайшлося. На цікавейшае натрапілі ў невялікім скураным кашалі запазухай.

— Паперы, пане паручнік! Больш нічога, — расчараванне сведчыла пра надзею на нейкі прыбытак.

— Давай сюды, — працягнуў руку афіцэр.

Прагледзеў ліст за лістом, усё больш нервуючыся.

— Пакуль нічога такога, за што варта было забіваць чалавека, — прамовіў да манаха, які злосным паглядам праводзіў кожны ліст, старанна вернуты паручнікам у кашэль. — Адны дыспазіцыйныя лісты да яснепана абознага. Вялікі гетман паведамляе, якімі шляхамі маглі б ісці на дамоўленае збліжэнне. Спасылаецца на лісты караля, якія яснепан абозны, напэўна, даўно атрымаў.

Езуіт зморшчыўся, страціўшы сваю стрыманасць:

— Я прасіў бы пана паручніка надалей аддаваць здабытыя дакументы мне, перш чым праглядваць самому.

Камендант не збянтэжыўся.

— Паручнік Карней Хаецкі атрымлівае ардынансы не ад вашага правінцыяла, а ад свайго камандавання. Калі будзе іншы расклад, падпарадкуюся ізноў жа загадам, але ніяк не патрабаванням пабочных асоб.

Калі б позірк скоса мог запальваць, паручнік стаў бы паходняй разам з канём. Мець сведкаў, ды яшчэ зазірнуўшых у паперы, ды паперы тыя забраўшых, было не ў звычаі ўсёмагутнага Ордэна і звыш цярпення яго адданага слугі. Мабыць, шляхта гэтага Княства ніколі не ўзнімецца на адпаведны ўзровень шанавання ўлады.

— Дарма ссадзілі чалавека, — хмыкнуў паручнік. — Але што гэта?

Ён старанна прагледзеў невялікі аркушык, што зашыўся між паперамі. Падаў езуіту, нібы дзеля змякчэння рэзкай рэпрымэнды.

— Цікава! Вельмі цікава, — працягнуў той. — Нешта накшталт даверчага ліста для пана Арыста Рудніцкага. Арыст Рудніцкі…

Нейкая іскра мільганула ў вачах святога айца.

— Тое, што трэба? — запытаўся паручнік.

— Не зусім, — суха азваўся езуіт, не адрываючы вачэй ад лістка. — Арыст Рудніцкі…

А старанныя жаўнеры нават боты сцягнулі і анучы разматалі, але не знайшлі нічога, за што маглі б атрымаць хоць на чарку. Прысабечыць боты пры паручніку ніхто не рашыўся. Неяк усцягнулі на ногі ўладальніка. Прынеслі і пісталеты, на шчасце, не трапілі пад капыты. Жаўнер падаў на далоні абсмаленыя шматкі паперы.

— Пыж не пыж, — паручнік асцярожна ўзяў у пальцы больш значныя, паспрабаваў раскласці на кашалі. — Літары, лічбы, — прамовіў няўцямна. — Напэўна, шыфр.

Працягнуў езуіту, не спадзеючыся нешта разабраць.

— Несумненна, — раздражнёна азваўся езуіт, спрабуючы разгладзіць парванае куляй і абпаленае. — Несумненна, тое, што шукалі.

Паручнік зноў нахіліўся над шматкамі, але тут жа адхіснуўся.

— Надзейны хлопец, — кіўнуў на распасцёртае на траве цела.

Абодва разумелі, што апошнія стрэлы ганца падказала ўсведамленне абавязку.

— Калі б гэтая надзейнасць стаяла на службе святой каталіцкай веры і манарха… — вызначэнне гучала як неаспрэчнае, і паручнік адчуў, што святы айцец ахвотна выправіў бы памылку ўзмахам шаблі.

Злаваў, што не пашанцавала з афіцэрам. Але вырашаць, што далей, менавіта каменданту, бо іншага жаўнеры не паслухаюць. Паручнік кінуў вокам на падначаленых. Упартыя яшчэ шныпарылі па кустах, але ясна было, што і другі пыж будзе не ў лепшым стане.

— Што там ягоная рана?

Далейшы шлях залежыць ад таго, ці мае нейкі шанец гэты бядак.

— Рана як рана, пан паручнік, але ж крыві вельмі мала. І ўжо запяклася.

— Кроў можа ў чэрава пайсці, а там яе нічым не спыніш, — са знаўствам прамовіў старэйшы жаўнер. — Калі так, няма ратунку, адно да папа ці ксяндза.

— Мы ж свайго нібы маем, — ціха зазначыў другі, зыркнуўшы на езуіта.

— Ат! Ён мне на д'ябла выглядае, — яшчэ цішэй азваўся старэйшы і зірнуў на паручніка. — Дык што, пане камендантце, бяром нябогу?

Адчувалася, што кінуць параненага на дарозе няўхвальна для жаўнера, а менавіта гэтага ён пабойваецца. Паручнік крутнуўся ў сядле і выцягнуў з торбы гладкі скрутак.

— Перацягніце паверх сарочкі. А то яшчэ развярэдзім, што засохла.

Жаўнер страсянуў скрутак, і бліскучая паласа змяёю калыхнулася ў паветры.

— Ого! Шаўковы, — усклікнуў ён. — Не шкода?

— Варушыся, чалавеча, — хмурна загадаў афіцэр.

Моўчкі прыглядаўся, як жаўнеры спавіваюць торс параненага, туга накладваючы столку за столкай. Нарэшце паднялі нябогу і панеслі да каня. Пасыпаліся парады:

— Трэба ж неяк увязаць, каб не зваліўся.

— У мяне вось шнуры, вазьміце.

Не падабалася жаўнерам гэтае паляванне на свайго, неўсвядомленае пачуццё віны авалодвала людзьмі, звыклымі да нялюдскага аблічча вайны. Вось і тут справы вялікапанскія, а плоціць жыццём маладзенькі шляхціц. А паручнік Хаецкі міжвольна вяртаўся да мушкетнага стрэлу. Ці быў ён выпадковы? Ці выпадкова не забіў напавал?

— Хто б хацеў паміраць сагнутым у корч? — уздыхнуў жаўнер, мацуючы ганца на яго ўласным кані ўпоперак сядла.

— І ў труну не змесцішся,— змрочна пажартаваў малодшы, але змоўк пад няўхвальным позіркам таварыша.

— Вучыся, дурань. Вось пан паручнік спагадлівы, і гэта цешыць.

Нарэшце рушылі, але праз якія паўтары вярсты напаткалі фурманку. Двое сялян, можа бацька з сынам, збочылі, наколькі дазваляла дарога, і спыніліся, насцярожана ўзіраючыся ў конную гурму. Спадзяванні, што міне іх бяда, не спраўдзіліся. Паручнік спыніў сваю кавалькаду і сурова агледзеў вазакоў:

— Куды едзеце?

— Дадому, пане. Пачулі страляніну — схаваліся, а пацішэла, то і пара.

Старэйшы яшчэ спадзяваўся, што афіцэр зразумее не надта прыхаваны намёк. Але паручнік не прывык праймацца сялянскімі турботамі.

— На плябанію трохі сена завезлі… — уставіў сваё малады хлапчына і змоўк пад позіркам старога.

Клопат з фуражом накідваў сялянам становішча падазроных і абвінавачаных перад кожным кавалерыстам ці абозным.

— І аўсу трохі, — неахвотна дадаў старэйшы. — Конь ды кароўка таксама Божыя стварэнні, толькі скаргі худымі рэбрамі выказваць могуць.

— Бач, які гаваркі, — хмыкнуў паручнік. — Хіба маршалкам на соймік выправіць? — ён азірнуўся на жаўнераў, запрашаючы ацаніць жарт.

Але першым ацаніў селянін.

— Барані Божа, пане. У першы дзень паны замест адзін аднаго мяне, беднага, на капусту пашаткуюць.

Паручнік зарагатаў, за ім увесь значок. Хіба езуіт не змяніў поснага выразу твару. Але жарты — жартамі, а служба — службай.

— Што ж, не хочаш у маршалкі, то паварочвай назад. Вунь таго раба Божага трэба да ксяндза. Канае. А каму ахвота паміраць без апошняга прычасця? Ды яшчэ ў такой пазіцыі.

Селянін перахрысціўся і залямантаваў.

— Ой, пане літасцівы! Як жа мы ўдвох? Гэта ж калі хто перастрэне, то па гэтых часах…

— Завіснеш на бярозе, — паручнік задраў галаву, нібы выбіраючы адпаведную.

Цягнула чалавека на жарты.

— Не енчы, не спужаўшыся, — супакоіў. — Паедзем услед. На пэўны час рэквізую тваю фурманку.

— О! Гэта слова мы ведаем, — нечакана ўзрадаваўся селянін. — Злазь, Міхасёк.

У момант, не даўшы сцялежыцца на вузкай дарозе, павярнулі фурманку. Без загаду кінуліся разам з жаўнерамі вызваляць параненага з путаў. Калі рэквізіцыя, то і ахова, а раз ксёндз будзе, то тым вяртаннем і абыдзецца.

— Дык, можа, да Воўпы? Гэта ж побач, — нясмела прапанаваў селянін.

— Конь не мой — паганяй, не стой, — засмяяўся паручнік, угадаўшы старэчую хітрасць.

Пачуваўся неяк прыстойней, уладкаваўшы таго бедака на фурманку. Крыху адпусціла пачуццё вінаватасці. Сялянскі воз не надта спяшаўся, і жаўнерскія коні аддыхваліся пасля нядаўняй пагоні. Езуіт параўняўся з паручнікам і, крыху падаўшыся наперад, прыглездзеўся да постаці, выцягнутай на саломе. Хлапец прымасціўся ў галавах і прыладзіў параненаму замест падушкі нейкую адзежыну.

— Ці не лепш было пакінуць яго тут? — святы айцец невыразна павёў рукою да прыдарожнага хмызняку. — Мы і так затрымліваемся.

Паручнік здзіўлена зірнуў на манаха. Раней на такое нават не намякалася. Магчыма, са стратай шыфраванага паведамлення допыт страціў сэнс. А можа, чарнец зразумеў, што не змусіць паручніка ўчыніць допыт шляхціца езуіцкімі спосабамі. Паручніка апаліла раптоўнае шаленства. Што стала б з ім, Хаецкім, пасля такога ўчынку, калі радня, прыяцелі ганца даведаюцца?

— Відавочна, беларускія каталікі розняцца ад італійскіх строгім выкананнем запаветаў, — кінуў афіцэр, не змякчаючы востραга сэнсу лагоднасцю тону. — А ў рапарце што загадаеце пісаць? А гэтым языкі паадразаць?

Не спадзеючыся на адказ, паказаў пальцам на жаўнераў, якія прыслухоўваліся, а можа і чулі адно ды другое.

— Калі пан паручнік не ўпэўнены ў сваіх падначаленых, то канешне… — езуіт паціснуў плячыма.

— Я ў першую чаргу ўпэўнены ў тым, як выхавалі мяне бацькі, — церпка зазначыў афіцэр. — Але не ўпэўнены ў святым айцу, — дадаў з падкрэсленай шчырасцю. — Таму лічу прапанову нявыказанай і непачутай.

Далей ехалі моўчкі. Настрой каменданта, як гэта здараецца ў невялічкіх значках, перакінуўся на ўсю кавалькаду. Толькі глухі стук капытоў, парыпванне колаў фурманкі ды брынк збруі парушаў лясную цішу. Нечакана сустрэлі незнаёмы атрад. Сталі адзін перад адным, выхапіўшы зброю, але не памкнуўшыся стрэліць. Не адразу здагадаліся, што маюць перад сабою непрыяцеля.

— Вы хто? — паручнік Хаецкі азваўся першы.

Меў перавагу ў людзях і перад сабою сялянскі воз. Не вагенбург, але на вузкай дарозе перашкода. Праўда, той бок наўрад ці пайшоў бы ў кавалерыйскую атаку. Людзі зняможаныя, счарнелыя ад пылу і голаду. У таго ды другога пад шапкай закарэлыя ад крыві павязкі. У аднаго рука падвязана да грудзей, ды яшчэ правая. Які з яго ваяр — ні пісталета не наб’е, ні шаблі не ўхопіць. Не весялей выглядалі і коні. Да паручніка Хаецкага патроху даходзіла разуменне, з кім спаткаўся.

— Калі не памыляюся, недабіткі гарадзенскага атрада, — сцвердзіў, спадзеючыся нейкага водгуку.

Нарэшце даляцела:

— Калі паспрабуеш дабіць, гэта табе дорага абыдзецца. У палон мы не пойдзем.

Хаецкі задумаўся:

— Але ж неяк свой вузел развязаць мусім?

Пытанне варажыла няпэўную надзею, і з варожай грамадкі прагучала нечаканае меркаванне:

— І нам, і вам лепш не гордзіевым спосабам.

Хаецкі здагадаўся, што перад ім не адны маскавіты. Азірнуўся на сваіх жаўнераў. У пешым парадку ці конна страт не пазбегнуць, а ці такая ўжо слава і патрэба — знішчыць гэтых даведзеных да адчаю людзей? І рашыўся.

— А ці ведаеш ты такое слова — armistitium? — крыкнуў да таго, хто здаваўся яму начальнікам.

— У полацкім калегіуме вучаны, — з адценнем гонару азваўся той.

— Дык, можа, адыдзем ды перамовімся? — Хаецкі саскочыў з сядла, паказным рухам выцягнуў шаблю і падаў бліжэйшаму жаўнеру.

Зірнуўшы скоса, заўважыў, як полацкі шкаляр зрабіў тое ж самае.

— Святы айцец не адмовіцца пайсці са мною? — не прасіў, а прапаноўваў.

Езуіт саскочыў з сядла і стаў поруч з Хаецкім. Ад маскавітаў крыкнулі:

— Значыць, два на два!

Галоўны кіўнуў аднаму са сваіх.

Парламенцёры адышлі пад дрэвы, але так, каб абодва атрады маглі іх бачыць, а моцна прыслухаўшыся, нешта пачуць. Калі б афіцэры размаўлялі сам-насам, пагадненне магло адбыцца лёгка і хутка. Наяўнасць святога айца замінала не толькі Хаецкаму. Камендант маскавітаў не мог выказвацца наўпрост, разумеючы, што паручнік, маючы перавагу, не павінен ісці на вялікія саступкі. Пасля гэты чарнарасны падвядзе яго пад суд як баязліўца, а то і здрадніка. Сам жа з шабляй не стане.

— Дык ты, вашмосць, — Хаецкі наважыўся на такі зварот, — ці не наш будзеш? Я, прызнацца, адпачатку па мове западозрыў.

— Не адзін я гэткі, — пахмурна адказаў афіцэр. — Прысягнулі, бо выйсця не было, — прызнаўся нібы ў нечым няўхвальным, зірнуўшы на свайго таварыша.

Беларус на царскай службе кіўнуў, гэтак жа пасмутнеўшы тварам.

— То што, пачнем? Прапанова пайшла з твайго боку, — запытаўся неяк па-свойску.

— Нібыта табе так карціць біцца, а я цябе адгаворваю, — папікнуў Хаецкі. — Пэўна, і пораху на адзін зарад.

Аніводзін не рашаўся прамовіць галоўнае першым.

— Порах тут мала значыць. Мабыць, і табе ясна, што двойчы пісталеты набіць ні вам, ні нам не ўдасца. Шаблі вырашаць, — зазначыў царскі слуга і міжволі акінуў вокам свой атрадзік і непрыяцельскі.

Абодва разумелі, у каго нешта застанецца. Самі ж апынуцца твар у твар, бо ў такім раскладзе сіл не станеш за чужымі спінамі. Цяжкую сітуацыю нечакана разладаваў езуіт.

— Найгоршае замірэнне лепшае за найлепшую сутычку, — прамовіў, падкрэслена ветліва кіўнуўшы абодвум камендантам. — У дадзеным выпадку бяру на сябе смеласць агучыць тое, што ва ўсіх на мыслі: раз'ехацца, не спрабуючы іншага выйсця.

Мабыць, абодва афіцэры ўздыхнулі з палёгкай. Лягчэй паставіцца да прапановы, чым выказваць яе самому. Асабліва выстаўляючы на выпрабаванне абавязак і гонар афіцэра.

— Як вашмосць на такое? — запытаўся Хаецкі, самім тонам паказаўшы, што яму даспадобы.

— Разумнай рады чаму не паслухаць? — адказаў непрыяцель, зірнуўшы на таварыша.

Той пацвердзіў сваю згоду лёгкай усмешкай.

— Але будуць пэўныя ўмовы, — нечакана для ўсіх езуіт прамовіў станоўчым, амаль загадным тонам. — Вы забіраеце гэтага чалавека, — паказаў на фурманку і ўдакладніў: — разам з возам і сялянамі.

— Куды ж яго нам? — разгубіўся камендант маскавітаў і махнуў рукою на свой жалю варты атрад: — Самі ж бачыце.

Пасля амаль дасягнутага перамір’я не было патрэбы надрабляць паказной мужнасцю недахоп баяздольнасці.

— Яму толькі да бліжэйшага ксяндза, — удакладніў Хаецкі і ўзарваўся. — Але чаму святы айцец узяўся за мяне вырашаць!

— Бо маю для вашэці іншую задачу, — спакойна адказаў езуіт і ўладным рухам далоні перапыніў магчымыя пярэчанні. — Перш чым выказаць свае меркаванні, пан паручнік павінен прагледзець гэты ліст.

Аднекуль з рукава выцягнуў учацвёра складзены аркуш і падаў Хаецкаму. Усе чакалі, пакуль той пабежна прагледзеў паперу. Паручнік змяніўся з твару, але адолеў здзіўленне.

— Ад самога вялікага канцлера, — мабыць, хацеў, каб і другі бок зразумеў, што далей адбудзецца. — Перадаць святому айцу палоннага ганца і ўсе здабытыя на ім паперы і аказваць яму ўсемагчымае садзеянне. Што ж, мушу падпарадкавацца, — злосна сцвердзіў Хаецкі. — Чаму ж раней не выставілі гэтага загаду?

— Не хацеў зацiскаць вашай самастойнасці і стараннасці, — суха патлумачыў езуіт, забіраючы ліст з рук паручніка. — Лісты да яснепана абознага пакуль можаце пакінуць.

Тон яго стаў амаль ласкавым, але паручніка не так лёгка было прыручыць.

— Там, — паказаў на забраны загад,— нічога пра гэта не значыцца. Няхай ужо святы айцец забірае ўсё і сам тлумачыць, як і што было.

— Няхай і так будзе, — пагадзіўся езуіт і павярнуўся да царскага афіцэра, нібы той мусіў яму падпарадкавацца: — Вы з фурманкай рушыце да Воўпы, сяляне дарогу ведаюць. Гэты ваяр заслугоўвае пашаны. Менавіта ён паведаміў шлях гарадзенскага атрада.

Хаецкі збялеў, і камендант маскавітаў згледзеў ягонае хваляванне. Езуіт спадзяецца, што маскавіты не давязуць цяпер ужо іхняга палоннага да касцёла, прынамсі жывым.

— А я, пан паручнік,— без знаку хвалявання паведаміў езуіт Хаецкаму, — адскочу ў адзін двор і праз дзве-тры гадзіны знайду вас тут. Дайце мне аднаго дзеля аховы, — ён кінуў позірк па жаўнерах. — Вось хоць бы таго непаслухмянага. Няхай выправіць памылку службай, пакуль астатнія будуць адпачываць.

— Маю для айца істотную заўвагу, — прамовіў паручнік, не зважаючы на прысутнасць варожага афіцэра. — Калі адпаведныя лісты не трапяць да яснепана абознага… — ён вымоўна абарваў сказ.

— І гэта не вашы турботы. — Езуіт павярнуўся і пайшоў да свайго каня. Хаецкі ўсё яшчэ стаяў, як аглушаны, але схамянуўся і голасна ўсклікнуў:

— Бойнар, эскартуеш айца! Але ж мой пояс! — вымоўна зірнуў на непрыяцеля.

Разам пакрочылі да фурманкі.

— Не пытаюся, хто ты, праваслаўны ці каталік, — апусціўшы галаву, ціха прамовіў Хаецкі, — але калі сапраўды начаваў у канвікце, то ведаеш звычкі айцоў езуітаў.

Ён не спяшаючыся пачаў вызваляць пояс, баючыся ўбачыць свежую кроў.

— Не мусіш тлумачыць, — гэтак жа ціха азваўся гадаванец полацкага калегіума.

— А гэты малец, — Хаецкі наўмысна ўжыў полацкага слоўца, — выдатны ваяр, ганец вялікага гетмана і нічым перад вамі не вінаваты. Выконваў задачу выведніка і падстрэлены маім дурнем па навуцы вось гэтага святога.

Палачанін скоса кінуў погляд і прашаптаў:

— Не бойся. Слова гонару, давязём яго да касцёла. Толькі скажы мне, пане-браце, дарогу да Гародні маем чыстую?

Хаецкі азірнуўся, чуць іх маглі толькі сяляне.

— Збольшага так, — адказаў па праўдзе. — Нашы яшчэ не павінны падысці. Пад Вільняй затрымаліся. Але бойся шляхты, бо збіраецца ў рушанне. Можаш натрапіць.

Царскі прысяжны ўздыхнуў з палёгкай. Прабіцца сілы не меў і адседзецца не было дзе.

— Дзякую, вашмосць. Не хочацца гінуць, бо, па чутках, мір недалёка, — патлумачыў ціха, дапамагаючы Хаецкаму. — І я не здраднік, а закладнік, сям'ю ратаваў.

У Хаецкага сям'я хавалася ў лесе, але хто ведае, як там ля Полацка.

— Што ж, бывайце здаровы, — палачанін працягнуў руку і ўсміхнуўся: — Не пападайцеся, калі нас будзе больш. Не ўсе такія памяркоўныя, як я.

— І вам тое ж самае, асабліва пры багатым абозе, — паціснуўшы руку, рагатнуў Хаецкі і пакрочыў да сваіх, зматваючы пояс.

Колькі хвілін — і перакрыжаванне дарог перабег зайчык, мінаючы пакінутыя коньмі яблыкі…

…Яго правялебнасць пацёр скроні, адганяючы навязлівыя прывіды. Дзе той дакумент сёння? Мабыць, заварушыўся ў соймавых сховішчах, калі не перахапілі канфедэраты… Можа, і сёння прыдаўся б?.. Але Deus scit et Deus providebit*, што можа здарыцца.

…Пану прэфекту дапякала надзённае. Не, не прыземленае, і не з таго, што было-сплыло. Безліч супярэчнасцяў, якія абавязаны пагаджаць praefectus studiorum. Хто б не ведаў пана Рудніцкага? Невылечны змоўшчык, але ж і мы, даруй Божа! Затое шчодры! Пан прэфект цяжка ўздыхнуў, зірнуўшы на крэсла, з якога толькі што ўзняўся рэктар. Незадаволенасць прынцыпала слушная, але ж выхаванцы нашы не святым духам жывяцца. Айцы-прафесары, магістры ды простыя настаўнікі, гэта ж дзясяткі ды дзясяткі на пракорме!

Пасланць каго ў навуку, каб пераўзышоў канкурэнтаў, хоць бы тых піяраў — жывы грош патрэбен. На ўзнагароды лепшым, а гэта ж шэсць разоў у год, і не ў адным класе. Дабрачыннасць, ізноў жа, свайго патрабуе. О, гэты цяжар грашовых клопатаў! У войску свае спосабы — ледзь затрымка жолду — канфедэрацыя, а калегіум

* Бог толькі ведае і Бог прадбачыць (лац.).

сам павінен управіцца. Пан прэфект хмыкнуў. Найстарэйшае ўладанне Сухая Баля, фальварак Панямунь, Свіслач, маёнтак ад пробашча Далмата Ісакоўскага атрыманы, сваё даюць. Ачуняла гаспадарка ад маскоўскага нашэсця, мацнее. З тых бліжэйшых як не прыгадаць Гарастаў, неблагі маёнтачак, ды фальварак Калбасіна, пекны дар пана Хрыстафора Халецкага, мечніка літоўскага. Так што, як сам яго правялебнасць адзначыў, шчодрасць шанаваць трэба. Пан Імполь Рудніцкі акурат з тых шчадрэйшых менавіта для школы. А пляменнікава мазгаўніца, дасць Бог, юнацкімі дурнотамі перахварэе, як шмат у каго іншага. Але што там сказаў пан рэктар? «З тым і пакідаю вас. Паспяшайце ў імя Бога». Пан прэфект і хвіліны не дазволіў сабе прамарудзіць. На срэбны званочак зазірнуў малодшы брат.

— Няхай да мяне завітае magister novitiorum.

Апякун навіцыяў не падпарадкоўваўся прэфекту, але справа з лістом да віленскага біскупа ўскладзена на прэфекта, хоць заняты ёю акурат навіцыі. Зноў не ўдалося стлуміць пачуццё крыўды на яго правялебнасць. Хоць бы выпадкам не выліць яго ў чарговым данясенні начальству правінцыі! Нібыта ў прэфекта вольнага часу звыш разумнага. У буйнейшых школах то хоць удвух працуецца: аднаму — малодшыя класы, другому — усе астатнія. Першы кожныя два тыдні, другі штомесяц наведвае занятак кожнага настаўніка. А тут — усё сам, ды яшчэ час ад часу пісьмовыя працы правер. Ды разбор заняткаў правядзі. Не падрэмлеш на задняй лаве, калі недахопы ды станоўчыя рысы трэба зацеміць. Экзамены пісьмовыя, вусныя, публічныя, усімі пакіруй. Некалькі разоў за год абмяркуй якасць ведаў таго ці іншага класа з удзелам усіх навучэнцаў школы. Ну і прасачы, каб консулы ды педагогі пытанні падрыхтавалі. Прыгледзь, каб соймікі навучэнцаў не былі падобны на соймікі іх бацькоў. Magistratus увагай не пакідай з той жа прычыны. За дзейнасць акадэмій таксама адказвай, а іх жа не адна. І паспрабуй усё гэта рабіць, не схібіўшы школьным статутам. Ані таму першаму ад генерала Аквавівы, акурат за сто год, ані пазнейшаму «Ratio studiorum» ад 1599 года. Жыццё не спыняецца, а ў школьным побыце ні на крок ад статута адысці не важся. Як і ўсумніцца ў ягонай прыдатнасці.

Маўклівы лямант пана прэфекта спыніў прыход апекуна навіцыяў. Пан прэфект сустрэў калегу як таварыша па няшчасці. І той меў безліч клопатаў са сваімі падапечнымі.

— Толькі што мяне наведаў яго правялебнасць, — паведаміў ледзь не ўрачыста і прапанаваў прысесці, бо размова, з дазволу госця, чакаецца працяглай.— Мы ў адным чоўне, як кажуць. І цяжка вызначыць, хто вясляр, а хто за стырном.

— Абы яны не спрачаліся, — лагодна зазначыў айцец Цыпрыян.— Але прыкра было, калі ніхто не мог мне дакладна паведаміць, куды і дзеля чаго выправіўся Януш Налуцкі.

Прэфект злёгку паружавеў. Не так ад сораму, як ад усведамлення ўласнага недагляду.

— Усё вырашалася паспешна, але за прамашку выбачаюся, — пагадзіўся як найзычлівей. — Выправіліся да Воўпы наведаць касцёл, дзе бацькі Януша бралі шлюб. Затым магілы.

Прэфект падумаў і рашыўся:

— Маю пэўныя падазрэнні, ці не хаваюцца за гэтым крокі да чарговага шлюбу. Айцец Цыпрыян разумее?

Цяжкі ўздых пацвердзіў разуменне.

— Гэта было б не па нашай думцы, — з пэўным непакоем адзначыў магістр навіцыяў. — Ён і так найперш ліцвін, потым шляхціц, абаронца Айчыны і толькі пасля гэтага вернік. Якое тут чацвёртае шлюбаванне слугі Езуса! — закончыў з адценнем горычы.

— Пінская школа не адолела дамовую, — уздыхнуў прэфект. — Нам несці гэты крыж.

З панам прэфектам дазвалялася акрушына вольнасці.

— Каб жа не ягоныя здольнасці і маёнткі, — рашыўся на іронію выхавальнік навіцыяў. — Але каму ён быў бы тады патрэбен!

— Трывалую драўніну цяжэй апрацоўваць, — знайшоў суцяшэнне пан прэфект, — але і заслуга большая. Калі мы закранулі гэту тэму, то якім бачыце напрамак нашых высілкаў? Ці не мог бы ён з часам стаць нашым вокам і вухам у асяроддзі пана Рудніцкага? Статус дзядзькі праклаў бы пляменніку шлях да поўнага даверу.

Magister novitiorum задумаўся. Сапраўды, іх з прэфектам поспех у выхаванні Януша Налуцкага мог быць толькі агульным. Кожны паасобку нічога не даб'ецца — не хопіць паўнамоцтваў. А здольны студыёзус, амаль навіцый, поспех мог забяспечыць абодвум.

— Можа, з часам, калі рыба будзе на моцным кручку, — прамовіў айцец Цыпрыян. — Найперш яму трэба паказаць шмат даверу. Хоць бы такім дазволам некуды з'ездзіць.

Прэфект пачуў гэта з выразным задавальненнем.

— Як найшчыльней заняць ягоны час не тэалогіяй а, прыкладам, выкладаннем грэкі, — кінуў прапанову айцец Цыпрыян. — Ніхто ў нас гэтага не ўмее, і не будзе крыўды, што не прайшоў патрэбныя ступені і вось вам, настаўнік, ледзь не магістр.

Прэфект падумаў і кіўнуў задаволены:

— Статуту не парушаем, а з грэчаскай мовай у нас слаба. Тымчасам генерал дэ Ноэлле яшчэ ў мінулым годзе патрабаваў вярнуць ёй былую значнасць.

— З гэтым не паспрачаешся, — падтрымаў magister novitiorum, — бо грэка дапамагае авалодаць іншымі гуманітарнымі навукамі не горш за лаціну. І Януш Налуцкі тут прыдасца, як ніхто іншы.

Думка пра выхаванне студыёзуса з карысцю для навучання падабалася прэфекту.

— Вось і з мясцовай мовай. З польскай рух ёсць, але ж і беларускую кіраўніцтва Ордэна ўключыла ў праграму яшчэ, дайце прыпомніць, ага! — у 1584 годзе. Мог бы наш падапечны і гэтым заняцца.

— Калі б не стаяў на перашкодзе статут, — з робленым шкадаваннем прамовіў айцец Цыпрыян. — На жаль, не прадугледжвае выкладання айчынных моваў.

Што і польскую мову статут не прадугледжваў, ім не заўважалася.

— Можна б заняць яго вывучэннем матэматыкі, — заўважыў прэфект, — але тады Януш вернецца ў свой Пінск. У нас жа толькі сярэдняя школа, а там вышэйшая.

— Невылечная хвароба ад народзінаў нашай правінцыі, — уздыхнуў айцец Цыпрыян. — Гэтак мы некаму каня асядлаем. Такога студыёзуса шкода страціць.

Абодва старанна падводзілі грунт пад хісткую веру Януша Налуцкага, бо такімі здольнымі не раскідваюцца.

— Сустрэча нашага студыёзуса з гэтым павятовым Кромвелем, ягоным дзядзькам, — зазначыў пан прэфект, — а магчыма і з шырэйшым таварыствам, можа паўплываць…

— У выключна неадпаведным накірунку, — мякка падхапіў айцец Цыпрыян. — Успаміны маладосці, рыцарскія колы, соймікі ў полі… Гэта можа адбіцца на працы, да якой прыстаўлены. На жаль, і аддаленне яго ад важнага занятку страціць сэнс, калі ён даведаецца пра нешта нестасоўнае…

— Але найперш мусім перашкодзіць спробам уцягнуць яго ў інтрыгі шляхты супраць каралеўскага двара, — падкрэсліў прэфект. — Дзеля гэтага і хацеў з вамі параіцца, — працягваў даверліва. — Мне ж цяжка адарвацца ад штодзённых абавязкаў. Асабліва з улікам справядлівых заўваг яго правялебнасці наконт недахопаў навучання.

Прэфект пераклаў на стале некалькі папер і нібыта нешта ўспомніў.

— Яго правялебнасць вярнуўся да ліста генерала дэ Ноэлле трохгадовай даўніны наконт нездавальняючага стану навучання ў нашай правінцыі. Ну а яго правялебнасць правінцыял Павел Бохэн проста адзначае выключна нізкі прафесійны ўзровень выкладчыкаў і выхавальнікаў. Жахліва чытаць тыя ацэнкі.

— На жаль, маем магчымасць назіраць гэта ў жыцці, — паспачуваў айцец Цыпрыян. — Як ні тлумачся, будучыя выкладчыкі рыхтуюцца праз навіцыят.

— Прапануюць непапраўных і няздатных выдаляць са школ, але каго прызначыш замест іх? Перакласці цяжар на астатніх — якасць не павысіцца, — уздыхнуў прэфект.

— Горш за тое, — з лёгкай усмешкай адзначыў magister novitiorum, — з імі здарыцца тое самае. Занадта лёгка сталі атрымліваць тытул прафесара, — упэўнена дадаў ён.

Айцец Цыпрыян змоўчаў пра тое, што пасаду прэфекта часта займаюць асобы без досведу працы ў школе. Не варта разгойдваць човен. Маўклівая згода не кранаць нечага нестасоўнага замінала размове, але парушыць яе не рашыўся б сам айцец правінцыял. Больш там было б здагадак, чым дакладных ведаў. А ўсё-ткі, што трывожыць іх правялебнасці, ведаць карцела. Але ў тую ж кароткую хвіліну маўчання абодва нагадалі сабе, што кожны слуга Езуса толькі паслухмяная прылада ў руках вышэйшага рангам.

— А ці здолее Мацей Сароцкі прыгледзець за нашым вальнадумцам? Перавыхаваць яго?

Магістр навіцыяў, не ўзнімаючы вачэй, адчуваў, як пільны погляд прэфекта свідруе яго і нібы аблытвае павуціннем недаверу. Калі Ордэн пацерпіць з-за нестараннасці не такіх і важных сваіх слуг, кожны захоча зваліць віну калі не ўніз, то побач. Уніз у такой справе не атрымаецца. Насуперак шматгадовай муштры і страху, нібы пацукі з нор, насоўваліся трывожныя думкі, што, разграбаючы падзеі дваццацігадовай даўніны, вызваліш прывідаў колішняга злачынства, здрады, граху.

— Мацей Сароцкі больш прыдатны на кіраванне ў навуковай працы, — magister novitiorum на імгненне завагаўся, але звычка не таіцца звыш патрэбнага перама-

гла. — Здольнасцямі саступае Янушу Налуцкаму. Падумаўшы, я вырашыў прыставіць ім трэцяга. Спадзяюся, не запярэчыце?

— Чаму толькі цяпер? — занепакоіўся прэфект. — Няўжо так познімся? Мяне Мацей пераконваў у адваротным.

— Я палічыў за лепшае, каб яны самі ўсвядомілі, што не паспяваюць у тэрмін. Знайшоў шэраг недакладнасцяў. І ваш дазвол падтрымаў з гэтай прычыны.

Прэфект не патрабаваў глыбейшых тлумачэнняў.

— Слушна. Абы той трэці не схібіў і не здрадзіўся.

— Мае надзейнае прыкрыццё, — запэўніў айцец Цыпрыян. — Здольны scryptor і выдатны каліграф, — узняў пульхны палец. — Менавіта каліграфія дазваляе першым поглядам ацаніць кшталт дакументу. Да зместу даходзіцца пазней.

— Ваша праўда, пане магістр, — злёгку ўсміхнуўся прэфект. — Але той касцёл… з яго мінулым, — вярнуўся да галоўнага. — Трэба выправіць туды чалавека. Яго правялебнасць вельмі занепакоены непатрэбным, на яго думку, паглыбленнем у дробязі з цудам уцёкаў. А ў касцёле можа сустрэць якога старэчу з мехам розных плётак.

— Неадкладна з вашай згоды ўкладу адпаведны ліст, — падхапіў думку айцец Цыпрыян. — Каб не займалі душу маладзёна аніякімі думкамі апроч смутку і звароту да Бога дзеля блізкіх памерлых. Смутнае мінулае касцёла не павінна ўваскрашацца ўспамінамі.

— Слушна, айцец Цыпрыян. — пахваліў прэфект амаль шчыра. — Слушна і своечасова, калі не запознімся.

Магістр навіцыяў пасунуў крэсла да стала.

— Марудзіць не ў маіх звычках, — патлумачыў з лёгкай самаіроніяй. — З маладзёнамі маю дачыненні. — Паспешліва крэмзаў пяром на невялікім аркушы. — З дазволу пана прэфекта іду выправіць ганца. А затым прагледжу паперы Януша і Мацея. Нешта магло не прыцягнуць увагі, а сёння акурат навядзе на патрэбны шлях. Ну і на пана Імполя не забудуся… — magister novitiorum паспешліва развітаўся.

…Надзённае, будзённае моцна дапякала і перашкаджала пану прэфекту перакінуцца думкамі ў высокія сферы. Падкінуў клопатаў пан Жаляроўскі, што і казаць… Ды каму скажаш, што і са сваімі дай Бог управіцца. А тут табе цуды! Яны ж лягчэй прымаюцца, калі адбыліся вакол здароўя. Чалавек памаліўся, пераклаў клопат на Нябесную Заступніцу, на душы палягчэла, а з тым і цела ажыло. Да таго ж у хваробе апроч малітвы нейкі цырулік завіхаецца, альбо шаптун, знахар, нешта простымі дамовымі спосабамі робіцца. Маленнем і верай мацуецца. Усё з Божай дапамогай…

А вось з той сцяною… Сажань тоўшчы можна памацаць, адчуць яе трываласць. Што ж дзіўнага, калі дапытлівы студыёзус… Але ж няхай бы займаўся гэтым не ў калегіуме…

Пан магістр ставіўся да наведвальніка мякка, але без паблажлівасці. Няма сумневу, што бліжэйшым часам бліскуча пройдзе іспыты і складзе тры шлюбаванні. Амаль гатовы каад'ютар.

— Як рухаецца праца?

— Маю смеласць думаць, што неўзабаве зможаце ацаніць сціплыя вынікі нашай рупнасці. — Запытанаму належала выбраць, як не ўпасці ў грэх пыхі і самахвальства, але і не выглядаць нядатным ці ленаватым.

Адказ, выглядала, пана магістра задаволіў. Прынамсі, напачатку.

— Нам, старэйшым, важна, сын мой, каб яны засведчылі не толькі старанне, але і дасведчанасць. Даверу таямніцу: наш калегіум бліжэйшым часам можа наведаць яго правялебнасць айцец Павел.

— Сам яго правялебнасць правінцыял! — не ўтрымаў спалоху Мацей.

Хто б ні з'явіўся з вышэйшых асобаў Літоўскай правінцыі, не могуць не пацікавіцца даследаваннем цудаў. А вынікі той зацікаўленасці і сам Бог не прадкажа. Але недзе на самым донцы душы тлілася надзея: ці не блісне нагода на нейкае вызначэнне, на высокую ўвагу іх правялебнасцяў.

Magister novitiorum нават не паўшчуваў за нястрыманасць. Менавіта гэта было патрэбна.

— Так! — падтрымаў занепакоенасць Мацея. — Айцец Павел Бохэн ва ўласнай асобе можа зазірнуць у вашы запісы. А табе, сын мой, лепш прысесці, чым трымцець на нагах.

Зычліва махнуў рукою на просты зэдаль.

— З улікам памянёных абставінаў я задаволіў тваю просьбу наконт Януша. Але час бяжыць…

— Мы падгонім страчанае, — горача запэўніў Мацей. — Адно, ойча… — дадаў патульна, палохаючыся ўласнай смеласці.

— Кажы, калі пачаў, — прыспешыў айцец Цыпрыян.

Мацей ліхаманкава прыкідваў, як выказаць крамольную думку. Грэх пыхлівасці, грэх самахвалы, яшчэ якія грахі…

— Дзеля атачэння, ойча, — Мацей перахапіў паветра, — маю на думцы братоў студыёзусаў… асяроддзе навіцыяў… пажадана было б засведчыць дабраслаўленне нашай працы яго правялебнасцю панам рэктарам. Асабліва гэта тычыцца ўдзелу Януша… бо з Пінска.

Прамоўлена! Імя Януша прыкрыла нежаданне мецць поруч суперніка ці наглядчыка. Маладзён уздыхнуў, нібы цяжар скінуўшы. Рыхтаваўся да наганы. Айцец Цыпрыян выдатна разумеў клопат Мацея. Сам старанна сеяў зайздрасць між падапечных. Ледзь заўважна ўсміхнуўся і азваўся паблажліва:

— Слабасці нашы чалавечыя… Давяду маю ўвагу да паноў магістраў, і думаю, гэтага дастаткова, — паабяцаў і нагадаў: — Сціпласць, сын мой, маці нашых поспехаў. З тым прымеце трэцяга калегу. Так вам пойдзе шпарчэй.

Мацей насцярожыўся. Першай і адзінай думкай было, што хочуць замяніць Януша. Вось вынікі залішняй цікаўнасці, калі начальства гэтага не ўхваляе!

— Але ж, ойча! — усклікнуў у нястрыманай крыўдзе. — Мы пастараемся. Януш з нашых лепшых рытараў і старанна шліфуе кожны сказ!

Magister novitiorum зморшчыўся, паказваючы неразумнасць пярэчання:

— Узгадай, сыне мой, каму адрасуецца ваш ліст!

Амаль набожнае маўчанне завісла ў пакоі, бо Мацею не выпадала парушыць яго першым.

— Ані на хвілю пра тое не забывайся, — нагадаў выхавальнік. — гэта магло б занадта каштаваць нам усім.

Найперш, разумеў студыёзус, самім выканаўцам.

— Так, ойча, — толькі і знайшоўся Мацей.

Аўдыенцыя блізілася да завяршэння. Але пан magister novitiorum прыхаваў на самы канец важную думку.

— Падкажы Янушу… не, папярэдзь, — удакладніў айцец Цыпрыян, — каб не ўблытваўся ў павуціну супярэчлівых падзей мінулага і не цягнуў яе ў вашу працу. Да пэўнай мяжы няма шкоды, але ў выпадку яе парушэння…

Ён вымоўна абарваў сказ, і беднаму Мацею не заставалася нічога, як запытацца, каб не дадумваць пакутліва:

— А хто нам вызначыць яе, ойча? Бо я сам… разумееце?

— Разумею, — літасціва азваўся magister novitiorum —Я вызначу адпаведна тваім штодзённым паведамленням. Вось хоць бы прыкладам…

— Слухаю, ойча!

— Прыкладам, цуд уцёкаў з Гарадзенскага замка, няхай і ўскосна, можа навязваць тыя здарэнні да сённяшніх абставін і дачыненняў. На думку яго правялебнасці пана рэктара, гэтага нельга дазволіць ні ў адным слове. Хоць бы з той прычыны, што цуд у простым тлумачэнні перастае быць цудам.

— Разумею, ойча, і Януш зразумее.

Непранікнёны твар магістра навіцыяў тым не менш сведчыў пра няпэўнасць мацеевага сцверджання. Але чаму не паспрабаваць…

— З тым, як засведчана ў нашым статуце: «Ды спашле нам Езус міласць і дапамогу сваю нашаму слабаму пачынанню ў хвалу Бога Айца, Яму ж слава цяпер і заўжды і на векі вечныя».

— Amen, — закончылі згодай старэйшы і падначалены.

Чарговы студыёзус даўно чакаў аўдыенцыі. Належала скончыць з ім, пакуль не зацікавіўся які давераны, а дакладней, шпігун яго правялебнасці. Будзе выглядаць, што прамарудзіў насуперак абавязку. Магістр навіцыяў разгладзіў пульхнай далоняй шмат разоў перагнуты лісток. Падхапіў за ражок двума пальцамі.

— Такую суплічку, сын мой, — паказаў студыёзусу, — будзеш падаваць мне штодзённа. Нічога нікому крыўднага, — супакоіў малаверагодныя пакуты сумлення маладога слугі Езуса, — добра ведаеш наш звычай: гэты піша мне, я пішу таму, а той далей. У выпадку незвычайным звяртайся да мяне наўпрост.

Увага выхавальніка навіцыяў да студыёзуса сама па сабе незвычайнасць. Маладзён паслухмяна кіўнуў, не ўзнімаючы вачэй. Цвёрда засвоіў правіла, якое павінна стаць звычкай: пазіраць не вышэй за ніжнюю палову твару суразмоўніка. Ніколі вочы ў вочы!

— Я думаю, — з ледзь прыкметнай іроніяй прамовіў magister novitiorum, — прапанаваны мною занятак больш табе адпавядае, чым абмыванне непатрэбства і бруду жабракоў у прытулку.

— Так, ойча, — амаль шэптам азваўся маладзён. — Даручэнне лічу ганаровым.

Назіраць за «найлепшым рытарам года» адпавядала прытоеным марам. Верагоднасць перахапіць тытул наўпрост залежыць ад здольнасці знішчыць шанец канкурэнта. Дасць Бог, нейкі хіб ці памылка трапяць на вочы. Нездарма жартуюць нават настаўнікі, што ён non postremae eruditiones*.

---

* Не апошняе вучонасці (лац.).

Нібы прачытаўшы думкі студыёзуса, магістр навіцыяў удакладніў:

— Будзеце разам шмат часу. Памятай, што твой падапечны падчас навукі ў Пінску быў калі не дэкурыёнам, то консулам абавязкова, чалавек пранiклівы, — папярэдзіў навучальна. — Не ведаю, ці быў цэсарам у магістраце Пінскага калегіума, але ў сенатараў меў вялікую павагу. Разглядаў спрэчкі ў шкалярскім асяроддзі з выключнай далікатнасцю, і вінаватым прызнаваў сябе той, на каго ніхто не думаў.

— Улічу, ойча, — запэўніў маладзён.

— Мацей Староўскі мяне мала цікавіць, але і яго ўвагай не абыходзь. Пра ўсё распытвай далікатна і больш слухай. Што было ў Воўпе? Што чулася ад пана Імполя Рудніцкага і ягонага асяроддзя? Памятай, што гэта можа кранаць справы Найяснейшага панства, — падкрэсліў magister novitiorum, — таму будзь suspicione major, вышэй падазрэнняў.

Студыёзус склаў паклон глыбокай пашаны.

— Звярні ўвагу, як ставяцца абодва да цуду ўцёкаў. Тут не патрабуецца асаблівых падыходаў. Пастава цікаўнага ўдзельніка працы не выкліча насцярожанасці. Будзь уважлівым пры высвятленні, з кім маглі б гутарыць пра тыя падзеі. Думаю, разумееш неабходнасць атрымаць іх давер і шчырасць? Грэх тваёй няшчырасці будзе зняты.

— Разумею, ойча, і выканаю.

— Але neminem cito accusaveris, нікога паспешліва не абвінавачвай. Ідзі ж з Богам! Заадно пакліч наступнага.

...Magister novitiorum прыдзірдіва агледзеў ганца. Каад'ютар, з тых свецкіх, што не надаваліся, ды і схільнасці не мелі, да касцельнай службы, строем і паводзінамі не розніўся ад незаможнага шляхцюка. Але што ўвішны і кемлівы, праглядалася і ў позірку, і ў рухах.

— Маеш перад сабою дзве задачы: сустрэчу з панам Рудніцкім і тамтэйшым ксяндзом і другую, калі абставіны падкажуць яе мэтазгоднасць і своечасовасць. Не першаснае, але галоўнае! — падкрэсліў магістр навіцыяў і патлумачыў: — Падгледжанае і пачутае дае падставы меркаваць, што прысутнасць пана Імполя Рудніцкага сведчыць пра важнасць сустрэчы. Адпусціўшы з ім Януша Налуцкага, мы супакойваем непрыяцеля, што нічога не падазраем. Калі мы не выведаем іх намераў на бліжэйшыя соймікі, наш уплыў на Сойм, а з тым і дапамога каралеве, стане пад вялікім пытальнікам.

— Разумею, ойча. І мне не адпавядае тое, што вам не даспадобы.

— Дакладна і сцісла, — пахваліў айцец Цыпрыян. — Што ж казаць пра магчымую элекцыю...

Пэўная доза даверу належала кожнаму выканаўцу. Айцец Цыпрыян не ашчаджаў красамоўства, падначалены ацэніць ласку і будзе старацца.

— Элекцыя vivente rege была б нашым поспехам, — зазначыў галоўную мэту, але яе павінен ухваліць Сойм. Роля наша — сціплымі, на першы погляд, дзеяннямі пераканаць шляхту Вялікага Княства ў слушнасці менавіта такога спосабу абрання манарха. Яго правялебнасць пан рэктар будзе чакаць твайго паведамлення. За табою пойдуць іншыя. І будзь выключна абачлівы ў размове з панам Рудніцкім. Слова ў слова, і ніводнага звыш засвоенага. Гэта небяспечны праціўнік, — папярэдзіў строга.

Пасланец старанна хаваў на грудзях даручаны ліст.

— Выканаю з усёй маёй стараннасцю, — запэўніў з паклонам.

— Esse quam bonum, et quam jucundum*! — выправіў яго айцец Цыпрыян.

Magister novitiorum правёў поглядам апошняга на гэты дзень наведвальніка.

— Марнасць над марнасцямі! — мроілася нешта большае.

...Не мог дазволіць сабе раскашавацца ўспамінамі. Ды і запас нечага вартых успамінаў набраўся б невялікі, таму і не працягваў. «Лепш падумаць над сённяшнімі задачамі, — усміхнуўся, беручы стос дакументаў. — Што ж магло б непакоіць іх правялебнасці?..»

Служка, нібы кот, асцярожліва зазірнуў у прыадчыненыя дзверы.

— Яго правялебнасць пан рэктар ізноў просіць святога айца...

Дзве сціплыя постаці ў закутку не прыцягнулі ўвагі пана магістра.

— Пятро, гэй, Пятро! — ціхенька, але неяк па-вясковаму аклікнулі ганца з цёмнага закутка.

— Клім? Што табе? — незадаволена запытаўся ганец, палахліва азірнуўшыся.

— Не пужайся, я на хвілiначку, — супакоіў знаёмец.

— Я ж казаў табе, неўзабаве разлічуся! — сярдзіта прашаптаў будучы каад'ютар.

— Ды я не пра пазыку, — раздражнёна прамовіў крэдытор. — Дарую яе з дадаткам, калі паразумеемся.

Справа была варта абмеркавання, і абодва ўперылі вочы ў два канцы калідора. Менш вачэй і вушэй — больш пэўнасці.

— Я здагадваюся, едзеш да Воўпы?

— А ты скуль ведаеш?

— Значыць, не памыляюся, — не стаў удакладняць здагадлівы Клім.— Мог бы выканаць невялікую просьбу?

Даў прыяцелю магчымасць усвядоміць выгады гешэфту. Па хвілі маўчання працягваў:

— Калі б ты таго Налуцкага неяк... Ён жа таксама будзе ў Воўпе...

— Ты просіш немагчымага, — спужаўся Пятро. — Там жа гэтулькі людзей...

Выканаўца цёмных задач, хоць яшчэ вагаўся, быў не супраць нагнаць цану.

— Я стаў бы другім, а мо і першым побач з Мацеем Староўскім.

Пятро ўлёт скеміў: першы ці нават другі аддзячыць за паслугу адпаведна пазіцыі. Вось толькі мёртвае цела... Але і на гэта ў Кліма быў спосаб.

— Трапіўшы ў шпіталь, ён таксама даў бы мне дарогу, — прамовіў як падказку. — Ты ж ваўка некалі аглушыў доўбняй, хоць мог і ўхадаць, — лісліва нагадаў Клім.

— Было такое, ды быллём парасло.— ганец задаволена ўхмыльнуўся і павесялеў. — Ну, хіба так... Паглядзіцца, што дасца зрабіць. Але ў кожным гешэфце мусіць быць задатак... Absque argento omnia rara**.

Каад'ютар Пятро і з лаціны выбіраў патрэбнае.

— Па праўдзе, табе шмат ад каго належаў бы задатак, — падкінуў Клім думку пра карыснасць задачы. — Гэты Налуцкі ўсім залез за скуру са сваімі здольнасцямі.

---

* Як утворыш дабро, то і ўзрадуешся! (Лац.)

** Без золата няма нічога другога (лац.).

Давераны ганец Пятро мог і сябе залічыць у тыя шэрагі. Аднаму, бач, ва ўсім шанцаванне ды спрыянне, а іншаму — мазольная праца ды рызыка. Але ў гэтым выпадку і магістр навіцыяў ушчуваць не будзе. А тлумачэнне можна прыдумаць. Хто там пабяжыць у Воўпу спраўджваць? І да карчомкі заскочыць не перашкодзіць…

3

*Прыгоды закрысціяна. Нягжэчныя намеры і помста сумлення. Хрысціянская спагада і хлебны мякіш. Што хацеў бы ведаць бязлітасны закрысціян. Хто меў бы заслугу ў Ордэне. Вяртанне ў Гародню. За кім шпегаваў начны госць? Як утрымаць на кручку багатага студыёзуса. Трагічныя памылкі гетмана Гасеўскага.*

Набажэнства ў нядзелю заўсёды збірала больш вернікаў, чым буднімі днямі. Надвор’е спрыяла, і жніво дабягала канца. Не дзівіла нікога, што некалькі добра знаёмых пасля ранішняй імшы сабраліся ў самым ціхім і ўтульным пакоі плябаніі. Два акны выходзілі на тылы, і ніхто ў іх не заглядваў. Апроч, натуральна, Мялецця, які мусіў выставіць раму і старанна ўладкаваць пад сцяною. Гарачыня і задуха панам дапякаць не будуць.

Заняўшыся тым ды гэтым, Мялецi вярнуўся да акна так, што і трава не зашамацела. Вясёлая гамана не данесла нічога трывожнага. Ні на канфедэрацыю, ні, бронь Божа, на які рокаш не заносілася. Так што небяспека айцу Януару нібыта не пагражала, але да чаго дагаворацца, паслухаць было не лішне.

— Пан Імполь, пане, пляменніка, нібы кароль сына Якуба, побач саджае, — завуркатаў нехта сам сабе дасціпны і сабе ж вясёлы.

Раззлаваў Мялецця. Лацвей жа жартаўніку дражніцца з маладзёна, калі ў таго і шаблі пры боку няма. А весялун не мог угаманіцца.

— Толькі балдахіна не хапае, — смяяліся, здалося, усе, і Мялецi ўявіў, як засаромеўся Януш.

— А ты, сыне, не бянтэжся! — выгукнуў нехта сталейшы і дабрэйшы.— На пешага арла і сарока з калом. Гэтым жарабкам абы паіржаць, але хутка праявіцца, што іншага ад іх, як et id genus omne*, не чакаць.

Працяглае маўчанне засведчыла, што да парадку прызваў нехта глыбока паважаны.

— Такім чынам, — як працяг непачутай думкі даляцеў голас пана Імполя, — у караля свае намеры, у можных свае, і мы свае ўдакладнім. Настрой, бачу, вясёлы, умовы добрыя…

— Тут на нас, прынамсі, маскалі пад плотам не зачапіліся, як quondam**, дваццаць год таму, — смех нейкага стараватага шляхціца падхапілі ўсе. — І паветра вунь свежае, ветрык…

Мялецi зніякавеў. Варта каму высунуцца з акна — і што ж падумаюць? Шпег! Ды яшчэ з дурноты прыплятуць айца Януара! Па той бок акна зручнейшая схованка, куст бэзу, абы прыгнуцца ды перакараскацца.

---

* І да іх падобных (лац.).
** Калісьці (лац.).

— Калі ўсё падрыхтуем нібы на сапраўдным сойміку, — працягваў пан Імполь, — пастулаты для інструкцый паслам, магчымыя пратэстацыі, ніхто ад нас рэй не перахопіць. Прамовы падзелім, каб некалькім адно не чаўпці, як часта здараецца. І на генеральным сойміку каралеўскі бок нас не адолее.

— Асабліва, калі хлопец возьме нашы паперы ды ўкладзе іх пекнымі словамі, — падтрымаў той паважны голас.— Да гатовага пня і агонь добра класці.

— Дапраўды! — адобрыў іншы. — Каб не папракалі ліцвінаў местачковай лацінай ды каструбаватымі выразамі.

— Nemine contradicente? — Мялецію здалося, што бачыць зычлівую ўсмешку пана Імполя.

— Ды ўжо ж! Каму, як не сыну Арыста, нам дапамагаць! — усклікнуў той старавачы.

Мялецію пачулася, рыпнула лава. Пакуль не позна — на чатыры лапы ды пад бэз. Не пачуваўся грэшнікам, ды гадай, каму і як спавядацца ў тым падслухоўванні. Хоць айцец Януар, напэўна, не ўхваліў бы непатрэбнай цікавасці.

Але не айцец Януар пакараў закрысціяна за грэх шпегавання. Як толькі галава хітруна апынулася між бэзавых зараснікаў, гэпнулі бедаку ў патыліцу і абрынулі ў цемру сярод яснага дня. Дакучлівыя думкі расплыліся, а новыя не з’явіліся. Не далося пачуць, пра што пайшла нарада далей і наколькі пагражала дабрабыту айца Януара і ягонага закрысціяна. Калі Мялеці ачомаўся, лёгкі ветрык, які так некаму падабаўся, задзімаў у пусты пакой. Радавалася прахалодзе і пацярпелая патыліца. Пасядзеўшы, памацаўшы гуз і агледзеўшы слабы след крыві на пальцах, махнуў рукою і паспрабаваў узняцца. Лёгкае ачмурэнне пагойдвала, як пасля добрага мёду, але не звыш таго. Падняў раму, асцярожна прыладзіў, павярнуў загнутыя цвікі. Трымаецца, то можна і той драпінай заняцца. Лустачку хлеба прыхапіць, лыжачку мёду, астатняе ў стайні колькі душа запрагне.

— Лысіна, пане, тым зручная, — тлумачыў цікаўным, адкуль латка на патыліцы, — што ні абстрыгаць, ні галіць не трэба. Ды і рана мая хутчэй драпіна. Конік вінаваты, — сарамліва апускаў вочы. — Узбрыкнуў гарэза, а я адхіснуўся ды галавою аб скрыню з аўсом. Дробязь, пане, няма пра што гаварыць.

Нехта з гасцей усё ж падзівіўся залішняму клопату закрысціяна пра коней.

— Але ж навошта лезці пад капыты? На тое ёсць стаенны, калі ўжо фурман лянуецца.

— Ды здалося, нязручна конік нагу ставіць. Ці не заселі ў падкове каменьчыкі? Бо калі востранькія…

— Бывае, — паспачуваў і Януш. — Моцна баліць?

Адзін айцец Януар не цікавіўся прыгодай свайго памочніка.

— Quis custodiet ipsos custodes?* — прамармытаў даволі выразна, кінуўшы смяшлівы позірк пану Імполю.

Святы дзень сплыў у рэчышча часу, як і ўсе папярэднія. Госці разышліся і раз’ехаліся, дом сцішыўся, насельнікі спажывалі заслужаны адпачынак. Так здавалася на першы погляд, бо ў адным акне святло не патухла.

---

* Хто ўсцеражэ саміх стражнікаў? (Лац.)

Януш, павячэраўшы, узяў два падсвечнікі, завастрыў пёры і праверыў пясочніцу. Падрыхтаваўся да позняй працы. Не крыўся перад сабою, што хочацца бліснуць сваімі здольнасцямі не толькі з-за маладой пыхі, але і дзеля прыемнасці стрыю. Ніхто не папракне, што прыцягнуў пляменніка ў кола, калі не прысягнуўшых, то дамоўленых міжсобку паважных людзей. Перабіраючы аркуш за аркушам, не заўважыў, як сціхла ў доме, як, напэўна, заснуў укладальнік большасці гэтых думак з безліччу паправак і ўдакладненняў. А думкі ўжо набягаюць адна на адну, блытаюцца, знясільваюць розум… Адзін і той жа сон мроіўся двум Рудніцкім, дзядзьку і пляменніку, брату і сыну.

…Ганец спяшаўся. Пакуль ноч, трэба адскочыць, выйграць час і адлегласць. Дзён на ваяж прызначылі мала, а тут яшчэ таварыш гжэчна, але настойліва ўпрасіў закінуць лісцік. Кавалак небяспечнай дарогі, але схаваў дарагое для некага пасланне разам з тым галоўным — пярун бы яго спаліў! — з-за якога, злавіўшы, жывым не выпусцяць.

Чорная пелярына трывожным крылом лапатала за спінаю. Вунь там дым над вербамі, рэдкія іскры з коміна, заезд, мажлівасць адпачынку. Самі сабою варухнуліся ступакі даць каню шпоры, але звычка змусіла таргануць повад. Не надзься на спакусу, тут ужо спыняўся. Зрабі наадварот! Вунь ледзь уезджаная сцяжына. Збі іх з тропу! Бо ўжо выбягаюць з брамы і кідаюцца насустрач! Хапаюць за повад, ускокваюць за спінаю і кладуць цяжкую руку на плячо!..

Януш прахапіўся і пачуў шэпт Мялецыя:

— Ціха, паніч. Памажыце мне там…

Рука Януша сама пацягнулася да падсвечніка. Вяртаўся да прытомнасці.

— Там ёсць святло, — папярэдзіў закрысціян, павярнуўшыся да дзвярэй. — Я ж так і думаў, што ў паніча не зашчэплена, — прамовіў з дакорам. — А трэба ж, паніч тварам на стале!

Ён патэпаў да дзвярэй, поглядам запрашаючы Януша.

— Тут чалавек заслаб, — папярэдзіў. — Трэба перацягнуць.

За дзвярыма нехта ляжаў. Як тут апынуўся і дзеля чаго? Мялеці прыгледзеўся ляжачаму, нібы нязручнаму мяху з нечым важкім.

— Аднаму аніяк… Нягжэчныя намеры, паніч, вось сумленне і дапякло.

Але як сумленне наклала путы на рукі і ногі, не патлумачыў. Януш падумаў, што са сваёй казуістыкай закрысціян пасаваў бы на езуіта не горш за айца Цыпрыяна.

— Бачу, сумленне акурат у патыліцу пеканула, — паказаў на галаву бедака.

— Ды ўжо ж, сама месца, — не міргнуўшы вокам, паспачуваў Мялеці. — Ад мазгоў блізка, а там усе думкі, злыя і добрыя, як у каго.

Крутнуўся туды-сюды і падняў з-пад сцяны медзяны круцыфікс з ладнай плашкай, каб ставіць, а не падвешваць.

— Што ж, калі такі слабы на галаву, — паспачуваў пацярпеламу ад дакораў сумлення. — Трэпнуў яму, то крэкнуў, яшчэ на сваю калатушку абапёрся, мусіў другі раз, то і заслаб.

— Жывы, спадзяюся, — занепакоіўся Януш. — І куды яго зараз?

— Нябожчыка навошта звязваць? — здзівіўся Мялеці. — Мне яго вунь туды, у каморачку. Там ужо і ліхтарык.

Цьмянае асвятленне калідора ішло праз адчыненыя дзверы каморкі, дзе трымалі featurerознае патрэбнае і лішняе, што шкода выкінуць.

— Дык бярэмся, а то яшчэ ачуняе, — занепакоіўся закрысціян.

Януш зразумеў, што яго паклікалі, толькі грунтоўна падрыхтаваўшыся і для непасільнага аднаму. Ухапіліся і больш пацягнулі, чым панеслі нязручную і цяжкую ношу. Паклалі на падасланыя мяхі. Мялеці схадзіў па крыцыфікс і ладную дубовую даўбешку, не заўважаную Янушам.

— Зброя ягоная, — паказаў на свайго палоннага. — З гэтым і на паніча намерыўся. Далей я сам, а вы, паніч, нічога не чулі, бо працавалі ды спалі, — распарадзіўся нязвыклым для яго тонам.

Мялеці правёў Януша да дзвярэй і старанна агледзеў зашчапку каморкі. Нібыта надзейная.

— Так што дабранач, панічыку, і не забудзьцеся зашчапіцца. Бо мне яшчэ шмат валтузні. Прывяду гэтага бугая да ладу ды пагаманю па-суседску.

З тым зачыніў дзверы, вярнуўся ў каморку і прысеў перадыхнуць ды засяродзіцца.

Няпрошаны госць паволі прыходзіў у сябе. Мялеці, як шчыры самарыцянін, папырскаў яму на твар, але путы праверыў. Тузанууца, каб легчы зручней, вяроўкі не далі, і вязень канчаткова ачомаўся. Няўцямна зірнуў на незнаёмыя столь і сцены, павярнуўшы галаву, заўважыў Мялеція. Боль у патыліцы дапамог зразумець, што здарылася.

— Як пачуваешся? — спагадліва запытаўся Мялеці.

— Bene, — палонны нечакана прамовіў лацінай. — Et tu?

— Добра, значыць, — задаволена кіўнуў закрысціян.— Ну і я не горш.

Рука госця тарганулася, каб пакратаць, ды не атрымалася.

— Чым ты мяне? — не сумняваўся, што перад ім пераможца.

— Ды конік капыцікам. Акурат, як мяне надоечы, — спачувальна патлумачыў Мялеці, крануўшы налепку на сваёй галаве. — Табе было зручней, бо я быў на чатырох, ну а я крыху ніжэйшы, ды па цемені не стаў бы біць. Але, як то кажуць, вінен — аддаць павінен.

— І мне тое ж наляпіў?

Мялеці кіўнуў.

— Спагадлівы хрысціянін заўсёды палегчыць цярпенні адзінаверца. Хлебны мякіш з павуціннем. Зверху латачку паркалёвую на мёдзе. Добра трымаецца, але галавой не тармось. А што ты тут шукаеш і дзе ашываўся? Бо не мог жа шастаць навідавоку.

— А табе што да таго? Сам жа цікуеш, — даволі нахабна адбрахнуўся паланёны. — У стайні, у сене. Мякка і цёпла. Бачыў, як павуціннe збіраеш, — рагатнуў, але тут жа зморшчыўся.

Міласэрны закрысціян дакорліва паківаў пальцам.

— Не тузайся! Што да павуціння, мог бы і дапамагчы, пра сябе падумаўшы, але як мог прадбачыць…

— Гы-гы-гы! — бядак не быў пазбаўлены пачуцця забаўнага. — Так ужо быў пэўны, што упалюеш мяне?

— Сам жа бачыш, што ўпаляваў, — памяркоўна нагадаў Мялеці. — Не так і цяжка было здагадацца. Калі цікавалі за размоваю, то чаму б не мелі інтэрасу да папераў? Трапіцца і самаму разумнаму здурнець.

Палонны змрочна маўчаў. Не дзіва, калі шукаў зручнейшага апраўдання.

— Глупства мелеш, — знайшоў, як яму здавалася, патрэбнае. — Хлопец гэты, ведаю, багаты. Не паехаў жа з пустой кішэняй. Паненкі ў дварах, моладзь вясёлая… А тут такая зручнасць: усе спяць, святло. Нават дзверы не зашчэплены.

— Дзіцёнак, можа, цемры баіцца, а ты са сваёй даўбешкай, — папракнуў Мялеці за яўную нявыхаванасць начнога госця. — Што да багацця, то хто ж яму дазволіць раскашаваць у калегіуме?

Госць маўчаў, спрабуючы здагадацца, што гэты служка ведае, а ў чым на дурня бярэ.

Мялеці счакаў хвіліну-другую і змяніў не толькі кірунак размовы, але і выраз твару.

— Досыць, мой пане, забавы ў блазны. Кажы, чаго лез. Плябанія — частка касцёла, так што касцельны суд тут прыдасца самраз. Асабліва, калі ў тваіх руках будзе хоць бы гэта, — ён паказаў цяжкі крыцыфікс.

Палонны кінуў на свайго наглядчыка позірк, поўны пагарды.

— Дурань ты вясковы! Развязвай, пакуль я добры, — гыркнуў злосна.— Глядзі, як бы са сваім айцом у бяду не трапіў. Буду я твой крыцыфікс у рукі браць, — закончыў з’едліва.

Мялеці падціснуў вусны, паварочаў вачыма, пахмыкаў, ці варта тлумачыць відавочнае такому нездагадліваму нядойду.

— Ты ж і прамовіць не здолееш…

— Цябе спалохаюся! — выгукнуў той, бліснуўшы вачыма.

Лічыў размову з гэтым касцельным перастаркам марным заняткам і злаваў, што путы не даюць яе скончыць належным чынам. Мялеці на тую злосць уздыхнуў, як да малога.

— Не навучылі цябе думаць, а зараз і сэнсу няма. Вось як трэсну табе тваёй булдавешкай ды кіну з лесвіцы ўніз мазгаўнёю, то застанецца путы разрэзаць ды крыцыфікс у рукі сунуць, пакуль не спруцянелі. А тады ўжо залямантую над тваім грэшным целам, каб людзі збегліся.

Прамовіў такім спакойным тонам, што ў вачах палоннага мільгануў спалох. Пачутае, сапраўды, не справіла б гэтаму старому цяжкасці. Відаць, не страціў моцы, завалок сюды, то і да лесвіцы дацягне. Ноч, ані гуку! Маладзён той напэўна спіць, як салому прадаўшы.

— Не асмелішся, — выціснуў з цяжкасцю, баючыся незнарок падштурхнуць да тае смеласці. — Грэх!

— Ат! — адмахнуўся Мялеці. — Дзе адзін грэх, там і тузін даруецца. А я, можа, хлапцу жыццё ўратаваў. Ты ж вунь якое бычадла! Як палякі кажуць, збуй з-пад цёмнай гвязды. Заўваж, прыклаўся я да тваёй патыліцы выявай Езуса — і крыцыфікс не ўздрыгнуў, не спыніў маёй рукі. Значыць, учынак мой Богу мілы. Так што і давяршэнне абароны храма Божага….

Мялеці дагаварыў аж надта вымоўна. Разумеючаму — досыць! І палонны не вытрымаў.

— Айцы езуіты такога не даруюць! — крыкнуў амаль роспачна.

Ведаў, што па довадах старога айцы езуіты разграшылі б учынак без хвілі сумнення. Залічыў такое не аднойчы на сваю душу.

— Ну вось, — задаволена адзначыў Мялеці, — ты яшчэ лацінай прызнаў, што іхні. Хіба ад немцаў цябе прытарабанілі на маю галаву. А з Нямеччыны хто азавецца?..

Ён міжволі крануў налепку. Усё ж шчымела.

— Слонімскі я, — буркнуў непрыяцель, спадзеючыся на зямляцкае пагадненне.

Пралічыўся. Бязлітасныя не ў адным Ордэне атабарыліся.

— Вось, значыць, дзе нягоднікі не пераводзяцца, — сумная канклюзія нагнала цень на твар спагадлівага хрысціяніна. — Нават дзіўна. І ад Кароны не блізка, і ад Масковіі далекавата, аж на табе! Бо ні ў ваўкавыскіх, ні між гарадзенцаў такое не ў звычках. Трэба мець на воку. Але ж і табе пара выбіраць: жыць ці маўчаць. Бо маўчаць — гэта ўжо назаўсёды.

Мялеці вымоўным рухам паклаў даўбешку сабе на калені, прыбраў выгляд інстыгатара, суддзі і магчымага выканаўцы прысуду. Хочаш не хочаш, а засакочаш!

— А што хацеў бы ведаць? — усё ж заставалася надзея абдурыць.

— Ды ўсё ад пачатку, — выказаў закрысціян сціплае пажаданне. — Хто паслаў, чаго шукаеш, за кім цікуеш. Але перад тым як збрахаць, добра падумай, ці надоўга хопіць майго цярпення тую ману слухаць. І яшчэ ведай: калі хлопцу майму шкодзіць спадзяешся — бяда табе! Гэта калі пушчу жывога, — дакінуў на ўразумленне. — Апраўданні ды тлумачэнні сваім прынцыпалам сам шукай, і памятай, што дарога да іх і мне вядома.

Палёт з лесвіцы ізноў падаўся мажлівым. Што гэтаму старому на схіле гадоў! І разграшэнне атрымае, і пахаванне на цвінтары. А такім падаўся ціхмяным недарэкам. Сапраўды, у ціхім балоце… Не дзіва, калі і з айцамі зніtаваны нейкім чынам. Можа, наўмысна не папярэдзілі, а можа, выпадак сутыкнуў ля таго акна?..

— А калі скажу, што ў каралеўскай справе тут заняты?..

Закрысціян спыніў прамову рухам павятовага маршалка на сойміку.

— Гэта ў караля не знайшлося нікога разумнейшага? Супакойся. У Вільні пра цябе, можа, і спахапіліся б, але ў Варшаве… Ды і тут такіх «палітычных» можна сявалкамі на могілкі валачы, ніхто не заплача і шукаць не пабяжыць.

Відаць, крыважэрны стары не супакоіцца, пакуль не ўжыве дубовай прылады. Як на злосць, сам габляваў да выгладжваў. І служыла няблага, так што і ўласны чэрап не выстаіць.

— Добра, слухай, каб на цябе халера! — крэкнуў пакананы. — Першае: ліст твайму ксяндзу і таму шлягону вялікапышнаму…

— Несумненна, пана Імполя Рудніцкага маеш на думцы, — з пашанай дапамог Мялеці.

— Каго б яшчэ! Што там пісана, не ведаю і ведаць не хачу. Ды і табе не раю дапытвацца, — з ноткай спагады прамовіў палонны. — Дрэнна на гэтым можаш скончыць.

Няцяжка было здагадацца, што пасыльны не так клапоціцца пра свайго вязніцеля, як пабойваецца разгалошвання свайго прызнання.

— Як-небудзь перажыву, — супакоіў Мялецi. — Але пра іншае цікавей…

— Айцам езуітам ад нязгоднай шляхты ўсялякія паперы вельмі патрэбны, — здаваў пазіцыі пакананы. — ну, каб ведаць, хто іх складае, імёны іхнія ды адкуль самі. А што з тым учыняць, не мне ведаць. Крыж Святы! — рука тарганулася перахрысціцца.

Зацяты старавіна можа і не паверыць. Пашукаць такога блюзнера!

— Чуў, што маладзён мае перапісаць абы-як накрэмзанае, то і наважыўся перахапіць. Меў бы заслугу ў Ордэне! — палыхнуў злосцю на сваю няўдачу.

Размова зацягнулася, як адзначыў справядлівы Мялеці, да сумеснага задавальнення. Адзін — пачутым, другі — тым, што прамоўленае змякчыла суворасць пракуратара і варажыла, што з лесвіцы сыдзецца распутанымі нагамі.

— Як думаеш? Вялікую заслугу прызналі б айцы езуіты, даведаўшыся, як мы з табою гутарылі? — падвёў рысу абаронца ваўпянскіх таямніц, не патрабуючы адказу.

Нібыта ўсё выведана. Мялеці перарэзаў вяроўкі на руках палоннага. Устаў.

— Я выйду і вазьму дзверы на зашчапку. Нож шпурну пад дзверы. Неяк дацягнешся і вызваліш ногі. Стукнеш, я зашчапку адкіну, калі нож вернеш. І не важся на хітрыкі. За дзвярыма маю фузею. Грымну, то будзе па прымаўцы: паслалі сабаку па табаку — ані табакі, ані сабакі, — папярэдзіў спагадліва. — Выйдзеш з дома, то пад фузеяй бегма да брамы, а далей — адкуль прыйшоў. І памятай пра айцоў езуітаў і іх шчодрасць. Ясна?

— Ясна, — змрочна адказаў палонны, расціраючы знямелыя запясці. — Ідзі, рыхтуй сваю фузею.

Да непрыяцеля дацягнуцца ўсё ж не змог бы.

— Даўно нарыхтавана, калі забыцца пра пісталет, — адважны закрысціян шлэпнуў сабе па пузе.

Не мог пакінуць апошняе слова за служкам езуітаў. Не варта і класціся, лепш заняцца ад’ездам паніча са стрыем.

…Настрой Януша быў не горшы і не лепшы. А пан Імполь амаль адразу пачаў носам акуні вудзіць. Здзіўлены гэтай раптоўнай знямажанасцю, Януш не чапіўся з размоваю. Гады бяруць сваё. Пастараўся ўмасціцца, каб старому было зручна, а сам развітваўся са знаёмымі краявідамі. Вось стрый неўзабаве ад’едзе, а яму зноў туды, дзе кожнае слова ўзважвай, кожны рух вымярай і падчас кожнай размовы з прыяцелем азірайся. Ды яшчэ думай, як падасць суразмоўнік твае словы на споведзі.

Усё ж брычка не лепшае месца для адпачынку. Варухнуўшыся раз і другі, пан Імполь страціў надзею на ўтульнасць і гэтак жа раптоўна вярнуў сабе спраўнасць і жывасць. Павёў поглядам па наваколлі, упэўніўся, што непажаданых змен не адбылося, і перайшоў да спраў неадменных, вечных, палітычных.

— Пакуль ты, пане-браце, спаў сном справядлівага, мы з айцом Януарам мелі наведніка. Госць, sit venia verbo*, не так жаданы, як спадзяваны. Не шкадавалі, што не затрымаўся.

---

* Хай будзе дазволена сказаць (лац.).

Януш не хацеў пазбавіць прыемнасці ні дзядзьку, ні сябе.

— Quid est*? Адкуль?

— Не здагадваешся? — усміхнуўся пан Імполь. — Урэшце, скуль мог бы ведаць. Выхавацелі твае занепакоіліся, што згубная цвярозасць нас, старэйшых, і юначыя сумненні схіляць здольнага студыёзуса патлумачыць цуды звыклымі ўчынкамі людзей. Хоць бы імкненнем здзейсніць немагчымае пад уплывам прагі вырвацца з няволі, уратавацца ад смерці.

Пан Імполь змоўк раптоўна, нібы адсек працяг, баючыся прагаварыцца. Януш каторы раз за апошнія дні заўважыў гэту абачлівасць. Так і не мог угадаць, якія дачыненні меў дзядзька да таго цуду з уцёкамі.

— Вось так, — крэкнуў пан Імполь, — не псуйце святым айцам мажлівасці карыстацца ўчыненым вамі, простымі хлебажэрамі! Але, мабыць, не толькі пра гэта ім ідзе.

Усё ж тлумачыць ці меркаваць пра што, здавалася, не збіраўся.

— Даў пасланец прачытаць ліст з ягоных рук і тут жа яго спаліў. Выбрык гэта, гульня ў таемнасць, ці сапраўды баяліся пакінуць след? Каб і спрабаваў адмаўляць, адным гэтым здрадзіўся, ад каго заявіўся. А вось з-за чаго той непакой?

— Як я здагадваюся, у лісце пра цуд, ці толькі намёкамі? — запытаўся Януш.

— Можна сказаць, што намёкамі, — прамовіў пан Імполь. — Але ж надта празрыстымі, каб прыкідвацца, што не разумееш. Мне нават падумалася, ці не адмовіліся б ад гэтага цуду, каб не быў звязаны з уладальнікам абразка. А той падараваў яго вашай кангрэгацыі падчас хваробы. Так урачыста ладзілася яго перанясенне з Кульбакаў! Не пройдзеш міма гэтага, каб і хацелася.

— Што і засведчана, — пацвердзіў Януш і нечакана для дзядзькі дадаў: — Але ж стрый злуецца, нібы прыклаў розум і рукі, каб той цуд насамрэч адбыўся?

Калі пан Імполь і збянтэжыўся, то ледзь прыкметна, і стан той адолеў імгненна. Усё ж цалкам не адмовіў.

— Пра гэта, можа, іншым разам, — кінуў нядбала. — Дык наконт заўваг айцоў езуітаў... Запэўнілі мы, што разумеем клопат і вярэдзіць ды баламуціць юнацкія душы нам і на розум не прыйдзе. Узялі грэх на свае душы.

— Чаму ж грэх? І ў чым ён? — не зразумеў Януш.

Пан Імполь зірнуў скоса і хітра ўсміхнуўся:

— Дык жа той стары балбатун табе, напэўна, за нас дваіх наплёў. А мы пра яго маўчалі.

Януш зарагатаў так гучна, што і фурман азірнуўся.

— Затое ён з вашым пасланцом ноччу перамовіўся грунтоўна.

Пан Імполь утаропіўся ў пляменніка.

— І мне не верылася, што тая налепка з-за каня! — бліснуў запозненай здагадкай і таксама зарагатаў.

— Каб смешней было, — пасур'ёзнеў Януш, — пасланец адбыў на сталую кватэру з падобнай акрасай.

---

* Хто гэта? (Лац.)

— Respondebo tibi propinanti*! — рагатнуў пан Імполь. — Не ад цябе выпадкам? — акінуў поглядам маладога асілка.

— Мужны закрысціян сам управіўся з начным госцем. У цэлым нешта накшталт diffidentia tempestiva** ці паядынку да першай крыві. Але я гэтага не бачыў.

— Спазніўся нарадзіцца Мялеці. Годны быў бы заваёўваць Гроб Гасподзень.

— Але ж абодва слова не піскнулі, — папікнуў пан Імполь.

— Ну, не так даўно гэта здарылася, — паціснуў плячыма Януш. — Я вось вам расказваю, а Мялеці, можа, акурат зараз айцу Януару дакладае. А той закрысціяну эпітым'ю вызначыць.

— Сумняюся, — хмыкнуў пан Імполь.

Нейкі час маўчалі, думаючы кожны сваё. Януш пра тое, ці варта падаваць усе падрабязнасці. Дубовая калатушка не для забавы была прыхоплена. Хто пра гэта клапаціўся? Magister novitiorum, прэфект ці сам яго правялебнасць рэктар?

— Шпегаваў чалавек з калегіума, і гэта наводзіць на два меркаванні, — прамовіў стары палітык. — Першае — служба каралеўскаму двару, бо мы, старэйшыя змоўшчыкі, збіраліся. Маглі пра гэта ведаць, альбо здагадацца з-за маёй прысутнасці.

Януш ускінуўся запярэчыць.

— Пачакай, не гарачыся, — спыніў пан Імполь. — Чым жа ты вінаваты, калі я цябе звёз? — усміхнуўся. — Але другое меркаванне, на мой розум, цікавейшае. Шпегавалі найперш за табою, а мы таму шпегаванню надалі патрэбны грунт.

Пакуль што разумелася цяжка. Януш здзівіўся, чаму за ім.

— А ты ўзваж, — прапанаваў пан Імполь. — Што, каб ім удалося завалодаць паперамі? Няўжо цяжка было б падаць, што атрымалі з тваіх зычлівых рук? І пераказ пачутага на дадатак! Вось ты і на кручку! Шпег і здраднік!

Януш адчуў, як у сярэдзіне пахаладзела. Спаў жа як сусал, дзверы не зашчэплены. Калі б не пільны, нібы прасцецкі, Мялеці…

— Хто аспрэчыў бы такое сцверджанне? — нібы пракуратар, дапытваўся дырэктар мноства соймікаў і складальнік соймавых пратэстацый.

Нават досвед студыёзуса падказваў, што абвергнуць яго было б непадабенствам. Пан Імполь, выглядала, стараўся зазірнуць глыбей.

— Спыніць твой імпэт даследавання мінулага. Трымаць цябе ў абцугах, намякаючы на знеслаўленне. Нават як пабочная задача гэта пасуе выключна. А ў рэшце рэшт прывесці цябе ў свае шэрагі. Калі і не спадабалася б там, выйсці… сам разумееш…

— Але ж гэта жудасна! — усклікнуў Януш.

— Не лічу патрэбным пераконваць. Дадам толькі, што і я не пазбегнуў бы клопатаў у сваім асяроддзі. Кручок той і маё крысо праткнуў бы.

Пан Імполь у глыбокай скрусе пакруціў галавою.

— Божа, Божа! Трэба ж такое, — ледзь не прастагнаў. — Як наканаванне сыну ўслед за бацькам! Не, паўтору не дапусцім! — і Мялеці, як некалі, анёл-абаронца змоўк, нібы гадаючы, прамовіў гэта ці толькі падумалася.

---

* Адказваю табе тым жа! (Лац.)

** Вайсковай перасцярогі (лац.).

Януш не рашыўся здрадзіцца з пачутым. Мовы не было, каб прасіць тлумачэння.

— Так што будзь, хлопча, асцярожны. І не думай, што мне ўсё зразумела, а я таюся перад табою. Найбольш мяне турбуе, скуль іхняя трывога. Так бы ўгадвалася, чаго ад іх чакаць… Падзеі запавядаюцца важныя. Ізноў вайна скончыцца бядою.

— Ясна, — уздыхнуў Януш.

Яму захацелася развеяць хмурнасць, што набегла на твар дзядзькі. Найлепшымі лекамі было б знайсці прадмет дыскусіі.

— Цікавае назіранне вывез я з Воўпы, стрыю, — пачаў здалёк, як дасведчаны дыспутант. — Ваша стаўленне да езуітаў для мяне не навіна і не дзівіць. Але вось айцец Януар, альбо той жа Мялецi… Усё-ткі клер… Збежнасць прызначэння, так скажам… З Мялецiем асабліва…

— А што з Мялецiем? — пан Імполь не хаваў ноткі непакою.

Мабыць, выбрана ўдалае і дыспут атрымаецца.

— Ды хоць бы тое, што лае Братэрскі хаўрус, а яшчэ больш не церпіць езуітаў. А той жа хаўрус за езуітамі не прападаў.

Пан Імполь хмыкнуў пагардліва:

— Хочаш сказаць, вораг майго ворага… Але ж найперш езуіты не прападалі за намі, канфедэратамі. І гэта яшчэ лагоднае вызначэнне, — падкрэсліў. — Ад пачатку стаялі ў змове каралеўскага двара супраць Рэчы Паспалітай. А Мялецi і айцец Януар мелі сумныя дачыненні з сынамі Ордэна.

— Ну, вось! — зазначыў, як злавіў, Януш. — Мялецi ж не быў за каралеву ці караля.

— Што вось? — насмешліва перапытаў пан Імполь і раптам западозрыў непарадак. — Што ён набалбатаў?

Януш паспяшаўся з тлумачэннямі.

— Ды нічога такога. Памянуў злым словам тых, хто збіраўся прывезці да касцёла гетмана Гасеўскага на рыцарскае кола. Пагараваў над яго трагічным лёсам. Лёс жа сапраўды трагічны.

— Ды куды ўжо болей, — крэкнуў палітык. — Але сам гетман нямала запрацаваў на сваю трагедыю. Шляхта і войска вялікія надзеі на ім пакладалі, а ён іх знявечыў сваім згодніцтвам. Шмат хто спачуваў яму з-за нахабства і неганаровасці ягоных суддзяў-катаў… Катоўскага, Навашынскага, Хлявінскага, іншых. Я ж іх добра ведаў. Нібы ваявалі як належыць, заслугі мелі неаспрэчныя. Аж вось!.. Можа, і не дайшло б да крайнасцяў, каб не ганебны торг гетмана сваім імем ды прызнаннем у войску на карысць каралеўскай пары.

Як толькі вясною 1662 года гетмана Гасеўскага з іншымі палоннымі ліцвінамі памянялі на чатырох ратных ваяводаў і сына князя Івана Хаванскага, гетманам адразу ж заняўся каралеўскі двор. Мог павесці вялікалітоўскае войска як на вайну, так і на элекцыйнае поле. Таму каралева Людвіка Марыя лістамі і рознымі спосабамі схіліла гетмана да прыезду ў Варшаву. 29 траўня Гасеўскі быў прыняты каралеўскай парай з вялікай пашанай. Пайшлі частыя і працяглыя сустрэчы з каралевай, пераконванні ў разумнасці вылучэння і падтрымкі французскага прэтэндэнта, але справа пасоўвалася цяжка. Гетман быў чалавек удумлівы, дбаў пра ўмацаванне згоды ў Рэчы Паспалітай, а не пра яе разбіццё. Паступова каралева пераканалася, што яе чараў не хопіць,

каб перавыхаваць гетмана на свой капыл. Страціла надзею, што ён выкарыстае сваіх жаўнераў для падтрымкі элекцыі vivente rege, не кажучы пра выкарыстанне чужога войска.

Праціўнікі каралевы даводзілі гетману згубнасць інтрыг двара. Але хітрая францужанка аб'явіла Гасеўскаму, што адмаўляецца ад шэрагу сваіх пастулатаў і толькі просіць дапамогі ў ліквідацыі напружанасці. А напружанасць і на думку самога гетмана можа выліцца ў грамадзянскую вайну без пераможцы, бо сілы бакоў амаль роўныя. Калі сцягнуць замежнае войска, катастрофы не пазбегнуць.

14 чэрвеня гетман згадзіўся дапамагаць двару ў мірным развязанні канфедэрацый войска. Перамаўляўся з каралеўскай парай пра пагадненне на ўзаемных саступках. На згоду Гасеўскага падтрымаць французскага прэтэндэнта паўплывала абяцанне каралевы шчодрай платы і багатых даравізнаў.

Войска, дачуўшыся пра перамовы, занепакоілася, бо гетман пачаў схіляць на свой бок афіцэраў і значнейшых ваяроў. Адмысловымі ганцамі навязваў патаемныя сувязі. Перахіліў на свой бок маршалка Братэрскага хаўрусу Жаромскага. Супакойваў, што войску выплацяць запазычанасці, і выклікаў у Варшаву дэлегатаў для паразумення.

— Не ўлічыў гетман адной нібы дробязі, — паспачуваў пан Імполь. — У лютым 1662 года Сойм прыняў ухвалу, што вораг Айчыны той, хто падтрымае элекцыю vivente rege. А гетман вярнуўся акурат 6 красавіка! Тлумілі яму галаву, нібыта хочуць вялікія змены да лепшага ў ладзе Рэчы Паспалітай правесці. Але па якому ўзору, было не так ясна, як бы магло скласціся са слоў каралеўскай пары. Бо і насамрэч, калі зірнуць на іх старанні, то ішлі яны толькі ў адным напрамку — абранне наступніка пры жыцці караля. І не так цяжка было заўважыць, што гэта першая прыступка да ўсталявання дынастыі, а потым і абсалютум дамініюм па французскім узоры. Па якім жа іншым, калі і прэтэндэнт падаваўся французскі?

Ён памаўчаў, уздыхнуў з нейкім адчаем. Магло ж усё пайсці іначай, каб не тая пыха неразумная, не прага вяршэнства пры адсутнасці здольнасцяў.

— Маршалак Жаромскі скіраваўся ў Вільню на перамовы з гетманам Гасеўскім. А Катоўскі, субстытут, скарыстаў нагоду і па трывозе склікаў таварыства ў Воўпу. Змудрыўся перахапіць лісты вялікага канцлера Паца да Гасеўскага. Частка з іх была пад шыфрам, то наплёў, што ў галаву прыйшло. Войска ж пана канцлера на дух не пераносіла. Даводзіў Катоўскі, нібы Гасеўскі ў змову з царом увайшоў, нібы намерваецца з дапамогай казакоў ды татараў разбіць Лігу канфедэрацый. А там пісалася наконт скарбу і грошай на войска, пра вялікае пасольства Масковіі.

Пан Імполь павёў вачыма па краявідах, нібы выглядаў тыя здрадлівыя харугвы, што выправіліся ў Вільню са сваімі злавеснымі намерамі.

— Задурыў галовы таварыству і атрымаў згоду на арышт Гасеўскага: «узяць, але не забіваць польнага гетмана, каб услравядліўся перад генеральным колам». Але назаўтра, падпаіўшы патрэбных, Катоўскі дабіўся згоды на забойства нібыта за здраду Рэчы Паспалітай і войску. Кругом адна гнюснасць. Не дзіва, што знявечылі Братэрскі хаўрус, а затым і загубілі. А мог бы яшчэ паслужыць слушным мэтам.

Наконт мэтаў канфедэрацыі дэбатавалася не раз, а ўдакладняць, на думку Януша, не было патрэбы. З паўвярсты, а мо і болей маўчалі.

— Добра патлумачылі, — прызнаў Януш. — Праўда, калі ж яшчэ нагода здарыцца.

— Калі ж табе карціць усё ведаць. Упарты, як я, — усміхнуўся, бліснуўшы вачыма. — Вось яна, шкоднасць адукацыі. На сваю, як кажуць, галаву выстараўся.

— Але ж у асяроддзі, да якога не магу жывіць прыязнасці…

— І то з маёй віны, хочаш сказаць? Маеш слушнасць, — пацвердзіў пан Імполь. — Але раю, па магчымасці, quieta non movere*. Нібы ўсё даўно сплыло, але крані гэты cineri doloso**! Толькі крані яго! — Суровы, засяроджаны выраз не сыходзіў з твару дзядзькі. — І не шукай у маіх выказваннях непаслядоўнасці, — працягваў ён крыху стомлена. — Ёсць гэта?

— Прызнаюся, — адказаў Януш. — Але тут ідзе пра мае спробы ўдакладніць, ці мае ўласныя высновы адпавядаюць рэчаіснасці ў святле размоў з вамі.

— Хітрун, — несярдзіта адзначыў пан Імполь. — Тое, што табе незразумела, не з'яўляецца непаслядоўнасцю. Вось, прыкладам, вайна на поўдні. Трэба разгледзець з розных бакоў, каб не дзеяць з дурной упартасці. Абарона ад туркаў з татарамі — адно. Іншае, калі гэта дзеля карон каралеўскім сынам. На жаль, уся палітыка Яна Трэцяга падпарадкавана дынастычнай думцы. Вайсковыя і дыпламатычныя намеры падлягаюць жаданню, каб мы абралі Якуба з уласнай волі, а замежжа падтрымае гэты выбар хочаш не хочаш. Тут дарэчы будзе выказванне французскага Людовіка, манарха з манархаў.

— Цікава.

— Па яго меркаванні, дарога да дынастычнага права вядзе праз славу, а славу можна завяяваць у гармоніі з большасцю народу, а не наперакор. Яну Трэцяму гэта не ўдалося нават пасля Венскай перамогі. Дрэнна, калі не зразумее, што і сёння гэта не ўдасца. Бо галоўны намер, хлопча, непазбежна падпарадкуе сабе ўсе пабочныя, нібы і высакародныя, задачы. А за гэтым падман Сойму, марныя траты на войска, грошы пойдуць на іншае. Там, як бачыш, сканфедэраванае войска, рабункі ўласнай краіны і ўсё іншае, аж да магчымых рокашаў. Ці лагічны мой ланцуг для пана студыёзуса?

— Цалкам лагічны, — прызнаў студыёзус, не настойваючы на паглыбленні і ўдакладненні. — Шляхта выступіць супраць, калі можныя пачнуць торг каронай Рэчы Паспалітай з усімі, хто дасць болей.

— Ну што ж, урэшце сам хваліўся, што са мною ўсё ясна, — засмяяўся пан Імполь. — Пан Імполь нахіліўся і паляпаў фурмана па плячах. Як толькі брычка спынілася, павярнуўся да Януша і абхапіў яго за плечы. — Пара нам, хлопча, развітацца, — прамовіў з жалем. — Мне лепш у горад не з'яўляцца… пакуль што, — удакладніў, нешта прыгадаўшы.

— Далей і сам дайду, — сілячыся быць бясклапотным, адгукнуўся Януш.

На сэрцы было цяжкавата, не вабіла ў цяжкі дух канвікту, пасля дзён волі ў вольным асяроддзі. Саскочыў адным махам, нібы ў халодную ваду. Доўга глядзеў услед брычцы ў дзіцячай надзеі, што яна спыніцца і пачакае. Не спынілася, схавалася ў клубах пылу за дрэвамі прысадаў.

---

* Не варушы мінулага (лац.).

** Попел, у якім хаваецца агонь! (Лац.)

— Усё добрае хутка мінае, — горка суцешыў сябе і жвава пакрочыў да блізкага гарадзенскага прадмесця.

**Кароткі слоўнік, складзены адпаведна ходу аповеда**

Прэфект — непасрэдны кіраўнік працай школы.
Рэктар — кіраўнік калегіума.
Прынцыпал — палітычны апякун, начальнік, гаспадар.
Калегіум — закрытая навучальная ўстанова езуіцкага Ордэна.
Схаластык — настаўнік адной альбо некалькіх навук.
Навіцыі — ніжэйшая ступень Ордэна. Праз два гады станавіліся духоўнымі каад’ютарамі.
Правінцыял — узначальваў правінцыю Ордэна.
Генерал Ордэна — лічыўся намеснікам і прадстаўніком Ісуса.
Кромвель — правадыр англійскай рэвалюцыі.
Каад’ютары — трэці клас сяброў Ордэна (пасля прафесаў і навіцыяў).
Armistitium — перамір’е.
Дэкурыён, консул, цэсар — ганаровыя тытулы студэнтаў.
Інстрыгатар — пракурор, абвінаваўца.
Кангрэгацыя — хаўрус студэнтаў пры навучальнай установе.
Элекцыя vivente rege — абранне наступніка пры жыцці караля.






**(сапр. Жукоўскі Аркадзь Данілавіч)** нарадзіўся 12 лютага 1937 года ў вёсцы Пагост Бярэзінскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Ленінградскі караблебудаўнічы інстытут (1961). Удзельнік грамадска-палітычнага і культурнага руху ў Беларусі (1987–1997). Дэлегат Устаноўчага (1989) і двух наступных з’ездаў БНФ «Адраджэнне». Літаратурнай дзейнасцю заняўся ў канцы 1990-х гадоў. Тэматыка творчасці — гісторыя Рэчы Паспалітай і ВКЛ XVII стагоддзя. Аўтар аповесці «Галс» (2012, серыя «Гарадзенская бібліятэка»), рамана з трох частак «Прастрэлены талер» (частка 1, 2013, астатнія часткі — у рукапісах), рамана «Дыплом на царства» (2010, электр. варыянт: kniharnia.by). Два закончаныя раманы «Цемір-хан-Шура» (1995) і «Алабама» (2015) пра ўдзел ссыльных беларусаў у Каўказскай вайне XIX стагоддзя застаюцца ў рукапісах. Жыве ў Гродне.



# Паэзія

## СВЯТЛАНА АБДУЛАЕВА

### *ШУКАЮ Я ВАЧЫМА ПРОСІНЬ…*



Канчаецца цёплы сезон,
І коціцца лета на спад,
Як з кветкамі з горкі вазок
Між хуткіх чужых аўтастрад.
І той ксілафонавы звон,
Што так рассыпаў зарапад,
Схаваў пад лістотаю клён,
Як лёгкую горыч ад страт.
Канчаецца летні сезон —
Намёк дае дождж за дажджом.
І пах нясе ў лесе азон
Самоты асенняй ужо…



Хаця разбегліся па полі васількі,
Нібыта ў хованкі гуляючы падлеткі.
Ды мне яны ўплятаюцца ў радкі,
Як сіненькі сцяжок на край сурвэткі.
І не магу я выбіраць шляхі,
Вакол якіх няма блакітных зорак —
Я проста прадстаўніца тых жанчын,
Што любяць колер неба й колер мора.



Шукаю я вачыма просінь,
Хаця яе няма нідзе…
І журАўліны клін адносіць

З сабой фрагмент маіх надзей.
Не паштальён мне ліст прыносіць,
А вецер, нібы дабрадзей…
І дробны дождж паветра косіць
Усё часцей… часцей… часцей…
Шукаю я на небе просінь,
Хаця і ведаю — дарма.
І на гадзінніку ўжо — восем…
І недапісаны раман…



Стаяла восень залатая ля шашы,
Нібыта падарожніца-шляхцянка…
І назірала з вышыні буслянка,
Як размінаюцца аўто на віражы.
А ў полі вандравала цішыня
І запрашала з гарадоў у госці…
І нехта мне па-добраму зайздросціў,
А я чакала выхаднога дня —
А там: стаяла восень ля ракі
І з пазалоты кладачку масціла,
І я ў яе ў чарговы раз прасіла:
«У верш крыху мне золата падкінь…»



Плыве над возерам туман балотны,
І кружыць галаву мне пах аеру…
Мінае дзень… Ён будзе незваротным,
Аднак я ў гэта ўсё ж такі не веру.
Бо застанецца ён у маім вершы
Акрэсленай канкрэтнаю страфою.
Плыве туман па возеры, як вершнік,
Што адпусціў каня да вадапою…



На Месяц, дзе ёсць раён
З назваю «Мора дажджоў»,
Глядзіць задуменна клён,
Што так без пары пажоўк…

А ёсць там дажджы ці не?
Як доўжыцца іх сезон? —
Насамрэч цікава мне
У коле бягучых дзён.



Пад шорах восеньскай лістоты
Мне зноў успомніўся Парыж —
Фрагменты вуліц і афіш,
Дзе паміж слоў луналі ноты.
І шматгалоссе розных моў
На беразе магутнай Сены...
Магчыма, там калісь Ясенін
Карміў з рук белых галубоў...



Даўно пакінутая хата...
І дзесьці гаспадар у Бога.
Адно куст бэзу зухавата
Глядзіць бясконца на дарогу.
Не шалахнецца на хвіліну —
Нібыта ў забыцці-чаканні...
А па шашы імчаць машыны,
Аднак на іншыя спатканні.



Кароткі дзень зімовы...
І вечар — на прыступках.
А водар чабаровы
На кухні ўецца з кубкаў.
І — у сяброўскай згодзе
Цячэ, цячэ бяседа...
Каб ёй не перашкодзіць,
Цвыркун сціх нават недзе.
Ах, як бывае часта,
Так мала трэба людзям,
Каб падзяліцца шчасцем —
Проста забыць на студзень!
Кароткі дзень зімовы...

І ночка — на прыступках…
І ўсё цячэ размова
Пад водар лета з кубкаў…



Ужо лёг на зямлю белы снег,
А бяроза — у жоўтай лістоце…
Ці то снег паспяшаўся на грэх?
Ці бяроза знямела ў самоце?

І ў людзей так бывае не раз, —
Хто пад зоркай якой нарадзіўся:
Аптыміст апярэдзіў свой час,
Песіміст задрамаў… і спазніўся…






нарадзілася 23 снежня 1964 года ў вёсцы Ашмянцы Шчучынскага раёна. Скончыла Гродзенскае музычнае вучылішча. Працуе ў Наваградскай дзіцячай школе мастацтваў. Друкавацца пачала ў 1985 г. Вершы з'яўляліся ў часопісах «Маладосць», «Полымя», «Алеся», «Гаспадыня», «Книжный калейдоскоп», у газетах «ЛіМ», «Настаўніцкая газета», «Гродзенская праўда». Піша на беларускай і рускай мовах. Аўтар паэтычных зборнікаў «Музыка дажджу» (2011), «Тайна времени» (2012). Сябар саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Навагрудку.

## РЫЧАРД БЯЛЯЧЫЦ

### Прызначэнне

Яшчэ з усходам кожным
Згода
І не дапісаны твой верш.
Пакуль жывеш,
Які ты продак?
Які ты продак,
Калі жывеш?

У час саманадзейны самы,
Дзе красавік і сонца дзе,
Неабыякавая дама
Неабыякава ідзе.

Яшчэ з табой твая Радзіма
І не нацешышся ёй ты.
Глядзіш у вочы ёй праўдзіва,
Ліст на далоні залаты.

Лыжню пракладваеш упарта,
Абы мяло,
Мароз абы.
Які ты продак,
Як назаўтра
Табе прызначана
Любіць?

### Ля Нёмна

Ля Нёмна парадак такі:
Не стэпы, не тундра, не горы.
А ў горадзе — тры гарадкі:
Фантанны, паўднёвы і зорны.

Тут добры вандруе ўспамін,
А праз дарогу — балючы.
Даў Бог пасля летаў і зім
Імя прэснаводнае —
Шчучын.

І вежа спрадвеку, здаўна,
Усім па стагоддзю адлічыць.
Мне думаць ізноў дапазна
Пра мілае сэрцу аблічча.

І па набярэжнай ізноў,
Дзе лебедзі спусцяцца верна,
У госці пайду да князёў,
Пад аркай Марыю сустрэну.

Дзяўчынка прывеціць штораз
Блакітнымі ў сонцы вачыма.
І тут жа нахмураны князь
Бакалы нальe
За Айчыну.

## Гарадзенская скрыпка

Ў паломніцкім Доме Гародні
На кволым дзявочым плячы
З якое святое нагоды
Малілася скрыпка, аб чым?

На беразе Гараднічанкі
Заплакала скрыпка па кім?
Па Нёмане ведалі чайкі
Дарогу да мора
З-пад зім.

Глядзела на свет Алаіза
Ў акно залатою парой.
Сыходзіў па сходках паблізу
Апошні вялікі кароль.

А Муза на божым паверсе
Не ведала стомы вякі.
Кружылі анёламі ўверсе
Знаёмыя сэрцу радкі.

Там скрыпка званы маладзіла
І ясніла нам далячынь.
Не ведала стомы
Ў Радзімы
На юным чуллівым плячы.

## Мастак

Мастак гатоў гадам скарыцца,
Застацца назаўсёды тут.
Ён прадчувае навальніцу,
Якая змые пыл і бруд.

Дапоўніць сонца светлым тонам,
Пашырыць родны небакрай.
Яму разважліва, спакойна
Вачыма, думкай
Давярай.

Яго на ўзлёце выдасць сэрца,
У тым сакрэт і запавет.
Калі аднойчы засмяецца,
То чалавечней стаў Сусвет.

Вастрэлі бліскавіцаў пілы,
На дубе палі папалам.
Так дасканаласць наступіла —
Пабачыш сам,
Адчуеш сам.

## Пісьмо табе

У вёсцы, дзе я малады
І колецца міла ажына,
Ужо пабялілі сады
І выраслі дзеці чужыя.

Дзяды ўпершыню без мяне
Пасадзяць праafрослую бульбу.
І я ўпершыню па вясне
Чакаць узыходаў не буду.

Пакрочыць з мяне селянін.
І толькі душа не здаецца:
Дзве вішні
І стволік адзін
Гадую чырвонага перца.

Жаўронкам страсаю расу,
Што ў небе і ў полі па двое.

І вудачкай Нёман пасу,
З вачэй каб не збіўся ў чужое.

Закружыць вясна галаву,
Як некалі, міла і гожа.
А ўвогуле добра жыву,
Калі Бог, калі ты дапаможаш.

## Навальніца

Над горадам нарэшце навальніца
З-за добрага анёльскага пляча.
Званіцы цалавала
І напіцца
Сябе давала
Думкам
І вачам.

У возера ўрастала каласамі,
Ля ног вясёлкай клалася якраз.
І мы цяпер здагадваліся самі,
Як мала ўсё залежала ад нас.

Пад стрэхамі вячэраць птушаняты
Прасіліся адзін у аднаго.
Нічым быў мокры горад не заняты,
Дыханне толькі
Чулася яго.

## На вуліцы маёй

На Беларусі дваццаць дзве гадзіны
І роздум пра мінулае сваё.
Не спіцца на падушках у Радзімы
Пад пошчак закаханых салаўёў.

Па вуліцы маёй жыве Сувораў.
Гаспадаром жыве
Ці проста так?
Аж два вякі сваім мячом агораў
Па руні, пушчах, дзікіх балатах.

Каб раніца не песцявала міла,
І не сняжынкі смешныя зімой,

І ты каб міма часам не хадзіла,
Тут жыў бы сум,
На вуліцы маёй.

## Імя

З Каложскіх нябёсаў
Ступаю да Нёмна.
Я верны, адданы для іх сувязны.
Сустрэча раптоўная,
Памяццю поўная.
І гром ушануе
Каложы званы.

Тут паспавядайся прад Богам
І гены зруш.
Спадарства, маўчыце
Пра час убаку.
Сягоння імша
Па жывучае Геніюш.
На міг супыніла нізіна раку.

А хутка прад снегам
Узыдуць азімыя.
Іх будзе туліць маладая зіма.
Ёсць праўда,
Якая завецца Радзімаю —
Высокае,
Светлае,
Наша імя.

## Дом у Навагрудку

*Мастаку Віктару Качану*

Гісторыі пласт утравеў.
А светла, нязмушана помніцца,
Што ў доме ягоным жыве
Навагрудак сам
І ваколіца.

Жывуць і прастора, і час.
А стане — душа апарожніцца,

Сустрэне князёўнаю нас
Заўжды
Мастака спадарожніца.

Направа зірнеш —
І гатоў
Застацца на ўзгорыстай вуліцы.
Там мускулы дужых вякоў
Да мужнага тулава туляцца.

Ні мроя, ні свежы сувой
Пад воблакам
Зімамі доўгімі.
І тут, акурат прад табой,
Вякуюць скляпенні Міндоўгавы.

А побач маўчыць
Ён і сам.
Бо чуе, як велічна гоніцца,
Жыццё несучы ветракам,
Яго неўміручая конніца.

Застыла страла навылёт.
І фарбы — жывымі палоскамі.
Паветра, планіда, усход
Вялікага Княства Літоўскага.

Не будзе гісторыя дзе
Вяршыць,
Бездакорная, чулая,
Папросіцца заўтрашні дзень
Прысесці на міг
Ля мінулага.

Аблокаў змяняецца масць,
Цукерка Мядзведзіцы мроіцца.
Тут згінуць напэўна не дасць
Душа
Ні сусвету,
Ні кропельцы.

## Кропка

Паэт не першы і не лепшы,
Ты не хвалюйся і астынь.
Каму патрэбны вашы вершы —
Нямыя вобразы святынь?

У словах —
Думкаў, душаў повязь,
Але надходзіць дзікі час —
Каму патрэбна ваша споведзь
На свеце белым,
Апроч вас?

Маўчаць захочацца аднойчы
Спакоем тых азёрных хваль.
І што сказаць затым захочаш
Ты, незнаёмая амаль?

Так разыходзяцца дарогі
Надзеі, веры і святла.
То я ішоў занадта строгі,
То ты нясцерпнаю была.

Тады адна ў чаканні праўда.
Прыходзіць згадка не штодня,
І хоць яна — нібыта радасць,
А верш бяздомны,
Як шчаня.






нарадзіўся 16 верасня 1953 года ў вёсцы Стаўбуры Астравецкага раёна. Скончыў літаратурна-музычнае аддзяленне Мінскага педагагічнага інстытута імя Максіма Танка. Працаваў настаўнікам, дырэктарам школы, у рэдакцыі раённых газет. Аўтар дзясятка паэтычных зборнікаў, сярод якіх «Сакавіцкае крыло» (1988), «Міг выратавання» (2001), «Вочы малітвы» (2005), «Святлом і ценем» (2009), «На радзіме Котры» (2009), «Помню, што жыву» (2013), дзвюх кніг прозы: тапанімічнага аповеда «Котранскі нераст» (2013) і лірычных замалёвак «Са мной мой дзень» (2017). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве і працуе ў Шчучыне.

## УЛАДЗІМІР ВАСЬКО



Ой, як шумеў наш парк калісьці!
Эх, каб вярнуць той час назад!
Як гаманіла здатна лісце,
святлелі тварыкі дзяўчат!
На танцпляцоўцы стук абцасаў
чуваць было за многа вёрст.
Мы нібы выбіліся з часу,
ідзём — у нейкі змрок наўпрост.
А як круцілі каруселі
вясёлых хлопцаў і дзяцей!
Што, за камп'ютары заселі?
Не бачым сонца і людзей?
Пустуюць лаўкі і дарожкі,
заціх, змяніўся сёння парк.
І толькі ў ім дзяўчынкі-крошкі
малых выгульваюць сабак.



Чаму нас цягне да благога,
А не да лепшага, скажы?
Чаму мы ўсе далей ад Бога,
нібы аблезлыя смаўжы?
Чаго нас пражыць да «чарніла»,
гарэлкі, піва, каньяка?
І так глядзімся ўжо паныла…
Што, замарылі чарвяка?
Няўжо саміх сябе заморым?
Рака назад не пацячэ…
Цяпер бушуе мора гора,
а заўтра будзе горш яшчэ…



Скорасць верша
як скорасць ракеты.
У неба свядомасці
ўрэжацца ён —

і ўсе графаманскага
складу паэты
падумаюць: гэта
касмічны шпіён.
Рыхлыя, вялыя
рытмы і рыфмы
пойдуць, як статуі,
ўніз галавой.
А гэты праб’ецца
праз буры і рыфы,
народы Зямлі
павядзе за сабой.

## На моры

Быў цёплы вечар.
Мора слала хвалі
на гладкі,
адшліфованы пясок.
А мы з табой,
абняўшыся, стаялі,
ласкаў мой слых
твой тонкі галасок.
Блішчэлі зоркі.
Месяц плыў павольна.
Гармонік дзесьці
весяліў народ,
і на душы было
так хораша і вольна,
а ветрык малады
да нас ішоў уброд.
Агні гарэлі
ля гары пакатай —
яшчэ не спаў
туманны Геленджык,
не спалі людзі
у маленькіх хатах,
пра мора напяваў,
праходзячы, мужык.
А хвалі песні
на пясочку слалі,
спыніўся ў небе
залацістым час,

і мы з табой
да ночы прастаялі —
а ранкам сонца
абвянчала нас.



Святочна прыбраўся ўжо
чэрвеньскі дзень
у белыя воблачкі,
квецень акацый,
у бэзавы колер,
у ліпавы цень —
ён так захацеў
сёння ўсім спадабацца.
І людзі ў святочным
убранні ідуць
па вуліцах чыстых,
па гладзенькай плошчы,
усмешкі чаромхі
прывабна цвітуць,
і вецер дзяўчатам
сукенкі палошча.
Каб гэтак было
і паўсюль, і заўжды,
а дрэннае ўсё
адплыло — у былое,
каб шар наш зямны
выгнаў рэшткі нуды,
квітнела, буяла
жыццё маладое.

## Высаджваю дэсант

Каб зноў за локаць не кусаць,
не стаць падзей адвёрткай,
лячу да мэты, як аса,
скачу ваверкай вёрткай.
Было ўпушчэнняў вельмі шмат,
бадай адны прабелы…
Цяпер высаджваю дэсант
у заўтра з думак смелых.

Памылкам прыйдзе ўжо капут!
І ўсё ж не гарантую,
што зноў не ўліпну там ці тут,
прыму сасну за тую.



Святое імкненне да праўды
каралі паўсюль і заўжды:
саджалі паэтаў за краты,
кармілі пахлёбкай з нуды.
Марылі свядома ў цямніцах,
каб розум знявечыць навек,
прымусіць складаць небыліцы
сабе і нашчадкам на здзек.
Наносілі геніям траўмы,
і кат іх штодня катаваў.
Ды голас раз'юшаны праўды,
як грозны вулкан, бунтаваў.
Яшчэ пяцікласнікам, мусіць,
раптоўна ў сабе я адчуў:
мяне ўсё ж ніхто не прымусіць
пісаць так, як сам не хачу.






нарадзіўся 2 студзеня 1937 года ў вёсцы Ліпічанка Шчучынскага раёна. Скончыў Орлеўскую СШ, Гродзенскі педагагічны інстытут. Настаўнічаў, працаваў дырэктарам СШ у Дзятлаўскім р-не, у Дзятлаўскай і Лідскай раённых газетах. Піша вершы і прозу. Друкаваўся ў рэспубліканскіх газетах, часопісах, зборніках паэзіі. Аўтар паэтычных кніг «Прасветленасць» (1981), «На схілах берагоў» (1997), «Кругазварот жыцця» (2011), а таксама кнігі прозы «Лясная рапсодыя» (2013). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Лідзе.

ЮРКА ГОЛУБ

## Сасна

*Фэнтэзі*

Ішоў напрасткі цераз бор.
Высокі. Вясною.
Капелюхам гліцу задзёр
І… стаўся сасною.

Жадалі мяне спілаваць
З жадой недарэкі.
А мне захацелася стаць
Вышэйшым за рэха.

Трымае зямліцу камель
Магутным карэннем.
Сярод і нябёс і зямель —
Такое здарэнне.

## Праўда

Даўно жылі мы ў ясным лесе.
І Нёман сведкаю трываў.
І зноў на коленкі нам лезлі
Вуголле.
Хваля.
І трава.

Чаму? — пытаемся са жвіру —
Так бездакорна лёс узнёс?
Няўжо з нябёс, нібы з клавіру?
Ты — беларус.
І гэта лёс.

## Слабы чалавек

Навошта гуляць у гольф
Ці бавіцца ў лоне сквера?
Слабы чалавек, як глог,
А носіць у сэрцы веру.

Слабы чалавек? Яму
Запасяць на звягу чарку.
Туды вось і я імкну
З плешамі па-над каркам.

Слабому ідуць наўскос
Мроі.
Задумы.
Коркі.
Маланка кладзе пакос
У неба на панадворку.

Пад позіркамі дзяўчат
Слабкі ніякавее.
Нанова жыццё пачаць?
На скроні блішчыць завея.

Яму папраўдзе сляды
Даводзяць: да жонак падкі.
А ён, слабак, як заўжды,
Жонцы пячэ аладкі.

Слабы чалавек! Слабы?
Прымружыць аднойчы вейкі:
Каменню трушчыць ілбы,
Закручвае ў вузел рэкі!

## Год Пеўня

Ляцелі промні праз платы.
Пагас удзень здалёк Меркурый,
А певень — грэбень залаты —
Наўрад пра неба маракуе.

Грудасты. Вока як ліхтар.
У багры выкупана тога.
Не падлічыць яго ахвяр:
Пад ім сурова жэрдка стогне.

Стаіць не курнік — а палац.
Тхары і тут не мелі ласкі,
Калі выходзіў ён на пляц
Затворам стрэльбы гучналяснуць.

Адсюль давалі лататы:
Гублялі прыхадні падэшву.

А ён між сонца і слаты
Ку-ка-рэ-ку на плот падвешваў.

У пеўня на назе браслет
І касачамі грае пер’е!
Каб пеўня вывучыць як след,
Мужы навыперадкі перлі.

На стрэл гарматы за вярсту
Не пусціць сквапнага прышэльца.
Ён сябра вывераных струн
І вораг вострага відэльца.

Між тым сябровак не забыў
У бойках і спакоях певень.
З-за іх рубель апошні збыў
І не шкадуе сам. Напэўна!

## Совы

Заплечных спраў майстры,
Расплюшчаць вока совы.
Уклад у іх суровы.
Уклад у іх пусты.

Ды адмыслова совы
У цемры бачаць скрозь:
Вунь фенікс уваскрос,
Варушыць словам змова.

Трапляла мараў безліч
Да іх у пераплёт.
Завершаны палёт:
Спіхнулі мару ў бездань.

У соваў век часовы.
Гарышча. Моўчкі. Ноч.
Халодныя галовы.
Прайшло жыццё наўзбоч.

## Прадвесне

Заведзены зноў у зман,
Спяшаюцца птушкі з выраю.

А тут сустрэла зіма
Зусім нечаканым выракам.

З вясной бы пайсці на пай
Зіме з ледзяшовым слэнгам.
Ды сон на вясну напаў
Перад апошнім снегам.

А птушкам адзін зыход,
Каб вобзем не гакнуць крыллем.
Чакаць, што вясновы год
Сонейкам іх накрые.

## Мадэрн

Сыпучы снег, нібы пясок,
Зіма шпурляе ў ногі бору,
А той сасонкі паясок
Схіляе, шэльма, да пакоры.

## Рыбак

Эх, не рэж, дрындушка,
Сэрца рыбака.
*Анатоль Вялюгін*

Туману расплывістым плёсам
На бераг круты не дапяць.
Трыснёг у затоку прыплёўся
На досвітку крышку паспаць.

А ў ранку апратка з брызенту.
Агеньчык. І снасць. І пляцак.
Драпежныя вырачыў зенкі
Адсюль невідомы шчупак.

Спакою — да першай падсечкі! —
І следу не знойдзеш нідзе.
Вось гэтак трапечацца свечка,
Ці ходзяць кругі па вадзе.

Рыбалка — што баба крутая:
Сябе не заўжды падае.
Хто ночку пры ёй каратае,
А хто — і прылашчыць яе.

Блішчастая стронгі маланка.
Загостраны хіб акуня.
Ляцець у атаку на танкі
Сядлалі вар'яты каня.

Імкнуць беражанкі, як блешні.
Зеніты закручвае вір.
Кудлаты, няголены, вершыць!
Рыбак забывае на кір.

І рэчка брыдзе не па карце.
І лёска пазбегла карчоў.
А рыбіна ў дужым азарце
Губой разагнула кручок.

Імкне да ракі, як прычасця,
Шчасліўчык грахі аддаваць.
А ў чым жа рыбацкае шчасце,
Не можа даўмецца. Дзівак!

## Ліст

Аблoжны дождж душы:
Ён лёс свой каратае.
Над зоркамі ў Каўшы
Маладзічок картавіць.

Звіліся змеі ў клуб:
Таго жадала восень.
І ліст, што небу люб,
Раптоўна рынуў вобзем.






нарадзіўся 20 кастрычніка 1947 года ў вёсцы Горна Зэльвенскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1970). працаваў на Гродзенскай студыі тэлебачання і ў абласной газеце «Гродзенская праўда». Паэт, перакладчык. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. А. Куляшова. Аўтар больш як 10 кніг паэзіі, сярод якіх «Гром на зялёнае голле» (1969), «Дрэва навальніцы» (1973), «Векапомнае поле» (1976), «Помню пра цябе» (1983), «У бары грыбы бяры» (1986), «Сын небасхілу» (1989), «Поруч з дажджом» (2001), «Зажураны камень. Трыялеты» (2002), «Брама зімы» (2004), «Багра» (2006), «Краявід» (2017). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Гродне.

МІКОЛА КАНАНОВІЧ

## Вялікдзень

Хрэнам і пірагамі
Мой Вялікдзень прапах,
Усяночнай у храме
Між бабуль у хустках,
Разгавеннем уранку,
Хоць не посціў ані…

Віна поўную шклянку
Сёння мне ты налі.
Мой Вялікдзень дзіцячы
Памянём, як і твой,
Пахрыстуемся ўдзячна,
Што жывыя з табой.



Маці з твару Мадонна
І прасветлена ўся!
«Каб пажыць!» — велікодна
Зычыць маці мая.

## Маё рэтра

Даўно вятрак згубіўся ў ветры,
Даўно мароз уцёк вадой,
Даўно муліць маё мне рэтра
Побач з табой.

У сне каханкі бачу цемень
Нашай агульнай явы з ёй,
І моцны свой мужчынскі крэмень
Хаваю ў глыбіні чужой.

Смяюся, калі трэба плакаць,
І плачу над сабой праз смех.
Ад моцы засталася мякаць,
Ад шчасця — першародны грэх.



Не перайначыць ход падзей
Цяпер і тут.
Не бачны з-за старых надзей
Новы маршрут.
А каму бачны — то не тут,
І той уцёк,
Як не ў далёкі Галівуд,
То ў Беласток.
Тут па-ранейшаму жывем,
Хто тут жыве,
І іншай праўды пра сябе —
Не ведае.

## П'ю

Поўні крывавы дыск,
Келіх віна.
П'ю за апошні ўздых —
Заўтра вайна
Зноўку з усім і ўсіх
І разам усіх з сабой…
П'ю, і ў вачах маіх
Тухне паціху боль.

## Памяці скульптара Леаніда Богдана

Пахаваюць сёння Леаніда,
Разам з жонкай ляжа на клады.
У дванаццаць ў храме паніхіда,
І, напэўна, зазвіняць званы,
Каб пачуў за кратамі забойца
Бабы з дзедам — родны іх унук.
На магіле скажа штось прамоўца,
Ад Саюза творчага сябрук.
А пасля па звычаю — памінкі,
Дзе тры чаркі — мала за дваіх.
Мастакі за Лёню добра вып'юць,
А жанкі памоляцца за ўсіх.

*03.12.2017, Слонім*



Сярод тостаў-жаданняў
Мне мілей — за жыццё!
Сярод жарсцяў-каханняў —
Што мне сёння дасцё.

## Юбілей

*Выпускнікам Астраўской ВШ 1980 года выпуску прысвячаецца*

Пазваніла. Сказала,
Што трыццаць гадоў
Прайшло, як клас восьмы
Ў жыццё наш пайшоў,
Што трэба адзначыць
Такі юбілей,
Што трэба сабрацца
Старацца хутчэй...
І першая думка:
Ці разам збярэмся?
Ад будняў сваіх і турбот
адарвемся?
Каб проста засведчыць
Праз трыццаць гадоў,
Што дзяўчат сем жывыя
І столькі ж хлапцоў.



Прамень сонечны ў вочы
мне з тваіх акуляраў
бліснуў толькі на міг
вясна зыркаю стала
ставіць знакі прыпынку
ў вершы як у жыцці
ламаць шчасця націнку
ў бокі розныя йсці...

Прамень сонечны ў вочы
мне з тваіх акуляраў
ў сэрца стрэмкаю збочыў

прывід згубленых мараў
і падманлівы бляск
красавіцкага сонца
паміж намі заграз
каб свяціць да бясконца…






нарадзіўся 13 сакавіка 1965 года ў вёсцы Вострава Слонімскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Як паэт, празаік і журналіст у перыядычным друку выступае з пачатку 1990-х гадоў. Укладальнік і рэдактар зборніка «Паэтычная Слонімшчына» (2000) і двух выпускаў літаратурнага альманаха «Ад Я да Я» (2001, 2003) падлеткавага клуба «Святліца». Аўтар паэтычнага зборніка «І доўжыцца ноч…» (2003). Жыве ў вёсцы Пятралевічы на Слонімшчыне.

## ПАВЕЛ КАСПЯРОВІЧ

### Кастрычнік

Хадою нетаропкай
Ізноў прыйшоў кастрычнік —
Пастаўленую кропку
Ператварыў у клічнік.

Вітаю цябе, дружа,
І апынуцца рады
Перад зімовай сцюжай
У цішы лістапада.

Вялікі дзякуй, браце,
Што завітаў у госці.
Ці марыцца аб шчасці
Між сумнай прыгажосці?

Ёсць казачнае нешта
У сціхлым наваколлі —
Ці рыфмы новых вершаў,
Ці прадчуванне болю?

### Нашчадкам 1937 года

Ты вядзі мяне, сцяжынка,
Праз пакуты да нябёс.
Шлях пакажа ананімка —
Кімсьці складзены данос.

Ці наступіць потым заўтра,
Ці прадоўжыцца жыццё?
Забярэ таемны аўтар
Подзвіг свой у небыццё.

Мабыць, там ён неяк зможа
Апраўдаць сумленны твор.
Толькі ты адзіны, Божа,
І суддзя, і пракурор.

Асыпае ў Курапатах
Восень лісце між магіл.

Хай у праўнукаў тых катаў
Хопіць пёраў і чарніл.

## Зграі

Сабакі збіраюцца ў зграі,
Калі надыходзіць зіма.
Ім хочацца выць ад адчаю,
Ратунку без зграі няма.

*Прыпеў:*

У зграі свае законы,
Ахвяры, правадыры.
У зграі замест імёнаў
Мянушкі і нумары.

Нічога не значыць парода,
Імя і прыгожая поўсць —
Калі апаноўвае голад,
Тады накіроўвае злосць.

Сабакі збіраюцца ў зграі,
Было так у свеце спрадвек.
Жахліва, калі ад адчаю
У зграю ідзе чалавек.

## Нябесны шлях

Не кожнаму гэта магчыма:
Адчуць вострым болем у сэрцы,
Што значыць такое Радзіма,
Адкуль гэты боль там бярэцца.

Радзіма — не значыць дзяржава,
Бліжэй да нябёсаў Радзіма.
Таму і пайшла Прадслава
У шлях да Іерусаліма.

Адным — рабаваць тут і княжыць,
Другім — у пакутах маліцца.
А лёс потым кожнаму скажа,
За што і калі ганарыцца.

Не ведаюць вербы пад снегам
Свой гонар у час велікодны.
Ці ж ведала штосьці Рагнеда
Пра лёс свой дзявочы гаротны?!

Дык што ж там — ці радасць, ці гора?
Дазнацца, на жаль, немагчыма,
Пакуль не асвецяць нам зоры
Нябесныя шлях да Радзімы.

## Суд

Аднойчы мая Айчына
У Бога перад вачыма

Паўстане, складзе на вагі
І сорам свой, і адвагу.

І будзе чакаць прысуду,
Каго больш было: іудаў,

Прарокаў альбо злачынцаў,
Герояў ці баязліўцаў.

Ці выстаіш, о Айчына,
У Бога перад вачыма?

## Ваўкалакі

Людзі дрыжэлі ад жаху,
Чуючы крок ваўкалака.

Ціха, заплюшчыўшы вочы,
Слухалі крык сярод ночы.

З першымі промнямі сонца
Змоўк крыважэрны забойца.

Кожны выходзіў на ганак
І ненавідзеў світанак.

Кожны дакладна не ведаў,
Сёння ці ўбачыць суседа.

*Прыпеў:*

Ні воўк, ні сабака —
Звер іншага кшталту.
Імя ваўкалака —
Вырадак Гвалту.

Сэрца пачвары,
Твар чалавечы.
Ён можа зняважыць,
Можа знявечыць.

Хутка мінаюць стагоддзі,
Звычаем стала ў народзе

Жыць пад пагрозай пачвараў,
Быць для іх статкам ахвяраў.

Кожны хаваўся і плакаў,
Чуючы крык ваўкалакаў.

Нехта ж змагаўся і мроіў
Аб нараджэнні герояў.

## Напамін

Сярод юрлівага сусвету,
Які спакусай вабіць нас,
Нам з кніг Старога Запавету
Гучыць суровы той наказ.

Як Бог паслаў сваіх анёлаў
Да двух распутных гарадоў,
І зруйнаваў усё наўкола,
І не пакінуў там слядоў.

І толькі дзесьці ў Мёртвым моры
На дне ёсць рэшткі ад руін.
Нам лёс Садома і Гаморы
Як незабыўны напамін.



Можа быць так, што ніколі
Мы не сустрэнемся болей.

І толькі вечная памяць
Будзе тады паміж намі.

Можа быць так, што і ў цемры
Раптам забракне веры.

І толькі словы да Бога
Будуць нам дапамогай.

Можа быць так, што да скону
Нашых не ўспомняць імёнаў.

Можа быць так, што па свеце
Нас разнясе моцны вецер.

Можа быць так, можа быць не…
Можа, гэта нас абміне.

Можа, і ў сініх нябёсах
Скончацца нашыя лёсы.



Няма болей страшнага глупства,
Чым скончыць жыццё самагубствам.
Няхай ты і геній мастацтва —
Вар’яцтва заўсёды вар’яцтва.

Не трэба быць мужным героем,
Каб скочыць з акна з перапою.
Не трэба вялікім быць творцам,
Каб стацца самазабойцам.

А мы ўсё ствараем куміраў
Са звыклых, сляпых дэзерціраў
І крочым за імі з юнацтва
У змрок па дарозе вар’яцтва.

## Настальгія

Шкада, што не сходзіш у госці
Да светлай сваёй маладосці,
Не пройдзеш па вузкай сцяжынцы,
Якая наўпрост — у дзяцінства…
Дарэмна глядзіш ты на глобус,
Туды не даедзе аўтобус.
Туды не ляцяць самалёты,
Туды не бягуць цягнікі.
Ні лесам туды, ні балотам
Не пройдзе ніхто нацянькі.

Глядзяць са старых фотаздымкаў
На нас хлапчукі і дзяўчынкі.
Гучыць у знямелай душы
Самотны матыў «настальжы».

## Крумкачы

Як быццам вароны са сметнікаў,
У пошуках — дзе б чаго з'есці ім,
Ідуць з-за мяжы прапаведнікі,
Нібыта нясуць Дабравесце нам.

Ад іх неспатоленых позіркаў
Душа мая ў пяткі хаваецца.
Бацькі і дзяды нашы з могілак
З агідай у нас узіраюцца:

Што сталася з нашымі дзеткамі,
Дзе рэшткі былое іх годнасці?
Мы сталі маўклівымі сведкамі
Знішчэння сваёй непаўторнасці.

Ах вось каб убачыць наперад нам,
Што будзе з любімай Айчынаю.
Як несці тужлівай Рагнедаю
Айчыне ярмо крумкачынае?

## Айчына

Палеткаў восеньскіх галеча
І вецер, здзеклівы, як звер.
Было так у Сярэднявеччы,
Так засталося і цяпер.

У вёсках тыя ж хлебаробы,
Руплівуцы ды гаспадары.
Куток Усходняе Еўропы
У азіяцкім гушчары.

Дзвюх вер трывожнае памежжа,
Дзе да крыві і бойкі — крок.
Намераў хцівых і драпежных
Неперарублены клубок.

Айчына мужных абаронцаў
І непахісных ваяроў,
Дзе ўзімку снег блішчыць на сонцы,
Як быццам латы крыжакоў.

## Мова

Не бацькава мова, не матчына,
А так, захаваная ў слоўніках.
Усімі забытая спадчына,
Праклён для студэнтаў і школьнікаў.

Нікому яна не патрэбная,
Не з’есці яе, ні напіцца ёй.
Імя ёй далі адпаведнае,
Завуць яе проста дурніцаю.

Пад цяжкімі жорсткімі кпінамі
Стаяць ёй жабрачкай упартаю.
У болю яе нарадзілі нам,
Ды мы не былі яе вартыя.

Не бацькава мова, не матчына,
А так, мова школьнай настаўніцы.
Калі не патрэбна нам спадчына,
То ў нас яна не захаваецца…



нарадзіўся 27 кастрычніка 1975 года ў горадзе Смела Чаркаскай вобласці (Украіна). У 1975 годзе сям’я пераехала ў Гродна. Скончыў Гродзенскі хіміка-тэхналагічны тэхнікум, Гродзенскі філіял Маскоўскага дзяржаўнага адкрытага ўніверсітэта, Мінскую духоўную семінарыю (2011). Праваслаўны святар, клірык Свята-Пакроўскага сабора г. Гродна, кіраўнік сацыяльнага аддзела Гродзенскай епархіі. Аўтар паэтычнага зборніка «На земле, где погиб каждый пятый» (1999). Арганізатар вечароў паэзіі ў межах міжнароднага фестываля праваслаўных песнапенняў «Каложскі дабравест» і літаратурных сустрэч пры Свята-Пакроўскім саборы, рэдактар зборніка паэзіі «Каложскі дабравест» (1917). Песні на словы айца Паўла выконвае гарадзенскі гурт «Иго». Жыве ў Гродне.



МЕЧЫСЛАЎ КУРЫЛОВІЧ

*ЗАБАРАДЗЕЛЫ ЕНК*
*(вершаваны рэпартаж)*

## Права на праўду

Хтосьці прысвоіў права на праўду,
нязгодных з ёю аддаў Фемідзе,
дзе суд вышэйшы трымаць не стаў бы
у чорным целе нат вырак крыўдзе.

Хтосьці за долар крэсліць і кроіць,
бы браток брата на грэшнай поўні,
бо ўсямоцным сябе прымроіў,
каб красавацца ў гэткім саслоўі.

Хтосьці шле ноту для «вінаватых»,
што з нараджэння сталіся брэндам,
за паўгадзіны расклаў на раты
«шкурную кодлу і рэзідэнтаў»

і адрашэціў іх з кулямёта,
бы ў Гродне сейміч з liberum veto,
каб на тым свеце збылася нота
і не бубнілі нам тут пра гэта.

Хтосьці чаркуе без дай прычыны,
жыве ад ранку ў сваёй талерцы,
ды з пастулатам, што ён бязвінны
і перад Богам па поўнай мерцы,

а з часам стогне, дрыжыць асінкай,
бы зуб з зубочкам у калатнечы,
ды пад касцёлам сядзіць са скрынкай,
дзе кінуў рублік і я, дарэчы.

Хтосьці ў школе кінуў Прарока,
каб клёк карміўся гарматным мясам,
вывучыў толькі «вока за вока»,
люд ашчаслівіў пасля — калгасам,

дзе скаргу Богу і бомж напіша:
«Дзе ж Ты, мой Божа, няўжо не бачыш

мае пакуты з Твайго узвышша,
калі ваюю за месца клячы?»

А з Калымы яшчэ і вучоны,
што колісь Богу бародку гладзіў,
як парыў косці, то слаў праклёны,
што й Усявышні народу здрадзіў.

Ніхто не слухаў Боскае слова:
«Я тут спрадвеку, заўжды на месцы,
нат на тусоўках «Мовананова»,
што акрыляла гадоў праз дзвесце.

І толькі жонка на пажагнанні,
калі дух мужа кіўнуў з парога,
ставіла свечку святой асане:
«Божанька мілы, дай мне другога!»

А дзеда бабкі дзесь чорт падслухаў,
што візітоўку Боскую просіць,
а там у пекле генсек шчэ з нюхам:
калі па просьбе, то й Крым прысвоіць.

І вось аднойчы прадоўжыць тэму
пра дзень апошні на гэтым свеце
прыйшоў рагаты (відаць, з гарэму)
з кантрактам дзеду ў наскай газеце.

Дзед адмахнуўся, ляснуў кулясай,
аж пацямнела ў чортавых зрэнках,
і ўпершыню мо
пачуў, як басам
жонка пад бокам зайшлася енкам.

І з той імпрэзы з Боскім спатканнем
жывуць на радасць сабе і людзям:
«Калі ж, мой любы, цябе не стане,
хто ж чорта палкай дубасіць будзе?»



Праца ў Саюзе як лек ад думкі,
пасля ізноў жа — чакала дача,
чэргі па мяса, аж цяклі слінкі…
Зімой, хто з першых, полечку скача.

Кілбасны фактар! Не для прыгонных,
як стрэмка ў воку, вярэдзіў душу
і ў дзевяностых з жуды бяздоннай,
як караедаў, саветаў трушчыў.

Тыя ж не дурні, ураз паліналі,
змянілі скуру на «новых рускіх»,
цяпер адкрыта крадуць, як кралі,
паразумнелі — п'юць без закускі;

з бэбахам згода, што клянчыць подла,
жруць толькі тое, што мае вартасць,
ды на курортах аж пухне морда,
калі пад коптур гарэць у жарсцях.

А ў чынавенства не сохне чэрап
пра хворых дзетак з бацькоўскай ласкі,
што шчыра ў «дозу», бы ў Збаўцу, вераць:
пасля пахмелля спяваюць пташкі.

Гранічыць з пыхай людская беднасць,
трымціць агеньчык пакутнай злосці —
Пярун прачнецца — у трубах медных,
бы ў дзевяностых, а гэта штосьці,

каб на афшорах аглух ад звону
злодзей, што мые злодзею лапу…
А іхні хросны гладзіць Мамону
і патаемна глядзіць на мапу

з райскім куточкам, як Януковіч,
каторы ў падэшве заўважыў дзіркі,
бо так баяўся, што хахол зловіць —
каб пабалакаць без лішняй лірыкі.



Пад зорным небам Панскае ласкі,
калі Ён вучням даў сваю квоту,
як сведчыць з Фары і біскуп наскі,
люд не змяніўся нават на ёту.






нарадзіўся 17 лютага 1939 года ў Гродне. Скончыў Гродзенскі медыцынскі інстытут. Працаваў участковым урачом у прынёманскіх вёсках, пасля анколагам і хірургам у Гродне, хірургам рыбалавецкага флоту Мурманска. Аўтар кніг паэзіі: «Тутэйшы» (2006), «Прыдарожная вярба» (2008), «Вчерашние святыни» (2008), прозы і лірыкі «Ліцвінка» (2015), кнігі роздумаў «Матыў прынёманскіх вятроў» (2016, электр. варыянт: kamunikat). Жыве ў Гродне.

## АЛА НІКІПОРЧЫК



Паэт не патрабуе доўга жыць…
*Алесь Барскі*

і хоць узрост твой
быў не Ісусавы
Вянок твой усё ж быў цярновы

гэта потым будуць крычаць «Асанна!»
і ўзнясуць у вышыні
(як лёгка ўзносіць у вышыні тых
хто ўзнёсся сам)

адзінае чым цешуся Максіме
(даруй мне маё кашчуннае цешанне)
што не напаткаў цябе лёс
Вацлава Ластоўскага
ці Максіма Гарэцкага
любоўю да Айчыны — распятых



Я ж дачка краіны крыжоў…
*Эліза Ажэшка*

я — дачка краіны крыжоў
і кругоў
і крыгаў — Нёманавых
і зёлак — амаль што нябесных
сэрцаў вольных
і доляў цесных
бо інакш
ці стала б я Перамогай



Радзіма мая Радзіма
боль мой адзіны адзіны
боль мой вячэрні
дачэрні

боль мой даччыны
спадчынны
дваццатых—трыццатых
пазнейшых
шматлікіх і розных
да сёння
і сёння
Радзіма мая Радзіма
можа ты болем калі не была
але я не жыла
у Вялікім
Княстве
Літоўскім



…мяне ахінае жаль…
*Алесь Асташонак*

наша чалавечая недасканаласць
прабягае ценем па твары Зямлі
то выпусцяць фразу
як стралу з лука
атручаную зайздрасцю
то вызначаць адлегласць
паміж мной і Богам
не маючы ніякага ўяўлення
аб гэтым вымярэнні
то адкарэктуюць маё разуменне Радзімы
з вышынь камуністычнай ідэалогіі

ахінаю ўсіх сваім жалем
за паўкрока да любові



у апошні дзень восені
снег слабы і растайны
ён не здольны
прыкрыць раны маёй Радзімы
нават на зямлі — разарванай на часткі
а не то што ў небе — распалавіненым
расколатым небе беларускага пісьменства

зіяе чорная бездань
і цяпер для мяне
наяўнасць болю за расколатае неба
адзіны крытэрый вымярэння чалавека
(а былі — іншыя…)



хто ты мая Айчына?
Вялікае Княства Літоўскае…
Северо-Западный край…
kresy wschodnie…
Белая Русь…

гучаць фанфары
падчас здаецца
што могуць засланіць боль

вецер коціць карону Вітаўта
каля Старога замка



ты яшчэ на зямлі
а цябе ўжо ахінаюць райскія спевы
ты то паміраеш
то ўваскрасаеш
то з вачэй пырснуць слёзы-расінкі
то палыхне святлом-зарніцай

з гэтай шчаслівай ірэальнасці
раптам мільгае думка
ах каб было так заўсёды
забыўшыся на тое
што трэба здабыць права
хоць якое тут права! —
Божую літасць — на вечнасць

галасы змяняюцца галасамі
то працяжна-мінорныя — рускія
то глыбінныя
аж да страху — занадта родныя — сербскія
то гартанна-магутныя — армянскія

вяртаючыся дадому — з раю
едучы аўтобусам
зусім нечакана вырашаю
паеду ў Сербію
буду слухаць царкоўныя спевы і народныя песні
буду мецць прадаўжэнне Каложскага благавесту



Откуда такая нежность?
И что с нею делать…
*Марына Цвятаева*

пяшчота
пяшчота
пяшчота
да суму
да скону — пяшчота
нітачка — голас скрыпкі
танюсенькі шлях жыцця
хачу на шырэйшы выйсці
не маю ні веры ні сілы
ў глыбокім палоне-сне
шубертавай санаціны
прысніцца няяўная ява
дзе будзем і ты і я
разам






нарадзілася 11 чэрвеня 1957 года ў вёсцы Капці Дзятлаўскага раёна. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1979). Працавала настаўніцай у школах Мастоўскага і Дзятлаўскага раёнаў, галоўным захавальнікам фондаў музея Максіма Багдановіча ў Гродне, у абласной навуковай бібліятэцы імя Я. Ф. Карскага і інш. Аўтар кніг паэзіі «Сляза і малітва» (2006), «Пад бахаўскую такату дажджу» (2007), «На грани — счастья» (2010) і «Звуком единственным» (2012). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Гродне.

## ЯНКА ТРАЦЯК

### Крыж шасціканцовы

Было гэта даўно, так даўно — згадаць цяжка і ў кнігах,
ды й у кнізе не кожнай праўдзівыя знойдуцца звесткі…
Навалілася знекуль раптоўнае ліха за ліхам —
было гэта — у Полацку,
Вільні,
ці недзе пад Менскам.

Краем тым лютавала й знішчала жывое халера,
і чужынцы чынілі заўсёды разбой адмысловы…
Жыла смерць гэтым краем — людзей забірала без меры…
І паставілі смертныя крыж там шасціканцовы.

Божы знак ратаваў ад чужой і нячыстае сілы…
І моц трацілі прыхадні, зло і варожыя путы.
Шмат чужынцаў знайшлі тут прытулак апошні ў магілах,
Хоць і шмат хто з людзей на крыжы тым быў жорстка распнуты.

Ды народ уцалеў, народ выжыў на радасць, на дзіва.
Крыж той светачам стаў, як свой знак на дарозе крыжовай.
І здавалася, вось закрасуецца родная ніва…
Ды той крыж спілавалі мясцоваму «пану» на дровы…

А хто крыж ратаваў, тых калонай паслалі этапам.
Загучалі паўсюдна чужыя і брыдкія словы…
Зваяваным стаў край, і за веру чужынцам пракляты,
І пячаткаю Юды застаўся на целе Хрыстовым.

Было гэта даўно, так даўно — згадаць цяжка і ў кнігах,
Ды й у кнізе не кожнай праўдзівыя знойдуцца звесткі,
дзе шукаць паратунак?..
За што?..
Як, адкуль пайшло ліха?..
Было гэта — у Полацку,
Гомлі,
Гародні,
у Менску…



Як лямант наш марны ў сваё апраўданне, —
А час такі прыйдзе:
ці позна, ці рана, —
Крануліся гуртам,
з клікам, з жаданнем.
І кожны пакліканы думаў — абраны.

Не кожны пакліканы ведаў, што трэба,
Не кожны абраны — абраў сваё месца.
Не хлебам адзіным…
а з тым, што да хлеба…
І — страцілі рай свой,
а ў пекле — зацесна.

Хвіліны спакусы зямной, несуцешнай,
хвіліны на тэрмін, — хапіла на век нам.
Арэндай нядобрых зямля стала грэшнай…
А страчаны рай Бог пакінуў пад пекла.

І цнотамі сталіся ў скрусе пякельнай
Памкненні не тыя,
падзеі,
жаданні…
Знясіленым дух стаў,
сумневы,
сумленне —
Як лямант наш марны ў сваё апраўданне.



Свет не святы, не бязгрэшны,
Шмат ёсць у свеце правінаў.
Думай дарма сябе цешыў, —
Зло быць не можа прычынай…

Сказана Словам надзённым,
Слова застыла калонай…
Нехта і ў доме казённым
Піша ад Бога каноны.

Воля ж Яго — толькі ў небе —
Тут, на зямлі, не да Бога…

Просім, калі ёсць патрэба,
Молім тады, як трывога.

Думкаю, словам, учынам,
Хто з нас не грэшны, не грэшны…
Божа, даруй нам правіны!
Божа, даруй, хоць бы рэшту!..

## Прафанацыя нацыі

Там, дзе горад над Нёманам,
што не помнікі — ідалы,
там, дзе вуліцы цёмныя,
там марксоідаў прывіды.

Там алеі — магільнікі,
калі горадам крочыш ты
недзе ідалы гінулі, —
а тут, быццам, іх вотчына.

Спарахнелаю порхаўкай
прасавецкага фактару:
толькі вуліцы Горкага,
Камунараў, Даватара.

Ці нічога не мелі мы?..
Не было больш надзённага?..
Толькі энгельсы, леніны,
толькі марксы, будзённыя.

Толькі ідалы з плошчамі,
і слупы вертыкальныя
засталіся тут мошчамі,
хіба, недатыкальнымі.

Ці савецкі адстойнік тут,
ці расейская філія,
ці тут любяць пакойнікаў —
і хвала некрафіліі.

Так на ўсёй тэрыторыі,
правялі «інтэграцыю»,
той найноўшай гісторыі —
прафанацыя нацыі.

## Неран

Як толькі Злыдзень падмяў трон, —
і палі ніц галовы
святых, і тых, хто за Дабро,
і тых, хто любіць Слова!

А як жа быць Дабру са Злом —
Дабро ж не церпіць войнаў?!.
А тут малітвай, ці Псалом,
што пстрычкай, усё роўна…

А Злыдзень б’е ў жыццё ключом
патраваю ці ліхам…
Дабру бы Злыдню — кулаком…
ударыць бы пад дыхла!

Даруйце пару рэзкіх слоў, —
свая ў Дабра метода…
Сядзіць на троне добра Зло
і добра робіць шкоду.

І так пайшло спакон вякоў:
там, дзе Дабра не цэняць, —
спакуса злом стаіць вакол,
гарцуе Зло на сцэне.

Але жыццё — калаварот,
улада ж як блудніца…
Час кінуў Нерана пад плот
аб’едкамі жывіцца.

## Думкі грэшныя…

Палка ёсць, да палкі пернік,
для прыманкі — вабік…
Так і сяк увішны вернік
свой цікуе яблык.

Думкі грэшныя ад блуду,
толькі хто не грэшны…
Быць апошнім кепска ўсюды, —
быць хацеў бы першым.

Так бывае ў нашым краі, —
сонца рэдка блікне.

Кожны быў бы, пэўна, ў раі,
калі б пекла знікла.

Марны лёс, калі бывае —
свет навокал меркне.
Добра, пэўна, быць у раі, —
цягне нешта ў пекла.

Кон бязлітасны над пожняй —
восень шэпча нешта…
Лепш у раі быць апошнім,
чым у пекле — першым…

Што зямное, а што вечна?
Спакушае д'ябла…
Быў бы ў раі чалавеча,
дык аб'еўся б яблык.

Думкі грэшныя ад блуду,
толькі хто — не грэшны?!.
Быць апошнім кепска ўсюды, —
кожны хоча — першым!!

## Дзень народзін

Можа, нехта верыць надта
прымхам і прыкметам:
дзень народзін (што за свята?..) —
радасць з дзён адпетых.

А жыццё як ліст паперы…
Чысты аркуш вобак.
Дзень народзін кропкай мерыш, —
колькі даў Бог кропак?

Недзе свой пакінем след мы
зробленым на разе…
Дзень народзін — непрыкметны
Знак прыпынку ў часе.

## Апошні шлях

Апошні шлях Хрыста гаротны…
Хіба ж людзей не ведаў Ойча?..
Стараўся кожны біць смяротна,
пляваць стараўся ў твар, у вочы.

Сярод жывых — няма апекі.
Слязьмі зіхцелі грозна скалы…
Зямля і Неба — сведкі здзеку…
— Распнуць яго! На крыж! — крычалі.

Сярод людзей — няма прыстойных
у выбары такім няпростым…
І вучні там былі Хрыстовы,
былі браты яго і сёстры…

І так духоўныя калекі
крычаць «распнуць!», як і крычалі…
У чым трагізм Звышчалавека?! —
У тым, што ён быў дасканалым!

## Тутэйшым

I

Хто ён такі — ніхто не ведаў,
Казалі, быў ён тут мудрэйшым.
У спадчыну ад бацькі, дзеда
Ён называў сябе тутэйшым.

А быў калісьці ён ліцвінам,
І ворагаў ён біў заўзята,
І меў магутную краіну
І быў ён супраць здзекаў, гвалту…

II

Дзе ж гонар той і слава?
Недзе
У свеце зніклі задарма…
Як сімвал краю — Страцім Лебедзь!
Дзе той народ — яго няма…

Стагоддзі йдуць — няма збавення
Ад чужакоў і ад жулля…

І кожнае тут пакаленне
Распачынае жыць з нуля.

## Сэнс

Паводле карцін мастакоў эпохі Адраджэння М. Шангаўэра, П’ера дэла Франчэска, Тыцыяна на матывы Уваскрашэнне Ісуса Хрыста

Шукаеш рай…
Свой Дух над краем скуты, —
тут іншы дух…
Над словам родным цэнз…
Дыхнула смерць у твар сваёй атрутай, —
такі наш рай…
Які ж у гэтым сэнс?..

Імгненняў бег —
жыццё, што марны лямант.
Імчыцца ўздоўж стракаты транс-экспрэс…
А ў небе бел-чырвона-белай плямай —
распяты Бог…
Які ж у гэтым сэнс?..

Крычы: «Стоп-кадр!»,
крычы, гукай — пустыня,
адвечны шлях, бяда, гульба, прагрэс…
На волю лёсу Бог народ пакінуў
шукаць свой рай, шукаць той самы сэнс.

А там, а там… гісторыя з працягам…
Душой гібець — няскончаны працэс,
А ў небе з бел-чырвона-белым сцягам —
Жывы Хрыстос…
І ў гэтым, можа, сэнс!

## Паэт

Паэт хацеў здзівіць бел свет —
Пісаў ад самай раніцы…
Чытаў, спяваў, крычаў паэт, —
А свет той не здзіўляецца.

Як ні тасуй калоду слоў,
Як ні збірай па крупіцах, —
Усё ж было, і шмат разоў,
Адно і тое круціцца.

Паэта бачыць у Хрысце
Не кожнаму цярпелася…
І Ён патрэбным быць хацеў,
А людзям не хацелася…

Паэту вынесуць прысуд…
Дарэмна людзі цешацца.
Паэт хацеў палепшыць люд, —
А гэты люд не лепшыца.

Прарокам можа стаць паэт,
Як думкі-словы спраўдзяцца, —
Паэт хацеў паправіць свет, —
А гэты свет не правіцца…






нарадзіўся 17 сакавіка 1956 года ў вёсцы Труханава Смаргонскага раёна. Скончыў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы (1985) і аспірантуру (1997), кандыдат культуралогіі, дацэнт. Аўтар вучэбнага дапаможніка «Біблія ў кантэксце беларускай культуры» (2003), манаграфіі «Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі» (2013), кніг «Партрэты ў інтэр’еры Гародні: пародыі, эпіграмы» (2013), «Саветы» (2015). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве і працуе ў Гродне.

## УЛАДЗІМІР ХІЛЬМАНОВІЧ

*З НІЗКІ «СІНІЯ ВЕРШЫ»*



Лета бывае зрэдзьчасу,
Хочацца быць у пачатку,
Лішнімі ёсць дзеясловы.



Рух — гэта значыць маўчанне,
Словы вісяць павуцінкай,
Дзеўкі прыходзяць знянацку.



Кропля трымціць на лісточку,
Выспелі сёлета слівы,
Ціха спаўзае спакуса.



Марна шукаць бессэнсовасць,
Вецер гартае стагоддзі,
Пішуцца сінія вершы.



Колер хутчэй адчуванне, чым якасць,
Свет падзяліўся на белых і чорных,
Месца няма для маўчання.



Здольнасць — праява сяброўства,
Боль задрамаў на дне чоўна,
Лес задыхаецца ад канфармізму.



Дожджык цяплейшы за шыбу,
Бліснуў прамень успамінаў,
Горкія з ранку каштаны.



Трыпціх — памкненне прыроды,
Восеньскі позірк сірочы,
Шчэміцца жолуд у лісце.



Цешыцца дзень ад пачатку,
Жоўтыя парасткі суму,
Прыйдуць няўмольна дажынкі.



Вечнае толькі расстанне,
Золак шарэе над хатай,
Цёпла — у хлеве ягняці.



Сцішыўся змучаны травень,
Грэбуе вецер насеннем,
Спіць, як змяя, брукаванка.



Цень — гэта лепшая споведзь,
Хрысцяцца вербіны ў рэчцы,
Сніцца ізноў Вечны Горад.



Човен заснуў у чароце,
Снег выдрукоўвае словы,
Хочацца дзічак маленства.



Клён пры дарозе дзяцінства,
Сыплецца рэха, як зерне,
Марна чакаць супадзення.



Эміграцыя кволых пялёсткаў,
Расцярушаны светлыя гукі,
Абрынаецца заўтрашні сорам.



Бразгае гонар, як клямка,
Страх затаіўся ў разоры,
Шэпча за Брамай бясконцасць.



Багна дарэмных спатканняў,
Ветах ахоўвае зоркі,
Жоўкнуць ад суму старонкі.



Зрэбныя ніці кахання,
Як вераб'і пад застрэшкам,
Лашчыцца гурба да плота.



Плойма былых абяцанак,
Выдмы ўчорашніх жарсцяў,
Выжал сумлення скуголіць.



Грэх адлятае ў вырай,
Зімна ў краі знямелым,
Нават адступнікаў шкода.



Журыцца камень пад сонцам,
Кроплі спагады дарунак,
Выпіваю зранку, як трунак.



Воля нам не даецца бясконца,
Шэпат кволы былых стагоддзяў
Выплывае роспачнай лоддзю.



Чэзне абрыс далягляду,
Ластаўкі ніжай паветра,
Коціцца яблык самотна.



Каламутныя вочы маркоты,
Вера ў былыя заслугі
Хіба не блюзнерства?



Сорак вёснаў надзеі,
Памяць гартае стагоддзі,
Крыгі агортваюць бераг.



Кроплі апошняй спагады,
Наша сумленне
Складзена ў тры столкі.



Кволы прамень надвячорка,
Боль слізгануў па мінулым,
Тонкія рысы надзеі.



Вецер,
Нават мурзатыя
Заўсёды анёлкі —
Дзеці.



Рэчы
Старыя, як добра
Было ў дзяцінстве
На печы.



Квецень,
Яшчэ адзін
Травеньскі дзень
Растаў у цень.






нарадзіўся 6 красавіка 1967 года ў мястэчку Каменка Шчучынскага раёна. Скончыў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы (1991). Краязнавец, публіцыст, пісьменнік. Друкаваўся ў газетах «Пагоня», «Ніва», калектыўных зборніках. Аўтар каляндарных даведнікаў і літаратурна-краязнаўчых нарысаў «Беларускае золата» (2014). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве і працуе ў Гродне.



# Проза

## Анатоль Брусевіч

### Сон

*Аповед-эсэ з двума пастскрыптумамі*

Каля нейкай аўдыторыі, куды цэлы час заходзяць людзі, сутыкаюся проста лоб у лоб з… Эдзікам Мазько. Ён — у дарагім гарнітуры, светлай кашулі, весела пасміхаецца. А я слупянею ад нечаканай сустрэчы, ногі робяцца быццам з ваты і ледзьве трымаюць мяне. Эдзіку весела ад маёй збянтэжанасці, а мне не да смеху — уся мая сутнасць перапоўнілася невядома чым: хаосам, які скаваў душу, думкі і цела. Нарэшце Эдзік робіць больш-менш сур'ёзны твар (пры гэтым яго вочы надалей свецяцца весялосцю) і кажа:

— Прывітанне, Толік! Цалкам разумею тваю разгубленасць. Але, як бачыш, я жывы! — Ізноў не вытрымлівае, і на ягоным твар расплываецца ўсмешка, уласцівая толькі яму — крыху іранічная, але цёплая, сяброўская. А я маўчу. Язык не слухае, хоць першапачатковы хаос паціху супакойваецца, набывае пэўныя формы, нават даволі рэчыўныя…

— Слухай, Толік, у мяне вельмі мала часу. Зараз пачнецца лекцыя, і я мушу там абавязкова быць. Можаш у мяне запытацца пра што-небудзь, калі хочаш… Дарэчы, помніш мой верш, прысвечаны Максіму Багдановічу? Багдановічу ён спадабаўся!

Я надалей маўчу. Разумею, што маё маўчанне пачынае выглядаць па-дурному, але язык па-ранейшаму не слухае. Нарэшце я збіраю ўсю сваю волю і выдаю банальную фразу, за якую праз дзве секунды робіцца сорамна:

— Як там, на тым свеце? Пекла і неба ёсць?

— Няма ні пекла, ні неба, — адказвае Эдзік, — гэта ўсё казкі для старых бабулек. Увогуле, няма прынцыповай розніцы паміж светам тваім і маім, тым і гэтым. Яны знаходзяцца побач. Проста я выйшаў з адной аўдыторыі і перайшоў у суседнюю, а ты застаўся там — у першай. Для мяне нічога не змянілася. Мой свет такі ж матэрыяльны, як і твой, толькі матэрыі маюць розную структуру. Неяк вось так… Ну ты разумееш, я ж не фізік, каб усё гэта правільна патлумачыць… Ну, мне пара! Бывай! — і Эдзік працягнуў руку на развітанне. Я моцна пацiснуў далонь сябра, і ён знік за дзвярыма аўдыторыі.

Хвіліну, а можа нават меней, я стаяў у поўнай разгубленасці. Проста выпаў у асадак ад нашай сустрэчы, як любіў у такіх выпадках казаць Эдзік. Падумалася, што трэба было б запытацца пра што іншае, а не пра неба і пекла, але, вядома, слушныя думкі не заўсёды прыходзяць своечасова… Заставалася адно — нахабна зазірнуць у аўдыторыю і выклікаць Мазько… Хаця б на некалькі хвілін… Бо калі яшчэ здарыцца

такая нагода сустрэцца? І я адчыняю аўдыторыю, у якую зайшоў ён, а перад ім некалькі дзясяткаў чалавек… Аўдыторыя аказалася цалкам пустой… У свядомасці раптам паўсталі радкі з Эдзікавага верша, прысвечанага Багдановічу:

шукаючы след у пыле
ты прайшоў гэты свет наскрозь
на пальцах тваіх засыналі гадзіны
а ў вачох —
святло апошняе свечкі

Шэрым калідорам я пасунуўся наперад, шукаючы выйсце, але ўсе дзверы, якія па чарзе адчыняў, адкрывалі перада мной цішыню пустых аўдыторый. Хоць перад гэтым я на ўласныя вочы бачыў, як туды заходзілі людзі, і нават чуў галасы, перш чым дакрануцца да клямкі. Праўда, не было магчыма разабрацца, аб чым там размаўлялі… Затое ў галаве выразна гучалі словы:

ад калыскі да свету — паўкроку
а ад свету к калысцы — жыццё

У самым канцы доўгага калідора натыкаюся на старыя, пашарпаныя крэслы. На крэслах вальготна сядзяць сабе людзі ў гэтакім самым старым, падзёртым, зашмальцаваным адзенні. Людзей было значна больш, чым крэслаў, таму многія прыселі проста на падлогу, некаторыя нават ляжалі, загарнуўшыся ў брудныя лахманы… Усе яны нешта жыва абмяркоўвалі, але як толькі ўбачылі мяне, як адзін, дружна змоўклі. Пасля пачалі шаптацца і паказваць пальцамі ў мой бок. Я хацеў было запытацца пра выйсце з гэтага будынка, але мой язык зноў зрабіўся непаслухмяным: сярод гэтых абадранцаў, у самым цэнтры, на найменш пашарпаным крэсле сядзеў Юра Гумянюк. Праўда, выглядаў ён жахліва: меў падзёрты сіні твар, зарослы неахайнай барадой, патухлыя, пустыя вочы…

— Вось як, Толік, я цяпер жыву. У мяне не хочаш спытацца пра пекла і неба? А я табе так скажу: ёсць і пекла, і неба. Усё ёсць. Ніякія гэта не казкі. Неба — калі ёсць выбар. Пекла — калі выбару няма, — голас Гуменюка дрыжаў, было чутна, з якой цяжкасцю даецца яму кожнае слова. Да таго ж Юра страшэнна шапялявіў, чаго ніколі не было чуваць раней. Увогуле, дыкцыі Гуменюка, яго непаўторнай манеры прамаўляць можна было некалі пазайздросціць — ні адзін з гарадзенскіх паэтаў так хараша, як ён, не дэкламаваў вершы. Раўняцца магла хіба толькі Ала Петрушкевіч. Картавіў праўда, трошкі, але такая акалічнасць падавалася хутчэй дэкаратыўнай аздобай, чым дэфектам. Як быццам бы прачытаўшы мае думкі, Гумянюк раззлавана прашыпеў:

— Паглядзеў бы я на цябе і на тваё вымаўленне, калі б ты ляснуўся з дзявятага паверха! Гэта Эдзіку цяпер добра… Ходзіць у касцюмчыку, у белай кашулі… А я нават з ім размаўляць права не маю… А ён яшчэ будзе казаць, што няма неба і пекла… — на гэтай фразе Юра павярнуўся да мяне спінай, падняў з падлогі нейкія клункі і пакульгаў да нізенькіх дзвярэй, абабітых бруднай, іржавай бляхай (гэтыя дзверы я чамусьці заўважыў толькі цяпер), пхнуў іх нагой і знік за імі. Туды ж накіраваліся і іншыя абадранцы. Калідор апусцеў. Я не ведаў, ці застацца тут, ці падацца следам. Нейкая

сіла як быццам бы трымала мяне, не дазваляла пхнуць іржавыя дзверы, хоць вельмі было мне цікава паглядзець, што там…

І тут я прачнуўся. Да раніцы заставалася гадзіны дзве — у пакоі панаваў паўзмрок, таму рэчы яшчэ не набылі свае звыклыя формы, расплываліся, танчылі дзіўныя, толькі ім зразумелыя танцы… Дзіўны сон… Чаму ён прысніўся? Магчыма, я часцей, чым трэба, думаю пра жыццё і смерць. Але як пра іх не думаць? Яны мне не пакідаюць выбару. Ці ўсё ж пакідаюць? Які выбар мне пакідае жыццё? Нудную працу, шэры колазварот людзей і праблем? Які выбар мне пакідае смерць? Можна, як Юра Гумянюк, залезці на высокі балкон альбо на дах шматпавярховіка і зрабіць крок у пустэчу… Можна абраць іншыя шляхі… Шлях Сяргея Ясеніна і Марыны Цвятаевай, напрыклад…. Страшна… Ці, можа, абраць шлях першага кітайскага паэта?

…Весела. Можа павесіцца?
Можа, ўтапіцца ў Нёмане?
Ці проста ўзяць ды лопнуць
Ад недарэчных packaraў
Тут, у цэнтры Еўропы,
Пад сцягам Мадагаскара…

А можа, падацца следам за Станіславам Віткевічам? Не. Не пераношу выгляд крыві. Асабліва ўласнай…

Файны шлях у Георга Тракля…

Сон і смерць, нібы цёмныя арлы,
Шумяць штоноч над маёй галавой.
Паглынаюць залаты вобраз чалавека
Ледзяныя хвалі вечнасці. Пурпуровая плоць
Разбіваецца аб рыфы страху…

Трохі горшы выбар Стэфана Цвейга… Яшчэ цяжэй пайсці за Уладзімірам Маякоўскім альбо Эрнэстам Хемінгуэем — проста так у краме ні пісталет, ні стрэльбу не купіш… Божа! Што за думкі ў пяць гадзін раніцы!

Мы танцуем вакол кактуса,
Кактуса, кактуса.
Мы танцуем вакол кактуса
У пяць гадзін раніцы.

Паміж ідэяй
І рэальнасцю,
Паміж думкай
І ўчынкам
Кладзецца Цень.

Бо Тваё ёсць Царства.
Паміж зачаццем
І нараджэннем,
Паміж пачуццём

І адказам
Кладзецца Цень.

Жыццё вельмі доўгае.

Танчаць свае пераможныя танцы пустыя людзі Томаса Стэрнза Эліята, паэта, які любіў смерць, але выбраў жыццё. Падобнай любоўю любіў смерць маладзейшы за яго на тры гады Максім Багдановіч… Гэтак любіў смерць Эдзік Мазько…

Хто любіць смерць — выбірае жыццё, хто любіць жыццё — выбірае смерць…

Што выбіраю я? Не ведаю. Я знаходжуся яшчэ там — у доўгім калідоры з мноствам дзвярэй у маўчанне і аднымі ржавымі, нізкімі дзверцамі ў невядомае…

**P. S.** Гэты дзіўны сон прысніўся пад раніцу 12 кастрычніка 2014 года. І я яго пастараўся запісаць, як толькі развіднела: шкада было забыцца на тое, што магло стаць альбо цікавым сюжэтам для апавядання, альбо матэрыялам для эсэ… Аднак не ўсё занатаваў я тады дакладна. Бо рука не паднялася… Карацей, у сне Эдзік Мазько ішоў на адкрытую лекцыю да… Івана Якаўлевіча Лепешава…

«Sen mara — Bóg wiara!» — казала заўсёды святой памяці мая бабця, і я, паўтараючы яе мудрыя словы, на хаду змяняючы праўдзівы сюжэт сну, дабаўляючы свае і чужыя думкі пра хісткую грань паміж быццём і нябытам, напісаў задуманае эсэ… Напісаў даволі хутка, на адным выдыху фактычна… А пазней, пад вечар, уключыў камп’ютар, каб тэкст набраць, а заадно навіны апошнія пачытаць, ды краем вока зірнуць, аб чым там у сацыяльных сетках сябры са знаёмцамі пляткараць… І чытаю ў стужцы Алы Петрушкевіч: «*…не стала нашага Настаўніка, прафесара Івана Якаўлевіча Лепешава*»… Не веру вачам… Адкрываю па чарзе пару сайтаў — там тое самае… Разумею, што сон быў прарочым… Але я не веру ў сны… Але ж…

There are more things in heaven and earth, Horatio,
Than are dreamt of in your philosophy.

**P. P. S.** Вось напісаў гэты «пастскрыптум», а цяпер думаю: ці можна даць веры, што P. S. — не працяг аповеду (плёну аўтарскай фантазіі)… Ці паверaць мне, калі нават я сам не веру сабе?! Наўрад ці. Што ж, як сказаў Заратустра, «*некаторыя душы нельга адчыніць: для гэтага іх трэба спачатку выдумаць*»…






нарадзіўся 28 верасня 1977 года ў Гродне. У 1999 годзе скончыў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы, пасля — магістратуру (2000) і аспірантуру (2003) пры кафедры польскай філалогіі згаданага ўніверсітэта. Абараніў кандыдацкую дысертацыю па творчасці Адама Міцкевіча (2004), прысвоена вучонае званне дацэнта (2007). Аўтар кніг паэзіі «Дуэль» (1992), «Падаю ў неба» (2006), «Апошні дзень» (2013), літаратуразнаўчай працы «Фактары беларускай культуры ў творчасці Адама Міцкевіча» (2008). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве і працуе ў Гродне.

ВАЛЯНЦІН ДУБАТОЎКА

## Крок

Ён стаяў на падаконніку дзясятага паверха дома, у якім пражыў амаль дваццаць гадоў запар. Галаву абцяжарвала толькі адна сумная думка: чаму ўсё так атрымалася? Ён не шкадаваў сябе, ён нават не перажываў за тое, як будзе балюча родным пасля яго заўчаснай смерці. Толькі ўсё тая ж думка, як хвароба, грызла і грызла яго душу: чаму, чаму так атрымалася?! Ён апошні раз зірнуў у неба і без развагаў зрабіў крок насустрач вечнасці…

А пасля на дыване з паламаных кветак, сярод дагледжанай жыхарамі дома клумбы, ляжала без руху цела паэта. Нехта скажа: не вытрымаў суровай рэальнасці. Іншыя будуць разважаць: маўляў, стаміўся жыць. Бо што яшчэ могуць сказаць людзі, якія ведалі яго толькі па яго вершах…

* * *

Алесь Дзяцел стаў наведваць гурток маладых літаратараў пасля таго, як у газеце «Літаратура і мастацтва» з’явілася першая невялічкая нізка яго вершаў. У творчы студэнцкі гурток запісваліся напрыканцы васьмідзясятых амаль што ўсе, хто браўся тады за пяро.

У мінулую пятніцу Алесь атрымаў позву ў міліцыю цэнтральнага раёна сталіцы. Справа датычылася нібыта яго часовай прапіскі. На канверце быў пазначаны канкрэтны адрас. А дзявятай раніцы ён пазваніў у дзверы невялікага трохпавярховага будынка. Масіўныя дзверы са скрыгатаннем адчыніліся, і на парозе з’явіўся мужчына сярэдняга росту ў адпрасаваным чорным касцюме.

— Добры дзень, вам каго? — холадна спытаў ахоўнік.

— Добры дзень, мяне выклікалі, — Алесь падаў позву.

Мужчына ў касцюме ўзяў з рукі Алеся скамечаную паперку і, не звяртаючы ўвагі на тэкст, прапанаваў маладзёну прайсці. Дзяцел прашмыгнуў у прыадчыненыя дзверы і агледзеўся. Усё было як быццам звычайна: шэрыя сцены, высокая столь. Толькі вось чамусьці ў гэтым будынку было вельмі мала народу — як на працоўны час. І надта ж мала святла. Пакуль ахоўнік дзесьці адыходзіў, Алесь пільна вывучаў месца, куды яму давялося трапіць.

— А-а-а, Аляксандр Іванавіч Дзяцел… Чытаў, чытаў вашыя вершы.

Алесь прыжмурыўся. З другога паверха па мураваных сходах ціха, нібыта па паветры, спускаўся лысаваты, густоўна апрануты маладжавы мужчына. Працягваючы насустрач руку, ён з усмешкаю спяшаўся да агаломшанага маладзёна.

— Рады, рады, вельмі рады, — патрасаючы Алесеву руку, шчабятаў незнаёмец.

— Ды я… вось тут… па пашпартных справах, — не ведаючы, як паводзіцца, працадзіў скрозь зубы Дзяцел.

— Ведаю, праходзьце, праходзьце, — лысаваты стаў запрашаць маладзёна прайсці за ім. Алесь, аглядаючыся, амаль навобмацак рухаўся па прыступках. На трэцім паверсе яны звярнулі з лесвіцы і накіраваліся ў канец калідора. Замок клацнуў, і

лысаваты мужчына знік за цяжкімі дубовымі дзвярыма, за ім паспяшаўся і Дзяцел. У кабінеце было таксама цёмна, як і ў калідоры, так што ён зноў прыжмурыўся.

— Аляксандр Іванавіч, у вас што… са зрокам праблемы? — спытаўся ўжо знаёмы голас.

— Ды не, проста мне падалося, што ў вас вельмі слаба асветлены кабінет.

На другім канцы пакоя пстрыкнула настольная лямпа. Святло ад яе ў імгненне запоўніла ўсё памяшканне. І толькі цяпер Дзяцел змог уважліва агледзецца. Высокая, добра пабеленая столь, аздобленая дэкорам, дасканала нацёрты масцікаю дубовы паркет. На вокнах шчыльныя зялёныя, як купарвас, фіранкі. Па́ра драўляных, з высокімі спінкамі крэслаў і масіўны канцылярскі стол пасярэдзіне.

«Хіба гэта не міліцыя?» — прамільгнула ў галаве Алеся думка.

— Вы, Аляксандр Іванавіч, цяпер напружана разважаеце, куды патрапілі? — спытаў, уладкоўваючыся ў адно з крэслаў, лысаваты мужчына.

— Так.

— Ну і якія меркаванні?

— У адным упэўнены: гэта не пашпартная служба.

Незнаёмец усміхнуўся:

— Я ўсім гавару, што гэты малады Дзяцел не дурны хлопец.

— Прабачце, каму гэта ўсім?

— Ну, напрыклад, свайму кіраўніцтву.

— Прабачце, а хто вашыя кіраўнікі?

— Як хто?.. Абласное кіраўніцтва Камітэта дзяржаўнай бяспекі… Дарэчы, старшы лейтэнант Віктар Іванавіч Ільчанка, будзем знаёмыя, — і старлей працягнуў руку.

Але ад такога знаёмства Алесю стала неяк мулка: «Та-ак, зараз распачне вербаваць на службу. Папросіць ахарактарызаваць сяброў… Спытае пра наш гурток… Ён памыляецца… О-о, хрэн яму!»

Алесь прыўзняў падбародак і ўпэўнена зірнуў на гаспадара кабінета. «Ну-у, пачынай», — прашаптаў Дзяцел, але яго субяседнік усё нешта запісваў у нататнік і, здавалася, зусім не звяртаў увагі на свайго госця.

«Давай, пачынай допыт. Ты зараз пабачыш, як трымаецца сапраўдны патрыёт», — шаптаў сабе пад нос маладзён, але лысаваты мужчына, як ні ў чым не бывала, працягваў нешта натаваць.

Алесь згараў ад нецярпення: «Ну, давай, давай», — ужо амаль услых прагаварыў маладзён.

— Вы, Аляксандр Іванавіч, паліце? — спытаўся па-сяброўску гаспадар кабінета.

«Гэта такія іхнія кадэбэшныя штучкі, знаем мы пра іх. Вось я яму зараз…» — падрыхтаваўся Алесь і выдаў:

— Калі вы сабраліся мяне вербаваць, то ў вас нічога не выйдзе!..

Дзяцел смела глядзеў кадэбэшніку ў вочы. Той спакойна скончыў запісваць, адклаў нататнік убок, запаліў цыгарэту і, прагна зацягнуўшыся, вельмі ціха, але ўпэўнена прамовіў:

— А навошта мне вас вербаваць? Я вось зараз нагадаю некаторыя гісторыі з вашага жыцця, і вы, калі я скончу чытаць, самі мяне будзеце ўгаворваць, каб я вас аформіў на службу.

— У вас нічога не атрымаецца, — адрэзаў Дзяцел.

Гаспадар кабінета з жалем паглядзеў на маладзёна, пасля чаго раскрыў шэрую папку і, адкашляўшыся, распачаў:

— Аляксандр Іванавіч Дзяцел нарадзіўся 20 кастрычніка 1968 года ў вёсцы Мошкі, Зэльвенскага раёна, Гродзенскай вобласці. Скончыў Галынкаўскую сярэднюю школу ў 1985 годзе. У тым жа годзе паступіў на філалагічны факультэт БДУ.

Лысаваты перарваўся на хвіліну і, зірнуўшы на маладзёна паверх сваіх пазалочаных акуляраў, перапытаў:

— Усё правільна?

— Я не разумею, і што тут вы знайшлі крымінальнага, — з усмешкай адказаў Дзяцел.

Праз хвіліну старлей са здзекам дабавіў:

— Вось-вось, толькі ў дзяцінстве ў вас, Аляксандр Іванавіч, крыміналу і не было. Хаця-я… Але пагаворым пра сённяшняе ваша жыццё. — Ён перагарнуў некалькі аркушаў і, зноў адкашляўшыся, працягнуў зачытваць: — Студэнт філфака Аляксандр Дзяцел на працягу вучобы ва ўніверсітэце сістэматычна ўдзельнічаў у рабоце антысавецкіх арганізацый і гурткоў.

— Гэта не антысавецкія арганізацыі, а патрыятычныя гурткі, мэта якіх — адраджэнне беларускай мовы і гісторыі, — выпаліў Алесь.

Афіцэр, спакойна перагарнуўшы наступны аркуш, дадаў:

— За гэтую, як вы кажаце, патрыятычную дзейнасць, малады чалавек, вас адлічаць з універсітэта. І вы вернецеся ў свае Мошкі пасвіць кароў.

«Вось пра такі ціск нас і папярэджвалі старэйшыя літаратары, што прайшлі ГУЛАГ», — прамільгнула ў Алесевай галаве думка, і ён імгненна адрэзаў:

— Нічо-ога, усе нашыя знакамітыя паэты пэўны час падпрацоўвалі пастушкамі.

Гаспадар кабінета, не зважаючы на Алеся, гартаў папку.

— А-а, вось, — кадэбэшнік падхапіў нешта з папкі і накіраваўся да маладзёна, — ну, а пра гэта што скажаце, Аляксандр Іванавіч?

Старлей працягнуў Дзятлу некалькі здымкаў. Алесь не паверыў сваім вачам. На іх было выразна відаць, як ён са сваім аднакурснікам Міколам Янушэвічам паліць анашу. У маладзёна перахапіла дух, сэрца ледзь не выскачыла з грудзей. Ён сабраўся, як мог супакоіўся і ўпэўнена прамовіў:

— І што тут крымінальнага? Хлопцы паляць цыгарэты.

Кадэбэшнік засмяяўся.

— Ну вы, Аляксандр Іванавіч, вясёлы чалавек. Нас зусім за дурняў трымаеце?

У гэтую самую хвіліну ён працягнуў маладзёну некалькі занатаваных лісткоў. Алесь чытаў і не верыў сваім вачам. Яго аднакурснік і закадычны сябар Мікола Янушэвіч у дэталях апісваў, як і калі яны разам ужывалі наркотыкі. Не чакаючы, пакуль Дзяцел дачытае, кадэбэшнік вырваў з яго рук паперы, на якіх былі зафіксаваны паказанні Янушэвіча.

— А гэта, Аляксандр Іванавіч, нарката, за ўжыванне і распаўсюд якой — санкцыі сур’ёзныя. А ў вас цяжарная нявеста…

Алесь сапраўды кахаў сваю аднакурсніцу Алёну, і рашэнне нарадзіць дзіця яны прымалі ўзважана, калі ўжо набліжаўся час заканчэння ўніверсітэта.

«Бог ты мой, што ж рабіць?» — Алесь павольна вярнуўся да стала і прысеў на крэсла.

Старлей адчуваў, як хвалюецца маладзён.

— Моцна кахаеш яе? — амаль па-бацькоўску спытаўся ён.

У адказ Алесь, пагаджаючыся, кіўнуў галавой.

— Ай-я-яй. Калі вас, Аляксандр Іванавіч, пасадзяць, куды яна з малым? — паспачуваў старлей. — Нават уявіць цяжка….

У хлопца трэсліся рукі, шумела ў галаве: «Як жа я так мог пракалоцца! А як жа Алёна, а дзіця?..»

Кадэбэшнік затушыў недапалак, выцягнуў нейкі лісток са стала і працягнуў яго Алесю.

— Што гэта? — насцярожыўся той.

— Наша з вамі дамова. Мы абяцаем забыцца пра ўсе згаданыя вышэй парушэнні. А вы, Дзяцел, пачынаеце па-сапраўднаму служыць сваёй Айчыне.

— Якое служэнне, вы ж мяне сексотам хочаце зрабіць…

— Ну, па-першае, не сексотам, а супрацоўнікам, а па-другое, калі вы памятаеце, і пісьменнік-дэмакрат Грыбаедаў быў службоўцам галоўнага жандарскага ўпраўлення, і ваш зямляк, даследчык Цэнтральнай Азіі, таксама служыў у разведцы.

— Мне трэба падумаць, — адрэзаў Дзяцел.

Гаспадар кабінета, як быццам не пачуўшы сказанага, падняўся з крэсла, узяў асадку і падышоў да Алеся.

— Аляксандр Іванавіч, за дзвярыма вартавы. Ці вы тэрмінова падпісваеце гэтую паперу, ці… — ён развёў рукі ў бакі, — турма.

У кабінеце запанавала цішыня. Праз хвіліну старлей у чарговы раз паціснуў плячыма:

— Вам жыць. Сяржант, зайдзі! — скамандаваў гаспадар кабінета, пачуўся шум за дзвярыма.

— Ну добра, добра, — амаль закрычаў Дзяцел. Рука дрыжала і неяк сама па сабе стала выводзіць подпіс. Недзе глыбока ў душы ён пратэставаў, не пагаджаўся, а рука ўсё ж не спынялася. Як толькі ён паставіў подпіс, афіцэр тут жа прыбраў падпісаную дамову, акуратна паклаўшы яе ў тую ж шэрую папку, а тады дадаў:

— Во-ось. І яшчэ… я забыўся вам сказаць, Аляксандр Іванавіч, што вы за сваю дзейнасць, як і прынята ў нас, будзеце кожны месяц атрымліваць заработную плату. Гэта для маладога жанатага чалавека неблагая падпітка. Ці не так?

Але Алесь ужо нічога не чуў, ён, як зачараваны, падняўся з крэсла і рушыў да дзвярэй.

— Не забудзьцеся, Аляксандр Іванавіч, мы сустракаемся з вамі напрыканцы кожнага тыдня, — наўздагон крыкнуў старлей.

А Дзяцел ужо ні на што не звяртаў увагі. Ён моўчкі выйшаў з кабінета, а потым і з будынка — з адзінай думкай у галаве: «Як я мог?!» Яму было брыдка за сябе. Успомнілася, як ён асуджаў тых, хто здрадзіў вялікай ідэі адраджэння і пачаў служыць рэжыму… «А тут сам, сам пайшоў на супрацоўніцтва. Не-е, зараз вярнуся і разарву гэтую смярдзючую дамову». У нейкую хвіліну цяжкая туга адступіла, ён бадзёра развярнуўся і, высока падняўшы галаву, рушыў у адваротным накірунку: «Та-ак, зайду ў іх смярдзючы склеп і скажу гэтаму сабаку ўсё, што я пра яго думаю, і хай будзе, што будзе». Але з кожным наступным крокам упэўненасць недзе знікала. Калі ён раптам

аказаўся каля знаёмых яму дзвярэй, упэўненасць зусім знікла. Ён павярнуўся і хутка рушыў прэч ад збрыдлага будынка.

«Я, Аляксандр Іванавіч Дзяцел, даю згоду на супрацоўніцтва…» — старлей Віктар Ільчанка спакойна расправіў скамечаны перапалоханым маладзёнам аркуш, закрыў папку і, расшпіліўшы пінжак, па-гаспадарску разваліўся ў крэсле. Думкі ішлі няспешна і звыкла: «А то зацягнуў песню: не бу-уду, не прыму-усіце… Ды хто ж цябе будзе прымушаць! Такіх, як ты, «патрыётаў» у мяне з дзясятак набярэцца. І хоць бы хто не пагадзіўся. А-а!» Ільчанка, шукаючы нешта вачыма, акінуў поглядам свой кабінет: «Трэба выпіць кавы». Ён бадзёра падняўся з крэсла і ўключыў электрачайнік. У яго не было ні спачування да гэтага маладзёна, якому ён пэўна што зламаў лёс, ні пагарды да сябе самога. Ён проста рабіў справу, якую лічыў вельмі важнай як для сябе, так і для сваёй вялікай краіны. Бо калі б не яго праца, не праца такіх жа, як ён, адданых службістаў, дык што сталася б з нашым вялікім Савецкім Саюзам…

* * *

У прасторным кабінеце на трэцім паверсе шэрага трохпавярховага будынка сталіцы, згорбіўшыся над сталом, сядзеў амаль зусім лысы чалавек гадоў пяцідзесяці — маёр КДБ Віктар Ільчанка. Ён паціху пацягваў гарачую гарбату і гартаў справу свайго даўняга агента — паэта-патрыёта Алеся Дзятла. Той мусіў неўзабаве да яго зайсці. Успомніліся былыя слаўныя часы, калі ён быў яшчэ маладым перспектыўным афіцэрам, якога вось-вось мусілі перавесці на павышэнне ў Маскву, у горад мараў і вялікіх перспектыў. Ад той пары мінула амаль дваццаць гадоў. Скулы на твары пажылога маёра загойсалі, як жаўлакі. Вочы злосна прыжмурыліся: «Гэта ўсё яны, гэтыя смярдзючыя інтэлігенты-інтэлектуалы!» Ён злосным поглядам акінуў свой кабінет: «Якая брыдоціна!» Усё той жа невыносны шэры кабінет. Смярдзючыя, спітыя дарэшты агенты. І няўмольна надыходзіць пенсія. Чаму ўсё так здарылася? Бязвольнае кіраўніцтва і замежныя ворагі развалілі вялікую краіну, дзе яго, адукаванага маладога працаголіка насамрэч чакаў поспех: «Усё яны, гэтыя фанабэрыстыя пісакі, гісторыкі, вучоныя. Яны вінаватыя, што мары не здзейсніліся. Свалата, падлюкі!»…

Ільчанка ўскочыў з крэсла і рушыў да акна. Па гарадскіх вуліцах гойсалі іншамаркі, кудысьці спяшаліся мінакі. Ён у чарговы раз глытнуў гарбаты. У гэтую хвіліну пачуўся стук у дзверы. Хуценька вярнуўся на месца, сабраў паперы, раскіданыя па стале, і закінуў іх у папку.

— Заходзьце!

Дзверы павольна адчыніліся, і ў кабінет уваліўся спіты непаголены чалавек, апрануты ў брудны, старога пакрою касцюм, якія насілі студэнты напрыканцы васьмідзясятых.

— А-а, гэта ты, Дзяцел… Ізноў напіўся. Болей грошай не атрымаеш, — адрэзаў Ільчанка.

Чалавек у брудным касцюме хутка рушыў да стала:

— Ты, сука, мне сёння ў два разы больш нальеш.

— За што гэта?

— А ты што, не ведаеш, што сярод тых, каго ўзялі ўчора на плошчы, быў мой сын?

— А пры чым тут я? Гэта ж ты мне іх здаў, — са здзекам вымавіў маёр.

— Я ж цябе папярэджваў! Папярэджваў, каб майго хлопца пакінулі на волі, у яго ж дзяржаўны экзамен праз тыдзень!

Ільчанка заўважыў, з якой злосцю глядзіць на яго гэты чалавек. Ён падняўся з крэсла і падышоў да Дзятла:

— Ну, ну-у, чаго ты, Аляксандр Іванавіч, чаго ты… вось, прысядзь на крэсла.

Дзяцел павярнуўся да яго тварам:

— Віктар, дапамажы майму хлопцу, я цябе ад усёй душы прашу.

Ільчанка пакасіўся на прамоўцу. На яго глядзелі запоўненыя слязьмі змучаныя вочы няшчаснага чалавека. Маёр хутка вярнуўся да стала і разгарнуў папку.

— Ну вось глядзі, Аляксандр Іванавіч. Сын твой — адзін з самых актыўных пратэстоўцаў, арганізатар шэсця, гарланіў «Жыве Беларусь», аказваў супраціў АМАПу. Не-е, ён рэальна сядзе…

— Дык што ж рабіць? — з адчаем прашаптаў Дзяцел.

Ільчанка ўсім сваім выглядам паказваў, быццам ён думае, як дапамагчы хлопцу. І тут раптам амаль падскочыў:

— Слухай, Аляксандр Іванавіч. Я вось дам каманду — і твайго хлопца сёння ж выпусцяць…

Пры гэтых словах на заплаканым твары Дзятла з’явілася стрыманая ўсмешка, а яго субяседнік працягваў:

— Але ты, Аляксандр, пагаворыш з сынам, каб ён пайшоў з намі на супрацоўніцтва.

Твар агента пасур’ёзнеў:

— Ты што, Віктар, ён жа не такі, як я. Ён не пагодзіцца ні за што на свеце!

Кадэбэшнік з’едліва ўсміхнуўся:

— Я ў гэтым кабінеце нешта падобнае ўжо чуў гадоў дваццаць таму.

— Ён не такі, як я, табе не ўдасца яго зламаць! — амаль выкрыкнуў Дзяцел.

«Ты паглянь на яго, ажыў», — прамільгнула ў галаве Ільчанкі думка. Ён у чарговы раз з’едліва ўсміхнуўся:

— Значыць, давядзецца распавесці яму і яго сябрам, хто яго бацька.

— Не смей, не сме-е-ей! — закрычаў на ўвесь кабінет Дзяцел.

Ільчанка падняў слухаўку тэлефона і нешта сказаў. Праз хвіліну дзверы адчыніліся, і ў кабінеце з’явіўся дзяжурны.

— Выклікалі, таварыш маёр?

— Так.

— Слухаю вас.

— Вось бачыш гэтае ванючае г…

— Так.

— Выкінь з кабінета.

— Ёсць.

— У цябе нічога не атрымаецца! У цябе нічога не атрымаецца! — адчайна гарланіў Дзяцел.

Дзверы зачыніліся. Ільчанка хуценька ўхапіў са стала сурвэтку і стаў выціраць крэсла, на якім сядзеў няшчасны паэт: «Ён не такі, ён не такі… Чулі мы гэта не адзін раз». Ільчанка выкінуў у сметніцу сурвэтку і выцягнуў з кішэні насоўку, якой стаў старанна

выціраць рукі: «Усе вы аднолькавыя, вы і дзеці вашыя. І нікуды вам ад нас не дзецца».

Алесь ішоў па горадзе, і яго галаву не пакідалі страшныя думкі пра тое, як ён падвёў сына: «Я мушу дапамагчы яму. Гэта я вінаваты, што ён у турме. А Ільчанка, паскуда, думае, што ўсе такія, як я…»

Дзяцел зайшоў у дом, у якім жыў амаль дваццаць гадоў. Вось ужо і кватэра, рука пацягнулася ў кішэню па ключы: «Не-е, і што я скажу жонцы? А сыну, калі выйдзе з вязніцы? Не, не, не…»

Ён рушыў па сходах прэч. Ногі панеслі наверх. Мінуў адзін паверх, потым наступны, потым яшчэ і яшчэ. Алесь адчуваў лёгкасць. Сэрца радасна трымцела ў грудзях. Першы раз за апошнія дваццаць гадоў ён добра ведаў, што мусіць зрабіць: «Та-ак. Я не дам ім, не дазволю зламаць яго!»

Выбар быў вызначаны. І гэты крок ён мусіў зрабіць сам…

## Дождж

Дождж ліў некалькі дзён запар. Іншы раз здавалася, што сонца ўжо назаўсёды пакінула гэты прамоклы дарэшты горад.

Таўканіца панура глядзеў у бруднае акно. Такую ж непагадзь Уладзь перажываў дваццаць гадоў таму.

Выдаўшы жахлівы скрыгат, праваруч Таўканіцы адчыніліся разрэйпаныя дзверы, і з кабінета ў перапоўнены людзьмі калідор выйшаў хударлявы, высокі міліцыянт сярэдніх гадоў.

— Таўканіца? — галёкнуў ён.

— Ёсць, — адазваўся Уладзь і абазначыў сябе паднятай рукой.

— Заходзьце, — суха прамовіў афіцэр, закрываючы за сабой дзверы кабінета. Праз хвіліну за ім зайшоў запрошаны.

— Сядайце, — міліцыянт паказаў рукой на крэсла насупраць сябе. Таўканіца моўчкі прысеў.

— Дык вось, Уладзімір Уладзіміравіч, — распачаў размову следчы, выцягваючы са стала папку. Да мяне ўчора прыходзілі з аблвыканкама, — ён шпурнуў папку на стол і рашуча накіраваўся да Таўканіцы. — Я і сам разумею значэнне вашага прадпрыемства для нашага горада. Але ў дадзенай справе настолькі ўсё проста, што мая дапамога наўрад ці спатрэбіцца. Я лічу, што тут і на адваката траціць сродкі не мае сэнсу, — следчы вярнуўся да стала і раскрыў папку. — Вось, глядзіце, Уладзімір Уладзіміравіч, ужыванне, продаж, захаванне… — афіцэр развёў рукі ў бакі.

— І колькі яму свеціць? — апусціўшы галаву, ледзь чутна спытаўся Таўканіца. Капітан крыху падумаў, нібыта нешта падлічваў. А праз хвіліну пацікавіўся:

— У вашага сына якая будзе судзімасць?

— Трэцяя ўжо.

— І ўсё за наркотыкі?

Таўканіца, пагаджаючыся, хітнуў галавой.

— Значыць, менш за пятнаццаць не атрымае, — супакоіў афіцэр.

— Ён адтуль ужо можа і не выйсці, — ціха, нібыта толькі для сябе, прамовіў Таўканіца.

Следчы зноў развёў рукі.

Адзіны сын самага паспяховага прадпрымальніка горада будзе асуджаны за наркотыкі. Ганьба. Бацька зрабіў у гэтай сітуацыі ўсё, што змог. Паразважаўшы, Таўканіца падняўся, падзякаваў афіцэру за спрыянне і накіраваўся да выхаду.

Халодны восеньскі дождж не пераставаў ліць. Здавалася, горад вось-вось патоне ў гэтым акіяне вады. Але Таўканіца не звяртаў увагі на тое, што тварылася навокал. Ён сядзеў у сваім джыпе і неадрыўна глядзеў, як па вільготнай шыбе сцякалі кроплі дажджу. Сцякалі, быццам слёзы па шчоках…

Ужо пяцьдзясят, ёсць грошы, прыбытковы бізнес, павага ўладаў і суседзяў, а вось шчасця… Жонка сышла яшчэ пяць гадоў таму. Новая сям’я не склалася. Мінулай восенню давялося вельмі сур’ёзна лячыць сэрца. А тут вось сын, адзіны спадкаемец нажытага, трапіў за краты. Штосьці ў жыцці пайшло не так, як павінна было быць…

Разважанні перарваў званок мабільніка.

— Слухаю.

— Алё, алё?

— Гаварыце, Таўканіца на сувязі.

— Уладзімір Уладзіміравіч, вас турбуе суседка вашага бацькі.

— Так, так, Вольга, слухаю, — у трубцы замаўчалі.

— Вольга, кажыце, — расхваляваўшыся, закрычаў Уладзь. — Што з бацькам?

— Уладзімір Уладзіміравіч, трымайцеся, сённяшняй ноччу ваш бацька памёр…

Народу на кладах сабралася не дужа, таму пахаванне прайшло хутка. На вячэры прысутнічалі толькі самыя блізкія сваякі і суседзі нябожчыка. Уладзь бессэнсоўна блукаў па пакоях, дзе па кутках таілася яго так даўно мінулае дзяцінства. Ён не звяртаў увагі ні на жанчын, што накрывалі стол, ні на іншых прысутных. Успаміны балюча ранілі сэрца. Раз-пораз усплывалі ў памяці шчаслівыя моманты з тых часоў, калі была яшчэ жывая маці. Пасля сённяшняга пахавання бацькі з роднай хатай болей нічога не лучыла. Ён думаў аб тым, што ў гэтым доме не будзе болей шчаслівы. Успаміны перарвала памінальная малітва, якую зацягнула пажылая суседка. Калі, памаліўшыся, прысутныя селі за стол, Таўканіца падышоў. Есці не хацелася. Ён уладкаваўся на ўскрайку і, як зачараваны, аглядаў асіроцелую хату.

— Уладзё, трэба перакусіць, — прагучаў чыйсьці грубы, пракураны голас. Таўканіца павярнуў галаву. Крышку наводдаль ад яго сядзеў пажылы сівы мужчына з келіхам у руцэ.

— Ды не-е, штосьці не хочацца… А вы закусвайце, дзядзька Стась.

Сусед нібыта толькі і чакаў запрашэння. Ён кіўнуў галавой у знак згоды, а пасля, не марудзячы, перакуліў келіх. Таўканіца падсеў бліжэй да яго.

— Ну і правільна, чаго аднаму сумаваць, — адгукнуўся, даядаючы агурок, дзядзька Стась. — У такія хвіліны чалавек мусіць людзей трымацца. Ён не павінен заставацца адзін на адзін са сваім горам.

— А-а-а, давайце, дзядзька Стась, за бацьку вып’ем.

— За такога чалавека варта выпіць. Налівай!

Таўканіца падхапіў пляшку і напоўніў келіхі.

Мужчыны не стукаючыся выпілі.

Ухапіўшы тое-сёе са стала, Уладзь звярнуўся да пажылога суседа.

— Дзядзька, паслухайце, сёння, калі ехалі з могілкаў, бачыў, як міліцыянты каля кавярні грузілі нейкага п’яніцу. Не пазнаў, хто там быў.

Стары задумаўся.

— А-а-а, гэта ж Гарвацэвічаў Алег…

— Няўжо Дроба? — амаль закрычаў Таўканіца.

— Дроба! Ё-он. Выйшаў нядаўна з турмы — і адразу ў гарадку стала так, быццам у вулей трапіла аса.

— А даўно вызваліўся?

— Апошні раз тыдні два назад.

— А што, былі іншыя разы?

— Дык, як сеў тады, у пачатку дзевяностых, з таго разу дахаты прыходзіў, як кажуць, толькі пераапрануцца.

— Няўжо?

— Ну, канечне… Прыйдзе з турмы, украдзе штосьці — і зноў на казённую куццю. Вось так…

Вячэра неўзабаве скончылася. У пустой хаце Таўканіца застаўся адзін. З галавы ніяк не выходзіла апошняя размова з дзядзькам Стасем. Штохвіліну перад вачыма паўставаў перакошаны твар Гарвацэвіча і яго пустыя, злосныя вочы. Заснуць не ўдавалася, і Уладзь аддаўся ўспамінам…

Ішоў тысяча дзевяцьсот дзевяноста другі год. Таўканіца разам са сваім сябрам Міколам Іскрам вярнуўся з войска. Краіна, якую яны пакінулі два гады таму, загінула ў жэрле халоднай вайны. Камуністычныя ідэі, якія прапагандавалі сацыяльную справядлівасць, цяпер, у час разбурэння вялікай імперыі, сталі абуджаць у збяднелых месцічаў раздражненне, а ў некаторых нават агрэсію. Прыйшоў час жорсткіх людзей, для якіх мае кошт толькі атрыманы прыбытак. Словы «сумленнасць», «дабрыня» страцілі сэнс. Зладзеі ды бандыты сталі соллю зямлі.

Таўканіца і Іскра адразу ўцямілі, што час рашучых дзеянняў, каб неўзабаве пакінуць гэты забіты, правінцыйны гарадок, наспеў. Яны, не марудзячы, перавяліся на завочнае аддзяленне ў сваім тэхнікуме, дзе вучыліся яшчэ да войска. Вярнуўшыся дадому, адразу ўзяліся за справу. Крадзяжы, рэкет, збіццё багатых гараджан, якія падняліся падчас перабудовы, запоўнілі міліцэйскія справаздачы. Маладых цынікаў нішто не магло стрымаць. Рос аўтарытэт маладых бандытаў сярод мясцовай моладзі. Рамантычнае жыццё павятовых робін гудаў вабіла і маладых дзяўчат, і падлеткаў, якія прагнулі подзвігаў. Толькі крымінальнікі займацца бандытызмам усё жыццё не збіраліся. Грошы зарабляліся, паспяхова наспяваў час легалізаваць прыбыткі…

Уладзь сядзеў у кавярні і піў каву. Звонку пачуўся гул аўто. Ён выглянуў у акно. Каля блакітных «Жыгулёў» восьмай мадэлі стаялі два чалавекі. Першага Таўканіца пазнаў адразу, гэта быў яго сябар Мікола Іскра. Другі быў значна маладзейшы. Уладзь прыгледзеўся.

— Едры тваю маць — Дроба.

Іскра ўвесь час махаў рукамі і раз за разам па-сяброўску стукаў свайго суразмоўцу па плячах. Той задаволена ўсміхаўся. Прайшло яшчэ некалькі хвілін, і Уладзь заўважыў, як падшпарак сарваўся з месца і знік. Праз хвіліну калега Таўканіцы зайшоў у кавярню.

— Здарова! — Іскра працягнуў руку.

— Прывітанне, — Таўканіца зрабіў тое самае. — Слухай, Іскра, навошта ты гэтага недапалка падцягваеш? Каву будзеш?

— Ды не-е, ты лепш паслухай, што я прыдумаў, — Іскра падхапіў крэсла і падсеў бліжэй да кампаньёна. — Уладзь, сачы за думкай. На рынак запускаем Дробу. Самі рухаемся на належнай адлегласці за ім. Па ходу вызначаем кліента. Дроба па нашай камандзе вырывае ў лоха сумку альбо механую шапку — і тут жа на пяту. Мы яго прыкрываем са спіны. Пакуль пацярпелы апамятаецца, Дробы і след прастыў.

— А калі-і…

— Ты хочаш сказаць, калі яго бяруць мянты?

— Так! — выпаліў Уладзь.

— А мы пры чым? Гэта ж ён злодзей? — Іскра зарагатаў. — Ну як?

Таўканіца, паразважаўшы, пацiснуў плячыма:

— Ды як быццам усё прадумана дасканала. Але ж ты паслухай, Мікола, малады Дроба яшчэ.

— Ну і хрэн з ім. Праходу не дае. Вазьміце на справу ды вазьміце. Ну вось табе і справа…

Цягнуць доўга не сталі, план Іскры спраўдзілі праз пару дзён. Усё прайшло як па нотах.

Дроба, выкарыстаўшы момант, сцягнуў з нейкай грузнай жанчыны пясцовую шапку, скочыў праз агароджу і быў такі. На цётчын крык пакуль набеглі міліцыянты — злодзея і след прастыў.

І ўсё праходзіла на ўра. Але тут прыспеў час старэйшым сябрам ад’язджаць. Удалая крымінальная шайка павінна была скончыць сваё існаванне. Сябры ад’ехалі на вучобу, а Дроба застаўся ў гарадку. Ён вучыўся ў восьмым класе мясцовай школы. Праз пару месяцаў да Таўканіцы дайшла звестка з гарадка, што іх выхаванца ўзялі на гарачым…

Уладзь прыехаў да бацькоў пад вечар, каб яго ў гарадку бачыла як мага меней народу. Ліў страшэнны дождж. Ён збочыў наводдаль бацькавай хаты, прыглушыўшы аўто, рушыў праз вуліцу. І раптам невядома адкуль з’явілася маці Алега Гарвацэвіча. Таўканіца ад нечаканасці ажно атарапеў:

— Цьфу ты, ну вы, цётка, і даяце.

— Уладзё, калі ласка, дапамажыце Алегу, — жанчына, склаўшы рукі на грудзях, з надзеяй заглядала ў вочы Таўканіцы. Апошні рухаўся моўчкі.

— Уладзечка, ён жа так на вас спадзяецца, — жанчына выцірала слёзы і не адводзіла ад яго вачэй. Той крочыў, не звяртаючы на Дробаву маці ніякай увагі.

— Малю цябе, Уладзё, дапамажы!..

— І колькі грошай вашаму прыдурку трэба? — абыякава адрэзаў малады бандыт.

— Толькі на адваката, толькі на адваката, болей ні капейкі.

— Ну дык колькі?

— Ну, можа, тысячу? — ціха, баючыся адмоўнага адказу, прашаптала цётка.

— Ко-олькі? Тысячу? Цётка, ідзі ты на… — Таўканіца адарваўся ад няшчаснай жанчыны і зайшоў на падворак бацькавай хаты. Жанчына пасля апошніх слоў маладога цыніка застыла на месцы.

— Уладзё, Уладзё!

— Дастала! Н-у-у?

— Усё, што вы зрабілі майму сыночку, яшчэ адгукнецца вам. Яшчэ ўспоміш мае словы.

— Пайшла адсюль, старая! — Таўканіца грэбліва плюнуў сабе пад ногі. І, як ні ў чым ні бывала, зайшоў у хату. З вуліцы данёсся адчайны крык жанчыны:

— Яшчэ ўспомніш, яшчэ ўспомніш!

Праз месяц у гарадскім судзе адбыўся працэс па справе Алега Гарвацэвіча. Падлетку далі чатыры гады калоніі. Але старэйшых калегаў Дроба не здаў…

Таўканіца не спаў усю ноч. На раніцы, як толькі пасвятлела, ён заскочыў у сваё дарагое аўто і накіраваўся ў мясцовы аддзел міліцыі. Праз нейкі час ён ужо сядзеў у кабінеце тамтэйшага начальніка.

— Паважаны Уладзімір Уладзіміравіч, нашто вам здаўся гэты п’янчуга? Вось праз месяц адбудзецца суд — і пойдзе Дроба па этапе, — і на шырокім, багата аздобленым вяснушкамі твары міліцыянта з’явілася з’едлівая ўсмешка.

Таўканіца тут жа зрабіў выснову: «Пара» і, не марудзячы, паклаў на стол перад гаспадаром кабінета пачак «зялёных». У адну хвіліну твар начальніка міліцыі змяніўся. Ён хаатычна пачаў зграбаць даляры ў шуфляду стала.

— Я думаю, што Гарвацэвіча вы можаце забраць зараз жа, — ён захлопнуў шуфляду і тут жа набраў тэлефон дзяжурнага. Таўканіца падняўся з крэсла і падаў руку рыжавалосаму начальніку. Той падскочыў з месца і працягнуў руку насустрач:

— Уладзімір Уладзіміравіч, мы заўсёды да вашых паслугаў.

— Хоць бы адзін адмовіўся…

— Вы штосьці сказалі, Уладзімір Уладзіміравіч? — прашчабятаў міліцыянт.

— Не, не, таварыш падпалкоўнік, усё нармальна. Вы, калі ласка, скажыце вызваленаму, што яго чакаюць каля ўвахода.

— А-а, канечне, канечне, хуценька аформім паперы — і ён вольны.

Уладзь паліў на прыступках каля ўвахода ў будынак РАУСа. Дождж то заціхаў, то браўся з новай сілай. За апошнія дні дождж стаў часткай Уладзевага жыцця.

Дзверы райаддзела адчыніліся, і на парозе з’явіўся хударлявы, амаль лысы мужчына сярэдніх гадоў

— Прывітанне, Алег, — Уладзь працягнуў руку.

— А-а-а, бі-і-ізне-есмен Таўканіца, — збыткуючы, прамармытаў Дроба і, не вітаючыся, прайшоў побач.

— Алег, пачакай! — наўздагон крыкнуў Уладзь.

Дроба быццам нічога не чуў, і Таўканіца хутка рушыў за ім.

— Алег, пачакай, давай паразмаўляем.

Апошні моўчкі рухаўся, не звяртаючы ніякай увагі на Таўканіцу. Уладзь падбег да яго і пацягнуў за рукаў:

— Ты чуеш, я ж да цябе звяртаюся!

— Адпусці руку, с-сука! — на перакошаным твары Гарвацэвіча з’явіўся звярыны аскал. — Ну-у, каму кажу!

Таўканіца апусціў руку.

— Вось так.

— Алег, паразмаўляць трэба, — жалобна прашаптаў Уладзь.

Раптам Гарвацэвіч развярнуўся і рушыў да Таўканіцы.

— Паразмаўляць так паразмаўляць, ну, дзе тут твая крутая тачка?.

— Ды вунь, каля аддзела стаіць, — ушчэнт разгубіўшыся, прамармытаў Таўканіца.

— Ну, канечне, каля аўто начальніка, — Гарвацэвіч зноў з’едліва ўсміхнуўся.

Аўто выруліла са стаянкі на вузкую вуліцу і прыбавіла хуткасці. Уладзь не ведаў, з чаго пачаць размову.

— Ну, як жывеш, Алег?

— Ты што, не бачыш? — працадзіў праз зубы Дроба.

— А-а, а як маці?

— Маці? Маці памерла яшчэ ў дзевяностых. Ты што, не ведаеш? — Гарвацэвіч пакасіўся на кіроўцу.

Таўканіца і сапраўды не ведаў, што маці Дробы памерла.

— Канечне, куды табе. Ты ж у нас бі-ізне-есмен. Ну добра, чаго хацеў сказаць… гавары — і разбегліся.

— Слухай, Алег, ту-ут… — Таўканіца працягнуў апошняму тысячу даляраў. Гарвацэвіч абыякава зірнуў на грошы, потым на Таўканіцу.

— Чаго ты, Алег, бяры?

— Прыпыні аўто!

Уладзь націснуў на тармазы. Гарвацэвіч адчыніў дзверы.

— Знаеш што, бі-ізне-есмен, засунь ты іх сабе знаеш куды? — Гарвацэвіч выйшаў з аўто і з усяго маху ляснуў дзвярыма.

— Алег, я хацеў… я хацеў… — Таўканіца не ведаў, што сказаць. Ён моўчкі глядзеў услед Гарвацэвічу, аж пакуль той не схаваўся ў дажджы…

Аўто выруліла на дарогу, якая вяла ў сталіцу. Святло фар ледзьве прабівалася праз сцяну ліўню. Іншы раз здавалася, што надышоў сапраўдны канец свету.

Таўканіца вяртаўся дадому, назаўсёды пакідаючы ў гарадку асірацелую бацькоўскую хату, сваё даўно мінулае юнацтва і гэты бясконцы халодны дождж…



нарадзіўся 20 ліпеня 1963 ў вёсцы Александрыя Зэльвенскага раёна. Як мецэнат фундаваў кнігі: факсімільнае выданне Ларысы Геніюш «Ад родных ніў», Міхася Скоблы «Розгі ў розніцу», Юркі Голуба «Багра» ды інш. Выступаў як аўтар тэкстаў песень для гродзенскіх музычных калектываў. Проза і вершы публікаваліся ў «Гродзенскай праўдзе», «Дзелавой газеце», часопісах «Роднае Слова», «Дзеяслоў». Выдаў кнігу даследаванняў і вершаў «Архіпелаг Сапегаў», кнігі прозы «Чорная Воля» (2013), «Чужы» (2017). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Гродне.



МІХАСЬ ЗІЗЮК

## Цёплае мора, гарачы пясок

*Апавяданне*

1

Страх і здранцвенне… Не, спачатку гарачым цяжарам навалілася здрадніцкае здранцвенне, а потым прыйшоў страх, які зрабіў яе нежывой, скаваў рукі і ногі. Яна спрабавала паварушыцца хоць крышачку, хоць адным пальчыкам — усё марна. Адчуванне бездапаможнасці, поўнай нерухомасці страшэнна напалохала яе, прымусіла шукаць нейкай дапамогі. Але і вочы, і язык адмовіліся падпарадкоўвацца. Цемра і невядомасць — усё, што засталося з ёю. Хацела закрычаць. Не атрымалася, як бы хто загадаў: ляжы моўчкі і чакай непазбежнага фіналу. З апошніх сіл яна паспрабавала крыкнуць: людзі, дапамажыце! Здавалася вось-вось пераадолее сябе, зрушыць з месца ўсё тое, што яе трымае. Нейкі пробліск надзеі даў ёй сілы і… яна прачнулася.

Аліна расплюшчыла вочы, цяжка дыхаючы. Мерна і натужна гулі рухавікі, побач ціха пасопваў Алег, дзяўчына, што сядзела злева, слухала музыку праз навушнікі. Аліна глянула ў ілюмінатар, пасля на гадзіннік — ляцець яшчэ доўга. Фу, трэба ж прысніцца такому, даўно не бачыла яна такіх жахлівых сноў. Мабыць, яна нават закрычала ў сне, толькі ніхто яе не пачуў. Дзяўчына супакоілася, уладкавалася зручней і, нахіліўшыся праз Алега, зноў зазірнула ў ілюмінатар. Яны ляцелі над морам, нічога цікавага.

Аэрапорт сустрэў ранняй свежасцю, яркім сонцам, гоманам, шоргатам ног шматлікіх турыстаў і надпісамі нязвыклай арабскай вяззю. Аліна звярнула ўвагу на нейкага маладзёна, што крочыў побач. Няўцямнага колеру заплечнік, сам худы, нязграбны, з адтапыранымі вушамі і кароткімі русявымі валасамі, ён ішоў у натоўпе неяк асцярожна, нават сарамліва, увесь час азіраючыся па баках, нібы баючыся зачапіць каго-небудзь па неасцярожнасці. Недарэка нейкі.

— І ты яго заўважыла? — пачула дзяўчына голас Алега, што ішоў побач. — Давай паспрабую адгадаць: тыповы «батанік», працуе дзе-небудзь у офісе на камп’ютары, вырваўся ўрэшце на людзі і не ведае, як сябе трымаць…

— І чаму адразу «батанік»? Навошта намаўляць на чалавека? Можа, проста ён упершыню за мяжою.

— Упэўнены, — адказаў Алег і насмешліва дадаў: — такога адною пстрычкаю заб’еш. Але хай жыве. Пайшлі, зараз багаж будуць выдаваць.

Яны селі ў аўтобус. Кандыцыянеры працавалі выдатна, у салоне было не так спякотна, як на вуліцы. Мясцовы гід нешта балбатаў на дрэннай рускай мове, але яна не слухала. Пералёт і разбітая ноч наклалі свой адбітак, хацелася хутчэй дабрацца да гатэля, прыняць душ і кінуцца нарэшце ў цёплае мора. Гэта другое па ліку яе падарожжа ў цёплыя краіны. Першы раз лятала ў Егіпет яшчэ студэнткай, з сяброўкамі. А цяпер Аліна выбрала менавіта гэты гатэль: сябры параілі. Цёплае мора, гарачы пясок, добры гатэль, цікавыя экскурсіі — што яшчэ трэба для добрага адпачынку?

Дзяўчына падняла вочы і ўсміхнулася: у іхні аўтобус увайшоў той самы хлапец, якога Алег узнагародзіў мянушкай «батанік». Во будзе цікава, калі ён едзе яшчэ і ў іхні гатэль. Але і сапраўды: чаму ён адзін? У такіх падарожжах аднаму сумна. А ўвогуле што ёй да гэтага маладзёна, хай едзе куды хоча і з кім хоча. Ці не ўсё роўна?

Адміністратар гатэля, малады прыгожы араб з белазубаю ўсмешкаю, выдаў ім электронны ключ ад нумара, карткі на ручнікі і пажадаў добрага адпачынку. Аліна адразу ж пайшла ў душ. І ўжо праз нейкі час яны з Алегам выйшлі на пляж. Мора! Яно мроілася дзяўчыне не адзін раз. У халоднай здымнай маскоўскай кватэры толькі мары пра мора нагадвалі, што ёсць і іншае жыццё: з утульнымі светлымі нумарамі ў гатэлі і з агромністым меню ў рэстаране, прыгожымі пясчанымі пляжамі і зялёнымі пальмамі, цёплымі шапаткімі і ласкавымі марскімі хвалямі, пад шум якіх так прыемна дрэмлецца ў цяньку. Якая асалода вось так ляжаць, ні пра што не думаць, не клапаціцца ні пра ежу, ні пра грошы, ні пра заўтрашні дзень і шкадаваць толькі аб адным — што адпачынак праляціць вельмі хутка. Але ж пакуль першы дзень. Усё, трэба расслабляцца.

Аліна з задавальненнем паплавала, калыхаючыся ў лёгкім прыбоі, пасля, прымружыўшы вочы, паляжала на гарачым пяску. Алег тым часам пайшоў дамаўляцца пра заняткі сёрфінгам. Ён вырашыў за час адпачынку авалодаць сакрэтамі гэтага цікавага занятку. Дзяўчына заняла свой ляжак. Яе позірк спыніўся на заплечніку знаёмага колеру, які прытуліўся да суседняга лежака. Няўжо? Але побач нікога не было. Яна зноў злавіла сябе на думцы, што ўспамінае таго юнака, і зазлавалася на самую сябе. Што ёй да таго незнаёмага маладзёна, тым больш такога недарэчнага? Яна лягла, заплюшчыла вочы і аддалася летуценням. Неўпрыкмет задрамала.

— Прачніцеся, вы можаце згарэць, — скрозь сон пачула яна нейчы голас.

Дзяўчына млява расплюшчыла вочы. Каля яе стаяў той самы маладзён, якога яна бачыла ў аэрапорце.

— Глядзіце, у першы дзень лёгка згарэць. А вы, я бачу, спіце, — паўтарыў юнак.

— Нікольі я не сплю, лепш за сабою глядзі, — незадаволеным голасам адазвалася Аліна. Так салодка прыснула, а тут на табе.

Хлапец нічога не сказаў і сеў на сваё месца. Дзяўчына прыўстала, перацягнула свой ляжак у цень. Алег ужо ляжаў там і, здаецца, таксама спаў.

Пасля сытнага абеду яны зноў пайшлі на пляж — цяпер адразу ў цень. Яно і сапраўды, у першы дзень лёгка згарэць, нават крэмы не дапамогуць. Сонца прыпякае так, што і пад пляжнымі папіруснымі парасонамі магло быць горача, калі б не мора. Свежае марское паветра скрадвае гарачыню, навявае прахалоду, а калі гарачыня дойме, то мора заўсёды прыме ў свае ласкавыя абдымкі.. Алег узяў маску з ластамі і пайшоў плаваць. Праз нейкі час да свайго месца падышоў сусед: той самы, якога Алег абазваў «батанікам». Ён распрануўся, выцягнуў нейкую кнігу, лёг і паглыбіўся ў чытанне. Скасіўшы вочы, Аліна крадком назірала за ім. Распрануты, ён выглядаў яшчэ больш худым і незагарэлым. Дзяўчына перавяла позірк на кнігу. Адразу нават і не зразумела, што на ёй напісана. Мова незразумелая, як бы не руская. Вершы. Максім Багдановіч. Ага, хутчэй за ўсё ўкраінская ці беларуская. Аліна зноў заплюшчыла вочы, патануўшы ў паўдрымоце.

2

З самай раніцы яны запісаліся ў гіда на экскурсіі. Аліна выбрала дзве, якія падаліся ёй найбольш цікавымі. Алег спачатку катэгарычна адмовіўся ехаць хоць куды, але пасля паддаўся на яе ўгаворы і здаўся. На пляжы ён пакінуў свае рэчы і рушыў на заняткі сёрфінгам. Аліна, крыху паплаваўшы, намазалася крэмам і лягла загараць. Недзе праз гадзіну прыйшоў і «батанік». Ён адшукаў вольнае месца непадалёк ад Аліны. Пасля непрацяглага купання юнак прылёг і зноў разгарнуў кнігу. Дзяўчыне стала сумна: спаць не хацелася, а для чытання на сёння з сабою нічога не ўзяла. Яна павярнулася да хлапца:

— Слухайце, вы прабачце мне за ўчарашняе, за тое, што я табе так нветліва адказала. Настрой, мабыць, дрэнны быў.

— Ды не, нічога, я не пакрыўдзіўся, — ён адклаў кнігу, павярнуўшыся да дзяўчыны. Толькі цяпер яна заўважыла, што ў мінака вельмі прыгожы залаты крыжык на залатым ланцужку: выцягнутай формы, з аздобаю на канцах у выглядзе мініяцюрных хвалепадобных колцаў і выяваю Збаўцы на самім крыжы. Хлопец заўважыў яе зацікаўлены пагляд:

— Што, падабаецца?

— Цікавая рэч.

— Гэта старадаўняе ўпрыгожванне, яно сямейнае. Перадаецца па жаночай лініі. Але ў мамы толькі я, таму бабуля аддала яго мне — сказала, будзе падарунак для будучай жонкі.

— А яе, наколькі я разумею, пакуль няма?

— Так.

Аліна нейкі час маўчала.

— Мне адной сумна. А вам?

— Не, я прывык да адзіноты, — хлопец пры гэтым адвёў позірк. — Адзін я таму, што дзяўчыны ў мяне няма, сяброў блізкіх таксама.

— Як можна прывыкнуць да адзіноты? — не паверыла Аліна. — Я б так не змагла.

— Чалавек усё можа.

— А вы масквіч?

— Як сказаць? Жыву ў Маскве, але сам з Беларусі. Давайце, калі не супраць, на ты.

— Не супраць. А я так і зразумела па тваёй кнізе, што ты беларус. Вершы любіш? Ой, мы ж не пазнаёміліся, дарэчы. Я — Аліна.

— Вельмі прыемна, мяне Яўгенам клічуць. Наконт вершаў… Ведаеш, раней я не чытаў паэзіі. Некалькі год таму былі доўгія святы. Я сядзеў дома, комп і тэлек абрыдлі. На вочы трапілася вось гэтая кніга — мне яе бабуля падарыла, яна настаўніцай беларускай мовы і літаратуры ўсё жыццё працавала. Вельмі любіла паэзію Багдановіча. І ведаеш, так захапіўся… У той вечар адкрыў для сябе не толькі Багдановіча, а ўвогуле свет паэзіі. Гэта сапраўды дзівосны свет. Магчыма, раней мне не хапала нечага, каб настроіцца на тыя нябачныя хвалі, што вылучаюць сапраўдныя вершы, на той рытм, што сугучны з тваім унутраным рытмам. А тады атрымалася, я як бы навучыўся лавіць тыя хвалі, кайфаваць ад гэтага.

— Як прыгожа ты расказваеш, — Аліна задумалася. — А гэты Максім Багдановіч, хто ён? Колькі кніг выдаў?

— Максім Багдановіч — класік нашай беларускай літаратуры, хоць пры жыцці выдаў усяго адну кнігу.

— Усяго адну кнігу — і класік? — здзівілася Аліна.

— Разумееш, ён вельмі мала пражыў, памёр ад сухотаў у дваццаць пяць год, яшчэ на пачатку дваццатага стагоддзя — у сямнаццатым годзе. Але для нас ён значыць прыкладна тое самае, што для рускай літаратуры Лермантаў, а некаторыя параўноўваюць яго нават з Пушкіным. Тое, што напісаў Багдановіч, даказвае, што ён геніяльны літаратар. Бо ён першым стаў пісаць санеты, трыялеты, танкі, пісаў прозу, крытыку, пераклады. Прычым большую частку жыцця пражыў у Расіі. Уяўляеш? Таму яго імя і шануецца. Хочаш, я прачытаю табе адзін з яго вершаў? Ён невялікі.

І не чакаючы згоды, Яўген разгарнуў кнігу, пагартаў і стаў чытаць:

Плакала лета, зямлю пакідаючы;
Ціха ліліся слязінкі на поле.
Але прыгожаю восенню яснай
Там, дзе упалі яны, выраслалі
Кветкі асеннія, кветкі, ўспаёныя
Тугою, горам, слязінкамі лета.
Кветкі асеннія, родныя, бледныя!
Выраслі вы, каб ураз жа і згінуць.
Можа, таму-то душа надарваная
Гэтак любоўна вянок з вас сплятае.

Калі ён скончыў чытанне, Аліна нейкі час маўчала. Не ўсе словы яна зразумела, але сэнс прачытанага дайшоў да яе праз мелодыю верша, праз тую інтанацыю, з якою чытаў твор Яўген. Прыгожыя словы, прыгожая мова, пявучая. Нешта новае нарадзілася ў ёй, нейкае новае пачуццё, няяснае, з туманнымі абрысамі, якое яна пакуль не магла ўлавіць. Яна як бы адчула сябе другой Алінаю, якая адрознівалася ад папярэдняй зусім іншым станам душы. Там адначасова суіснавалі смутак і радасць, шчасце і горыч, палёт і прыземленасць.

— Так, і сапраўды ваш Багдановіч пісаў добра, — сказала дзяўчына. — Вельмі прыгожа.

— Таму я перачытваю яго вершы іншым разам, і кожны раз адкрываю для сябе нешта новае, — задумліва адказаў Яўген.

З мора падзьмуў лёгкі вецер. Каля берага дзеці ляпілі вежу, старанна корпаючыся ў мокрым пяску. Яўген маўчаў, маўчала і дзяўчына. Яна думала аб тым, які дзівосны свет. У ім, як і ў кожным чалавеку, суіснуе мноства супярэчнасцей. Усе гэтыя супярэчнасці спрабуюць ужывацца гарманічна, але, на жаль, яно так не заўсёды атрымліваецца. Але ёсць тое, што скрадвае ўсё злое і нядобрае, робіць жыццё больш камфортным і шчаслівым: музыка, песні, вершы, тэатр ды шмат чаго яшчэ. І як трапна заўважыў Яўген: патрэбна толькі ўлавіць той рытм, тую гармонію, што існуе ў свеце, настроіцца на нябачную хвалю. Яна ж напэўна існуе, Творца запусціў яе разам са стварэннем свету, каб людзі маглі быць шчаслівымі. Але вельмі часта ў пагоні за матэрыяльнымі багаццямі яны не паспяваюць зрабіць гэта.

— Чаго сядзім, а не купаемся? — вывеў яе з задумення голас Алега.

— А ты ўжо скончыў свае заняткі?

— Так, на сёння ўсё. Ведаеш, супер, мне вельмі падабаецца. Але там не так проста, я крыху стаміўся, трэба паляжаць, адпачыць.

— Пазнаёмся з нашым суседам. Яго Яўгенам зваць.

— Прывітанне, — Алег махнуў Яўгену рукою, — будзем лічыць, што пазнаёміліся. Уф, як добра заваліцца і проста ляжаць.

Высока ў бязвоблачным небе лунала нейкая птушка. Сонца прыпякала так, што было горача нават у цяньку. Надыходзіў поўдзень.

3

На пляжным адпачынку ўсе дні падобныя адзін да аднаго: снеданне, пляж, мора, абед, зноў пляж, мора, пасля гатэль, вячэра, анімацыя. Канешне, калі ёсць грошы, то можна дазволіць сабе і крыху больш. Гід распавядаў, што непадалёк, у горадзе, ёсць дыскатэка для моладзі, дзе можна патанчыць далёка за поўнач. Раней яны нават вазілі туды турыстаў на аўтобусе. Але цяпер не той час. Радыкальная ісламская групоўка нядаўна зноў нагадала аб сабе, таму ніхто не рызыкуе пакуль ездзіць у начны горад. Застаюцца толькі дазволеныя экскурсіі і пляжны адпачынак.

Аліна заняла свабоднае месца, распранулася і пайшла купацца. Алег зноў пайшоў на заняткі сёрфінгам. Яўген, як і ўчора, прыйшоў значна пазней.

— Спіш доўга, праспіш усё на свеце, — пакпіла з яго дзяўчына.

— Прывык сядзець на працы за камп’ютарам за поўнач, таму і падымаюся позна. А мяняць звычкі на гэтыя дні не мае сэнсу, — распранаючыся, адказаў Яўген.

— А кім ты працуеш?

— У кампаніі праграмістам.

Аліна засмяялася. Яўген здзіўлена ўтаропіўся ў яе.

— Не, не здзіўляйся, — смеючыся, адказала дзяўчына. — Проста яшчэ там, у аэрапорце, Алег толькі паглядзеў на цябе і адразу сказаў, што ты працуеш за камп’ютарам. Ён нават абазваў цябе «батанікам». І вось на табе, супала. Ты не крыўдуй.

— Ды не, я не крыўдую, — усміхнуўся Яўген. — Я і ёсць «батанік».

— А як ты трапіў сюды?

— Бос аддзячыў такім чынам. Была ў нас праблема, маглі трапіць на сур’ёзны штраф. Я змог усё паправіць у сціслы тэрмін. Выклікае ён мяне і кажа: давай, з’ездзі, адпачні. А я ж ні разу ні быў у цёплых краінах. Тым больш, кажа. Так і выправіў. А вы як сабраліся?

— Мы з Алегам у адной кампаніі працуем: я лагістам, а ён пастаўкамі абсталявання займаецца. Мы з ім там і пазнаёміліся. Угаварыла Алега адпачыць, а ён асабліва і не супраціўляўся.

— Вы даўно разам?

— Каля года.

Яўген на нейкі час змоўк, а пасля раптам сказаў:

— Прабач, ці можна задаць табе адно пытанне асабістага характару?

— Задавай.

— Ты яго кахаеш?

Аліна на імгненне задумалася. Што яна ведала пра каханне? Сапраўды, яна жыве са сваім хлопцам, але ніколі не задумвалася пра такую простую і адначасова скла-

даную рэч. Магчыма, так працей жыць. А каханне? Што такое каханне? Як яму адказаць? Ды, як ёсць.

— Калі казаць шчыра, то, мабыць, не. Я ўвогуле не веру ў каханне, не веру, што яно існуе. Мне здаецца, людзі больш напрыдумлялі розных прыгожых гісторый і самі паверылі ў гэтую лухту. Ты падумаеш, што я з глузду з'ехала, бо ўсе дзяўчаты мараць пра прынцаў і пунсовыя ветразі. Я проста цвяроза гляджу на жыццё. Не, канешне, існуе нейкая закаханасць, нейкае пачуццё, часам моцнае, але пасля ўсё праходзіць. Людзі проста прывыкаюць адно да аднаго, знаходзяць агульную мову. Да таго ж дзеці, агульныя праблемы. Гэтак і жывуць. А Алег мне падабаецца, з ім камфортна і не сумна. Да таго ж ён не скнара. Вось і ўсё. Тады і я ў цябе спытаюся: а ты чаму адзін? Давай паспрабую адгадаць: няшчаснае каханне?

— Не, памыляешся, не было такога на маім шляху. А наконт кахання я так мяркую: яно ўсё ж існуе. Але я згодны з табою ў тым, што яно не вечнае. У каго раней, у каго пазней, але яно абавязкова пройдзе. І вось уяві: сустрэліся двое, пажаніліся, пайшлі дзеці. А каханне прайшло. І што пасля? Пустата. Ірваць па-жывому не хочацца, будзе балюча. Жыць разам моташна. Што, ісці налева? Гэта не па мне — жыць у хлусні. Дый колькі пасля турбот, праблем. Таму я не шукаю нікога, лепш ужо аднаму.

— Прабач, але гэта ўжо нейкі інфантылізм ці эгаізм. Хаця пастой — у цябе комплекс, бо твае бацькі развяліся з-за здрады. Так?

— Не, не зусім так, — Яўген сумна ўсміхнуўся. — Бацькі разышліся менавіта з той прычыны, што я агучыў. Мне тады было каля дзесяці. Тата даўно жыве ў другой сям'і, мама замуж болей не выйшла. А наконт інфантылізму не згодны: я самастойны чалавек, сам зарабляю на жыццё. Проста я не хачу рабіць балюча, ні сабе, ні каму іншаму. Пагадзіся, што ў большай палове сем'яў усё тое, аб чым я гаварыў, прысутнічае.

— Хм, цікавая пазіцыя, — усміхнулася дзяўчына і дадала жартаўлівым тонам: — А якія яшчэ шкілеты маюцца ў тваёй шафе?

Яўген нічога не адказаў. Аліна падумала, што ён так і прамаўчыць, але маладзён стаў гаварыць.

— Некалі даўно, калі я быў яшчэ падлеткам, мы з сябрам ішлі дахаты. Па дарозе сустрэлі купку сваіх аднагодкаў з суседняй вуліцы, з імі нашая вуліца варагавала. Я спалохаўся, збег, пакінуў Макса аднаго з некалькімі супернікамі. Яго тады пабілі. Хоць Макс нікому асабліва і не расказаў пра тое здарэнне, але мне было вельмі сорамна за сваю баязлівасць, за свой ганебны ўчынак. Мы пасля перасталі сябраваць. Я часта ўспамінаю той выпадак і дагэтуль не ведаю: ці змагу ў нейкай падобнай сітуацыі абысціся па-іншаму? Магчыма, мне зноў не хопіць смеласці. Хто я тады?

— Ды кінь ты перажываць, з кім не было, тым больш у дзяцінстве, — супакоіла яго дзяўчына. — І што, ты ніколі ні з кім не біўся?

— Не, не прыходзілася. А вось забыць тое не магу. Бо з майго боку гэта была подласць, разумееш? Да таго ж падобнае паўтарылася. Неяк пару год таму я быў сведкам, як у аўтобусе падпітыя хлопцы брыдка лаяліся, лезлі да дзяўчыны. Я павінен быў заступіцца, але зноў не змог перамагчы свой страх. Зрабіў выгляд, што нічога не чую і не бачу. Вось такі я, баязлівец.

— Прабач, што прымусіла цябе ўспамінаць непрыемнае, хоць упэўнена, што ты дарма на сябе намаўляеш — цяпер мала хто з хлопцаў уступіцца за дзяўчыну. Давай зменім тэму. Лепш прачытай які-небудзь верш.

— Табе спадабалася беларуская мова?

— Бадай што так. Ведаеш, калі ты чытаў, ува мне прачнулася нешта такое, чаго я раней не адчувала: ці то нейкая музыка, ці то мелодыя. Я проста не магу патлумачыць гэтае пачуццё. Магчыма, штосьці з мінулага жыцця.

— Ты верыш у рэінкарнацыю?

— А чаму б і не? Добра, чытай.

Яўген выцягнуў кнігу, пагартаў.

— Паслухай, як табе гэты верш:

Па-над белым пухам вішняў,
Быццам сіні аганёк,
Б’ецца, ўецца шпаркі, лёгкі
Сінякрылы матылёк…

Юнак чытаў, як бы злёгку хвалюючыся, а дзяўчына ўважліва слухала, слухала…

Навакол усё паветра
Ў струнах сонца залатых, —
Ён дрыжачымі крыламі
Звоніць ледзьве чутна ў іх.

І ліецца хваляй песня, —
Ціхі, ясны гімн вясне.
Ці не сэрца напявае,
Навявае яго мне?..

І яе позірк раствараўся ў лёгкім шолаху марскіх хваляў, а думкі ляцелі ўслед за радкамі верша ў далёкую Беларусь, у тыя мясціны, што апяваў паэт. І яна бачыла перад сабою і тую сінюю рачулку, і той шапатлівы чарот, і вішню, над якой уецца шпаркі матылёк. Яна была там.

…Песня рвецца і ліецца
На раздольны, вольны свет.
Але хто яе пачуе?
Можа, толькі сам паэт…

Калі Яўген скончыў чытаць і адклаў кнігу Аліна нейкі час маўчала: яна не змагла адразу выйсці са стану нейкай нірваны, адарванасці ад рэальнага. І сам верш, і тое, як чытаў яго Яўген, зноў абудзілі ў ёй тое добрае, ласкавае, хоць і крышку сумнае, што дагэтуль спала недзе далёка-далёка, у самых глыбінях падсвядомасці. Аліна ўважліва паглядзела на юнака. Якія ж цяпер у яго прыгожыя рысы твару, яму так пасуе лёгкая задуменнасць, кволая ўсмешка.

— Мне спадабалася, праўда, хоць я зноў не ўсё зразумела. Цудоўны верш, а ты яшчэ так прыгожа чытаеш. Ведаеш, я нават не магла сабе ўявіць, што вершы могуць прыносіць такую асалоду. Даўно мне не было так хораша.

Аліна падумала і жартаўліва дадала:

— Мабыць, мне прыйдзецца вывучыць беларускую мову. Толькі гэты верш чамусьці навеяў сум, а я сумаваць не хачу. Дарэчы, мы заўтра паедзем падымаць настрой на экскурсію: катанне на квадрацыклах, вярблюдах, пасля да бедуінаў.

— Ага, — усклікнуў Яўген, — я таксама еду на гэтую экскурсію. Разам будзем.

— Выдатна. Пайшлі купацца.

І не чакаючы адказу, Аліна пабегла да вады.

Яўген праводзіў яе доўгім позіркам. І толькі калі дзяўчына паклікала яго яшчэ раз, паклаў кнігу і хуткаю хадою пайшоў у мора.

4

Аўтобус заехаў у чарговы гатэль, каб забраць тых, што запісаліся на экскурсію. Кругом зелянела трава, калыхаліся пад ветрам пальмы і кусты, зіхацеў шыкоўна аздоблены ўваход з вялізнымі глякамі, адлівалі сонцам скульптуры воінаў у штучнай пазалоце з дзідамі — гатэльная тэрыторыя была вылізана да бляску, як і ва ўсіх папярэдніх гатэлях. А з другога боку, там, дзе ляпіліся гарадскія ўскраіны, панаваў зусім іншы малюнак: забруджанае розным смеццем узбочча, кучы будаўнічых адкідаў, кавалкі ссохлых пальмаў, кругом шэры пясок і пыл, арабы ў шэрых апратках. Такі кантраст наганяў сум. Аліна ляніва назірала за ўсім праз аконнае шкло. Алег гуляў на мабільным тэлефоне ў карты. Недзе наперадзе сядзеў і Яўген. Дзіўна, Аліна ведае яго толькі некалькі дзён, а здаецца, што цэлую вечнасць. Ёсць у ім нешта такое, чаго няма ў Алегу: унутраная цэласнасць, цеплыня, адкрытасць. Да таго ж ён цікавы суразмоўца. А Алег? У кватэры — яны здымаюць аднапакаёўку — Алег звычайна глядзіць тэлевізар або гуляе ў нейкія гульні на камп'ютары. Ён цікавіцца выключна аўтамабілямі і збірае грошы на «прыстойную тачку», як казаў не раз. Яго цалкам задавальняе роля Аліны як палюбоўніцы і хатняй гаспадыні. Дзяўчына не раз задумвалася: а ці жадае яна такога жыцця сабе ў далейшым? Тады другое пытанне: ці знойдзе яна лепшага за Алега? Адной ёй зусім не хочацца заставацца, адзінота — страшная рэч. Дый заседзецца ў старых дзеўках таксама не хочацца. Яшчэ й бацькі дзяўбуць: калі, маўляў, замуж пойдзеш. А Алег і сапраўды не скнара, часта дорыць ёй нейкія рэчы, на грашах не зацыкліваецца, у кампаніях вясёлы, яго паважаюць на працы як спецыяліста. Хай сабе ён не дапамагае ёй у нейкіх хатніх справах, не такі ўважлівы, як ёй хацелася б, але ж у кожнага ёсць недахопы. Да таго ж абсалютная большасць мужчын не любіць займацца хатнімі справамі.

Аўтобус выехаў за межы гатэльных комплексаў, малюнак змяніўся: увесь гарызонт засланілі пяскі. Пустыня, якую пераразала толькі чорная асфальтавая лента, заўладарыла наваколлем. Гід распавядаў пра тыя дзівосы, што ўбачаць турысты, і пра тое, што можна набыць у мясцовых гандляроў. Дзяўчына падумала: мабыць, трэба будзе набыць штосьці і ёй. Грошай не так і шмат, але сяброўкі з аддзела лагістыкі прасілі прывезці ім якія-небудзь сувеніры.

Аўтобус спыніўся каля нейкіх будынін, злепленых з шэрых блокаў і металічных лістоў, — там стаялі квадрацыклы. Пад навесам з папірусу сядзелі некалькі арабаў, ляніва цэдзячы з піялаў напой цёмна-бурштынавага колеру. Побач ляжалі вярблюды. Да гіда падышлі маладыя смуглыя хлопцы і ўзяліся тлумачыць турыстам правілы кіравання квадрацыклам. Яны ж прапанавалі набыць «арафаткі» — стракатыя хусткі,

якія абкручваюцца вакол твару для абароны ад пылу. Вакол круціўся хударлявы жвавы маладзён з мясцовых з відэакамераю.

— Паўсюль грошы цягнуць з турыстаў, — сказаў Алег.

— Есці ўсе хочуць, — па-філасофску разважыў нехта.

Усіх турыстаў падзялілі на тры невялікія групы. Кожную групу ўзначальваў хтосьці з мясцовых. Турыстаў рассадзілі на квадрацыклы, дазволілі крыху патрэніравацца, пасля тры калонны рушылі ў пустыню. Каля чвэрці гадзіны заняў першы адрэзак шляху. Пасля ўсе спыніліся каля невялікага гарыстага ўтварэння, дзе зрабілі перапынак для фотаздымкаў. Большасць турыстаў узлезла на гару і заўзята шчоўкала: хто фотаапаратамі, хто мабільнымі тэлефонамі.

— Але ж і пячэ, — Алег выцер успатнелы лоб. — Не варта было ехаць у такую гарачыню.

— Алег, не будзь занудам, — усміхнулася Аліна. — Не такая ўжо і спёка, трываць можна. Затое пасля будзе адпачынак у вёсцы бедуінаў .

Як толькі яны спусціліся, Аліна заўважыла, што да іх на вялікай хуткасці імчыцца некалькі машын. Араб, кіраўнік групы, пра нешта ўстрывожана загаманіў з маладзёнам, што здымаў турыстаў на відэа. Машыны хутка наблізіліся і рэзка затармазілі, выдаўшы густыя клубы пылу. Калі з-за пылавога воблака выскачылі ўзброеныя людзі ў чалмах, з гартаннымі крыкамі «Алах акбар!», Аліне, як, мабыць, і большасці турыстаў, падалося, што гэта пастаноўка, якая ўваходзіць у праграму — для вастрыні пачуццяў. Але праз імгненне яна зразумела, што памылялася. Узброеныя людзі груба піхнулі тых, хто трапіўся пад руку, сталі хапаць і цягнуць да сваіх машын. Нехта спалохана закрычаў, хтосьці ў паніцы бегаў, шукаючы паратунак, а мужчына ў чырвонай кепцы кінуўся наўцёкі. Паветра над галовамі турыстаў прарэзала чарга з аўтамата.

— Лажыся! — пачуўся адчайны крык.

Аліна ўпала на пясок. Але ўжо праз некалькі імгненняў нечыя грубыя рукі паставілі яе на ногі і штурханулі ў спіну. Побач барадач са злосна вышчараным тварам, гучна выкрыкваючы нейкія словы, гнаў перад сабою траіх, у тым ліку і Яўгена. Алега Аліна не бачыла. Няўжо паспеў схавацца? Разам з гэтай групай яе ўпіхнулі ў невялікі фургон, дзверы шчоўкнулі, і машына сарвалася з месца. Пасля нападу прайшло не болей як дзве хвіліны. Падскокваючы на няроўнасцях, аўтамабіль імчаўся ў невядомым накірунку. Сціснутыя адзін да аднаго, у поўнай цемры і духаце, людзі маўчалі. Хтосьці ўключыў мабільны тэлефон, але сувязі не было. Машыну трэсла няшчадна. Аліна адчула, як нечая рука схапіла яе руку і злёгку сціснула. Яўген! Ёй стала крышку лягчэй — хоць адна знаёмая душа.

Колькі мінула часу з той страшнай хвіліны, Аліна не лічыла. Яна думала: што за пракуды лёсу, навошта іх схапілі, з якою мэтаю? Што з імі будуць рабіць, куды вязуць? Праз нейкі час трасяніна скончылася — мабыць, яны выехалі на шашу. Яшчэ праз колькі часу машына спынілася. Ляпнулі дзверы, пачуліся кароткія адрывістыя каманды, яркае святло лінула ў фургон. Прыкрываючы вочы ад сляпучага сонца, людзі выбраліся з машыны. Дзяўчына заўважыла, што з суседняй машыны выпіхнулі і Алега. Зноў грубая штурханіна, усіх пашыхтавалі. З купкі барадачоў выйшаў адзін, хутчэй за ўсё галоўны — сярэдніх год, у белай чалме, чысты і прыстойна апрануты, на баку похвы са зброяю — і на нядрэннай рускай мове загадаў усім здаць мабільныя тэлефоны. Аліна крадком агледзелася. Іх акружалі высокія сцены, выхад адсюль

быў толькі адзін, праз арку — там стаяў вартавы з аўтаматам. Той, што загадаў здаць тэлефоны, крыва ўсміхнуўся і сказаў:

— Кідайце, не шкадуйце. Я думаю, што яны вам больш не спатрэбяцца. Вы ўсе — нашы заложнікі. Мы выставілі ўладам ультыматум: вызваліць нашага настаўніка. Пакуль яны гэтага не зробяць, мы будзем страляць па адным заложніку кожную гадзіну. Вас тут...

Ён падлічыў усіх.

— Ага, чатырнаццаць чалавек, нам, думаю, хопіць. Кожны расстрэл мы будзе выкладаць у інтэрнэт. А пакуль адпачывайце.

І ён зноў вышчарыўся ў злавеснай усмешцы. Нейкая жанчына заплакала:

— Адпусціце нас, калі ласка. Мы ж вам нічога дрэннага не зрабілі.

— Гэта не мае ніякага значэння.

Ён адышоўся да сваіх і нешта загадаў. З купкі ісламістаў выйшаў малады араб і, груба штурхаючы заложнікаў, пагнаў іх да паўкруглага збудавання з высокімі вокнамі. Напалоханыя людзі разгублена азіраліся па баках, нібы шукаючы дапамогі, толькі чакаць пакуль што яе не выпадала. Усіх загналі ў невялікае, залітае сонечным святлом, душнае памяшканне. Аліна зняможана апусцілася на брудную, падобную на ток падлогу. Хтосьці з жанчын усхліпваў, але большасць панура маўчала. Аліна пасунулася да Алега, які сядзеў, апусціўшы галаву.

— Як ты? — спыталася яна.

— А ты не бачыш? — са злосцю адказаў Алег. — Уляпаліся па самае не хачу. Патрэбна была мне тая экскурсія? Ды я за гэтыя грошы дома накатаўся да пасінення. А ты: паедзем, паглядзім на пустыню, экстрым. Во экстрым, во ўляпаліся.

Застагнаўшы ў роспачы, ён заплюшчыў вочы і прысланіўся да сцяны. Агаломшаную Аліну скаланула ад яго слоў. Хто мог такое прадбачыць? У чым яна вінаватая? І няўжо іх сапраўды пастраляюць? Як бы чытаючы яе думкі, маладая жанчына з кароткаю стрыжкаю ціха сказала:

— Яны ж не будуць страляць нас, праўда? Яны ж не звяры? Як вы думаеце?

Пытанне павісла ў паветры. Потым хтосьці з мужчын адказаў:

— Яны не звяры, яны горшыя за звяроў. Вы што, тэлевізар не гледзіце, не бачыце, што робіцца ў свеце?

— Але яны не могуць гэтага зрабіць, — істэрычна закрычала жанчына, — не могуць! Мы ж ні ў чым не вінаватыя. У мяне дома дачушка малая, яна чакае мяне.

І жанчына ціха заплакала. Малады лысаваты мужчына з бародкаю, які сядзеў побач, абняў яе, супакойваючы.

5

Аліне падалося, што былая рэальнасць адсутнічае. У новай рэальнасці няма ні гэтага страшнага памяшкання, ні тэрарыстаў, ні нават Алега. Яна знаходзіцца ў поўнай бяспецы ў светлай прасторнай сферы, а аднекуль збоку гучаць, як музыка, вершы на пявучай беларускай мове. Іх чытае Яўген, чытае вельмі выразна, з натхненнем. І ад гэтага становіцца лёгка, бо пагрозы няма, а на душу кладуцца словы, як прыгожая музыка. Дзяўчына расплюшчыла вочы і са здзіўленнем зразумела, што не трызніць. Яўген сапраўды чытаў сам сабе нейкі верш. Нехта, як Аліна, глядзелі на яго са здзіўленнем — мабыць, палічылі, што ад страху маладзён звар'яцеў, — другія сядзелі з

абыякавым выразам на твары. А Яўген чытаў, чытаў так, быццам перад ім была не напалоханая купка заложнікаў, а вялізная зала ўдзячных слухачоў.

Мая душа, як ястраб дзікі,
Што рвецца ў неба на прастор,
Вартуе вольных птушак крыкі, —
Мая душа, як ястраб дзікі.
Учуўшы іх, страхне вялікі
Свой сон, шыбне вышэй да гор, —
Мая душа, як ястраб дзікі,
Што рвецца ў неба на прастор!

— Праўда, прыгожа? — спытаўся ён у Аліны.

— Праўда. Твой любімы Багдановіч інакш, мабыць, і не пісаў. І ты таксама верыш, што прыгажосць выратуе свет?

— Не, але калі людзі не будуць ствараць нічога прыгожага, не будзе ні вершаў, ні музыкі, ні культуры, тады не будзе і людзей, тады і самі людзі, як вышэйшая істота, перастануць існаваць. А гэта значыць, свет, які мы ведаем, загіне. Выратаванне не ў прыгажосці, а ў тым, што ствараюць людзі. Бо стварыць прыгожае можа толькі добры, светлы чалавек, а створанае будзе вылучаць цеплыню, пазітыўную энергетыку. Такім чынам, чым больш ствараць прыгожага, тым менш зла.

— Дык ты яшчэ і філосаф, — паспрабавала ўсміхнуцца дзяўчына.

— Я проста чалавек, — Яўген зазірнуў ёй у вочы. — Ты толькі не бойся, не панікуй. Нам абавязкова дапамогуць, нас павінны вызваліць.

— Адкуль такая ўпэўненасць, малады чалавек? — з горкай усмешкай спытаўся мужчына гадоў сарака пяці ў шырокіх шортах і чырвонай кепцы. — Вам патэлефанавалі, што выслалі армію мясцовых спецназаўцаў?

— Ды не, але ўсё ж мы грамадзяне замежнай краіны, гэта міжнародны скандал. Таму яны будуць прымаць нейкія экстранныя меры, нейкія захады, каб нас вызваліць.

— Дай ты Бог, — уздыхнуў мужчына.

У памяшканні стаяла духата, людзей мучыла смага. Хтосьці не вытрымаў і роспачна крыкнуў:

— Гады, хоць вады дайце!

Мужчына з бародкаю замітусіўся каля жанчыны з кароткаю стрыжкаю: ёй рабілася млосна. Ён махаў сваёю кепкаю перад яе тварам, некалькі разоў лёгенька ляпнуў па шчацэ, але жанчына асунулася з заплюшчанымі вачыма. Мужчына з адчаем у голасе гукнуў:

— Дапамажыце, калі ласка. Можа, у каго хоць крышачку вады ёсць — Марыне зусім дрэнна.

Ніхто не адгукнуўся. Тады з зямлі падняўся высокі сіваваты мужчына ў белай майцы і рашуча пайшоў да дзвярэй.

— Алёша, не хадзі! Яны заб’юць цябе, Алёша! — пранізліва закрычала паўнаватая светлавалосая жанчына.

Але мужчына не паслухаў яе. Ён загрукаў у дзверы:

— Дайце вады! Чалавек памірае!

Скрыгатнуўшы, дзверы расчыніліся. Малады араб з чорнымі, як масліны, валасамі заглянуў у памяшканне, тыцнуў ствалом мужчыне ў грудзі і нешта злосна залапатаў па-свойму. Мужчына паказаў жэстам, што патрэбна вада, а пасля паказаў на беспрытомную жанчыну. Тэрарыст са злосцю адпіхнуў яго, ляпнуўшы дзвярыма. Мужчына, вылаяўшыся, вярнуўся назад. Але яго рашучасць дапамагла. Праз лічаныя хвіліны дзверы прыадчыніліся. Заглянуў той самы вартавы ды з грэблівым выразам твару кінуў знямożаным закладнікам некалькі бутэлек вады. Адну адразу перадалі мужчыне з бародкаю, дапамаглі яму прыпадняць і пасадзіць беспрытомную жанчыну, хтосьці знайшоў у кішэні валідол. У хуткім часе жанчына ачомалася. Бутэлькі пусцілі па руках. Аліна не магла дачакацца, калі да яе дойдзе чарга, — ад смагі ўсё ў роце так ссохлася, што не хацелася нічога гаварыць.

Жыватворная вадкасць прынесла аблягчэнне. Людзі, здавалася, нават нейк павесялелі. У гэты момант дзверы зноў расчыніліся. Увайшоў тэрарыст, якога Аліна палічыла за галоўнага. За ім прасунуліся яшчэ двое з аўтаматамі. Галоўны абвёў заложнікаў пільным позіркам. Людзі сціснуліся. Тэрарыст весела выскаліўся:

— Не бойцеся, гэта не балюча. Спачатку мы скарыстаемся паслугамі моцнага полу — здаецца, так кажуць няверныя. А затым наступіць чарга слабага полу.

Кінуўшы кароткі позірк на турыстаў і рашуча ткнуўшы пальцам у хударлявага лысаватага мужчыну, які з абыякавым выразам твару сачыў за яго рухамі, нешта загадаў. Падначаленыя хуткім крокам падышлі да мужчыны, падхапілі яго і павалаклі на выхад. Мужчына толькі разгублена азіраўся, нават не спрабуючы супраціўляцца. Дзверы зноў зачыніліся.

У памяшканні павісла жахлівая цішыня. Усе як бы здагадваліся, для чаго тэрарысты забралі аднаго з заложнікаў, але ніхто не хацеў верыць у гэта. Танюсенькая павуцінка надзеі павісла ў паветры. Людзі знерухомелі. Аліне падалося, што гэтае чаканне цягнецца цэлую вечнасць і тое, што яна бачыць — усяго дурны жахлівы сон. Сон. Яна адразу прыгадала той жудасны сон, што сасніла ў самалёце. Такое ж самае жахлівае пачуццё поўнай бездапаможнасці панавала і тады, і цяпер. Ніштo не падуладна тваёй волі, ты нічога не можаш зрабіць. Выратаванне толькі ў адным: цябе хтосьці прабудзіць або ты прачнешся сама.

Сухі кароткі стрэл грымнуў нечакана. Аліна здрыганулася. Рукі і ногі па-здрадніцку задрыжалі, нешта цяжкае навалілася на грудзі, запякло ўнутры. І раптам непадалёк нехта загаласіў:

— Яны ж нас усіх пераб’юць! Нас заб’юць! Я не хачу!

Гэта крычала светлавалосая паўнаватая жанчына. У яе пачалася істэрыка. Мужчына, які хадзіў патрабаваць ад тэрарыстаў ваду, прытуліў яе да сябе, супакойваючы. Аліну таксама пачало калаціць. Яна не адразу зразумела, што з ёю робіцца, чаму яна ўся так трасецца. У гэты момант знаёмая рука лягла ёй на плячо, злёгку паціснула. Дзяўчына ўзняла галаву. Яўген глядзеў ёй у вочы. У іх свяцілася такая пяшчота і спагада, што Аліна не вытрымала. Сама таго не чакаючы, яна расплакалася і прытулілася да Яўгена. Маладзён нічога не гаварыў. Ён ціха сядзеў і ціхенька гладзіў яе плячо і валасы. Дзяўчына паволі стала адыходзіць, цяжар зваліўся з грудзей, яна перастала дрыжаць. А Яўген усё лашчыў ды лашчыў яе валасы і плячо. Аліне было так добра, што яна заплюшчыла вочы, расслабілася і правалілася ў небыццё.

Усе панура маўчалі.

6

Аліна страціла адчуванне часу. Калі расплюшчыла вочы і прыйшла ў сябе, у памяшканні злёгку пацямнела: мабыць, вечарэла. Яўген сядзеў з заплюшчанымі вачыма, прысланіўшыся да сцяны. Хутчэй за ўсё, таксама задрамаў. Аліна асцярожна вызваліла яго руку, падсунулася да сцяны. Алег скурчыўся, лежачы ў некалькіх кроках ад яе. Большасць турыстаў ці драмала седзячы, ці ляжала. Аліне хацелася піць, але ўсе тыя бутэлькі, што яна бачыла, былі пустымі — ані крушыначкі. Колькі ж мінула часу з той страшнай хвіліны, як іх захапілі ў пустыні?

Раптам дзверы ў чарговы раз расчыніліся. Напалоханыя людзі заварушыліся ад нечаканага абуджэння, тыя, хто ляжаў, паселі. У памяшканне ўвайшоў галоўны тэрарыст, а следам за ім, нібы верныя ардынарцы, двое маладзейшых са зброяй на плячы. Гнятлівая цішыня навісла над кожным з заложнікаў. Здавалася, само паветра напружылася ад жахлівага чакання. Людзі апусцілі галовы, баючыся глянуць смерці ў вочы. Аліна ад нечаканасці разгубілася, застыла на месцы. Вочы тэрарыста спыніліся на ёй, іх позіркі перасякліся. У дзяўчыны перахапіла дыханне, яна чула стук свайго сэрца. Палец тэрарыста ўзнімаўся цэлую вечнасць. Ён паказаў на Аліну. Дзяўчына нават не адчула, як яе падхапілі пад рукі, паставілі на ногі і павалаклі да выхаду.

— Не! Алег, дапамажы!

Роспачны крык вырваўся з яе, як адзіны сродак да выратавання. Нечакана для сябе яна з такою сілаю затурзалася ў руках тэрарыстаў, што тыя не ўтрымалі яе. Яна азірнулася. Да галоўнага паспеў дабегчы Яўген.

— Не чапайце яе, гэта мая дзяўчына. Калі ласка, вазьміце гэта, — ён працягнуў барадачу ланцужок з крыжыкам, — толькі не чапайце яе. Гэта вельмі дарагая рэч.

Тэрарыст узяў ланцужок у рукі, агледзеў і крыва ўхмыльнуўся:

— Гэта і так дасталося б мне. Вядзіце яе.

З гэтымі словамі ён засунуў упрыгожванне ў кішэню.

— Не, — Яўген схапіў яго за руку, — не трэба, калі ласка. Я прашу вас. Я ведаю, што вы паважаеце тых, хто ведае Каран. Я чытаў Каран. Хочаце, я прачытаю першую суру з Карана?

І, не чакаючы адказу, ён стаў гаварыць:

— У імя Алаха літасцівага, міласэрнага. Хвала Алаху, спадару светаў. Літасціваму, Міласэрнаму. Уладару дня аддзякі.

Барадач спыніў яго, з адабрэннем паляпаў па плячы:

— Гэта вельмі добра, што ты ведаеш і паважаеш нашу свяшчэнную кнігу. За гэта мы зробім табе вялікую паслугу — ты памрэш апошнім.

І ён сам засмяяўся са свайго жарту. Тэрарысты схапілі Аліну і пацягнулі за сабою.

— Не чапайце яе!

Гэты крык як бы спыніў арабаў. Яны замарудзілі крок, а Яўген кінуўся на іх. Ён адпіхнуў аднаго з тэрарыстаў, але больш зрабіць нічога не паспеў. Галоўны выцяў Яўгена па рэбрах, пасля ўдарыў навотліў, адным ударам паваліўшы яго на зямлю.

— Як можаш ты, брудная жывёла, няверны, нападаць на воінаў Алаха! — вочы яго раз’юшана блішчэлі. — Я адмяняю сваё абяцанне.

З гэтымі словамі ён выцягнуў з похваў пісталет і стрэліў у ляжачага хлопца.

— Жэня! Не!

Хтосьці пранізліва закрычаў. І толькі праз некалькі імгненняў Аліна зразумела, што гэта крычала яна. Яе павалаклі на вуліцу. Тэрарысты паспелі зрабіць толькі некалькі крокаў, як недзе ўбаку пачуўся адзіночны стрэл. Вартавыя схапіліся за зброю. І амаль адразу кругом так заляскатала, што дзяўчына ад страху паваліласа на пясок і закрыла галаву рукамі. Міма яе прабеглі нечыя ногі ў скураных ботах, затым побач бахнулі дзве кароткія чаргі. Удалечыні пачуліся гучныя воклічы «Алах акбар», пасля штосьці выбухнула. Гарачая хваля дакацілася да Аліны. У паветры востра запахла порахам. У нейкі момант усё стала сціхаць, дзяўчына ўзняла галаву. Да яе беглі людзі ў чорным з маскамі на тварах. Адзін з іх дапамог падняцца, павёў за сабою. Яны мінулі невысокае шэрае збудаванне і выйшлі да аркі. Там тоўпіліся людзі ў чорным са зброяю ў руках, стаяла некалькі аўтамабіляў. Да Аліны выйшаў араб у белым медыцынскім халаце і спытаў на ламанай рускай мове:

— Вы не параненая?

Дзяўчына схапіла яго за рукі:

— Я цэлая. Там стралялі ў Яўгена, дапамажыце яму, хутчэй! Хутчэй, я вас адвяду туды.

Яна кінулася назад да таго памяшкання, дзе іх утрымлівалі. Медык штосьці крыкнуў ёй услед, але яна не слухала яго. Яўген, што з ім? Толькі б ён быў жывы, толькі б ён быў жывы — гэтыя словы яна паўтарала, як малітву. За паваротам дзяўчына ўбачыла труп. Яна міжволі замарудзіла крок. У спакойнае вячэрняе неба глядзелі залітыя крывёю застылыя вочы галоўнага тэрарыста — куля трапіла яму акурат у галаву. У сціснутай руцэ барадач трымаў зброю. Змагаючыся з агідай і страхам, Аліна нахілілася, палезла да яго ў кішэню, намацала там ланцужок, хуценька выцягнула яго і паклала сабе ў кішэню. Насустрач ёй сталі выходзіць былыя заложнікі. Жанчыны ўсхліпвалі і плакалі, некаторым дапамагалі ісці людзі ў чорным. Алег ішоў сярод іх. Заўважыўшы Аліну, ён слаба ўсміхнуўся ёй, узмахнуў рукою. А яна кінулася ў памяшканне. Адтуль ужо неслі Яўгена на нейкай стракатай радзюжцы: бледнатварага, з вялікай крывавай плямай на баку. Усхліпнуўшы, дзяўчына пайшла следам да машыны.

**Эпілог**

Аліну прабудзіў асцярожны дотык нечае рукі. Яна расплюшчыла вочы і падняла галаву. Яўген, слаба ўсміхаючыся, глядзеў на яе.

— Нарэшце, — узрадавана ўсклікнула Аліна, — нарэшце ты вярнуўся. Як ты сябе адчуваеш?

— Добра, — слабым голасам адказаў хлопец. — І даўно я тут?

— Чацвёртыя суткі. Доктар сказаў, што ты ў кашулі нарадзіўся: усяго некалькі міліметраў убок — і куля трапіла б у сэрца. Раненне сур'ёзнае, дый крыві ты шмат страціў.

— А ты што тут робіш?

— Я перасварылася з усімі, але ўпрасіла нашага дыпламата, каб мне дазволілі застацца тут, з табою. Я не магла пакінуць цябе. Чакала, калі ты апрытомнееш, замарылася і заснула.

Яўген змоўк, заплюшчыў вочы. Дзяўчына вырашыла, што ён будзе адпачываць, але маладзён расплюшчыў вочы і ціха спытаў:

— А чаму ты не ў гатэлі з Алегам?

— Не ўспамінай пра яго, — Аліна спахмурнела. — Як нас вывезлі адтуль, я яму адразу сказала, што мы з ім болей не можам быць разам. А калі вярнуся ў Маскву, то адразу збяру рэчы і з'еду ад яго. І больш ніколі не хачу яго бачыць. Прабач, ледзь не забылася. Вось, вазьмі.

Аліна выцягнула з кішэні ланцужок і паклала Яўгену ў руку. Заўважыўшы яго здзіўлены позірк, патлумачыла:

— Я не магла пакінуць гэта там. Магчыма, ты ўсё ж перадумаеш і ажэнішся, а як табе тады без сямейнай рэліквіі?

Яна змоўкла. Маўчаў і Яўген.

— Дзякуй табе, — ціха сказала Аліна, — калі б не ты — мяне, хутчэй за ўсё, ужо не было б у жывых. Мне было так страшна.

Яўген скрывіўся і ціха адказаў:

— Ну што ты, хіба варта пра гэта гаварыць…

Але дзяўчына не слухала яго, працягвала:

— І яшчэ хацела вось што сказаць… Ведаеш, я памылялася. Цяпер я дакладна ведаю, што каханне існуе. І няхай яно будзе без узаемнасці, я ўсё роўна адчуваю сябе шчаслівай. Бо я кахаю незвычайнага чалавека. Прабач, але я павінна зрабіць гэта.

Яна нахілілася і пацалавала Яўгена. Затым дзяўчына рашуча паднялася, як бы збіраючыся пакінуць мінака.

— Пачакай, прысядзь, — паклікаў яе Яўген і ўсміхнуўся. — Тады і я скажу. Ты мне адразу спадабалася, яшчэ на пляжы. Як жа я мог аддаць цябе гэтым пачварам? Ведаеш, я змог пераступіць праз свой страх. І яшчэ… Галоўнае…

Яўген змоўк, нават размова адняла ў яго сілы. Аліна стаілася ў чаканні.

— Я таксама памыляўся. Не ведаю, што будзе далей, але я хачу паспрабаваць стварыць сям'ю. Гэта табе, вазьмі.

Маладзён расціснуў далонь, на якой ляжаў ланцужок з крыжыкам.

нарадзіўся ў 1967 годзе ў вёсцы Лучыцы Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Новасібірскае вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча, Акадэмію МУС Рэспублікі Беларусь. Юрыст, зараз прадпрымальнік. Жыве ў Навагрудку. Аўтар кніг прозы «Пропавшая свадьба», «Храм его души», «Зеленее рунь», «Оракулы Междуречья», дзіцячай кнігі «Янка, Шмурдзік, Бухматка ды іншыя». Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.





АЛЬЖБЕТА КЕДА

## Казкі

### Вавёрчыны пацеркі

Жыла-была ў лесе прыгажуня Вавёрка. Надта любіла яна ўборы. Цэлае лета штукавала з кветак прыгожыя бранзалеты. Але лета мінула, і кветкі памерлі. Адна Гарабінка зіхацела чырвонымі гронкамі між голых галінаў. Нанізала Вавёрка пунсовыя ягадкі на гнуткую сухую травінку — і атрымаліся прыгожыя пацеркі. Толькі на ноч здымала іх Вавёрка і вешала на сучок ля свайго дупла.

А птушкі тым часам адляталі ў вырай. Чародка Шпакоў прызямлілася, каб пераначаваць на палянцы, якраз поруч з Вавёрчыным жытлом. Раненька прачнуліся, падмацаваліся ягадкамі-пацеркамі. А тут і гаспадыня са свайго дупла выглянула. Спахмурнела, замітусілася: «Дзе ж мае пацеркі?» Разгубленыя Шпачкі зразумелі: яны паласаваліся не проста арабінавымі ягадамі. Важак чародкі прамовіў: «Прабач нам, Вавёрачка. Гэта мы з’елі твае пацеркі. Пакрыўдзіць цябе не хацелі. Дачакайся, пакуль мы вернемся вясною. Сваю правіну загладзім».

Доўга цягнулася халодная зіма. Але ўсяму надыходзіць канец. Вясновае сонейка сагрэла зямельку, пацяклі ручаінкі, выглянулі пралескі. Чародка Шпачкоў прызямлілася на той жа палянцы. Першым Важак, а за ім кожны Шпачок падляталі да Вавёрчынага дупла і клалі туды па адной маціцовай ракавінцы. Панізала іх Вавёрка — атрымаліся цудоўныя каралі. З імі лясная прыгажуня не развітвалася ніколі.

### Восень-чараўніца

Цэлае лета прабегала Бярозка па лесе ў сваёй зялёнай шаўковай сукенцы. Колеры на сонцы выгаралі, галінкі і сукі чапляліся за рукавы, падол. Усё паабрывалася, забрудзілася. Глянула неяк Бярозка ў люстэрка-возера і горка заплакала: «Як жа мне ў гэткім строі на вочы іншым дрэвам паказвацца?»

А тут і гаспадыня Восень у лес завітала. Паспачувала Бярозцы, суцешыла: «Бачыш, колькі ў мяне тканінаў, фарбаў? Выбірай, якую хочаш». Глянула Бярозка — і вочы ў яе разбегліся: чырвоны, барвовы, пунсовы, жоўты ўсіх адценняў — якіх толькі колераў у скарбонцы багатай Восені не было! Выбрала яна светла-залацісты. Дакранулася Восень сваёй чароўнай палачкай да Бярозкі — і ўраз дрэўца апранулася ў залацістыя строі.

Іншыя дрэвы таксама захацелі новыя ўборы займець. І нікога яна не пакрыўдзіла. Усіх багата апранула. І да Елачкі дакранулася. Але тая, пахмурная і непрыветная, укалола гаспадыню сваімі іголкамі. Адышла Восень, пакінуўшы Елку ў старой пацямнелай зялёнай сукенцы. Так і стаіць яна — заўсёды зялёная — між іншых дрэўцаў у нашым лесе.

## Адкуль пралескі ў нашым лесе

Калісьці даўно ў нашых лясах жылі маленькія чалавечкі — Лесавінкі. Прыгожыя, быццам кветкі, залатавалоскі з блакітнымі вачыма. Яны напаўнялі лес сваім смехам, што звінеў срэбнымі званочкамі. У лесе спелі салодкія ягады, раслі кусты са смачнымі лісточкамі, якія і былі ежай для Лесавінкаў. Спытаецеся, а як у халады? Іх не было. Не завітвалі туды вятры з маразамі, не прыносілі зімы. Заўсёднае лета з цёплымі дажджамі.

Не ведалі Лесавінкі, што за вялізнай Гарой, якая акаймляла іхні лес з Поўначы, жыла халодная Зіма. Неаднойчы спрабавала яна перабрацца праз Гару, але тая з усіх сілаў трымалася, не пускаючы злую пані ў цёплы лес.

У ледзяным палацы Зімы падрасталі тры дачкі: Снегавіца, Ледавіца і Завейніца. Выраслі яны, увабраліся ў сілу і разам з маці рушылі супраць Гары. Засыпалі яе снегам, пакрылі лёдам, завеялі дзікім сіверам вочы. Не ўтрымала Гара гэткага націску, бо яна ж была адна, упала і прапусціла Зіму з дочкамі ў царства Лесавінкаў. Тыя ж, што ніколі не бачылі снегу з лёдам, напачатку шчыра ўзрадаваліся новым цацкам: сняжынкам, лёдавым шкельцам. Але якімі страшнымі яны аказаліся! Апякалі калючым холадам далікатныя далонькі, марознымі джаламі калолі ажно ў сэрца. Бедныя Лесавінкі змарнелі, бо не ўмелі змагацца з холадам, мяцеліцай, што запанавалі ў іхнім лесе. Упалі яны, зняможаныя, змарнаваныя, хто дзе быў, і заснулі пад снегавым покрывам.

Але нядоўга панавала Зіма са злымі дочкамі. Гара паклікала на дапамогу Сонейка, якое прабіла промнямі хмары і растапіла снег. А там, дзе былі заснуўшы Лесавінкі, выраслі кветкі нябачнай красы, пяшчотныя, далікатныя, колеру блакітнага неба. Вы, пэўна, здагадаліся, што гэта ажылі Лесавінкі. Вось адкуль пралескі ў нашым лесе.

## Казка пра цудоўны Луг, прыгожыя Краскі і злога Павука

На шырокім Лузе, што раскінуўся ля правага берага Ракі, жылі прыгожыя краскі. Яркія, духмяныя. А яшчэ — акуратныя і руплівыя. Зранку прачыналіся з першымі промнямі Сонца, мыліся сцюдзёнай расой, ад якое яшчэ мілейшымі рабіліся. Кропелькі расы былі ім заміж люстэрка. Ну як лішні раз не палюбавацца сабою, прыгажуняю? Наліваліся духмяным сокам і аддавалі яго працавітым Пчолкам, што цэлым роем з ранку да вечара віліся над цудоўным Лугам.

Гаспадаром у сябрыне Красак быў добры і мудры Званочак. Спрадвеку вёў ён рэй на Лузе. Уставаў раненька, яшчэ да ўсходу Сонца. Сам абмываўся празрыстай расою, а пасля пачынаў голасна звінець-спяваць, будзячы астатніх Красак:

Прачынайцеся, сяброўкі,
Падымайцеся, галоўкі!
Сонейка на небе ўстала,
Нас ласкава прывітала,
Нам паслала дзіва-промні,
Ясны, светлы дзень чароўны!

Вечарам, калі Сонейка сплывала за небакрай, Званочак спяваў сваім стомленым, сонным сяброўкам пяшчотную калыханку:

Мы за Сонейкам услед
Адыходзім на спакой.
Ночка ахіне крылом
Наймілейшы наш Луг-дом.
Спіце, мілыя сяброўкі,
Засынайце, песні, слоўкі!

А недалёка ад Лугу, у старым змрочным алешніку, жыў злы Павук. Не такі, як усе Павукі, а чорны, вусаты. Моцна зайздросціў ён ладу і парадку, што панаваў на Лузе. А зайздрасць, як вядома, сіла страшная, знішчальная. Вось і надумаў Павук загубіць Луг. Ноччу, калі ўсе Краскі салодка спалі, падкраўся ён да Званочка, аплёў яго цягучай густой павуцінай, моцна сціснуўшы пялёсткі. А бомку-язычок вырваў, са злосцю шпурнуў на зямлю і растаптаў. Каб і гуку Званочак прамовіць не змог.

Настаў ранак. Сонейка ўзышло. А Луг спіць. Ужо і раса высахла. А Краскі не прачынаюцца. Лье Званочак слёзкі, а заспяваць не можа. Плакаў-плакаў і зусім змарнеў ад гора, сохнуць стаў. Бо вядома ж: хто гаруе, той і марнее. Урэшце Сонца так моцна прыпякло, што Краскі прачнуліся. Захваляваліся, нічога зразумець не могуць. Дзе Званочак? Так і не знайшлі яго, ссохлага, між густое травы. Хацелі памыцца, прыбрацца, а расы няма. Так і стаялі, не ведаючы, што рабіць. Пчолкі ўгледзелі, што Краскі нямытыя, нясвежыя, непрыбраныя, не захацелі збіраць тут нектар. Самота і гора апанавалі Луг. Краскі пачалі сохнуць і гінуць. А на іх месцы вараслі асот, асака, крапіва. Цудоўны Лугператварыўся ў дзікія зараснікі.

А што Павук? З зайздрасцю паглядае ён на прыгожы Луг каля левага берага ракі…






нарадзілася 27 лютага 1960 года ў вёсцы Шчонава Карэліцкага раёна. Паэтка, празаік, літаратуразнаўца, кандыдат філалогіі. Скончыла Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы (1981), аспірантуру Інстытута літаратуры НАН (1992). Працавала на пасадзе дацэнта кафедры беларускай літаратуры ГрДУ імя Я. Купалы (1992–2015). Аўтар 300 літаратуразнаўчых артыкулаў і 11 кніг, сярод якіх «Іду па слядах: літаратуразнаўчыя артыкулы, эсэ» (1997), паэтычнага зборніка «Пярсцёнак» (1997), «Літаратурная Гарадзеншчына ў постацях і лёсах» (2010), «Наталля Арсеннева: Шлях да Беларусі» (2013), «Пра тое, што люблю: кніга прозы»(2016), «Шчонаўскія абразкі: кніга прозы» (2017). Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Гродне.

ВІКТАР САЗОНАЎ

## Панская хвароба

— Падагра — гэта не смяротна. І не ганебна. Паганыя хваробы — гэта тыя, якія смяротныя або ганебныя. Гэных трэба баяцца. А гэтая — ні тое, ні другое. Смех адзін, а не хвароба. Анекдот нейкі, — рабіў выгляд, што стараецца мяне супакоіць, адзін мой добры прыяцель, Сярожа, у тэлефоннай размове. — Падагра! Падумаеш! Не перажывай ты так моцна і не маркоцься…

Пры тым інтанацыя яго голасу міжволі выдавала надта прыўзняты настрой. А радаваўся ён з таго, што збыліся яго прароцкія словы пра гарэлку, якая да дабра не давядзе. І хоць гаварыў ён зараз мне добрае і суцяшальнае, што мусіць гаварыць стары прыяцель, усё ж нейкім сёмым пачуццем адчувалася, як адзін выраз так і круціцца на кончыку яго языка, быццам паганая вош на срэбным грэбні, і вельмі хоча адтуль зляцець на другі бок тэлефоннага шнура і даляцець ажно да майго вуха. Сярожа ледзьве стрымліваўся, каб не выбухнуць, як святочная петарда: «А я табе казаў, што дап’ешся рана ці позна і якаясь трасца абавязкова ўб’ецца. Бачыш, я не памыляўся! Я ніколі не памыляюся ў такіх пытаннях. Я ўвогуле ніколі не памыляюся!»

Ды не цешыўся ён з маёй хваробы чорнай радасцю! Не! Ні ў якім разе. Я далёкі ад такіх жудасных падазрэнняў. Ён проста нявінна і чыста, як першакласніца з правільнага адказу і пахвалы настаўніка, радаваўся з таго, што яго прадказанні наконт майго здароўя нарэшце збыліся. Людзі часта мілуюцца з такіх рэчаў, калі спраўджваюцца іх прароцтвы. Гэта падымае іх самаацэнку і вартасць у вачах іншых. Яны так наіўна думаюць. Хоць іншым, насамрэч, махнуць рукою на іх вартасць і самаацэнку. Ды і халера з ёй, той вартасцю і самаацэнкай. Галоўнае, што глыбока ў душы за маё здароўе ён таксама перажываў вельмі і вельмі шчыра. Ці не так, як радаваўся сваёй геніяльнасці. Проста гэта было вельмі-вельмі глыбока ў душы. Адсюль, дзе знаходзімся мы, гэта цяжка заўважыць. Прынамсі, мне так хочацца думаць.

Я нічога не адказаў. Толькі шматзначна ўздыхнуў. Так шматзначна, што кожны, хто мог пачуць гэты ўздых, мог і зрабіць свае ўласныя высновы наконт яго сэнсу. І зрабіць такія высновы, якія яму і падабаліся. Перш за ўсё, мне не хацелася зняверваць прыяцеля Сярожу ў наяўнасці логікі ў яго прароцкім аддзеле галаўнога мозгу. Таму я не стаў распавядаць, што пра магчымасці праблем са здароўем мяне папярэджвалі амаль усе знаёмыя, а не толькі ён адзін. Прадказвалі розныя жудасныя рэчы на працягу апошніх дваццаці гадоў. А можа і больш. Таму, калі гэтыя прадказанні ўспрымаць як фактар чалавечага інтэлекту, дык трэба прызнаць геніяльнасць не толькі яго аднаго, але і ўсіх іншых людзей планеты. Ну, хіба што апрача сябе самога. Я сабе такога не прадказваў. Што праўда — то праўда. Іншым дык прадказваў. А вось сабе — не. Ды і на размовы гэтым разам мяне не цягнула. Бо вельмі балелі суставы ног, рук, пальцаў ног, пальцаў рук, балелі ўсе костачкі, і нават тыя, якіх няма ў канструкцыі чалавечага шкілета. Моцна балелі. Дакладна так, як і трэба пры гэтай паганай хваробе.

— Добрага тут мала, — дурыў мне галаву іншы знаёмы, зноў жа праз тэлефон. Праз тэлефон таму, што на людзі я не мог выйсці з нагоды сваёй нямогласці, а пры-

мацъ гасцей у сябе без шклянкі добрага шатландскага віскару або пушчанскай моцнай і празрыстай самагонкі пярэчыла майму характару, настрою, перакананням і, што самае галоўнае, народным беларускім традыцыям. А прымаць са шклянкай забараняў лекар, жонка, здароўе, родныя і блізкія, надвор’е ды, як заўсёды, паскуднае міжнароднае становішча. (Ну, як прычына яна падыходзіць да ўсяго.)

— На нашай беларускай зямлі падагру называюць панскай хваробай, — працягваў туманіць мне мазгі чарговы тэлефонны госць. — Бо некалі толькі паны маглі сабе дазволіць часта піць гарэлку ды закусваць шмат і тлуста. Як ты. Таму і хварэлі. Як ты. А хвароба паскудная. Як у цябе. Ногі баляць. Як у цябе. І не толькі ногі. Ды гэта пераЖыць неяк можна. А вось як пераЖыць тое, што пры гэтай хваробе гарэлкі нельга піць увогуле і свініну есці забаронена?! Во дзе праблема! Хоць ты рабі абразанне і прымай іўдзейства або мусульманства! А што застаецца рабіць з такім харчовым і безалкагольным рацыёнам?! Ну то трэба ж гэты жыццёвы абсурд давесці да вышэйшай кропкі.

— Абразанне рабіць ды кардынальна мяняць кухню хіба не буду, — як напрыканцы споведзі, вяла і неахвотна прастагнаў я. — Прывык я да гэтай ежы, як і да сваіх неабрэзаных памераў. Таму ісці на радыкальныя змены ў гэтым кірунку не ў змозе чыста псіхалагічна. Рэлігійныя прыярытэты тут таксама за мяне. Ну і нацыянальныя традыцыі, вядома ж. А ты добра ведаеш, што супраць нацыянальных традыцый я не пайду. Бо усё жыццё хадзіў толькі супраць тых, хто выступаў супраць іх. Во, як крута выказаўся. Хоць нешта мяняць прыйдзецца напэўна. Бо як баліць, то тады ні піць, ні есці не хочацца. Нічога тады не хочацца.

— Як я табе спачуваю! — толькі і знайшоў чым адгукнуцца той.

Дык вось, гэтае «спачуваю» мне прыходзілася выслухоўваць ужо каторы дзень запар. Гучала тое спачуванне ў розных інтанацыях і націсках, перадавалася безліччу галасоў, якія я не ўсе нават змог распазнаць і ідэнтыфікаваць з-за іх масавасці і колькасці. А само слова «спачуваю» імкліва выйшла на першае месца сярод пачутых за апошні тыдзень слоў.

Самым першым паспачуваў мне мой добра знаёмы лекар, мой сябра, які пасля праверкі аналізаў з заклапочанай радасцю, якая мела тыя ж вытокі, як і ў таго сябра Сярожы, упэўнена абвясціў дыягназ — падагра. І шчыра ды натхнёна павіншаваў мяне. Нават руку патрос.

— Хвароба гэтая шляхетная і значна прадаўжае хвораму жыццё, — прасвятліў ён. — Бо папраўляе яму астатняе здароўе, дадае бадзёрасці, лёгкасці і працаздольнасці. І ўсё тут сказанае ёсць чыстая праўда, як ні парадаксальна гэта гучыць.

Такімі былі яго лекарскія сцверджанні і перакананні.

— Як такое можа быць? — здзівіўся я з лёгкім падазрэннем, што ў таго самога не ўсё нармальна са здароўем. І гэта яўна не падагра. А штосьці звязанае з галавой. Можа, перапрацаваўся. Лекар — вельмі цяжкая прафесія. Гэта вам не касманаўт, які паляцеў сабе ў космас і можа там рабіць, што яму ў галаву стрэльне. Ніхто да яго не дабярэцца. А ў лекара праверкі, начальства, пераатэстацыі, павышэнне кваліфікацыі і яшчэ мноства ўсялякай трасцы. А яшчэ ёсць і пацыенты, якіх лячыць трэба! І кожны ад беднага лекара нешта хоча. Іх шмат, а ён адзін. Тут нервы могуць у кожную хвіліну здаць. Таму я і засумняваўся ў лагічнасці і аб’ектыўнасці яго слоў. І дарма.

— Такое можа быць, і такое ёсць насамрэч, — растлумачыў ён, развейваючы мае падазрэнні. — Хвароба не смяротная, гэта раз. Працякае з моцнымі болямі суставаў, гэта два. Каб болі зменшыць, ёсць адзін шлях — не піць гарэлкі і не жэрці абы-чаго. Гэта тры. Жаданне пазбавіцца дзікіх боляў спрацоўвае значна лепш, чым рэкамендацыі самага ўплывовага прафесара медыцыны. І хворы пачынае выконваць усе парады лекара. А гэта галоўнае. Ну а патрэбная пры падагры дыета ўжо сама па сабе прыносіць лёгкасць і спрыяе якасці ды працягласці жыцця. Былі б усе хваробы такімі, як гэтая, дык чалавек мог бы стаць увогуле несмяротным. Я ў маладосці нават марыў вынайсці такі медычны прэпарат, каб наўмысна заражаць людзей гэтай хваробай. Так чалавецтва змагло б перамагчы алкагалізм цалкам, не падвяргаючы рызыцы жыццё пацыентаў. Мы ўсіх выпівох заразілі б падаграй, і гарэлкі яны піць не змаглі б з-за боляў у суставах. Таксама гэтая хвароба павышае ўзровень мачавіннай кіслаты ў крыві. А яна станоўча ўплывае на інтэлект. І вось хворыя пачалі б нарэшце думаць, зноў набылі б цікавасць да жыцця, сталі б прыносіць карысць грамадству, перасталі б развальвацца з-за алкаголю сем’і, на планеце надышоў бы залаты век шчасця ды гармоніі. Ну, а мая сціплая персона атрымала б ад удзячнага чалавецтва невялічкую Нобелеўскую прэмію і яшчэ адзін лішні выходны дзень у год. Можа, тады ўжо хоць адаспаўся б…

Але, хоць і абмаляваў добры лекар (і па сумяшчальніцтву мой сябра) радасныя перспектывы, болі суставаў асаблівага натхнення не надавалі. А з часам і спачуванні знаёмых ды блізкіх сталі больш невыноснымі, чым тыя болі. І так яны абрыдлі, што прыйшлося выключыць свой мабільнік і ўгаварыць жонку, каб тая тлумачыла ўсім назойлівым спачувальнікам праз хатні тэлефон, што я ўжо цалкам ачуняў, выйшаў з хваробы і пайшоў у глыбокі доўгатэрміновы запой… ды з’ехаў у глухую вёску, бо там на натуральных сельскіх абшарах самагонка мацнейшая, а свініна тлусцейшая, чым у асфальтна-бетонным палоне горада. Адным словам, я ёсць, але не тут. А там, дзе я ёсць, мяне знайсці цяжка…

Але гэтая прымітыўная хітрасць не спрацавала. Ці, калі сказаць больш правільна, спрацавала не вельмі эфектыўна. Народ стаў ціснуцца ў хату ўласнымі персонамі, каб пасля з гонарам распавядаць тым нешчаслівым, якія не дадумаліся да такога нахабства, што на свае вочы бачылі — я сапраўды зусім не п’ю. І ўвесь час надакучалі мне сваімі спачуваннямі. І невядома чаму больш спачувалі. Ці то таму, што мне баляць суставы, ці то таму, што я сапраўды не п’ю. А адзін дык нават шэпатам на вуха спытаўся:

— Ты мне праўду скажы. Як ніхто не бачыць і лекар не ведае, ты пакрыху пацягваеш? Не хвалюйся. Я нікому не скажу.

Іншыя нават жартавалі і смяяліся з маёй бяды. Бо заўважылі, што я і сам да яе стаўлюся з гумарам — тады лягчэй яе пераносіць. І, выслухаўшы гісторыю хваробы і прапанаваныя метады лячэння, яны хмура і недаверліва матлялі галовамі і агучвалі свае версіі правільнага лячэння:

— Ды не можа такога быць! Медыцына павінна лячыць людзей, а не здзекавацца з іх. Ты ж сам ведаеш, што яшчэ ў 1984 годзе была прынятая канвенцыя ААН, якая ўступіла ў сілу ў 1987 годзе. Гэта канвенцыя супраць здзеку, катаванняў і іншых жорсткіх, бесчалавечных ці прыніжаючых годнасць відаў абыходжання і пакарання.

Яна забараняе катаванні пры любых абставінах і ўстанаўлівае абавязак крымінальнага пераследу за катаванні. Таму пры размове з медыкамі можаш спасылацца на яе. Ну, як гэта можна забараніць ужываць алкаголь такім людзям, як мы?! Ці ж гэта не катаванні?!

Сказаў гэта Валодзя і сам рагоча. Эх і жартаўнік мой сябра! Ведае, якім жартам можна падняць настрой. А другі яшчэ лепшы смех прыдумаў:

— Можа, твая жонка добра заплаціла лекару, каб ён табе такое жудаснае лячэнне прапісаў? — ледзьве стрымліваючы смех, кажа мне гэта на вуха. — Гэтыя бабы і на такое здольныя, каб гарэлку ў нас з гарляка вырваць!

А яшчэ адзін сябрук заявіў, што безвыходных сітуацый не бывае, і прапанаваў такое выйсце:

— Лекар забараніў табе піць гарэлку? Падумаеш, праблема! Мяне некалі медыкі не пускалі са шпіталя дахаты начаваць. Казалі, мушу быць у лякарні. Дык я прыплаціў медсястры, і яна закрывала вочы на мае ўцёкі. Ты зрабі таксама. Дай лекару добры хабар, каб дазволіў ужываць табе алкаголь! Вось і ўсе праблемы!

Толькі я на такі радыкальны крок не адважыўся — паслухмяна выконваў тыя рэкамендацыі медыкаў, якія яны давалі без хабару. Думаў, крызіс хутчэй пройдзе. Але час ішоў, і нічога не мянялася, як нічога не мяняецца ў сюжэце ўжо выдадзенай кніжкі.

Жыццё ўсё больш афарбоўвалася шэрымі колерамі. Дайшло да таго, што я пачаў зайздросціць усім іншым людзям. І знаёмым, і не. Бо ў іх нешта увесь час здаралася — хтосьці выехаў у лес на шашлыкі, іншыя на карпаратыве налізаліся так, што патрапілі ў міліцэйскі пастарунак, недзе пачалася вайна, прыяцель Сярожа парэзаўся пры галенні… Толькі ў мяне нічога не мянялася. Як у пустыні Сахара. Аднатонны і нудны ландшафт. Толькі дыета і невыносныя спачуванні… Адным словам — у мяне ўсталявалася поўная стабільнасць таталітарнага характару.

Вось так аднаго разу я ляжаў, як прыдурак, уставіўшыся мордай у тэлевізар, і разважаў, што я з-за сваёй хваробы зрабіў няшчаснымі неверагодна вялікую колькасць людзей. Яны ўсе перажываюць за мяне, маркоцяцца, спачуваюць… І сябры, і блізкія, і нават проста знаёмыя…

Я ўжо не кажу пра сям'ю. У дзяцей хоць іншыя клопаты ёсць. А вось бедная жонка лётае, як вясковы венік, прадукты адмысловыя шукае для майго правільнага харчавання, па аптэках носіцца… За дыетай сочыць, мне асобна гатуе, прыносіць у ложак… Столькі праблем ёй нарабіў! Як яна яшчэ трывае гэта ўсё… Як жа ёй цяжка! Усё ж было раней добра. Больш чым дваццаць гадоў ужо жывём душа ў душу. Здавалася, і далей усё будзе добра, як і раней, як усе гэтыя дзясяткі гадоў. І тут на табе… Якая паганая хвароба! Каб хоць толькі сам пакутаваў, дык яшчэ нічога. Можна было б трываць. А тут і іншыя. Асабліва жонка. А яе ж некалі, больш за дваццаць год таму, абяцаў зрабіць шчаслівай… Яшчэ тады абяцаў, як замуж ісці прапаноўваў. І што атрымалася! Як цяпер яе ашчаслівіць?!

Вось з такімі хмурнымі думкамі я ўзяў мыліцы і павольна пасунуўся на кухню. Вады захацеў. Збіраўся ўжо дзверы адчыняць, як пачуў, што мая жонка з некім гучна размаўляе па тэлефоне:

— Ой, Леначка, як я табе спачуваю, — шчыра шкадавала яна нейкую сяброўку. — Як табе цяжка! Як ты трываеш яшчэ?! Скуль у цябе бяруцца сілы?!

Мне ад такой нечаканасці і вады расхацелася. Гэта ж я хворы! Гэта мне ўсе спачуваць мусяць! А мая родная жонка спачувае нейкай там Леначцы! Гэта я яе, сваю другую палову лічыў самай няшчаснай з-за маёй падагры! А яна яшчэ некага лічыць больш няшчаснай! З якой такой нагоды? Трэба высветліць да канца. Разабрацца. І я яшчэ шчыльней прыклаў вуха да дзвярэй кухні.

— І што, твой гад ужо трэці дзень у запоі? — працягвала тэлефонную размову жонка. — Ой, як табе кепска! Гэтыя алкаголікі як дабяруцца да гарэлкі, то пра ўсё тады забываюцца. І пра сям'ю, і пра абавязкі, і пра людскасць, і пра працу, і пра жонак… Я ведаю гэта. Толькі не ведаю, што табе параіць.

Я ад нечаканасці і здзіўлення так прытуліўся да дзвярэй, што нават пачуў голас з таго боку слухаўкі:

— А што тут параіш, — уздыхала Лена заплаканым голасам. — Такі мой лёс, відаць, паскудны. Застаецца толькі цярпець. А у цябе як справы? Як жывеш зараз? Што там у цябе новага?

— А ў мяне, нарэшце, усё добра, — узбадзёрылася жонка і эмацыйным узбуджаным голасам стала дзяліцца з сяброўкай сваёй радасцю. — Усё ў мяне зараз цудоўна стала — мой муж захварэў. То я не магу нацешыцца ніяк. І не ведаю, як дзякаваць лёсу. Падагра ў яго. Суставы баляць моцна. Хадзіць зусім не можа. Цэлы Божы дзень у хаце. Нідзе не цягаецца. Не п'е зусім і ў рот не бярэ, бо ад гэтага яшчэ больш баліць. Нават не нюхае. У сям'і радасць і ідылія, гармонія і ўтулак. Якая добрая хвароба! Не ведала, што ёсць на свеце такія добрыя хваробы. Я і не думала раней, што ў шлюбе можна быць такой шчаслівай. Хоць ужо больш чым дваццаць год замужам. Тэрмін не малы. І вось толькі цяпер шчасця дачакалася. Больш чым дваццаць год пакутавала, і нарэшце лёс злітаваўся! Захварэў мой родненькі. Ды так удала! Дай Бог усім добрым людзям такую хваробу. Яе ў Беларусі яшчэ называюць панскай хваробай. Ну то сапраўды панская хвароба. Жыву зараз, як сапраўдная пані!



нарадзіўся 18 кастрычніка 1963 года ў мястэчку Гальшаны Ашмянскага раёна. Скончыў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы (1990). Як журналіст і літаратар друкаваўся ў розных беларускіх і замежных выданнях («Літаратура і мастацтва», «Ніва», «Новы час», «Дзеяслоў» і інш.). Аўтар кніг «Занатоўкі кантрабандыста» (2009), «Сандалі мітрапалітыка» (2012), «Паэзія прозы» (2013) «Суседскія былі» (2015). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Гродне.



ЛЕАНАРДА ЮРГІЛЕВІЧ

## Верачка

— Мама! Мамачка! — крычала праз сон пяцігадовая Верачка, перабудзіўшы ўсіх насельнікаў дзіцячага прытулку. Выхавальніца Марыя Рыгораўна, якая дзяжурыла ў тую ноч, подбегам кінулася ў спальны пакой:

— Дзе тая твая мамачка, каб яна долі не пазнала? Гарэлку ўсё жлукціць, а ты тут бедненькая, адзінокая… Прыснілася нешта страшнае? Ну спі, спі, я табе падушку папраўлю, — яна нахілілася над дзяўчынкай і пагладзіла па галоўцы. Лобік быў гарачы.

— А Божа мой, у цябе ж тэмпература! — спалохалася выхавальніца. — Трэба хуткую дапамогу выклікаць!

Верачку забралі ў бальніцу. Яе агледзеў доктар, а потым медсястра зрабіла ўкол. За акном ужо займалася ліпеньская раніца, калі дзяўчынка зноў заснула. Напэўна, спала б доўга, але яе ласкавым голасам пабудзіла добрая дзяўчына ў белым халаце:

— Уставай, родненькая, я вазьму ў цябе кроў на аналіз.

Верачка захныкала:

— Зноў будзе балець!

— Зусім ледзь-ледзь. Пацярпі, бо так трэба.

Дзяўчына-лабарант пракалола пальчык і выціснула кропельку крыві.

— Во, баішся, то і кроў не хоча ісці, трэба сілай прымушаць, — разважала, каб суняць дзіцячыя слёзы. А Верачка плакала так горка, слёзы буйнымі гарошынамі каціліся з чорных вочак.

— Зараз перастане балець, — запэўніла добрая дзяўчына. — Гэта ж усё адно як камарык укусіў.

Але які там камарык! Абліваючыся слязамі, дзяўчынка падбягала да кабетаў, што ляжалі тут са сваімі дзеткамі, і кожнай паказвала пальчык з ваткай:

— Мне так баліць! Тут укалолі і кроў пайшла! — яна так хацела, каб хто-небудзь пашкадаваў, пагладзіў па чарнявай галоўцы. Але ў жанчын былі на руках свае хворыя дзеці. У адных таксама бралі кроў на аналіз, а некаторым давалі ўколы. І дзеці малыя, груднічкі, плакалі, іх таксама трэба было супакоіць.

— Не плач, дзяўчынка, міленькая, зараз перастане балець твой пальчык.

— Ага, пацярпі крышку, ты ж ужо вялікая.

Чужыя мамы шкадавалі яе і супакойвалі як маглі.

— Я б такіх матуляў, што памянялі дзяцей на гарэлку, у турму садзіла б! — з запалам сказала маладая жанчына з доўгімі чорнымі валасамі. Яна паклала на ложак свайго маленькага сыночка, узяла ў тумбачцы каробку соку, пачак пячэння і дала Верачцы:

— На табе пачастунак, тут усё смачнае. Калі хочаш, адразу адкрыю сок?

— Хачу! — заззялі радасцю чорныя вочкі. Слёзы на іх імгненна высахлі.

— А я табе дам цукерак, — і другая жанчына дастала са сваёй тумбачкі велікаваты пакунак.

— Дзякуй! А ў мяне вам няма чаго даць…

— Ах ты, дзіцятка, якая разумная і добрая, а доля, бачыш, ліхая, — абапёршыся на швабру, прамовіла пажылая санітарка, што прыйшла мыць падлогу.

— Яшчэ невядома, можа, у яе жыцці ўсё наладзіцца, — выказала меркаванне адна з мамаў.

— Не скажы, галубка, як ужо з ранняга дзяцінства не пашанцуе, то і надалей дабра не чакай, — не згадзілася санітарка.

— Верачка, ідзі разам з усімі ў сталовую, жанчыны пакажуць, дзе яна. Паснедаеш, — сказала медсястра.

Дзяўчынка вавёркай паскакала па калідоры. Яна прытрымала дзверы сталовай, каб зайшлі кабеты з дзеткамі.

— Заходзь, маленькая.

— Ага, чаго ж ты стаіш? — прапаноўвалі жанчыны.

— Я ўсіх прапушчу, потым сама зайду, — Верачка была рада аддзячыць цёткам за іх дабрыню.

Калі ішла са сталовай, то ўбачыла, што за шклянымі дзвярамі адной палаты ў ложачку ляжыць зусім малое дзіця. Ягоны тварык скрывіўся, і пачуўся пранізлівы плач. А навокал нікога. Дзверы былі крышку прыадчынены, і Верачка адчыніла іх яшчэ больш, бокам прасунулася ў палату. Падышла да ложачка.

— Не плач і нічога не бойся, тут цёткі добрыя, — угаворвала дзіцятка. Але хіба тое слухала?

— Што ты тут робіш?! — раптам пачула сярдзіты голас. — Сюды нельга нікому заходзіць, акрамя нас, медсёстраў. Мы гэтага хлопчыка і кормім, і пераапранаем. Яго мама кінула, нарадзіла і кінула. Ды і якая яна мама? Заўтра ўжо яго забяруць у дом дзіцяці.

— А мяне мама не кінула, — паведаміла Верачка. — Яна дома. І я потым буду дома, як мама перастане піць гарэлку.

— Ой, малая, нічога ты не разумееш… — уздыхнула маладая медсястра. — Але добра, што не кінула, можа, калі-небудзь за розум возьмецца, то аддадуць ёй цябе.

Тэмпература ў дзяўчынкі больш не паднімалася, яе тут усе шкадавалі. І ноччу прысніўся дзіўны сон, нібыта яе і таго маленькага хлопчыка, што адзін ляжыць у палаце, трымае на руках добрая прыгожая жанчына. І Верачка ведае, што гэта іхняя мама, толькі не тая, што ў вёсцы, што п'е гарэлку, а другая. І Верачка такая шчаслівая! Хоць у сне…

## Сонька і Кірэеўна

Накрыўшыся лёгкім пакрывалам жнівеньскай ночы, Стайкі спалі. Сонька Кажамяка, высокая, худая, з рэчавым мяшком за плячамі, мінула вёску і за апошняй хатай павярнула налева. Да роднага хутара заставалася метраў чатырыста, не болей. Яна не была тут амаль пяцьдзясят гадоў, але трапіла б нават з завязанымі вачамі.

— Можа, ужо і няма нікога, можа, памерлі ўсе? — шаптала сама сабе. — Усё роўна пасялюся і буду тут жыць, бо няма куды дзецца.

Ад пахіленай брамкі на падворку была пратаптана вузкая, як прайсці чалавеку, сцяжынка. Гэта прыдало ўпэўненасці, што хата не пустая, што ў ёй цепліцца жыццё.

Падышла да бліжэйшага акна і забарабаніла ў раму. Ніхто не адклікнуўся. Забарабаніла яшчэ. Спачатку ў хаце пачулася нейкае шарканне, а потым і ля дзвярэй, што ў сенях.

— Хто там? Цягаюцца тут поначы, добрым людзям спаць не даюць, — пачуўся незадаволены старэчы голас.

— Гэта ты добрая? І хто табе, Зоя Кірэеўна, такое сказаў? Адчыняй, гэта я, Сонька. Пэўна, вы з бацькам ужо даўно пахавалі мяне і забыліся, але я жывая…

Грымнула засаўка, і кабета ступіла ў духату сяней. Нешта такое далёкае, такое роднае дыхнула на яе з гэтых сяней, што пакаціліся слёзы. Старая, перавальваючыся з нагі на нагу, пакалывала ў хату. Сонька падалася за ёй.

— Святло ўключы, а то яшчэ нос разаб'ю ў поцемках. А дзе ж бацька?

— На могілках ужо гадоў з дваццаць…

— Ну, я так і ведала, што ты яго перажывеш, бо вельмі ж бераглася, так бы мовіць, за ваду халодную не бралася. І ён табе ўсяк патураў. Як прывёз некалі з вайсковых збораў, то і закончылася маё дзяцінства. Сіратой без мамы жылося цяжка, а пры табе стала яшчэ цяжэй.

У святле цьмянай лямпачкі Сонька ўбачыла, што Кірэеўна з некалі ганарыстай маладзіцы ператварылася ў тоўстую старую. Дзе толькі ўсё і дзелася.

— Ты што, жыць тут збіраешся? — спытала Кірэеўна незадаволена.

— А дзе ж? Тут, у бацькоўскай хаце. Маю права.

— Усе правы на гэта ты даўно страціла, бадзяючыся па свеце!

— Бадзяючыся?! А праз каго я, дзіця горкае, бадзяцца стала? Ты здзекавалася з мяне, ды яшчэ і бацьку падвучала, каб біў. Не раз крычала: «Гэта таму яна такая непаслухмяная, што мала б'еш!»… А я з ранняга дзяцінства ўсё ўмела рабіць: і карову даіла, і свіней карміла. Усё-ўсё! У чацвёртым класе цэлы верасень у школу не хадзіла, бо трэба было бульбу капаць. Даўно хацела з дому збегчы…

— Ну і збегла ж…

— Ага, пасля таго, як вы з бацькам не пусцілі мяне начаваць. Ды за што?! Ты сказала, што я знарок выпусціла парасят і яны парылі грады. Я пераначавала ў пуні, а потым пайшла на станцыю і села ў маскоўскі цягнік. Папрасіла праваднiцу, каб пусціла ў вагон, маўляў, там мая бабуля, а я выйшла на хвілінку. Яна і паверыла… Як мне цяжка было, ты нават уявіць не можаш! З малымі бадзяжкамі блукала па Маскве, была ў дзіцячым доме, потым уцякла і падалася ў Яраслаўль…

— Ну там і заставалася б. Чаго сюды прыперлася на маю галаву?

— Не, міленькая мая! Адсюль я нікуды не паеду. Няма куды. Ні мужа, ні дзяцей. І з камуналкі выселілі, бо не было чым плаціць. Я ж апошнім часам у Мінску жыла.

— То і пенсіі, пэўна, не маеш, не зарабіла?

— Крыху зарабіла. А цяпер на тваю будзем жыць.

— На халеру ты мне патрэбна?! Я старая, нямоглая!

— Ага, а я некалі была малая, бездапаможная, але ты не шкадавала, здзекавалася як магла. Так што не скардзіся тут на сваю нямогласць.

— Ты ж, пэўна, выпіць любіш? Ведаю я такіх!

— А ведаеш, то чаго пытаць? Люблю выпіць, а грошай не стае. Так што твая пенсія будзе патрэбная.

— За што мне такая кара?! — ледзь не галасіла Кірэеўна.

— Я ж табе ўсё растлумачыла: за грахі, за здзекі з малой сіраты. Час расплаты прыйшоў, так што змірыся. І калі, не дай Бог, хоць каму пікнеш, што табе са мной дрэнна жывецца, то будзе яшчэ горш. Ты мяне не ведаеш, я на многае здольная.

Дарэмна Сонька страшыла старую, не такім дрэнным чалавекам яна была, як казала. Надта крыўдна і балюча было за цяжкае дзяцінства, за жыццё без радасці.

Кірэеўна ўсе свае грошы трымала дома ў вузельчыку за бажніцай, а як прыйшла Сонька, то баялася, што ўкрадзе, і ледзь не кожны дзень перахоўвала іх. Засуне куды і сама забудзецца. Потым знойдзе і зноў запраторыць. І так маркоцілася па тых грашах, што праз тры месяцы трапіла ў бальніцу з высокім ціскам. Дадому яна ўжо не вярнулася, папрасілася, каб афармілі ў дом састарэлых.

— Ёсць Бог на свеце, — сказала на гэта Сонька. — Я ў дзяцінстве была ў казённым доме, а яна ў старасці. Няхай пакаштуе, які там хлеб смачны…

## Ясь і Маня

Калі прырода стварала Маню Круцік, то, напэўна, была ў дрэнным настроі і асабліва не старалася, бо дзеўка атрымалася так сабе: твар круглы, як патэльня, бязбровы і па-мужчынску суровы. Затое дужая і працавітая.

Пераваліла за трыццаць, а замуж браць ніхто і не збіраўся. А хлопцы ў іхняй вёсцы Каморкі былі. Ну, хоць бы Ясь Кубелька, што з бацькамі жыў на другім баку вуліцы. Манін равеснік і знешнасцю да яе вельмі падобны.

Аднойчы пасля вячэры яны з бацькам выйшлі на ганак пакурыць, і стары па звычцы завёў сваю шарманку:

— Чаму ты, лабайда, не жэнішся? Калі ўжо мы з маткай унукаў прычакаем?

— Ага, калі? — высунулася з сяней і маці. — Замарыліся ўжо чакаць.

— Ды з кім тут жаніцца? — скрывіўся Ясь. Гэтыя размовы яму так абрыдлі, што не выказаць словамі, бо садзіць сабе на карак бабу зусім не хацелася.

— Чаму гэта з кім? Ну, хоць бы з Маняй. Чым не жонка? У гаспадарцы яна незаменная, — запэўніў бацька. — Я аднойчы бачыў, як яна з даяркамі на ферме муку каровам па кармушках разносіла. Тыя мех за два разы толькі і здолелі занесці, а Маня па мяху брала пад пахі і несла, нібы вату. Во як!

— Брыдкая…

— Нібы ты харашэйшы… А потым, як людзі кажуць, прыгажосць да вянца, а розум — да канца.

— Такі ўжо надта і розум?

— Ну, сіла…

Бацькі такі далі рады схіліць Яся на свой бок: праз два тыдні пайшоў да Мані ў сваты.

— Пажэніцеся, то мы і хату паможам пабудаваць! — радасна запэўніў Манін бацька.

— А як жа, паможам! — падтрымаў яго будучы сват. — На два канцы, каб для іх і для сына, які народзіцца.

Пажаніліся, пабудавалі хату, а сын усё ніяк не нараджаўся. Ні сын, ні дачка. З-за гэтага паміж Ясем і Маняй часта былі сваркі, а аднойчы ён заляпіў кабеце аплявуху.

Забыўся, відаць, што ў Мані сілы нямерана. Яна так засвяціла мужу паміж броваў, што іскры з вачэй пасыпаліся лепш, чым ад кітайскай петарды.

Праз пяць з паловай гадоў, не дачакаўшыся нашчадкаў, Ясь пачаў прыглядацца да мясцовых дзевак: шукаў Мані замену. І знайшоў. У тую палову хаты, што будавалася для сына, прывёз на калгасным грузавіку бухгалтара Зіну Рабчык з усімі яе небагатымі пажыткамі. А Маня засталася саламянай удавой.

— Нас двое, а яна адна, то трэба раздзяліць агарод па-справядлівасці: нам адгарадзіць у два разы болей, — павучала Зіна.

Ён так і зрабіў. Маня, каб захацела, разбурыла б той плот адной левай, але яна абышлася інакш. Толькі што з турмы вярнуўся Казік Жомдзя з другога канца вёскі. Бацькі паўміралі, і ён пасяліўся ў пустой хаце. Маня падумала, што не адмовіцца ад прымацтва.

— Будзеш накормлены, і абшыты, і абмыты, — сустрэўшы Казіка на вуліцы, пералічвала выгоды. — Бо што ты сядзіш адзін у пустой хаце, як прусак?

Казік згадзіўся.

Жнівеньскай раніцай Ясь з Зінай убачылі, як па надворку з сякерай ходзіць шыракаплечы дужы мужчына, а на ім татуіроўкі — нібы майка надзета. Казік паламаў іхні плот і робіць па-свойму. Зіна хацела выскачыць на ганак і сказаць самазванцу ўсё, што пра яго думае.

— Не лезь, не чапай! — спыніў Ясь. — Бо ад адной пстрычкі будзеш па бураках сальта круціць. Гэта табе не з Маняй за чубы цягацца. Падобна на тое, што мы павінны адступіць, як швед пад Палтавай.

— І ты не будзеш змагацца за сваё?!

— Ды ён ужо два разы ў турме сядзеў, і трэці сядзе, не пасаромеецца. А мяне прыстукне, як клапа, шукай потым праўды па судах. А то і на Божы суд траплю. Не хачу!

Калі раней на падворку Кубелькаў стаяў гвалт, то цяпер усё сціхла, ніякіх прэтэнзій Ясь і Зіна да суседзяў не мелі.

Мінуў час, і аднойчы летам усе ўбачылі, як па ганку скаціўся маленькі хлопчык, і, растапырыўшы ножкі, пайшоў па мякенькай мураве. Ну, чыста Казік, толькі што без татуіроўкі…



нарадзілася 4 верасня 1948 года ў вёсцы Рагалёўшчына Валожынскага раёна Мінскай вобласці. Скончыла Свіслацкую школу-інтэрнат. Вучылася завочна на факультэце журналістыкі БДУ. Працавала ў Дзятлаўскай раённай газеце «Перамога». Шматразовы лаўрэат прэміі часопіса «Вожык», удзельніца Усебеларускага фестывалю сатыры і гумару «Аўцюкі-2000», дзе атрымала дыплом «За развіццё традыцый беларускага гумару». Аўтар кніг «Грэшная душа» (2000), «Восеньскае танга» (2003), «Доўгі калідор» (2017). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў.





# Успаміны

## Мікола Кананові

## На Вялікдзень

Пах цыбульніку ў вядры пасля фарбавання яек і націранне на тарцы свежавыкапанага хрэну, які выядае вочы так, што слёзы коцяцца градам, — асноўныя сімвалы і пахі майго Вялікадня. Вялікадня часоў дзяцінства, калі гэты дзень быў сапраўдным святам.

Вялікдзень у нашай сям'і заўсёды святкавалі. І ў царкву на ўсяночную брала мяне баба Маня, матчына маці, калі крыху падрос і ўжо мог сам прайсці тыя некалькі кіламетраў дарогі.

Паміж бясконцых малітваў, шматлікіх жаночых хустак і рэдкіх мужчынскіх галоў самым цяжкім было мне ў дзяцінстве ў Велікодную ноч чакаць, пакуль бацюшка пасвенціць пасху. А тое адбывалася ў нашай вясковай Свята-Міхайлаўскай царкве заўсёды ўжо пад раніцу. Затое потым дахаты ішлі з бабуляй — як на крылах ляцелі. Дома разгаўляліся — і адпачываць. Але спалася нядоўга. Бо патрэбна было з хутара спяшацца ў вёску, несці пасху маёй сям'і сям'і і цёткі Ніны.

У бабулі было дзве дачкі, Ніна і Таня. Дык бабуля і ў старэйшай Ніны падыме чарку за свята ды здароўе гаспадароў, і ў малодшай Тані. А мы, дзеці, добра пад'еўшы са святочнага стала, валачобнымі біліся: у каго яйка атрымаецца мацнейшым — той і перамог. Яйкамі чырвонымі, фарбаванымі ў цыбульніку, дзяцей тады частавалі ўсе, хто ні сустрэне на Вялікдзень.

Абавязковыя пірагі ды яйкі, адмыслова зваранае мяса, дамашняя каўбаса, нарэзкі паляндвіцы і кумпяка, хрэн — гэтыя харчовыя атрыбуты майго вясковага Вялікадня найчасцей будуць згадвацца ў савецкім войску. І асабліва востра захацелася такога свята аднойчы дэмбелеўскай вясной 1986 года. Але замест свята тады мяне чакаў месяц паездак у 30-кіламетровую радыяцыйную зону вакол Чарнобыля.

Напэўна, з той вясны 1986 года недзе глыбока ўва мне пачало паціху тухнуць адчуванне свята Вялікадня. Пасля войска, калі вучыўся ва ўніверсітэце і калі працаваў ужо настаўнікам у школе, заўсёды яшчэ прыязджаў на Вялікдзень дамоў. Спачатку ехаў да маці, бацькі і бабулі, потым — ужо толькі да маці. І з кожным годам усё менш заставалася ў маёй душы дзіцячай велікоднай радасці ды большала дарослай горычы.

Да маці (якая, дзякуй Богу, яшчэ жыве) я перастаў прыязджаць на Вялікдзень, калі з'явілася ўласная сям'я. Пасля жаніцьбы святкаваў Вялікдзень спачатку з жон-

кай, яе бацькамі і раднёй. Потым да гэтай кампаніі дадалася мая маленькая дачка, але вельмі хутка сышлі з жыцця жончыны бацькі.

У наступны пасля смерці цесця і цешчы год я не знайшоў у сабе і крупінкі дзіцячага адчування свята на Вялікдзень. Мой Вялікдзень-свята тады скончыўся назаўсёды. А ў сваё Вострава я штогод еду да маці праз тыдзень пасля Вялікадня — у памінальную нядзелю. Тады мы з маці, а часам і з маімі сёстрамі і іх дзецьмі, адзначаем пасху мёртвых. Але перад тым я штогод прыбіраю іх магілы.

З жонкай, дачкой і жончынай раднёй мы традыцыйна адзначаем Вялікдзень і надалей. Таксама традыцыйна ходзім у царкву пасвянціць пасху. А калі жонка традыцыйна фарбуе ў цыбульніку яйкі, я ўжо ведаю, што праз тыдзень абавязкова паеду ў сваё Вострава прыбірацца на могілках. Пасха мёртвых чакае.

## Маёўка

— Марыя! Марыя, сука, дзе ты?! — з дзяцінства захавала памяць гэты покліч Рыгора Дзмітрыевіча да сваёй Марыі Юр'еўны падчас калгаснай маёўкі ў бярозавым гаі за шашой каля Вострава.

Тады нашы востраўская васьмігодка і калгас «Рассвет» дружна жылі — разам і на працу, і на святы траплялі. Летам, на канікулах, пачынаючы пасля пятага класа, мы хадзілі на калгасную працу «ў брыгаду». І на полі, і на сенажаці, і на сіласнай яме, і на збожжатаку — усюды знаходзілася праца для дзяцей. А ўжо восенню, калі ішлі ў школу, само сабой, чакала ў полі вучняў калгасная бульба, не кажучы ўжо пра прышкольныя грады.

Святы пачыналіся, як і навучальны год, таксама восенню, калі выбіралі ўвесь ураджай на калгасных палетках. Тое свята так і называлася — свята ўраджаю. Тады калгас купляў і дарыў вучням розныя падарункі «за добрасумленную працу»: шкатулкі, розныя гліняныя ці драўляныя сувеніры і падобнае, але найчасцей дарылі кнігі з надпісам за ўсё тую ж добрую працу. Праўда, аднойчы мне падаравалі папяльнічку ў выглядзе чобата — зусім не дзіцячы падарунак, які, аднак, ужо ў 9-м класе я выкарыстоўваў па прызначэнні — тушыў у ёй цыгарэтныя бычкі.

Святы ўраджаю праходзілі ў школе і заканчваліся звычайна танцамі, як і іншыя вечарыны. Нічога асаблівага.

А вось маёўкі, якія для калгаснікаў некалькі разоў арганізоўвалі ў лесе пры ўдзеле школьнікаў, запомніліся.

На лясной паляне з кузава грузавой машыны з адкрытымі бартамі ладзілі сцэну. З той сцэны начальства віншавала калгасных працаўнікоў са святам ды ўручала граматы і прэміі лепшым (на думку таго ж начальства) калгаснікам.

Пасля афіцыйнай урачыстай часткі мясцовыя культработнікі разам са школьнікамі давалі сельскім працаўнікам канцэрт з імправізаванай на кузаве грузавіка сцэны. На маёўку выязджалі таксама мясцовыя крамы з асартыментам «выпіць і закусіць». Таму пасля канцэрта, альбо і раней, пачыналася самае цікавае. Людзі купкамі разыходзіліся ды рассаджваліся пад бярозкамі частавацца, адзначаць Першамай. Віно і гарэлка прадаваліся проста на месцы да таго часу, пакуль падыходзілі пакупнікі.

Мы, дзеці, таксама спачатку сядалі са сваімі бацькамі і сваякамі за лясны стол, елі, частаваліся цукеркамі, а потым ішлі гуляць. Але ні мяч, ні хованкі тады не цікавілі нас так, як паводзіны п’яных дарослых. А паназіраць было за чым і за кім.

П’яныя мужчыны абдымаліся ды запэўнівалі адзін аднаго ў сваім непарушным сяброўстве, мужыкі прызнаваліся жанкам у сваім вялікім да іх каханні. І за ўсё гэта і не толькі сяляне пілі і пілі. І калі градус канчаткова затуманьваў мазгі, а іх уладальнік не паспяваў заснуць, з яго вуснаў пачыналі гучаць адборныя мацюкі і праклёны. Зноў жа — на адрас найлепшых сяброў і каханых жанок ды яшчэ хіба калгаснага начальства.

Дзеці хадзілі ад адной кампаніі да другой, слухалі і назіралі, дзе што адбываецца, пра што гавораць ды аб чым спрачаюцца п’яныя дарослыя. У адным месцы ў такой колькасці іх п’янымі, мабыць, больш і не даводзілася бачыць.

На той маёўцы за шашой я ўпершыню, здаецца, усвядоміў і зразумеў, што і настаўнікі нашы школьныя не святыя, што яны такія ж п’янтосы і мацюкальшчыкі, як і нашы бацькі-механізатары.

Той покліч у беразняку п’янага настаўніка беларускай мовы і літаратуры Рыгора Дзмітрыевіча да настаўніцы матэматыкі Марыі Васільеўны, яго жонкі, застаўся ў маёй памяці назаўсёды. Як і яго разгублены ды разбэрсаны выгляд, калі прачнуўся п’яны пад бярозай, а жонкі побач не знайшоў.

У тыя часы з маёўкі ў лесе, як і з калгасных дажынак, некаторыя прыходзілі дамоў толькі назаўтра. А бывалі выпадкі, што хтосьці не вяртаўся зусім. Каго гарэлка «спаліла» на месцы нядаўняга свята.

Ды сёння ўжо і Рыгор Дзмітрыевіч, і Марыя Юр’еўна, і бацька мой, і дзядзька, і цётка, і шмат-шмат яшчэ землякоў — удзельнікаў той і іншых маёвак другой паловы 70-х гадоў ХХ стагоддзя дагналі адышоўшых раней землякоў, знайшлі вечны спачын пад бярозкамі на мясцовых могілках.

АЛЯКСЕЙ ПЯТКЕВІЧ

## Хлапчукі ваенных гадоў

Немцы прыйшлі тады, летам 41-га, досыць нечакана. Хаця ўсе ўжо ведалі, што ідзе вайна, што Саветы адыходзяць. Але каб так хутка… Мы, падшыванцы гадоў сямі-трынаццаці, пасвілі тады кароў на Жацераўскіх. Быў нас немалы гурт. Чамусьці з’явілася такая звычка трымацца разам. Казалі, што гэта з-за ваўкоў, якіх апошнім часам развялося шмат. Але ваўкоў мы не надта баяліся. Не раз бывала і раней, калі пастушок адзін даглядаў свой статак і раптам з-за кустоў выходзіў воўк. Тут галоўным было моцна крычаць і махаць палкай, якая заўсёды мелася ў руцэ. Ды і каровы адразу ж займалі ваяўнічую пазіцыю — паварочваліся рагамі ў бок драпежніка ды злосна фыркалі. І шэры, як правіла, нехаця адыходзіў. Дарослыя нам гаварылі, што воўк баіцца чалавека. Так што справа тут была не ў ваўках. Нейкая няясная пакуль трывога, што трымалася ў навакольнай прасторы, змушала нас гуртавацца. Вось і тады, як дазналіся, што немцы ўжо ў нашым мястэчку Новы Свержань, вырашылі пакінуць кароў на лузе (дзе яны дзенуцца?) і ісці ў нейкую бліжэйшую вёску. Чаго, каб хто спытаў? Ніхто не адказаў бы. Гнала тая ж дзіцячая і ўжо зусім не дзіцячая трывога. Прыйшлі ў недалёкую Кнотаўшчыну. Немцы сюды яшчэ не заглядалі. Вяскоўцы стаялі купкамі на вуліцы і перагаворваліся, як падалося, зусім спакойна. Што ж, людзі, асабліва старэйшыя, пераменам не здзіўляліся. Мы падыходзілі то да адной купкі, то да другой. Пераканаўшыся, што ніякай бяды не відаць, вярнуліся на луг. Тут якраз прыйшлі жанчыны з вёдрамі падаіць кароў і сказалі, каб мы пачакалі на лузе да вечара. Чаму? «Дзеткі, — гаварыла суседка, — немчуры надта ж многа ў мястэчку, як гразі пасля дажджу. Гергечуць усё па-свойму, а што ў іх у галаве? Ва ўсіх каскі, нібы стаўбуны, насунутыя на вушы». Вечарам, прыгнаўшы кароў, мы ўбачылі, што ўсе вуліцы заняты вайсковай тэхнікай, ледзь нашы рагулі праціснуліся да сваіх падворкаў. Асабліва ўразілі вялізныя тупарылыя аўтамабілі. Праз некалькі дзён тэхнікі не стала, і жыццё, здавалася, пачало ўваходзіць у звыклую каляіну.

Неўзабаве мы сталі знаходзіць у лесе ды прырэчных хмызняках самую розную зброю, найбольш савецкую. Пачалі яе падбіраць: хто б у нашым узросце не хацеў тады пастраляць? Але страшнае слова «расстрэл», што замільгала ў нямецкіх публічных загадах і якое датычыла таксама захоўвання зброі, астудзіла нашы галовы. Праўда, зброя ў гэты самы час, на вялікае наша здзіўленне, апынулася ў руках многіх местачковых хлопцаў. Гэта былі тыя, каго ўзялі ў «службу парадку». Яны не мелі ніякай экіпіроўкі, толькі павязку на рукаве. Але мелі вінтоўку з патронамі. Як мы ім зайздросцілі! Тым больш, што гэтыя ахоўнікі парадку, прынамсі большасць з іх, не так і далёка адышліся ад нас па ўзросце. І мы ўсё круціліся каля іх, каб далі патрымаць вінтоўку ці хаця б дакрануцца да прыклада. А «ахоўнікі», вядома, задзіралі насы перад намі і маглі часам стрэльнуць ні з таго ні з сяго, каб паказаць, якія яны бравыя. Старэйшыя не вельмі яшчэ задумваліся над тым, якая адказнасць узвальваецца на гэтых маладых хлопцаў з вінтоўкамі. Разважалі прыкладна так: парадак патрэбен быў пры Польшчы, пры Саветах, то і цяпер, пры немцах, хай хлопцы парупяцца дзеля сваіх людзей. Нават калі ўжо апранулі яны форму паліцыі, іх вельмі

шанавалі як абаронцаў ад немцаў. І сапраўды, яны стараліся не даваць людзей у крыўду. Мама з жанчынамі не раз хадзіла ў Нясвіж прадаваць яйкі (трэба было неяк жыць). За плечы — карзіну з лямкамі, поўную яек, перасыпаных сечкаю, і — у дарогу. Хаця — няблізкі свет. Але не баяліся. Бо ў Нясвіжы ў паліцыі быў свяржэнскі Алёшка К. Яго так і называлі ўсе — «Алёшка», за вясёлы нораў. Ён, калі што, дапаможа, заступіцца. Алёшку ў мястэчку любілі. Лёс яго, праўда, склаўся як найгорш. У 1944-м, перад самым прыходам Саветаў, ён, пераскокваючы нейкую канаву, зламаў нагу. Што яму зараз заставалася? І Алёшка скончыў з жыццём — выстраліў з пісталета сабе ў падбародак знізу. Хавалі ў сваім мястэчку. Ляжаў у труне, нібы жывы. Толькі пад падбародкам была бачна маленькая круглая папяровая наклейка. Людзей на пахаванні было вельмі многа: землякі яго надта шкадавалі. І ўжо зусім іншую, геройскую вядомасць здабыў паліцэйскі Аляксандр Д., які ў выніку баявой сутычкі трапіў у палон да партызанаў і здолеў адтуль уцячы. Ён быў родам з нейкай бліжэйшай вёскі, але ў Новым Свержні яго зналі: высокі, плячысты, ён кідаўся ў вочы, асабліва пасля сваёй баявой прыгоды. Яго, як распавядаў, пасля допытаў пастанавілі расстраляць. Двое партызанаў павялі выконваць пастанову. Але па дарозе звярнулі ўвагу на яго абутак. «У цябе ж добрыя боты, а табе яны ўжо не спатрэбяцца. Разувайся». Пасадзілі яго, развязалі рукі, звязаныя калючым дротам. Самі селі абапал, з аднаго і з другога боку. Ён паволі сцягнуў адзін бот, затым другі і, не марудзячы, з усёй сілы, якая яшчэ была, ахнуў ботамі па сваіх канваірах. Затым з ботамі ў руках рвануў у лес. Па ім, натуральна, пачалі страляць, але лясны гушчар ды хуткія ногі выратавалі. Гэтая рэдкая гісторыя ўспрымалася, вядома, як шацунак, які жыццё паднесла чалавеку.

Увогуле, жыццё ў мястэчку цякло знешне спакойна, пакуль акупанты не чынілі расправы над яўрэямі. Салдаты з мясцовага гарнізона, асабліва маладыя, часам заходзілі ў хаты і прасілі паесці. Звычайна прасілі малака, яек. Падняўшыся з-за стала, дзякавалі. Праўда, на нашым лесапільным заводзе быў немец Гоер, які біў людзей. Якая ў яго была пасада, невядома, але яго ўсе ведалі, бо хадзіў ён па тэрыторыі з бярозавай палкай і біў ёю кожнага, хто адлыньваў, на яго думку, ад працы. Аднойчы мяне вельмі здзівіў адзін іхні салдат. Было гэта ў суседнім двары, дзе немцы-нарыхтоўшчыкі куплялі бульбу і грузілі яе ў машыну. Я круціўся чагосьці побач. Раптам бачу — адзін з салдат, які заўважыў на недалёкім падворку курэй, прыпёрся да прыгрэбніка і пачаў па іх страляць. «Ненармальны, — падумаў я, — там жа могуць быць людзі». А ці мелі для іх нашы людзі нейкую цану, гэта ў галаву тады не прыходзіла. Неяк маю аднакласніцу Іру Я. цяжка паранілі, калі яны з бацькам зімою ехалі з вёскі і трапілі літаральна пад кулі: побач на полі немцы зладзілі вучэбную стральбу. Праўда, іх вайсковы лекар зрабіў дзяўчынцы аперацыю, і яна паправілася.

Гета з’явілася ў мястэчку даволі хутка. Яно палохала таямнічасцю свайго высокага плота з двума радамі калючага дроту наверсе. Пакідаць сцены гэтага жылля забаранялася. Але ў нас чамусьці гэтая забарона не дзейнічала. І калі я аднойчы цяжка захварэў, канваір прывёў з гета доктара. Прыводзіў, напэўна, не толькі да мяне. Часам хадзілі насельнікі гета па мястэчку, каб абмяняць адзенне ці іншыя рэчы на прадукты. Помню, немец прывёў у наш двор дзяўчыну. Я выбег з хаты і застыў на месцы, не могучы адарваць ад яе вачэй: дзяўчына была незвычайна прыгожай. Запомнілася яе белая, старанна адпрасаваная блузка, на якой былі прымацаваныя мініяцюрнымі шпількамі спераду і ззаду дзве жоўтыя латы, якія павінны былі насіць

яўрэі. Можа, дзякуючы гэтым элегантным шпількам латы не псавалі далікатнага аблічча дзяўчыны. Мама паспела ўжо зрабіць традыцыйны абмен, і дзяўчына трымала ў руках нейкія скрутачкі і торбачку фасолі. Запала ў памяці тая торбачка ў дробную каляровую клетку. Але найбольш тое, што дзяўчына, яшчэ аб нечым размаўляючы з мамай перад адыходам, даставала фасоліны і адну за другой кідала ў рот. «Дзіўная нейкая, — падумаў я, — есць сырую фасолю». Няўцям было тады хлапчуку, што маладая інтэлігентная яўрэйка не магла стрываць голаду.

Знішчэнне людзей, што жылі ў гета, маральна аглушыла. Мы ўпершыню сутыкнуліся з масавым забойствам і адчулі, што акупанты — нелюдзі. І гэта тыя, што заходзілі ў нашу хату, тыя, што ішлі па брукаванай вуліцы мястэчка такім прыгожым строем (побач — афіцэры-элеганты), тыя, што старанна вышчыпвалі каля казармаў лішнюю траўку, выштукоўваючы профіль пешаходнай дарожкі…

Тады бралася на восень. Мы пасвілі кароў насупраць хвойніку. Сядзелі купкаю на Грудзе. Раптам з-за канцавых хат Трайчанаў немцы вывелі групу мужчын — чалавек пятнаццаць. Мы чамусьці адразу зразумелі, што яны з гета. Вялі ў кірунку яўрэйскіх могілкаў, дзе мы нярэдка бывалі, разглядаючы дзівоснай формы надмагільныя помнікі. Неўзабаве там раздаліся стрэлы. Але як было не здзівіцца, калі следам прыгналі кучу людзей, як пасля высветлілася, развітацца з забітымі. З-за сцен могілак панеслося страшнае сваёй эмацыянальнай сілай амаль суцэльнае галашэнне. А мы? Уражаныя гэтым жаночым плачам-крыкам, мы пабеглі паглядзець, нам яшчэ не верылася ў самае горшае. Нашы дзіцячыя яшчэ душы трапяталі ад страху і надзеі на нешта іншае. Я дабег да цэментнай сцяны могілкаў і падскочыў, каб нешта ўбачыць, учапіўшыся пальцамі за яе верхні скошаны край… Сёння я стаю на тым самым месцы. Лета, сонечна, ціха. Могілкі пустыя. Не захаваліся помнікі. Усталяваны, праўда, сціплы жалобна-памятны знак. Сцяна добра зберaглася, і яе верхні край дастае мне да грудзей. Думаю аб тым, якім жа я быў маленькім, што стараўся падцягнуцца на руках, каб зірнуць на той бок. Тады я ўсё ж зірнуў, але толькі на імгненне і адразу ж адваліўся назад. Не ад таго, што аслаблі пальцы, а ад жаху ўбачанага. Немцы стралялі кожнаму ў галаву разрыўнымі, відаць, кулямі. І такога лепш не бачыць. Экзекуцыя развітання з пастралянымі людзьмі была, напэўна, разлічана для ўздзеяння на псіхіку тых, хто заставаўся ў гета, каб падавіць іх волю да жыцця.

Пазней пайшлі масавыя расстрэлы, падчас якіх мястэчка замірала. Помніцца, я з мамай чагосьці апынуліся ў знаёмых, дом якіх выходзіў на цэнтральную вуліцу. І мы доўга ў іх сядзелі, баючыся выйсці. Толькі краем вока назіралі праз акно, як на высокай хуткасці праносяцца вялікія грузавыя машыны, абцягнутыя па версе чорным брызентам. Ішоў 1942 год. Калі гета пусцела, прывозілі новых вязняў. Мужчын строем вадзілі працаваць на лесазавод. І вось адбылася падзея, якая ўскалыхнула ўсё мястэчка. Стаялі тады моцныя маразы. Вартавы на вышцы, што тырчэла на рагу гета, каля рэчкі, не вытрымліваў ноччу холаду і бегаў грэцца на прахадную, дзе была печка. У гета старанна вылічылі гэтыя паўзы ў дзяжурстве, іх рэгулярнасць і працягласць. 29 студзеня 1943 года, падчас такой паўзы, вязні, прыхапіўшы загадзя падрыхтаваныя лесвіцы, каб пераадольваць высокі плот, а таксама ватныя коўдры, якія кідаліся паверх калючага дроту, ірвануліся на волю. Людзей было многа, больш за дзвесце чалавек. Але аперацыя была добра арганізавана і завяршылася хутка. Гэтак жа хутка натоўп пашыбаваў замерзлым рэчышчам Жацэраўкі на паўднёва-

ўсходнюю ўскраіну мястэчка. Прайшлі праз алешнік, мінулі могілкі, выйшлі ў поле і дабраліся да лесу. Пагоні не было, і тут спыніліся. Тым больш, што зусім выбіліся з сіл. Паўстала пытанне: а што далей? Лес, які здаваўся выратавальнікам, на цвярозы погляд, добрага не абяцаў. Толькі глыбокі снег, начное бездарожжа, холад, няпэўнасць. Успомнілі, што партызаны, якіх яшчэ трэба знайсці, не вельмі бяруць да сябе яўрэйскае насельніцтва. Было на гэты конт неафіцыйнае распараджэнне з Цэнтра. І многія, асабліва тыя, у каго на руках былі малыя дзеці, засумняваліся, ці адолеюць такі лёс. Узніклі спрэчкі. У выніку частка ўцекачоў — чалавек 80 — вярнулася назад. Немцы іх хутка расстралялі. Астатнія выратаваліся. Мы, хлапчукі, захапіўшыся гэтымі мужнымі ўцёкамі, адразу, таго ж дня пайшлі па слядах натоўпу, нібы далучыўшыся да яго. Скрозь валялася мноства жоўтых латаў, якія людзі зрывалі на хаду з сябе. Ішлі яны па цаліку, і снег быў утаптаны глыбока мноствам ног. Мы доўга стаялі на ўскраіне мястэчка і моўчкі глядзелі на гэтую свежую дарогу жыцця. Мы цешыліся. Яшчэ не зналі, што частка ўцекачоў вярнулася. Калі гета зусім апусцела, старанна пашнырылі па ўсіх кутках пакінутых дамоў, залазілі нават на гарышчы. Чаго мы шукалі? Напэўна, кіраваліся нейкай падсвядомай надзеяй, што хтосьці з жыхароў удала схаваўся і ацалеў.

Партызаны былі далекавата, хаця рэха іх спраў па-рознаму далятала сюды. Сяляне з бліжэйшых вёсак, ратуючы ад партызан сваіх кароў, аддавалі іх у мястэчка сваякам ці знаёмым на часовае ўтрыманне, і нашы пастушковыя статкі прыкметна павялічыліся за гады акупацыі. З мястэчка амаль ніхто не пайшоў у партызаны, бо немцы ведалі жыхароў і маглі знішчыць родных. Яўген Ш. быў сіратою і нікога не падставіў, цішком сышоўшы ў лес. Але зрабіў неўзабаве вельмі неразважлівы крок, і гэта каштавала яму жыцця. Пад восень прыціснулі халады, і ён сярод белага дня прыйшоў у мястэчка да дзядзькі, які жыў на людной Мінскай вуліцы, каб забраць у яго свой шынель. Нешта ў тым шынялі трэба было падрамантаваць, і хлопец сеў з іголкай і ніткаю каля акна, каб бачыць вуліцу. Са зброі меў толькі гранату, якую паклаў перад сабой. Дзядзька замітусіўся па хаце, разумеючы, што сваяк сваім з'яўленнем падпісаў яму прысуд. Таму, доўга не думаючы, пабег з жонкай да немцаў і далажыў пра партызана. Тыя зрэагавалі хутка. Абышлі хату з тыльнага боку і загадалі гаспадару заходзіць першым. І пакуль дзядзька круціў пляменніку рукі, немцы наляцелі і схапілі хлопца.

Балюча мы ўспрынялі таксама гібель двух невядомых партызан, якія спрабавалі падарваць цягнік непадалёк ад Свержня, ды чамусьці падарваліся самі пры закладцы міны. Іх знявечаныя целы ляжалі некалькі дзён ля плота пры ўваходзе на тэрыторыю лесазавода. Вышэй быў прымацаваны пагражальна-выкрывальны тэкст. Ніхто, здаецца, з нас не пайшоў туды паглядзець. Ведалі пра гэта толькі ад дарослых.

Партызаны не хацелі прымаць да сябе чалавека без зброі: а што яму тады рабіць? З другога боку, ці магчыма было тую зброю здабыць? Але гэта як для каго. Былі ў мястэчку два браты — Жорж і Ігар Б. Бацька іх называў паўжартам Чорт і Ідал — такія былі няўрымслівыя. Абодва рудыя, цыбатыя, лоўкія ва ўсім. Старэйшы неяк трапіў на танцы за Нёман, у Акінчыцы. Сюды ж прыйшоў мясцовы паліцэйскі. Сваю вінтоўку паставіў ля печы, у кутку-качарэжніку, і пайшоў танцаваць. Калі танец скончыўся, вінтоўкі на месцы ўжо не было. І як яна знікла, ніхто не бачыў. Так у бліжэйшым лесе стала на аднаго партызана больш.

Урэшце, вайна, якая не стаіць на месцы, прайшла і праз маё мястэчка (пра гэта гл. «На пачатку ліпеня 44-га» // Новы замак. Вып. 4. 2015. С. 72–76), пакінуўшы пажары і разбурэнні. Мужчыны сталі разбіраць нямецкія казармы і з гэтых матэрыялаў ладзілі часовае жыллё. Я тады дапамагаў тату, які спешна ўзводзіў над прыгрэбнікам хатку (назвалі яе «будка»), таксама невялікія хлеў і гумно. Майстры, што панаязджалі тады з Расіі на заробкі, будавалі нам дом. Вельмі цяжка было з харчаваннем. Сякія-такія прадукты здабывалі на вёсцы праз вядомы ўжо абмен. Жыта на полі яшчэ не паспела, і помніцца нясмачная зялёная зацірка для сваіх, бо будаўнікоў трэба было карміць лепшым. Але на такія дробязі не зважалася. Стаяла гарачае сонечнае лета. Мы, хлапчукі-падшпаркі, былі цэлымі днямі з каровамі на лузе каля хвойніку ці на палявых палетках-папарах. Стараліся па магчымасці гуртавацца, тым больш, што з'явіўся вельмі важны супольны інтэрас — зброя. О, сапраўдная вайсковая зброя, якая страляе, выбухае і робіць цябе дужым, дарослым! Яна і небяспечная, рызыкоўная, але тым больш прыцягальная. Як яна гарнула да сябе нашы чулыя да новага, даверлівыя душы. А зброі тады, калі фронт рушыў на Захад, засталося раскіданай вельмі многа. Вінтоўкі, патроны, снарады, гранаты, міны, тол… Збіралася ў нас цэлая гаспадарка, якую хавалі ад чужога вока ў вялікіх і густых кустах. Хадзілі на пашы з вінтоўкамі за спінай, і гэта надавала столькі самастойнасці і ўпэўненасці ў сабе! Вучыліся, і досыць паспяхова, страляць прыцэльна. Не выпадкова я, калі пачаў вучыцца ў БДУ, на першых жа спаборніцтвах па стральбе выканаў нарматыў спартыўнага разраду і насіў на студэнцкай куртачцы — верх светла-шэры, ніжняя частка сіняга колеру — адпаведны значок, што быў прадметам гонару і зайздрасці маіх равеснікаў. Тады ж, у нашы пастушковыя часы мы нярэдка ўзрывалі гранаты — глушылі рыбу ў Нёмане. Зналі, як лаўчэй кідаць якую гранату — лімонку, асколачную, з ручкаю. Калі дома аддаваў маме гатаваць гэтую рыбу, было многа радасці ў тую галодную пару. Праўда, даводзілася, хаваючы вочы, казаць, што глушылі нейкія дзядзькі. Увогуле ж ладзілі мы ўсякія ўзрывы часцей проста так, дзеля пацехі. Падабалася, што самі можам учыніць такі эфект. Бралася толавая шашка, часам немалая, устаўляўся ўзрывальнік, затым — бікфордаў шнур. Яго, праўда, чамусьці было мала, і мы заўсёды шукалі па кустоўі ды ў зарасніках featурознага дзікага зелля гэты каштоўны для ўзрываў матэрыял. Таму яго вельмі эканомілі. Устаўлялі кароценькі кавалачак, запальвалі і… Трэба было імгненна сігануць за бліжэйшы куст, легчы і прыцiснуць галаву да зямлі, абняўшы яе рукамі. Узрыў бываў такі моцны, што куст проста клаўся на нас, абсыпала нейкім смеццем і літаральна аглушвала — пэўны час мы не чулі адзін аднаго. Пасля аглядалі гэты пашарпаны куст і яму на месцы ўзрыву, якая дымілася і смярдзела, і самі сябе — вось засталіся ўсе цэлыя і ніводнай драпінкі.

Рызыкаваць азначала для нас дэманстраваць смеласць. Любілі мы, напрыклад, хадзіць па мінным полі, якое паўкругам абыходзіла нямецкія казармы. Хоць немцаў даўно не было, размініраваць гэту тэрыторыю збіраліся надта доўга. І мы паказвалі тут, якія мы зухі. Хадзіць паміж мінаў было складана не толькі з-за небяспекі наступіць на смяротны бугарок зямлі, які ўжо зарос травою, але і таму, што ўсё поле было яшчэ нізка заплецена калючым дротам. Але мы стараліся быць уважлівымі, перадавалі свой «вопыт» іншым, і бяды ні з кім не здаралася. А пахадзіў тут, здаецца, кожны з нас, каб не выглядаць баязліўцам. Да таго ж былі тут і гледачы з нашых, што назіралі здалёк, размясціўшыся за агароджай.

Але легкадумнае абыходжанне са зброяй часам заканчвалася страшным фіналам. Неяк летнім падвячоркам Валодзя Б. сабраўся глушыць рыбу і хадзіў па крутым беразе Нёмана, выбіраючы добрае месца. Мы кучкаю былі на супрацьлеглым беразе. Былі нечым занятыя і не надта зважалі на яго прыгатаванні. Раптам грымнуў узрыў. Мы толькі паспелі заўважыць, што Валодзя ўпаў. Кінуліся адразу ж на той бок. Плылі хутка, нібы спадзяваліся чымсьці яму дапамагчы. Ляжаў ён, выцягнуўшыся на ўвесь свой рост. Боязна было глядзець на тое месца, дзе была галава. Глядзелі на яго босыя ногі, на пальцы, якія яшчэ дробна ўздрыгвалі. Хтосьці з нас ціха, амаль шэптам успомніў: «Ён жа вельмі хацеў пачуць, як шуміць унутры гранаты перад тым, як яе кінуць». У дамавіне ляжаў цалкам закрыты прасціною.

У тым жа 44-м годзе на пашы сталася яшчэ адна трагедыя. Мы тады надта ўпадабалі кулі ад буйнакаліберных зенітных патронаў, якія эфектна загараліся і ўзрываліся, дастаткова было раскалупаць нажом тыльную частку і запаліць. Нават не трэба было падаць на зямлю пры ўзрыве: куля, хоць і шыпела агнём, ляцела далёка, калі добра размахнуцца. Такіх патронаў у нас збіралася чамусьці многа, і мы нярэдка практыкавалі адпаведныя феерверкі. Нават рабілі, дзякуючы гэтай зброі, напады на пастухоў з Мікалаеўшчыны. Справа ў тым, што яны ў выніку канфліктаў з намі заўсёды перамагалі, пускаючы ў ход дубінкі і нават нажы. Цяпер жа нашы буйнакаліберныя патроны, якія ўзрываліся ў паветры, наводзілі на іх паніку. Аднойчы мы нават загналі іх у Нёман і прымусілі надоўга вярнуцца на сваю тэрыторыю. Але выкарыстанне гэтых буйных куляў закончылася ў рэшце рэшт для нас вельмі нечакана. Мы, здаецца, умелі з імі добра разбірацца, Нават быў у нас лідар у веданні зброі і яе скрытых сакрэтаў — Вацік Ф. У той дзень была вельмі патрэбна мая дапамога тату, і я папрасіў падмяніць мяне на пашы суседа, Жэніка А. Вечарам ён распавёў: Вацік рыхтаваў для ўзрыву новую кулю. Гэта была, як быццам, прывычная, звычайная рэч. Вакол стаялі і ўзіраліся сябры-гледачы. І тут куля нечакана разарвалася. Яму адарвала левую кісць рукі, у якой трымаў кулю, адарвала вялікі палец правай рукі, у якой трымаў нож. Працуючы нажом з куляй, ён прыціскаў рукі да жывата, у які прыйшоўся галоўны ўдар. Вацік, які сядзеў, адразу ж падскочыў на калені. Але з жывата пачалі вывальвацца кішкі, і ён адносна ацалелай рукой стаў запіхваць іх на месца. Затым падхапіўся і прабег нейкіх пяць-шэсць крокаў, апусціўся і сказаў апошняе: «Ну. хлопцы, мне ўжо капут». Хлопцаў, што стаялі вакол яго, лёгка параніла фрагментамі яго кісці — пасекла адзенне, рукі, камусьці твар. Малодшы брат Ваціка Коля памчаўся ў мястэчка. Падрыхтавалі падводу і — рыссю туды, на пашу. Паклалі Ваціка на салому і паехалі. Нядоўгую частку дарогі ён яшчэ ледзь чутна стагнаў. Пасля заціх. Сёння, наведваючы сваё роднае мястэчка Новы Свержань, я абавязкова бываю на могілках, дзе засталіся дзеля вечнага спачыну мае бацькі. Стараюся не мінуць магілы Ваціка. Нешта блізкае і балючае чуецца мне ў гісторыі яго кароткага лёсу: я ж павінен быў быць там, побач з ім, сваім сябрам.

Сітуацыя са зброяй мела, зрэшты, не адзін працяг. Тым жа летам, калі пасвілі кароў ля Галавенчыцкага броду, я знайшоў зусім маленькую міну мінамётнага тыпу. Ніколі мы такой не бачылі — даўжынёй з далонь, можа крышку болей, бліскучасрэбранага колеру, нібы з алюмінію. У астатнім звычайная — спераду конусны носік, у канцы — крыльцы. Ну, як цацка. Я адразу ж стаў яе раскручваць: мы зналіся ў мінамётных мінах. Але мая «цацка» ніяк не паддавалася. Побач, ля броду, стаяў слу-

пок — рэштка колішняй агароджы. Стукаў аб гэты слупок, каб неяк раскруціць сваю знаходку. Хлопцы, натуральна, прасілі: пакажы, дай, можа, мы нешта зробім. Але ж гэта была ўжо мая здабыча, і я нікому яе ў рукі не даў. Нарэшце, расчараваўшыся ў ёй, размахнуўся і шпурнуў у Нёман. І тут здарылася поўная нечаканасць. Мая «міна», даляцеўшы да паверхні вады, відаць, ад удару аб яе рванула. Мы ўсе анямелі. Хлопцы, як па камандзе, павярнулі галовы да мяне, і ў іх позірках быў страх і здзіўленне: ты жывы, але ж мог толькі што…

Часта мы практыкаваліся ў стральбе, але не хапала патронаў. Аднойчы выправіліся шукаць на месца нямецкіх казармаў і — дзіва — назбіралі цэлую торбу. Несці торбу вуліцаю не рашыліся. Сеўшы ў нейкую выпадковую лодку, паплылі міма алешніку па возеры. Так называлася тады глыбокая затока на Жацераўцы, каля млына, засланая шырокімі капелюшамі гарлачыкаў. І тут ужо нас чакаў на беразе міліцыянер. Відаць, нехта з зайздроснікаў нашага ж узросту данёс. Патроны былі канфіскаваны, а нас траіх, што былі ў лодцы, пасадзілі пад замок у склеп на бліжэйшай сядзібе, што належала Бельскім. Даволі дзіўна пачуваліся мы ў гэтым зняволенні, дзе праз вялікія дзіркі ў каменных сценах свяціла сонца, а на паліцах стаялі збанкі з малаком, смятанаю, адціскаўся пад прэсам вялікі сыр. Было непрыемна, што нас «пасадзілі». Але боязі не было. Жартавалі наконт таго, каб падсілкавацца і ўвогуле збегчы адсюль. Зрабіць гэта было не так і складана. Але неўзабаве нас выпусцілі, і ніякіх наступстваў наша акцыя па зборы і перавозцы патронаў не мела.

Пра свае баявыя магчымасці апошні раз мы нагадалі ўзрывам у велікодную ноч 45-га года. Вінтовак у нас ужо не было, але ўзрыўчатку яшчэ захоўвалі. Аднекуль даведаліся, што згодна з паганскімі традыцыямі нашы продкі ноччу на Вялікдзень палілі вогнішчы і стралялі, праганяючы злых духаў. Сваё вогнішча мы размясцілі ў кутку цвінтара свяржэнскай царквы, з боку Мінскай вуліцы і падтрымлівалі ўсю ноч. Натуральна, што патрэбна было многа паліва. Мы бегалі па бліжэйшых вуліцах і падворках і стараліся прыхапіць то бярэмя колатых дроў, то прасла плоту, то адзінокую бочку пад паветкай, то туалет. Былі яны тады не толькі драўлянымі, але і саламянымі (з саламяных пляцёнак), што надта прыгожа гарэлі. Драўляныя былі для нас цяжкаватымі. Галоўнае было — паваліць яго на бок. Тады хапалі — па тры хлапчукі з двух бакоў, і дай Бог ногі. Самае вялікае полымя рыхтавалася на хрэсны ход, які рухаўся ў поўнач вакол храма. На гэты ж час прызначылі і выбух. З таго боку царквы, дзе не было паркана, на агародах паклалі трохкілаграмовую шашку толу, прыладзілі апошні з нашых запасаў кавалак бікфордавага шнура. Па сігналу з цвінтара запалілі і кінуліся як мага далей. Выбух быў такой сілы, што людзей літаральна страсянула ўзрыўной хваляй, а ў бліжэйшых хатах вылецелі ў некаторых вокнах шыбы. Пра гэта пасля шмат гаварылі. Казалі, што заведзена крымінальная справа, што нас пачнуць выклікаць на допыты. Але… Усё абышлося. Тады нярэдка здараліся самыя розныя нечаканасці.

Яшчэ ж была ў нашых буднях такая прыемная старонка, як школа. Вучыліся мы ў мясцовай сямігодцы і пры немцах, затым пры Саветах. Праўда, кожны навучальны год моцна ўрэзваўся і залежаў ад сезону пастушковых абавязкаў. Таму мы восенню прыходзілі ў школу позна і вясной пакідалі яе рана. Школа з гэтым мірылася. Тым больш, што настаўнікамі былі тутэйшыя адукаваныя людзі. Яны ўсё разумелі. Я заўсёды стараўся дагнаць упушчанае, і мне гэта ўдавалася. Іншым — таксама. У некато-

рых не атрымлівалася, і яны вымушаны былі пакідаць вучобу. Усё ж заробак пастушка, які хадзіў за сваім статкам нярэдка з пяці-шасцігадовага ўзросту, быў немалым унёскам у сямейны бюджэт.

Падчас акупацыі школа працавала ў самых розных прыстасаваных памяшканнях: у даваенным школьным будынку немцы размясцілі шпіталь і неўзабаве ўчынілі ў ім пажар. Падручнікаў выпускалася мала, і вучні канспектавалі тое, што тлумачыў настаўнік. Замест сшыткаў выкарыстоўвалі любыя абрыўкі чыстай паперы. Адносіны з настаўнікамі былі самымі прыязнымі, бо ўсе яны былі свае — суседзі, добра знаёмыя. Ніякіх прапагандысцкіх імпрэзаў у інтарэсах гітлераўцаў школа не праводзіла. Нават не віселі партрэты іх правадыроў. Моцным быў ва ўсім дух беларускай нацыянальнай ідэі. На ўроках спеваў развучвалі беларускія народныя і кампазітарскія песні. Любімымі песнямі ў нас былі «Яшчэ прыйдзе вясна» (словы Я. Купалы), «У гушчарах, затканых імглою» (словы Н. Арсенневай), «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» (словы М. Краўцова). Беларускія песні выконвалі і вайсковыя адзінкі Беларускай краёвай абароны. Крочыць, напрыклад, па вуліцы мястэчка такая вайсковая калона — і чуецца: «Будзь здаровы бацька, маці, мы пайшлі ўжо ваяваці… Паваюем, пагаруем, зато дома запануем». Мне падабаліся гэтыя маршавыя песні, і я іх запамінаў. Толькі праз многа гадоў даведаўся, што цытаваны тэкст належыць Я. Купалу і ўваходзіць у яго цыкл «Песні на ваяцкі лад», напісаны ў 1919–1920 гадах.

З прыходам Саветаў нас працягвалі вучыць пераважна тыя ж настаўнікі. Прыслалі толькі піянерважатую, што заўсёды насіла чырвоны гальштук, і ваенрука. Мы ўсе актыўна ўдзельнічалі ў правядзенні выбараў у Вярхоўны Савет СССР, савецкіх святаў. На свята Кастрычніцкай рэвалюцыі, напрыклад, я з аднакласнікам Генадзем І. дзяжурылі ноччу ў школе. Адчувалі вялікую адказнасць, і настрой у нас быў баявы. Патрабавалі, каб нам выдалі вінтоўку, якая была ў сельсавеце, цераз вуліцу. Ды з гэтага нічога не атрымалася. Дзяжурыла з намі яшчэ піянерважатая, але яна спала ў настаўніцкім пакоі. У першы ж навучальны год пры Саветах (я быў у 6-м класе) мяне прызначылі старшынёй школьнай грамадскай арганізацыі «Асавіяхім», якая павінна была папулярызаваць ваенна-санітарныя веды і рыхтаваць хлопцаў да войска. Нешта ў гэтым кірунку мы з ваенруком рабілі. Спявалі цяпер у школьным хоры толькі рускія савецкія песні, найбольш франтавыя. Ладзілі невялікай групай вучняў спектаклі, з якімі нават выязджалі на вялікай амерыканскай грузавой машыне («студэбекеры») у суседнія вёскі. Рэпертуар быў цалкам ваенным — беларускія п’есы-аднаактоўкі рэгулярна ў школу дасылаліся.

Адным з любімых настаўнікаў у нашай сямігодцы быў Мікалай Фёдаравіч Г. (праўда, не з мясцовых), які выкладаў гісторыю. Разумны, патрабавальны, справядлівы. Але парадаксальнасць сітуацыі ў тым, што неўзабаве ён быў «выкрыты» і атрымаў 25 гадоў канцлагераў. З цягам часу высветлілася, што ў вайну, пасля таго як партызаны нізавошта забілі яго брата, пайшоў служыць да немцаў. Стварыў мабільную баявую групу (здаецца, на Віцебшчыне), якая наносіла партызанам балючыя і моцныя ўдары. Яго выпадкова пазнала на цяперашнім фотаздымку нейкая зямлячка. Лёс яго згубіўся ў віхуры паваенных драматычных выпрабаванняў.

Жылося ў тыя гады матэрыяльна вельмі цяжка. Туліліся сям’ёй з сямі чалавек у нізенькай хатцы з адным акенцам, якую тата збудаваў над прыгрэбнікам. І як тут было

рыхтаваць урокі? Затое былі ў мяне канькі і самаробныя лыжы. А ад вясны да позняй восені, нягледзячы на тое, што была закінута школа, было ўсцешна на вольным паветры са сваім статкам кароў. Выганім, бывала, вясной на луг — яшчэ гразка ад нядаўняй паводкі, і трава яшчэ вадзяністая. Пераганяем на другі бок Нёмана, на сухое. Вада ў Нёмане яшчэ вялікая. Але каровы прывычна пераадольваюць гэтую перашкоду. А вось цяляты-аднагодкі… Круцяцца, бедныя, па беразе, мэкаюць ад разгубленасці. Тады падбягаеш да такой няўмекі і моцна піхаеш яго ў задок. Ляціць яно потырч у ваду і, падняўшы фантан пырскаў, амаль хаваецца ў ёй. Але тут жа пачынае хутка перабіраць нагамі і плыве, выцягнуўшы кволую шыю. Глядзіш на гэтую малечу і ўсміхаешся: як жа лёгка яна набывае жыццёвы вопыт. Хіба гэта не радасць? А аднойчы вясной спыніліся са статкам на Нізкім востраве, парослым густым дубняком. Што рабіць? Пачалі гуляць «у бандытаў». Крадуся я, нізка згінаючыся, каб не быць заўважаным «праціўнікам». І раптам, вачам не веру, перад носам у мяне — нож з бліскучымі тронкамі. Гэта ж мой! Я яго згубіў мінулым летам і зараз лёгка пазнаю. Крычу ад радасці. Гульня спыняецца. Усе разглядаюць знаходку. Лязо, праўда, спачатку не адкрываецца, крыху прыржавела. Але мацнейшы з нас хлопец спраўляецца з ім. Шыкоўны складны нож! Тата летась выменяў яго ў немца. Я падскокваю ад задавальнення. Пастух без нажа, як без рук. Па-першае, чым выражаш ёмкую роўненькую палачку? А восенню — венікі, мётлы, якімі гаспадыні вымятаюць попел з печы, кашы і кошыкі рознай формы і прызначэння. Усё гэта без нажа не зробіш. Важна яшчэ, каб ён быў і моцны і элеганцкі. Гэты мой якраз адпавядае эталону. Усё жыццё буду помніць тую радасную часіну. Здараліся яны і з іншай нагоды. Што ж, такі ўзрост. Хоць ішла вайна, жорсткая і страшная. Хоць мы зведвалі і горкія страты, мы больш радаваліся і цешыліся. У нас было сонца, Нёман, наш луг і хвойнік, бацькі, сябры, школа. Яшчэ кнігі, якія я вельмі любіў чытаць. Галоўнае ж — у нас было яшчэ ўсё наперадзе.






нарадзіўся 30 сакавіка 1931 года ў мястэчку Новы Свержань Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Літаратуразнавец, культуролаг, краязнавец. Кандыдат філалагічных навук. Прафесар. Скончыў філфак БДУ. З 1957 года працуе ў Гродзенскім універсітэце (педінстытуце) імя Я. Купалы. Выдаў кнігі: «Наднёманскія былі» (у сааўт., 1968), «Сюжэт. Кампазіцыя. Характар» (1981), «Гісторыя беларускай літаратуры. XIX — пачатак XX ст.» (у сааўт., 1981, 2-е выд. 1998), «Літаратурная Гродзеншчына. Мясціны. Людзі. Кнігі» (1996), «Маршруты кніжнага слова: з гісторыі кнігі, друку на Гродзеншчыне» (2002), «Старонкі спадчыны. Культурнае памежжа Гродзеншчыны: працэсы, з’явы, асобы» (2006), «Музычна-тэатральная культура Беларусі» (X–XVIII стст., 2010), «Слова і кніга Прынёмання» (2016) і інш. Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў (1971). Жыве ў Гродне.



# Пераклады

## Ганна Ахматава



Пад вуаллю я сціснула рукі.
«Сёння бледная ты ад чаго?»
Ад таго, што я даўкаю мукай
Напаіла дап'яну яго.

Як забыць? Яго моцна хістала,
Ён пайшоў, рот пакутна скрывіў.
Збегла, поручняў я не кранала.
Да варотаў я бегла за ім.

Задыхнулася: «Жарт усё тое!
Я памру, як не будзеш са мной!»
Усміхнуўся з жахлівым спакоем
І сказаў мне: «Тут вецер. Не стой».



Пажоўклы колер вечароў.
Пяшчотны холад красавіцкі.
Спазніўся ты на шмат гадоў,
Ды рада я, што стаў мне блізкі.
Сядзь ля мяне бліжэй, шчыльней,
Глядзі з вясёласцю, з усмешкай:
— Вось сіні сшытак у мяне —
Мае дзіцячыя ў ім вершы.
Даруй, што я жыла ў журбе
І радасці не заўважала.
Даруй, даруй, што за цябе
Я вельмі шмат каго прымала.



Я акенца не завесіла.
Проста ў мой пакой глядзі.
Адпускаю цябе весела:
Калі можаш, дык ідзі.
Называй жа беззаконніцай,
Здзек чыні з мяне са зла.
Я была тваёй бяссонніцай,
Я тугой тваёй была.

*З рускай мовы пераклала Галіна Самайла*

# ЭН БРОНТЭ

## Радкі, напісаныя ў лесе вятрыстым днём

*(By Anne Bronte. Lines composed in a wood on a windy day)*

Душа мая болей не вязніца цела —
Яна адляцела на крылах вятроў;
Навокал віхура пяе ашалела,
Кіпіць у грудзях закаханая кроў.

Жаўцеюць на сонцы высокія травы,
І трэпле на дрэвах галлё вецярок;
Апалае лісце танцуе рухава,
У небе блакітным — не злічыш аблок.

І марыцца ўбачыць мне мора, і хвалі,
І белую пену, што пырскамі б’е;
І тое, што ў сэрцы надзейна схавана —
Таемныя думкі, жаданні мае!

*З англійскай мовы пераклала Аліна Паўлоўская*

МІКАЛАЙ ГУМІЛЁЎ

## Самоты поўныя, мільгаюць…

*Раманс*

Самоты поўныя, мільгаюць
Ўсё з тым жа болем дні мае,
Нібыта ружы ападаюць…
Нібыта ружы ападаюць…
І салавей ўжо не пяе.
Ды і яно, каханне тое,
Што мне загадвала: «Любі!» —
Ужо амаль што нежывое…
Ужо амаль што нежывое —
Бяжыць атрута па крыві.
І калі я жыву на свеце,
Дык толькі дзеля мары мо…
Мы з ёй, нібы сляпыя дзеці,
Мы з ёй, нібы сляпыя дзеці,
Збяжым на горнае плато —
Туды, дзе толькі мроі кружаць —
У край нябесных васількоў
Шукаць загінулыя ружы…
Шукаць загінулыя ружы…
І слухаць мёртвых салаўёў…

## Жырафа

Сягоння я бачу ў цябе асабліва самотны пагляд,
І рукі, як тонкія плёткі, твае на калені ляглі.
Паслухай, далёка-далёка ёсць возера Чад —
Вандруе жырафа прыгожая там на зямлі.

І дадзены ёй грацыёзнасць і спрыт доўгіх ног,
І шкуру яе упрыгожвае дзіўны узор,
З якім параўнацца адзін хіба месяц бы мог,
Калі раздрабляюць ўначы яго хвалі азёр.
Здалёку яна быццам ветразь сухі карабля,
І бег яе плаўны, як птушак у небе палёт.
Я ведаю, многа прыгожага бачыць зямля,
Калі ў мармуровы яна захіляецца грот.

Я ў розных краях назбіраў таямніц караван.
І толькі вось як жа табе я пра іх раскажу,
Калі ты так доўга ўдыхала балотны туман
І слухаеш толькі адны маналогі дажджу.

І як я табе раскажу пра той дзіўны у тропіках сад,
Пра стройныя пальмы і іх векавую красу…
Ты плачаш? Паслухай: далёка-далёка ёсць возера Чад
І там грацыёзна збівае жырафа расу…

*З рускай мовы пераклала Святлана Абдулаева*

## ТАДЭВУШ МІЦІНЬСКІ

### Люцыфер

Я — цёмны зніч, агонь між віхраў божы,
што з енкам рвецца ў даль, — як звон глухі апоўнач, —
над цемрай гор зарніц я чырвань множу
на іскры болю, зоры марных стогнаў.

Я — цар камет, дух ува мне віхрыцца,
як пыл пустыні стромкай пірамідай.
Маўчу, бы труп, хоць сам — як навальніца, —
сваю змярцвеласць крыю і агіду.

Я — бездань, ды, хоць плач, бездапаможны,
як у быллі сухім над ставам сівер,
я — бляск вулканаў, а іду нізінай
з тугой і жалем, нібы ў шлях апошні.

На арфах мора рай грае, гарыць трывогай,
і сонца, злы мой вораг, славіць усходам Бога!



Вось майго сэрца бажніца — з чорных, як жарсць, пліт мармуру,
дзе назаўжды збранзавелі людзі над прорвай адчаю.
Бура, над морам грай! Скіньце, паскормшчыкі, зграю
львоў у вулканаў жар — вогненны хорам Ахураў!
Тут мост калышацца з болю крывавых стыгматаў,
бы павуцінне якое, вострыя злучвае скалы, —
ім панясу, нібы хмара, вясёлку што скрала,
я Цябе ў ззянне палярнае — высь даляглядаў.
Я падару Табе схілы горнай душы маёй. Бачыш:
бы аметысты там сны прэрый, сны поўні над борам,
і тая сцежка малітвы, Езус каторай раз крочыў.
А для мяне гэта ўсё — гаснучых кратараў мора,
светлыя прывіды, вечнасць — свет, што ніхто не зыначыць,
мо хіба Бог, што мяне згнесці ў вачах Тваіх хоча.

*З польскай мовы пераклаў Анатоль Брусевіч*

## АДАМ МІЦКЕВІЧ

### Да Нёмана

Мой Нёман, родная рака! Дзе тыя воды,
Якімі поўніў я дзіцячыя далоні,
А потым смела плыў па іх да дзікіх тоняў,
Каб сэрца полымя ў вірах студзіць халодных?

Тут позірк Лаўры патанаў ад асалоды,
Калі вянок пляла, каб ім аздобіць скроні.
Адбітак мілы той у хвалях срэбназвонных
Слязою я, юнак, муціў не раз употай.

Мой Нёман, родная рака! Скажы, дзе сёння
Той твой даўнейшы плёс, дзе лёс мой і надзея?
Гадоў шчаслівых стос, калі душа квітнее?

Дзе бурных дзён салодкі смак, начэй бяссонне?
Дзе Лаўра, дзе сябры, дзе звыклыя падзеі?
І толькі позірк у слязах, як звыкла, тоне!

### Exegi Monumentum — Aere Perennius…

Мой помнік перарос шкляны ў Пулавах дах,
Курган Касцюшкі ды над Вільняй Пацаў гмах.
Зладзюга Віртэмберг не струшчыць помнік мой,
Не будзе зрыты ён аўстрыйскаю свіннёй.

Бо ад Панарскіх гор і ковенскіх лагчын
Да Прыпяці віроў маё імя гучыць.
Наваградак і Менск шануюць мой радок,
Там моладзь кожны верш мой знае назубок.

Ды і ў фальварках я на вуснах у дзяўчат.
Як лепшых кніг няма, палац мне нават рад.
Таму, хоць злосць бярэ цара, яго шпікоў,
Вязе ў Літву габрэй мае тамы цішком.

*З польскай мовы пераклаў Анатоль Брусевіч*

## БАРЫС ПАСТАРНАК



На ўсёй зямлі буран шалеў,
Здаваўся вечным.
Гарэла свечка на стале,
Гарэла свечка.

Сняжынкі, быццам машкара,
Святла хацелі
І белым роем са двара
Ў акно ляцелі.

Буран кружочкамі на шкле
Акно расквечваў.
Гарэла свечка на стале,
Гарэла свечка.

І цень на столь узорам лёг —
Крыжы, палоскі:
Спляценне рук, спляценне ног,
Спляценне лёсаў.

Пачуўся стук чаравіка,
Пасля другога.
І воск, бы слёзы, з начніка
Цёк на падлогу.

І ўсё гублялася ў імгле,
Ў яе сінечы.
Гарэла свечка на стале,
Гарэла свечка.

На свечку дзьмула скразняком.
Анёл спакусы
Ускідваў два крылы крыжом
Па-над абрусам.

Буран у лютым ашалеў,
І кожны вечар
Гарэла свечка на стале,
Гарэла свечка.

*З рускай мовы пераклала Галіна Самайла*

## УІЛЬЯМ ЭРНЭСТ ХЕНЛІ

### Непераможны

*(By William Ernest Henley. Invictus)*

З-пад цемры покрыва начной,
З пякельнай прорвы чорных дум
Я дзякую багам за мой
Непераможны, вольны дух.
Бо, трапіўшы пад цяжар бед,
Я не дрыжаў і не стагнаў.
Калі мяне адрокся свет —
Я збіты быў, але не ўпаў.
Няхай ляжыць між зла і слёз
Майго жыцця далейшы шлях,
Між новых цяжкасцяў, пагроз —
Не ашукае сэрца страх.
Хоць вузкія вароты, боль
Не здолее мой крык здушыць:
«Я лёсу ўласнага кароль!
Я капітан сваёй душы!»

*З англійскай мовы пераклала Аліна Паўлоўская*



# Літаратуразнаўства

## ІГАР ЖУК

## Набліжэнне Васіля Быкава

Такія пісьменнікі і такія асобы, як Васіль Быкаў, у літаратуру і ў жыццё прыходзяць надта рэдка Але амаль заўсёды надта трудна.

Слова «трудна» — быкаўскае, і ўжыта тут, каб падкрэсліць усю яго глыбінную семантыку: і цяжар, і працу, і знясіленне, і моцнае актыўнае дзеянне, і натруджанасць на мяжы магчымага. Так і край беларускі натрудзіў сябе на нараджэнні пісьменніка, як бы апраўдваючыся перад Сусветам за безліч зробленых гістарычных памылак. Бо калі і папраўдзе ёсць вышэйшыя сілы Сусвету, то В. Быкаў нам быў дадзены імі ў прылюднае апраўданне і самаўдасканаленне, а не на глум.

Гісторыя беларускай духоўнасці не надта раскашуе шчаслівымі шанцамі. Хутчэй наадварот. І з Васілём Быкавым было таксама: ім праз усё жыццё апекаваўся лёс, але іншы, не наш, беларускі. Гэта быў лёс усечалавечы і нават надчалавечы. І як бы наўпроць гэтаму лёсу Быкаў адварочваўся ад яго, бескампрамісна ішоў малаходжанай дарогай — на Беларусь. І цераз гэта — насуперак усякаму лёсу. Дайсці да Беларусі, а тым больш нарадзіцца для Беларусі — гэта, хутчэй, праклён на нешанцунак. І так ужо запраграмавана нябёсамі і вышэйшым законам: калі нарэшце надарыцца шчасце зычлівага нараджэння, дык надта многа сіл — аж да знямогі — аддае гэтая зямля на нараджэнне свайго геніяльнага абранніка. Аддае, каб потым зноў сцішыцца ў нямотным маўчанні, споўненым пакоры і спадзеўнага чакання на новае адраджэнне.

Таму і апошняя прыжыццёвая кніга, якую ў 2003 годзе яшчэ паспелі патрымаць яго далоні, што ўжо чулі перадмагільнае захаладжэнне, мела назву, сімвалічную ўжо тады, у час выхаду ў свет, а тым больш сімвалічную зараз — «Далёкая дарога дадому». Па ўсім відаць, кніга ключавая, своеасаблівы шыфр, да якога, можа, нават не адно стагоддзе будуць звяртацца і звычайныя чытачы, і выкшталтаваныя даследчыкі. А яшчэ гэта — пісьменніцкі падрахунак усяму; і як дакумент сапраўды далёкай і вельмі труднай жыццёвай дарогі, і як крыніца-тлумачэнне асноўных маральных і філасофскіх матываў, што «прастрэльваюць» быкаўскую творчасць скразным лейтматывам людской стойкасці, вернасці гуманістычнаму ідэалу, і, нарэшце, як сведчанне непазбыўнага чалавечага жадання — нягледзячы ні на якія абставіны быць напрыканцы жыцця не дзе-небудзь за край свету, а дома. І гэтым жыццёвым актам сцвердзіць лучнасць з героямі сваіх твораў, што нястомна выспавядалі вышыню і нязломнасць чалавечай духоўнасці.

Адметнасць і сіла быкаўскага таленту заключалася ў тым, што пісьменнік выпрабоўваў не маштаб ахопу падзей, а маштабнасць праўды і чалавечнасці. І гэткі паварот быў надта непрадказальны для тагачаснага афіцыёзнага канону, які патрабаваў захаплення самым

вялікім, самым хуткім, самым грандыёзным. З адным, напэўна, не пралічылася савецкая прапаганда: саветы былі самымі грознымі і страхавітымі. Але гэткага сумнеўнага першынства якраз і не хацеў прызнаваць ужо Быкаў. Афіцыёзны канон, для якога маштаб падзей быў важнейшы і больш каштоўны за сацыяльны вакуум канкрэтнага чалавека, заўсёды баяўся Быкава.

Баяўся яго непрадказальнасці, як непрадказальнай бывае толькі ісціна. Баяўся яго незгаворлівасці, як незгаворлівай толькі і бывае чалавечая годнасць. Баяўся яго рэальнага гуманізму, якім і надзяляецца толькі сапраўдны вялікі розум і інтэлект. Баяўся, а таму імкнуўся прыручыць. То цкуючы пісьменніка спецыяльнымі арганізаванымі кампаніямі ганьбавання і публічнага псеўдаграмадскага біцця. То адмаўляючы яму ў праве друкавання твораў — і тады з Масквы руку дапамогі і падтрымкі працягваў яму Твардоўскі, рэдактар часопіса «Новый мир», як на той змрочны час — дык часопіса з надта светланоснай назвай. Геній рукаўся з геніем, прарываючыся адзін да аднаго праз пякельнае акружэнне татальнай хлусні. І калі створаная аблога цкавання аказвалася ненадзейнай і нетрывалай, афіцыёзны канон свой страх перад пісьменнікам хаваў за факты ўзнагарод і літаратурных прэмій. Дарэчы, цалкам заслужаных В. Быкавым.

Прыгадваецца, калі ў 1975 годзе ў Мінску праводзілася Усесаюзная нарада пісьменнікаў ваеннай і тэмы, прысвечаная святкаванню 30-годдзя з дня Перамогі, у выступленнях удзельнікаў прагучала абурэнне самім фактам цкавання-прылашчвання дзяржаўнымі ўладамі выдатнага пісьменніка. На што тады з прэзідыума нарады сцішана і вінавата прагучала агаворка: маўляў, прэмію Быкаву далі за «Абеліск» і «Дажыць да світання», а зусім не за «Мёртвым не баліць». Як быццам у літаратуры маглі працаваць і мірна суіснаваць побач два непадобныя паміж сабой Быкавы.

Цень афіцыёзнага праклёну, навешаны персанальна яшчэ М. Суславым, не зняты і да гэтай пары. Ён вісіць над многімі творамі пісьменніка да нашага часу, як бы дэманструючы дзіўную несканчонасць і панадрэальнае змаганне прагматычна-карыслівага спажывання вынікаў мастацкай творчасці і ўніверсальнай сутнасці творчага духу наогул. Дык ці дзіва, што на перадапошнім, трынаццатым па ліку, з’ездзе беларускіх пісьменнікаў слова В. Быкава было скіравана не на мітрэнгу будзённасці, што, вядома ж, хвалявала нас, а на нешта больш значнае і аб’ёмнае. Ён гаварыў пра каштоўнасць свабоды як пра адзіны, універсальны і годны арыенцір, што павінен вызначаць сутнасны выбар па жыцці. Нас усіх, а не толькі мастака.

Яшчэ раз услухаемся ў яго слова, якое гучыць ужо з вышыні: «Свабода — найбольшая маральна-фізічная каштоўнасць, дадзеная кожнай жывой істоце фактам яе нараджэння. Усё жывое і карыстаецца той каштоўнасцю, наколькі гэта мажліва ў складаным, заблытаным свеце арганічнага існавання. Апроч хіба чалавека, якому мала прыроджанай свабоды. Каб у поўнай меры спазнаць і адчуць яе неабходнасць, яму наканавана прайсці праз хітрасплецены лабірынт жыцця, а то і застацца ў адным з яго тупікоў. І там прызвычаіцца, змарнець, страціць прыроджаны дар свабоды, адаптавацца дзеля элементарнае мэты біялагічнага існавання. Зрабіцца часткай натоўпу, грамадства, электарату — такім, як усе. Але як быць асобе, калі яна выпадае з масы сабе падобных, калі яна — творца, што дзеіць паводле ўнутраных імпульсаў самавыяўлення?..»

Ён глядзеў далёка наперад. Ён так рабіў заўсёды, хоць сама прышласць бачылася яму надта нярадаснай. І гэта было, бадай, адзіным, у чым ён горача хацеў памыліцца, памыліцца шчыра Вось чаму ў вялікай праблеме чалавека і сутнасці яго

існавання быкаўскім пяром пракрэслена важнейшае быційнае пытанне, якое можна сфармуляваць як пытанне нейтральнай хвіліны. Пісьменнік даводзіў, што такіх, нейтральных, хвілін не бывае. Кожная з іх у залежнасці ад абставін мяняе чалавека. Яна не абавязкова робіць яго лепшым ці горшым — яна выяўляе яго сутнасць, яго духоўную стойкасць. І з гэтых маленькіх мікрасутнасцяў быцця ўрэшце і складаецца вялікае чалавечае права на зямное існаванне. Героям В. Быкава так здаецца толькі, што яны жывуць гэтай нейтральнай хвілінай, што быццам ад кожнай з іх нічога не залежыць у руху чалавечай гісторыі. Але так здаецца толькі ім, героям, а не пісьменніку, які штохвілінна падштурхоўвае іх да выбару. Падштурхоўвае да выбавення ад нейтральнасці — ці развітальным жураўліным клічам з паднябесся («Жураўліны крык»), ці раскопам кар’ера («Кар’ер»), ці сімволікаю бомбы на ўзроўку ля спаленага хутара («Знак бяды»), ці нават запытальным позіркам міфічнага ваўкалакі, які «нечага чакаў ад чалавека» («Сцюжа»). Іх, гэтых сімвалічных знакаў актыўнага выйсця, вельмі многа ў кожным творы.

Але так у мастацтве. А ў рэальнасці свае законы. Мы прывыклі жыць з Васілём Быкавым. Без Яго жыць яшчэ толькі звыкаемся. І гэты год, што аддзяліў В. Быкава ад свайго 80-гадовага юбілею самотнаю рысаю пераходу ў вечнасць, для нас, здаецца, ёсць таксама адмысловай нацыянальнай нейтральнай хвілінаю, нейтральнай паласой нашага сучаснага існавання. І з яе таксама ёсць свой выхад. Ён у тым, каб зразумець: В. Быкаў пры жыцці належаў усім, і гэта было правільным. Цяпер нам трэба азірнуцца і спасцігнуць іншую правільнасць — аддаць пазыку самой Боскасці, якая яго нарадзіла, каб паўнакроўна жыла Айчына, мы павінны належаць Быкаву.

Мы павінны наблізіцца да вялікіх і трудных дарог, пракладзеных пісьменнікам да нашых сэрцаў. Да нашага дому.

*2004, Гродна*

## Слова пра Купалаў дактыль

Дактыль у асобных формах — гэта метрычнае самаруйнаванне верша. Памерам-«няўдаліцай» называў яго М. Гаспараў [1]. Такім ён бачыўся прызнанаму даследчыку паэтычнага слова ў варыянце суцэльных дактылічных клаўзул, тыпу нікіцінскага «Вырыта выступом яма глыбокая». Памер такі (можа быць, з-за люстраной сіметрыі зачыну і канцоўкі ў рытмічнай кампаноўцы codeршаванага радка) патрабаваў павышанай акцэнтацыі на паўтаральнасці вершарытмічных з’яў, у тым ліку прадчування абавязковай цэзуры, цераз што станавіўся празмерна жорсткім у структурным плане — маларухомым і слаба дынамічным. Цераз што памер і вычэрпваў свае здольнасці.

Яно і праўда, вычарпаны і спустошаны, дактыль з дактылічнай клаўзулай (што і чуем мы нават у самой нечакана ўзніклай тут таўталогіі), безумоўна, саступаў сваім «метрычным» суродзічам — анапесту і амфібрахію — і нібыта насамрэч быў асуджаны на эстэтычнае выгнанне ды ціхае скананне дзе-небудзь наўзбоч буйных рытмічных барваў паэтычнага поля. Рэха «дактыля-трэцяга», г. зн. з вонкава аслаблай двухскладовай ненаціскной канцоўкай, атуліла і ўвесь трохскладовы памер, і ён надоўга

выпадаў з поля зроку літаратурных даследчыкаў, або калі трапляўся ім, то ўспрымаўся пэўнай бесперспектыўнай маргіналіяй.

Але ж тут узнікае і відавочная нестыкоўка: дактыль — вельмі пявучы памер! І пявучы якраз з прычыны яго павышанай жорсткай рытмічнай структурызацыі. Той самы «няўдаліца» «дактыль-трэці» наогул абяцае паэтычнаму слыху гармонію элегійнага ўваходжання-адчування ў верш. У гэткай сваёй якасці ён абессмярочаны вопытам М. Лермантава з яго славутым «Тучки небесные, вечные странники…». Пявучасць радка, гарманічнасцю якога, як лічылі старажытныя, маглі гаварыць толькі багі, з аднаго боку, і пастаянная пагроза самаруйнавання і ліквідацыі, з другога, — ці не ёсць тут нейкая неразгаданая эстэтычная супярэчнасць? Або наадварот: ці не ёсць тут пэўная іншая дадзенасць — недазаўважаная, недапрачутая, недарэалізаваная вялікай практыкай паэзіі напружанасць паміж боскасцю стапы і яе схільнасцю да эстэтычнага руйнавання верша? І не толькі агульнай практыкай недазаўважаная, але і канкрэтнай практыкай іншых метраў-трохскладовікаў — амфібрахія і анапеста, — для якіх умоўная першая фаланга «пальца» (а менавіта так перакладаецца з грэцкай мовы тэрмін «дактыль») была толькі нізавой «фалангай» фонавага подступу да самастойнай рытмічнай тэмы?

У Купалавай паэзіі яно і адкрышталізавалася прыкладна так: малітва да нябёсаў «за родны загон Беларусі» абрала для сябе дамінантным метрычным узорам амфібрахій, а чатырохстопны анапест фундаментальна ўводзіў у рытмічнае гучанне самастойны матыў Маладой Беларусі. А што ж дактыль? На якія сэнсава-вобразныя стыхіі ён можа абаперціся ў лірыцы Янкі Купалы? Ці пад сілу яму выявіць нешта вызначальнае, а то і адзінае ў паэтычным купалаўскім светасузіранні, ці, наадварот, яго заўсёднае праднаканаванне зводзіцца да нізавой «фалангі» і ўсё, на што ён здатны — гэта больш-менш арганічнае ўзаемадзеянне з выяўленымі вышэй сэнсамі рытмічных тэм трохскладовікаў?

Не складана тое заўважыць: дактыль у Купалы «глухагалосы», цяжкавагавы, у высі не ўскрылены. Такі ж прыглушаны, як і яго голас, яго будзённая інтанацыя, класічна памятная з дэкламацыі верша «Трэба нам песень…» [6, с. 33–35], таксама, дарэчы, выкананага ў дактылічным памеры. Як цяжар сялянскай кайстры за спінай у няспыннага і натруджанага хадака. А яшчэ дадаткова мроіцца асацыяцыя: цяжкая, як каваная ў кавальскім горне, экзістэнцыя непамыснай чалавечай долі. Вітальных гімнаў тут, быццам, і не атрымліваецца: «Грай жа музы́ка, сэрцам рві струны… / Не пажалеюць заплаты табе!.. / Што? Хочаш ладзіць скрыпку ў тон сумны? / Весела грай, як віхуры ў кляцьбе…» [5, с. 74]. Грай, вяшчун-музы́ка, з адзіным заданнем, пасільным толькі бязмежнасці тваёй волі, такой, каб «лопнула сэрца» («Грай жа музы́ка…») [5, с. 74].

Праўда, гімны ўсё ж падаюць свой голас. Але гімны, умоўна кажучы, у цэласці лікавых велічынь змяшчаюцца «пад рыскаю», у «назоўніку», — як анталагічная, да агульнага значэння прыведзеная родавая памяць пра гімнічнасць любога чатырохстопнага трохскладовага памеру. У «лічніку» ж ва ўсім купалаўскім дактылі застаецца ўсё тая ж скруха, незварушнасць і неспажытасць людской ці агульнанароднай долі: «Ўстань ты, старонка, родная маці! / Годзе зімовага рабскага сну, / Годзе табе ўжо слёзна ўздыхаці, — / Выйдзі на поле, на сенажаці, / Выйдзі спаткаці вясну!» («Выйдзі…») [5, с. 75].

Наогул жа чатырохстопны дактыль — скрозь паказальны для нягучнага Купалавага паэтычнага «голасу». Асноўны змест раздзела «Бацькаўшчыне» ў зборніку «Шляхам жыцця» на гэтакі рытмічны лад настройваецца практычна адразу, другім па ліку вершам «Песня мая» («Песня мая не ўзышла сярод кветак…») [5, с. 29–30]. А калі ўлічыць, што гэты зборнік укладзены Купалам асабіста і ў згодзе з яго аўтарскімі інтэнцыямі, то эстэтычны кошт вершаванага памеру ўзрастае шматкроць. Ён і ёсць «тон» кнігі, яе «настрой», яе цэласная паэтычная інтанацыя. Абраны рытмічны матыў на самай справе рэальна прадвызначае аблічча пераважнай большасці вершаў з дактылічнай «сарцавінай» ды яшчэ ў дадатак паўнаводна расцякаецца ў плыні Купалавых дактыляў сваёй, несумненна адметнай ручаінаю — падобнасцю да дольнікавай тэндэнцыі, з пропускам аднаго слабага складу ці з'яўлення на чаканым для яго месцы цэзуры: «Вам, цемнатворцам, блізкім, далёкім / Шлю свой прывет і ласку ад сэрца…» («Блізкім і далёкім») [5, с. 38]; «Простым мы словам са светам гаворым, / Песні аб цяжкай творым нягодзе…» («Папросту») [5, с. 64]; «З цэлым народам гутарку весці, / Сэрцы мільёнаў паслухаць біцця» («З кутка жаданняў») [5, с. 78]; «Выгналі з хаты, выгналі людзі, / Выгналі косці жывыя…» («Згнаннік») [5, с. 103]; «Мы вас прынялі хлебам і соляй, / Людзі чужыя…» («Чужым») [5, с. 151].

У зборніку «Шляхам жыцця» з усяго аб'ёму раздзела «Бацькаўшчыне» метрычнай рамкай дактыляў той ці іншай ступені абрамлена каля паўтара дзясятка вершаў: «Песня мая» [5, с. 29–30], «Песня сонцу» [4, с. 105–106], «Выйдзі…» [5, с. 75–76], «Зоркі» [5, с. 43], «Шлях мой» [5, с. 99–100], «Дзе ты, шчасце маё?..» [5, с. 100], «Гора нядольнае» [3, с. 147], «Холадна» [5, с. 100–101], «Мая доля» [5, с. 101–102], «З песень жыцця» [4, с. 15], «Хмары і думы» [4, с. 19], «Зваяваным» [4, с. 52], «Бледныя буднія дні…» [5, с. 65], «Грай жа, музыка…» [5, с. 74–75], «З кутка жаданняў» [5, с. 78–79]. Не нашмат менш дактылічных вершаў і ў наступным раздзеле «Па межах родных…» — ды вершаў з якой глыбінна праграмнай для Купалы канатацыяй! Пералік гэтых вершаў пачынае магутны харал незалежнасці «Над Нёманам» [5, с. 12–14]. А потым ідуць: «Явар і каліна» [4, с. 110–111], «Бор» [4, с. 27], «Палац» [4, с. 85–86], «Паводка» [4, с. 64], «З летніх малюнкаў» [5, с. 33–34], «Спёка» [5, с. 48–49], «З асенніх напеваў» [5, с. 114–118], «Восень» [5, с. 119]. Атрымліваецца, па сутнасці, палова фізічнага аб'ёму кнігі густа перасыпана вершамі з дактылічнай рытмічнай кадэнцыяй. Іх густата ўжо замацоўваецца ва ўспрымальнай свядомасці, а сустрэча з падобным тыпам верша ў наступных раздзелах падтрымлівае і не дае згасаць у памяці разагнаную напачатку кнігі рытмічную інерцыю. Так, па тры творы з указаным трохскладовым памерам сустракаем у раздзелах «Для яе» («З зорак усходніх, заходніх…» [5, с. 120], «Песня» [5, с. 121], «Русалка» [5, с. 70–71]), «Наша вёска» («Жніво» [5, с. 138], «Песня жнеяў» [4, с. 97–98], «Над ніваю ў непагоду» [5, с. 139–140]), «Байкі і аповесці» («Забытая скрыпка» [4, с. 72–74], «У піліпаўку» [7, с. 41–45], «Вісельнік» [4, с. 82–83]) і два — у раздзеле «Сваім і чужым» («Чужым» [5, с. 151–152], «Папросту» [5, с. 64]). Яны, хоць параўнальна і нешматлікія, але, як распылены хвост каметы, які працягвае траекторыю астральнага цела, нагадваюць пра агульную паэтычную скіраванасць дактыляў у рытмах Купалавага зборніка.

«Глухагалосасць» трохскладовага памеру ў Купалы часта дысануе з паэтычнай лексікай, дзе найбольш ужывальнымі выступаюць рытарычныя фігуры пытання, звароту ці ўласна рытарычнага заклiку. Фігуры паэтычнага казання, ярка вылучаныя,

падкрэсленыя, выпукленыя з роўнядзі дактылічнага няспешнага рытму, нібы спрабуюць узняць нешта цяжкое і непасільна-незварушнае, адарваць яго ад стала належалага месца, вывесці тое непадатлівае рэчыва за іншы парог і ў іншую сацыяльную прастору. Устойлівы чатырохстопны дактыль з жаночымі канчаткамі ў Купалы і складае прыкмету замка́, замыкання, неадольнасці, наваленага аднекуль на вольныя грудзі цяжару.

Скардзіцца на той цяжар магутны вячысты Нёман («Над Нёманам» [5, с. 12–14]), гаснуць у неадкрытай для сябе іншай халоднай прасторы дарагія далёкія зоры: першая — «бацькава», другая — «маткі», трэцяя — свая, уласная, што «*мігцела нясмела*», а чацвёртая — «*Роднай зямелькі*» ў шэрым і чужым, як нярoдным небе Пецярбурга («Зоркі» [5, с. 43]). Сам жа музы́ка, мы помнім, павінен так «рэзаць», так граць, каб струна рвала сэрца, «каб і ў магілах // Голас уцешны пачулі з зямлі» [5, с. 75]. А далёкая і мілая, як знябожаная, радзімая «старонка» мусіць устаць з паднявoлі і выйсці нарэшце «з зімовага рабскага сну».

Здаецца, патрэбнае слова сказалася: рабскі сон, рабская пакора. Ці не хаваецца ў гэтым адна з усёпаглынальных семантычных стыхій купалаўскага верша, што трывала асацыююцца з праявамі дактыля, выступаюць яго вобразным рэхам і водгуллем змястоўнага ўвасаблення? Асабліва ў пецярбургскі перыяд, у перыяд стварэння «Шляхам жыцця», калі рэаліі далёкай занядбанай «краёвай» Беларусі і рэаліі вонкавага бляску імперска-велічнага горада-сталіцы сышліся адным прадметам паэтычнага і грамадзянскага асэнсавання? Яно так можа быць. А ва ўласна паэтычным плане, падобна, стыхія рабскага сну і пакоры, незварушнасці і нерухомасці, якія трэба так скалануць, каб «здрогнулі» нарэшце несправядлівыя «рабскія аковы», чакала свайго адэкватнага памеру. Харэй тут занадта слабы. Ямб для гэтай задачы — лішне легкаважны і крыштальна літаратурны. Патрэбен інакшы, грунтоўны, як рычаг з плячом перавагі на два склады над цэнтральнай меткай абазначанага незварушнага цяжару, трохскладовы памер — «палец»-дактыль. Дактыль з чатырохстопным крокам, у якім і скруха і вызваленне ад скрухі свае супрацьлеглыя эмацыйныя станы хароняць надта глыбока, але і надта ўчэпіста.

Несумненна, Купалаў дактыль пераважна мінорны. Ён практычна амаль увесь у неакцэнтаваных жаночых і дактылічных канчатках. Ненаціскныя клаўзулы — устойлівая, амаль не кранутая парушэннямі метрыка-рытмічная тэндэнцыя. Прыкладна тры чвэрці вершаў, што ўвайшлі ў зборнік «Шляхам жыцця» пад сцягам дактыля, трывала аб’яднаны рыфмаю жаночага (часцей) ці дактылічнага (радзей) тыпу. Толькі два вершы вылучаюцца з гэтага шэрагу інакшым малюнкам. Гэта — «Бледныя буднія дні» [5, с. 65], скроены дзівоснымі супляценнямі трохстопнага дактыля з мужчынскай рыфмаю, і верш «Холадна…» [5, с. 100–101] з класічным тыпам альтэрнацыі чатырохстопнага дактыля «мужчынскага тыпу» і трохстопнага дактыля — «жаночага».

Паўстае пытанне, якое не можа не паўстаць перад даследчыкам. Пытанне тое: чаму? Чаму лірыка Купалы першай дэкады дваццатага стагоддзя накрыта такой шчыльнай мярэжай сыходных акустычных тонаў? Бо і сам дактыль як вершаваны памер ёсць памерам інтанацыйнага спадання і рэдукцыі — ад першага акцэнтаванага, а значыць узмоцненага, складу да двух неакцэнтаваных. Калі да гэтай уласцівасці дадаецца яшчэ і заключная пазіцыя вершаванага радка таксама з відавочнай акцэнтнай рэдукцыяй — то з жаночай, то з дактылічнай флексіяй, — атрымліваецца

наогул неардынарная сітуацыя. Пачаўшыся тонавым спаданнем, радок і завяршаецца такім жа спаданнем — уваходжаннем ледзь не ў суцэльную прыглушанасць, у інтанацыйны «паўзмрок», у нямое.

Ці дзіва, што прыкладаў такому выкарыстанню дактыля не так проста і адшукаць у паэтычнай творчасці. У літаратурах нават з багатай на той момант пісьмовай культураю дактылічны верш з сіметрычнай скразной ненаціскной клаўзулай быў не надта частым. І ўспрымаўся як літаратурнае практыкаванне ці стылізацыя. І не ў каго-небудзь з другарадных паэтаў, а ў вялікіх, знаных майстроў паэтычнага слова — А. Някрасава, І. Нікіціна, А. Блока. Узорам, паводле якога вялося рытмічнае практыкаванне, служылі, вядома ж, шчымлівыя радкі высокай рамантыкі М. Лермантава, цытаваныя напачатку нашых разважанняў. Дый сама развітая літаратура, па прызнанні сучасных даследчыкаў (М. Гаспараў), падобны рытмічны тып паэтычнага выказвання асвойвала следам за інтанацыямі народнага паэтычнага вопыту, перш за ўсё за галашэннямі. Але асвойвала досыць стрымана. Ні ў воднага вялікага рускага паэта падобная метрычная камбінацыя не займела практычна саліднага і значнага ўвасаблення. Купала ж наўздзіў і насуперак усяму жаноча-дактылічную кадэнцыю вершаванага радка паставіў ва ўласнай аўтарскай інтанацыйнай супольнасці ў лік ці не цалкам раўнапраўных.

Гартаем зборнік «Шляхам жыцця»: «Коціцца, ўецца далінкай крыніца, / Б’ецца, плюскоча ў каменнях вадзіца, / Далей плыве і плюскоча» (З летніх малюнкаў») [5, с. 33]; «Шлях. Каля шляху лес хілкі. / Вёска, дзе лес і магілкі; / Ў вёсцы — з святліцай хаціна, / Ў хаце — з бабуляй дзяўчына» («Як у аповесці») [5, с. 34]; «Ночкай як толькі сыходзіў я з хаты, / Зоркі на небе старчаў я чатыры; / Кожны раз зводзіў іх вогнік крылаты, / Хоць к ім малітвай узносіўся шчырай» («Зоркі») [5, с. 43]; «Простым мы словам з светам гаворым, / Песні аб цяжкай творым нягодзе, / З думкамі рвёмся к сонцу і зорам, / Рвёмся к свабодзе» («Папросту») [5, с. 64]; «Дайце галінку, дайце павесіцца / Гэтай русалцы, гэтай дзяўчыне! / Вы яе гналі, вы яе мучылі, / Дайце ж хоць сцежку, беднай, к галіне» («Русалка») [5, с. 70]; «Постаць нязжатая слотамі гноіцца, / Птушкай цярэбіцца, ветрам малоціцца. / Колас сагнуўся, змяшаўся з гразёй…» («Над нівай ў непагоду») [5, с. 139].

За выключэннем апошняга верша, які тут пададзены не столькі як відавочны прыклад прамога наследавання лермантаўска-някрасаўскай мастацкай традыцыі, колькі мастацкай дыскусіі з ёй, усе астатнія творы (маецца на ўвазе, з дактылічным памерам) у паэтычным зборніку Янкі Купалы ідуць па парадку, так, як размешчаны аўтарам. Зрэдзьчас яны «перабіваюцца» ўкрапленнямі з іншай — мужчынскай — формулай завяршэння радка, распачатага дактылем. Але дактылічна-мужчынскія рытмы Купалы больш за ўсё, паўторым, выбралі для сябе менавіта чатырохстопны дактыль.

Праўда, важным бачыцца тут нават не тое, што Купала зрабіў, назавём так, рэдукаваны дактыль адной з асноўных і вядучых рытмічных тэм сярод трохскладовых памераў, колькі тое, што не ўстанаўліваецца ініцыятыўная школа, ад якой паэт адштурхнуўся. Падобнага вопыту з аналагічнай творчай шчыльнасцю нідзе не назіраецца, а саліднага вопыту скарыстання трохскладовых памераў самой тагачаснай беларускай літаратуры не было і пагатоў. Пытанне, абазначанае намі як «чаму?», ускладняецца не менш важным праблемным прырашчэннем: «адкуль?» Чаму і ад-

куль Купала імпэтна чэрпаў мастацкае натхненне шчодра засяваць свой паэтычны палетак той формай дактылічнага ўладкавання радка, якая ў мастацкай практыцы суседняй літаратуры асвойвалася не вельмі энергічна і ледзь не па вызначэнні залічвалася да памераў, нібыта асуджаных на выміранне?

Мова, вялікая сіла ўнутранага грунту народна-моўнай стыхіі, несумненна, вяла паэта! Купала валодаў бясспрэчным універсальным слыхам на мову. Ці не першым, хто рэальна засяродзіў на тым увагу, быў Л. Клейнбарт, які ў сваёй знакамітай «Маладой Беларусі» [2] спецыяльна падкрэсліваў выключную знакавую каштоўнасць мовы ў паэтычным ладзе Янкі Купалы. Пакладзіце на рускую мову Багдановіча і Купалу, — рытарычна сцвярджаў даследчык, — і вы пераканаецеся, што першы няшмат страціць ад такой аперацыі; ад паэтычнай жа абаяльнасці другога, наадварот, мала што застанецца [2, с. 188–189]. Відаць, і незвычайна багатая, скрышальная па энергетыцы сваёй непаўторнай крэатыўнай вартасці моўная творчасць Купалы, для якой няма фармальных перашкод, абапіраецца на тое ж — на бездакорна развітае моўнае чуццё. Паэту, які шмат у чым быў самавукам, адмысловыя разнастайныя рытмы дыктавала не толькі сусветная культурная практыка, але найпершым чынам унікальнасць нацыянальнай моўнай прасодыі. А яна ў беларускай мове, у адрозненне ад рускай, — з моцнай схільнасцю да жаночых і дактылічных акцэнтных характарыстык.

Працуючы над праблемамі рытмавага існавання празаічнага тэксту, я сам неаднаразова натыкаўся на шматлікія сляды такой асаблівасці ў «метрычных словах» прозы — коланах. Цэлая заканамернасць праяўляла сябе на дзіва ўстойліва і паслядоўна: чым даўжэйшы колан (дзевяць і больш складоў), тым большая вераемнасць, што пачнецца ён і завершыцца структураваным падабенствам — анакрузай і клаўзулай жаночага ці дактылічнага тыпу. Гэтая прасадычная ўласцівасць — у аснове пявучасці беларускай мовы, яе плаўнасці і няспешнасці, яе сапраўды прыроднай арганічнай боскасці. Памятаем жа старажытных: так — «дактылем» — гаварылі алімпійскія багі! Гэтую боскасць складзенага ў вяках глыбіннага ладу мовы духам сваім і ўнутраным чуццём падхопліваў малады Купалы і апладняў боскасцю свайго паэтычнага генію.

Яго дактыль не толькі мінорны, але і папраўдзе боскі! Менавіта ў дактылі, як ні ў адным іншым трохскладовым памеры, Купала праявіў сябе актыўным эксперыментатарам. Па-творчаму дзёрзкім і смелым. Маючы за спінай нярэчыўную падтрымку нацыянальнай моўнай прасодыі, у якой — шматвяковы інтэлектуальна-духоўны вопыт тых, з кім жадалася «гутарку весці», і абазначыўшы для сябе за дамінанту дактылі з жаноча-дактылічнымі клаўзуламі, паэт-эксперыментатар гэтую, вонкава манатонную плынь не раз спрабаваў разарваць намаганнямі ўсвядомленых эстэтычных правакацый над магчымасцямі строфікі. Не толькі катрэны з рознымі відамі рыфмоўкі і альтэрнансам паводле колькасці стоп, але і пяці-, шасці-, а то і сямірадкоўі складаюць звыклыя паэтычныя формы ў Купалы, пастаянства чаго мы амаль не сустракаем за межамі дадзенага вершаванага памеру.

Вось толькі два прыклады Купалавых секстэтаў:

Коціцца, ўецца далінкай крыніца,
Бецца, плюскоча ў каменнях вадзіца,
Далей плыве і плюскоча.

Белымі грудкамі лёгшы на траўцы,
Хоча дзяўчынка к вадзіцы дастацца,
Губкамі чэрпнуці хоча [5, с. 33].

Лёгкая летняя маляўнічая акварэль, своеасаблівы эцюд любавання хараством дзявочай маладосці, дзе ўсё збудавана на тыповым для Купалы паўнаўладдзі жаночых клаўзул (*ААВССВ*) з альтэрнацыяй чатырохстопнага і трохстопнага дактыля.

А вось поўны адменнік гэтаму рытму — верш «Бледныя буднія дні» [5, с. 65], яўны эксперымент у Купалы, нідзе больш у зборніку, здаецца, не паўтораны паводле свайго рытмічнага ўзору. Скразныя мужчынскія рыфмы (аавааа), з'ява, рэдка сустраканая не толькі ў купалаўскай лірыцы, але і наогул у лірыцы аж да сучасных дзён, як бы назнарок падкрэслена адцяняюць вядучы дактылічны матыў зместу — матыў гучання ваярных песень, якія «рабскія сны / з душ паднявольных змялі б» [5, с. 65]. Асабліва выразна ўстаноўка на свядомае эксперыментальнае рашэнне тэмы паўстае з заключнай страфы, дзе мяняецца нават і абраны на пачатку парадак рыфмоўкі. Цяпер яна выглядае суцэльным загадкавым карункам (авсвас), да таго ж яшчэ і «распаласаваная» анжанбеманам у пятым радку:

Скрогат нясецца з асін…
Рабству паклоны біў дзед,
Гнуўся пад палкамі ў крук;
Бацька — за дзедам; услед
З бацькам пляцецца і сын;
Ты ж кудой пойдзеш, унук?.. [5, с. 65].

Як бачым, дактылічныя метры з жаночым афармленнем клаўзулы ў лірыцы Янкі Купалы 1910–1912 гадоў складаюць не толькі самы значны корпус тэкстаў, але і ўнутры сябе ўтрымліваюць дадатковыя вузлы семантычных напружанняў, калі дактыль нібы ўзгадвае пра гімнічную прыроду трохскладовых памераў і імкнецца перамагчы беспрасвецце лёсу, а з другога боку — моцная суб'ектывізацыя пачуцця і жарсці, глыбокай асабовай спавядальнасці хоць і няўстойлівымі, але яркімі сполахамі з усёй безумоўнасцю знакава выяўляюцца ў праблемна-змястоўным полі Купалавага паэтычнага зборніка. Нават і ў тых творах, дзе дактылічны рытм гулка праступкваецца мужчынскімі рыфмамі, Купала застаецца пазнавальным па нягучнасці і нетаропкасці разгарнення «голасу». У гэтай нетаропкасці дактыля вельмі ўтульна было пачуваць сябе і праявам купалаўскага сімвалізму, і няспешнаму, як у глебу роднай зямлі ўкарэненаму, купалаўскаму рамантызму. І — як тое заўсёды ёсць у Купалавых трохскладовых памерах — адборам такой ноты даверлівай паэтычнай інтанацыі, калі лірычны герой выходзіць ледзь не на ўзровень субяседніка.

Здаецца, Ю. Тынянаў пра лірыку позняга А. Блока казаў, нібыта лірычны герой А. Блока і ёсць сам Аляксандр Блок. Ці не тое ж і ў нашым выпадку: лірычны герой паэтычнага казання ў «Шляхам жыцця» — сам Янка Купала. Шчырая інтымная спавядальнасць свой слоўнік падтрымлівае і дактылем. Так было і ў ранейшых Купалавых аўтарэфлексіях, кшталту «Я не паэта, о крый мяне Божа…» [3, с. 170]. Так нязменна засталося яно і зараз. Асабовая якасць паэтычнай споведзі не аслабляецца ў вобразна-змястоўным свеце Купалавай кнігі. Споведзь бессмяротнай, але дарэшты

змучанай душы становіць тут асноўную тэму паэтычных прызнанняў: «Восень» [5, с. 119], «Шлях мой» [5, с. 99–100], «Жніво» [5, с. 138], «Холадна» [5, с. 100–101].

Двубой, неўтаймоўнае змаганне паміж грамадзянскім самавыражэннем і інтымна-асабовым сузіраннем праз дактылічныя вершаваныя рытмы Купалы схіляецца ўсё ж не да радасных модлаў. Перамагаюць «песні змучэння». Як у вершы «Холадна»:

З нейкім пракляццем прыходзім на свет,
З нейкім на той свет сыходзім;
Потам, крывёю век сцелецца след,
Песню змучэння заводзім [5, с. 101].

Так, тады, у пачатку 1910-х гадоў, у Пецярбургу Купалу было «холадна» ад беларускай панявольнай летаргіі. Дактыль сведчыў тое сваімі няроўнымі глухагалосымі рытмамі.

**Спіс літаратуры**

1. Гаспаров, М. Л. «Тучки небесные, вечные странники»: 4 ст. дактиль с окончаниями ДДДД: размер-неудачник / М. Л. Гаспаров // Метр и смысл. Об одном из механизмов культурной памяти / М.Л. Гаспаров. — М., 2012. — Гл. 7. — С. 245–268.
2. Клейнборт, Л. М. Молодая Белоруссия : очерк современной белорусской литературы 1905–1928 гг. / Л. М. Клейнборт. — Минск : Белгосиздат, 1928. — 508 с.
3. Купала, Я. Поўны збор твораў : у 9 т. / Я. Купала. — Мінск : Маст. літ., 1995–2003. — Т. 1 : Вершы, пераклады 1904–1907. — 1995. — 462 с.
4. Купала, Я. Поўны збор твораў : у 9 т. / Я. Купала. — Мінск : Маст. літ., 1995–2003. — Т. 2 : Вершы, пераклады 1908–1910. — 1996. — 342 с.
5. Купала, Я. Поўны збор твораў : у 9 т. / Я. Купала. — Мінск : Маст. літ., 1995–2003. — Т. 3 : Вершы, пераклады 1911–1914. — 1997. — 342 с.
6. Купала, Я. Поўны збор твораў : у 9 т. / Я. Купала. — Мінск : Маст. літ., 1995–2003. — Т. 5 : Вершы, пераклады 1930–1942. — 1998. — 278 с.
7. Купала, Я. Поўны збор твораў : у 9 т. / Я. Купала. — Мінск : Маст. літ., 1995–2003. — Т. 6 : Паэмы, пераклады. — 1999. — 430 с.

нарадзіўся 13 чэрвеня 1957 года ў вёсцы Зані Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1979) і аспірантуру (1982). Стаў сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў (1991), дацэнтам (2000), доктарам філалагічных навук (2004). Працаваў прафесарам Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Аўтар літаратуразнаўчых кніг «Сустрэчны рух» (1998), «Празаічны тэкст: дынаміка рытмавага існавання» (2003), «Прыхінуцца да крыніцы» (2017). Памёр 30 чэрвеня 2017 года. Пахаваны ў Гродне.





АНАТОЛЬ БРУСЕВІЧ

## З намі Данута Бічэль: тры перыяды ў паэзіі матулі гарадзенскага літпрацэсу
*(да 80-годдзя з дня нараджэння пісьменніцы)*



Калі задумацца, хто стаіць ля вытокаў сучаснага гарадзенскага літаратурнага працэсу, то не так і шмат прыйдзе ў голаў імёнаў. Але сярод іншых абавязкова згадаецца імя Дануты Янаўны Бічэль, якая і сёння, нягледзячы на паважаны ўзрост, з’яўляецца актыўным удзельнікам гэтага самага працэсу — піша вершы, прозу, займаецца перакладамі, рэгулярна выступае з творамі перад чытацкай аўдыторыяй, абмяркоўвае надзённыя праблемы айчыннага вербальнага мастацтва са сваімі калегамі. Зрэшты, не толькі ўласна літаратура, але і іншыя сферы культуры, навукі і асветы заўважана ажываюць дзякуючы ёй. Бо калі з-пад лёгкага пяра Д. Бічэль выходзяць кнігі, то ўсе яны — арыгінальныя, яркія, самабытныя, запамінальныя — адразу пачынаюць жыць сваім самастойным кніжным жыццём: нясуць радасць пашаноўнікам прыгожага слова, ствараюць прастору для роздуму літаратурным крытыкам, уплываюць на творчыя планы перакладчыкаў, музыкантаў, становяцца аб’ектам натхнення для іншых пісьменнікаў і прадметам навуковага аналізу для літаратуразнаўцаў. Многія вершы з тых кніг аздобілі школьныя падручнікі, бо акурат з падобных радкоў — шчырых, мілагучных, простых і мудрых у адначассе — мусіць пачынацца шлях чалавека ў свет паэзіі. Колькі, напрыклад, лёгкасці, святла і святасці ў трыялеце «Сняжынкі»:

Лёгкія сняжынкі у цішы
долу апускаюцца нясмела…
Светла ў полі, светла на душы…
Лёгкія сняжынкі у цішы…
Спіць сасна ў пушаным шалашы,
а навокал — так бялютка-бела.
Лёгкія сняжынкі у цішы
долу апускаюцца нясмела.

Гэты паэтычны цуд з самага першага зборніка Д. Бічэль «Дзявочае сэрца» (1961). Змешчаны ён невыпадкова і ў вучэбным дапаможніку па беларускай літаратуры для 8-га класа М. А. Лазарука, В. І. Русілкі і І. М. Слесаравай (Мінск, 2011).

Не забывайма, дарэчы, што Д. Бічэль у свой час скончыла спачатку Навагрудскае педагагічнае вучылішча, потым гісторыка-філалагічны факультэт Гродзенскага педінстытута (цяпер Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы), працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры, таму лёгка магла сабе ўявіць, як выглядаюць далягляды спадзяванняў малога, недасведчанага чытача. Ды і не толькі дадзе-

ная акалічнасць адыграла сваю ролю пры напісанні яркіх твораў для дзетак. Кожная жанчына — перадусім маці, якую Пан Бог яшчэ дзяўчынкай надзяляе дарам найдакладней разумець мову дзіцячых душаў і сэрцаў. Паэтка Данута Бічэль нарадзіла дваіх дзяцей — Віку (сёння вядомая мастачка В. Ільіна-Загнетава) і Валеру (гэта пра яго чытаем радкі ў славутым вершы У. Караткевіча «Каложа»: «*Ўскінь далоні тонкія ўгору, / Сыну неба акрэслі шлях, / Каб навекі адбіліся зоры / У тваіх і дзіцячых вачах*»). А яшчэ туліла, гарнула да сябе іншых дзетак: у беларускі гурток «Вянок» пры створаным ёй музеі Максіма Багдановіча прыходзілі школьнікі з усёй Гародні. Прычым сілком іх туды ніхто не гнаў — усе беглі да Дануты Янаўны з радасцю, а вярталіся адтуль з удзячнасцю за цеплыню і спагаду, якую нельга было атрымаць у казённых сценах савецкай школы, а часам і дома.

Калі мы ўжо згадалі пра музей, то не забудзем адзначыць, з якім энтузіязмам, з якой любоўю цягам стольких гадоў будавала Д. Бічэль той домік Максіма, каб саграваць у ім апроч гарадзенскіх хлопчыкаў і дзяўчынак усіх беспрытульных дзяцей Беларусі: настаўнікаў і студэнтаў, маладых паэтаў, музыкаў і мастакоў, моладзевых лідараў і людзей старэйшага пакалення — усіх тых, хто пачуваўся чужым ва ўласным краі, але не губляў надзею адшукаць сваю сапраўдную радзіму, якая цяплілася недзе на самым дне генетычнай памяці. Гэта і пра кожнага з іх наступныя радкі:

Шчочку да вуснаў туліць,
каб таямніцу спытаць:
— Скажы мне праўду, матуля,
Беларусь — яна сірата?

Шмат хто знаходзіў прытулак у доме Паэта — «*вандроўнік, лірнік і ратай*», дзе кожнага чакала добрае слова, шчырая ўсмешка. Для ўсіх іх Данута Янаўна, спадарыня і пані Данута была як маці, духоўная маці. Дарэчы, празаік і паэт са Слоніма Іван Сяргейчык, будучы не нашмат маладзейшым за Д. Бічэль, заўсёды яе так і называў: матуля. Паступова музей стаўся сапраўдным культурным цэнтрам, дзе адбываліся цікавыя мастацкія імпрэзы, дыскусіі, сустрэчы з вядомымі дзеячамі. У тыя моманты язык не паварочваўся назваць Беларусь сіратой, бо было каму сказаць:

Між рэкамі ды пушчамі стаю.
Зблуканых запрашаю на вячэру.
Люблю вас — нібы Віку і Валеру…
Каму ж яшчэ аддам любоў сваю?

Зрэшты, пра стварэнне музея М. Багдановіча, ды і пра іншыя цікавыя калямузейныя гісторыі шаноўны чытач зможа даведацца ад самой яго стваральніцы, так бы мовіць з першакрыніцы, разгарнуўшы, напрыклад, кнігазбораўскі том «Выбраных твораў» Д. Бічэль (Мінск, 2016): у трэцяй частцы згаданага тома змешчаны ўспаміны, эсэ ды розныя замалёўкі пераважна з жыцця літаратурнай Гарадзеншчыны. Мы ж прыгадалі музей М. Багдановіча ў Гародні з крыху іншай мэтай — каб акрэсліць асноўныя эстэтычныя арыенціры Д. Бічэль, паказаць эвалюцыю творчай свядомасці пісьменніцы, пазнаёміць з тэматыкай і праблематыкай вершаў, вызначыць каардынаты мастацкага мыслення паэткі, падрыхтаваць новага чытача, які, магчыма, яшчэ

не знаёмы з гэтай аўтаркай, да звілістых сцежак яе матываў і вобразаў, каб той чытач на ўласныя духоўныя вочы змог убачыць свет яе светлага слова сярод падобных вербальных светаў. Такім чынам музей для нас — як своеасаблівы маяк альбо межавы знак, што дапаможа зарыентавацца ў нашай вандроўцы па мастацкай прасторы адной з найлепшых беларускіх пісьменніц. Найперш дзякуючы музею мы можам падзяліць творчасць Д. Бічэль на наступныя перыяды (умоўна, канешне, бо любая перыядызацыя — рэч вельмі няпэўная): «дамузейны», «музейны» і «постмузейны». Дарэчы, паводле колькасці выдадзеных кніжак перыяды амаль што роўныя, а вось зместава-ідэйнае напаўненне іх (і саміх перыядаў, і кніг, што выйшлі з друку ў тым часавым прамежку), канешне, адрозніваецца.

Вершы першага, «дамузейнага» перыяду (з кніг 60-х і 70-х гг.) запрашаюць чытача ў вельмі светлы, крыху наіўны, але наскрозь рамантычны свет цнатлівага харэства — у чароўную казку, дзе «*Пад казачным дубам, над Нёманам сінім / хлапец прызнаваўся ў каханні дзяўчыне*». А як інакш?! Хіба ж можа поўніцца нечым іншым **ДЗЯВОЧАЕ СЭРЦА** паэткі?! Каханне і любоў — відаць, тыя галоўныя апоры, на якіх ад самага пачатку трымаецца паэзія Д. Бічэль. Трохі пазней матыў кахання знікне, але затое матыў любові паступова вырасце да ўзроўню творчага канцэпту. Так, як з любові да бацькоўскай хаты вырастае любоў да цэлага краю альбо з любові да роднай прыроды вырастае любоў да добрага Творцы Сусвету. Згадаем: «*Нехта добры, хто пануе цішай / Нехта дужы, гэты свет калыша*»...

Шлях — ад маленькай любові да вялікай — нялёгкі, пакручасты. Не кожнаму пад сілу яго адолець. Лірычная гераіня Д. Бічэль не выглядае на сяброўку супермена — яна далікатная, лёгкая, вельмі падобная да рамантычных гераінь Адама Міцкевіча. Але яна крочыць наперад, не зважаючы на боль ад калючых зорак пад нагамі. Бо не адна. Побач **НЁМАН ІДЗЕ**.

З Нёманам можна размаўляць. Размаўляў жа некалі з ім наш вялікі паэт, пытаўся: «*Niemnie, domowa rzeko moja! gdzie są wody, / Które niegdyś czerpałem w niemowlęce dłonie*». Нёман разумее кожную мову, калі прамаўляць сэрцам, бо сам «*цячэ праз сэрца*». І, вядома, адказвае на ўсе пытанні.

А на Нёмане — крыгаход.
Крыгі-востравы, нібы роздумы.
А навошта ты кожны год
мне прыносіш горкія ростані?

Так, яго можна часам і папракнуць за «горкія ростані», але Нёман ніколі ні на каго не крыўдуе. Ён добры, «...*плыве сабе ўдаль, як звычайна, / стагоддзямі вербы да хваль прыручае*», дазваляе нават месяцу звіць гняздо над галавой, і той сядзіць, «*ножкі у Нёман звесіўшы*». Канешне, здараецца і такое, што «...*на Нёмане пад калінаю / разальецца туга па вадзе*...», але часцей за ўсё яго воды светлыя і празрыстыя, як роднае слова «*пяшчотнае, шчырасці поўнае, / маё беларускае, роднае, кроўнае*...». І тады «*Нёман тут не цячэ, здаецца, / а танцуе між берагоў*».

Як бачым, Нёман у паэзіі Д. Бічэль — больш, чым вобраз. Ён нясе свае хвалі праз усю творчасць паэткі, праз усе перыяды, настолькі трапна адлюстроўвае самыя розныя адценні думак і пачуццяў, што становіцца сімвалам — спагады, мудрасці, ра-

дасці, сяброўства, кахання, часам тугі, і заўсёды сімвалам свайго, роднага, блізкага. Як і ў А. Міцкевіча, гэта адзін з галоўных складнікаў мастацкага свету, што выконвае мноства функцый: ад стварэння прасторава-часавых мадэляў да вырашэння эстэтычных задач.

Дарэчы, на падабенства мастацкай манеры Д. Бічэль і А. Міцкевіча нельга не звярнуць увагу. Яно адразу кідаецца ў вочы (як, зрэшты, і вершы, прысвечаныя класіку, альбо творы, у якіх сучасная аўтарка пэўным чынам апелюе да слова вешчуна). З аднаго боку, канешне, паміж паэтамі існуе немалая часавая прорва, аднак для культуры, асабліва народнай, нейкія 150 гадоў — не такі ўжо і вялікі адрэзак. А менавіта беларуская народная культура, прычым з аднаго рэгіёну — Гарадзеншчыны, сталася найважнейшай крыніцай фармавання мастацкага светапогляду абодвух паэтаў. Адтуль імі была ўзятая любоў да простых, але дасканалых формаў, сціплай прыгажосці, няхітрай мудрасці, якімі поўняцца беларускія казкі, паданні, песні. Дзякуючы гэтай бяздоннай скарбніцы А. Міцкевіч стварыў безліч запамінальных вобразаў — тых жа свіцязянак. У яго духоўнай спадкаемніцы ёсць таксама нешта падобнае: **ЗАПАЛЯНКІ**. Успомнім, як, ратуючы сваіх гераінь, аўтар знакамітай балады «Свіцязь» пераўтварае іх у кветкі. У вершах зямлячкі першага нашага рамантыка ёсць не менш цікавыя пераўтварэнні: «*Я са сцежкі ў гушчэчы збілася, / сінім ценем на травы ўпала / ды крынічкай на золку стала*». Як і А. Міцкевіч, Д. Бічэль нярэдка ўводзіць у сваю паэзію рэаліі з жыцця беларусаў, паказвае іх звычкі, традыцыі, маральна-этычныя каштоўнасці, нават стварае ўласныя фальклорныя мадэлі, як, напрыклад, у вершы «Старажытны напеў»:

— Хопіць мне дакукі.
Жыта сеяў дзед.
Я ж вазьму жалейку ў рукі,
павандрую ў свет.

**ДОЛЯ** ў кожнага свая. Нехта сее жыта, нехта знаходзіць іншыя спосабы ратаваць, абуджаць край. Паэт робіць гэта сваім спосабам — звонкім вершам, шчырай песняй. І край абуджаецца, прыслухоўваецца, як расце слова «…*у дубоў на вачах, / на ціхіх дажджах*». Словы, якія шчодра сее паэтка Д. Бічэль, падаюць на ўрадлівую глебу спрадвечнай народнай мудрасці: няма нічога мілейшага за радзіму. З тых простых словаў вырастаюць прыгожыя вершы, у якіх родны край быццам райскі куток, дзе думкі людзей чыстыя, не азмрочаныя зайздрасцю і сквапнасцю, дзе добрыя справы робяцца за так («…*Я кашулю затак хлопцу мыла*…»),

дзе, збудзіўшы сонца на дасвецці,
промні ў Нёмане казулі п’юць,
дзе жанчыны, як малыя дзеці,
адначасна плачуць і пяюць…

Магчыма, камусьці падасца, што ў сваіх вершах, асабліва ранніх, Д. Бічэль ідэалізуе гэты край і яго людзей, але мы маем тут справу хутчэй не з ідэалізацыяй, а з рамантызацыяй усяго беларускага. Дзеля гэтага паэтка не шкадуе вобразна-выяўленчых сродкаў, часам нават змяняе ўстойлівыя слоўныя адзінкі: «*Беларусь, белы вывадак*

*белых варон, / вылятае пад сонца са стрэх, навакол…*» — як вядома, фразеалагізм «белая варона», не ўжываецца ў форме множнага ліку. Дарэчы, разбурэнне тых жа фразеалагізмаў, увогуле, цікавасць да гульні са словам — яскравая прыкмета мадэрнісцкай стылістыкі, наяўнасць якой, зрэшты, не дзівіць у вершах Д. Бічэль, бо яе паэзія, узгадаваная на супольных традыцыях з А. Міцкевічам, увесь час, свядома і бессвядома, імкнулася да крыху іншай паэтыкі і эстэтыкі, той, якую абжываў Максім Багдановіч — адзін з нашых першых мадэрністаў. Зрэшты, не забывайма, што мадэрнізм — малодшы брат рамантызму альбо яго старэйшы сын. Так ці інакш, абраўшы гэты кірунак, аблічча паэзіі Д. Бічэль з кожным новым вершам набывае ўсё большай выразнасці, непаўторнасці, індывідуальнасці. Аж нарэшце, глянуўшы ў люстэрка гісторыі вербальнага мастацтва, паэзія выгукнула: **ТЫ — ГЭТА ТЫ**.

Мадэрністы хіба найлепшыя майстры урбаністычнага пейзажу. Сведчыць пра гэта між іншым і паэзія М. Багдановіча (прынамсі, нізка «Места»). Запамінальная гарадская лірыка пачынае адваёўваць сабе прастору і ў творчасці Д. Бічэль. І не проста гарадская, а гарадзенская:

Вежы касцёлаў, дрэвы і неба
ліўнем памыюцца да чыстаты.
Але патопу баяцца не трэба —
надта высока ў Гародні масты!

Цікава тое, што нават калі ў вершы адсутнічае кодавае слова «Гародня», гарадзенцы і так лёгка пазнаюць свой горад. Вядома, паэтка дае падказкі: напрыклад, уводзіць вобраз Нёмана, бо для беларускага чытача гэты гідронім найчасцей асацыюецца менавіта з Гародняй, а не з іншымі гарадамі, праз якія плыве рака. Але і так усё можна пазнаць, калі любіш гэтае места:

Усё было бадзёра, свежа, проста:
сады і стрэхі, вежы, Нёман, прыстань.
Над верхавінамі мігцела кола,
святочна ўсе гайдаліся, вясёла,
і мост гайдаўся ў такт бяздумным гульням,
і мой настрой лунаў над лёгкім гулам!

З вялікім замілаваннем гаворыць Д. Бічэль пра свой родны горад. Так, яна паспела з ім парадніцца, палюбіла яго светлай любоўю, той самай, якой бацькі любяць сваіх дзетак, а дзеці хатніх гадаванцаў. Бо ці паўстала б тады Гародня ў такім мілым і даволі нечаканым вобразе: «*На досвітку ад холаду дрыжыць, / бы кацянятка, горад мой любы*»?! Зрэшты, гараджанкай лірычная гераіня Д. Бічэль так і не зрабілася — як толькі выдараецца нагода, яна вяртаецца туды, адкуль родам — у сваё сельскае і анёльскае дзяцінства, дзе можна нізаць каралі з жалудоў, у юнацтва, дзе «*Звязалі апошні снапок на дажынкі, / і вочы яшчэ не замглілі дажджынкі*», дзе не шэры асфальт пад нагамі, не халодны гарадскі брук, а сцежка, абапал якой растуць вершы-кветкі: «Купальнік», «Варвялі», «Бальсан», «Пралескі», «Верас», «Галадок», «Барадульнік», «Цвінтарэй», «Зязюліны зёлкі», **БРАТКІ**…

Паэтызацыя роднай прыроды — адна з найбольш яскравых, запамінальных рысаў творчасці Д. Бічэль. І тут не ідзе гаворка пра ўзнаўленне тых альбо іншых прыродных пейзажаў, як гэта часта маем у рэалістычным мастацтве. Свае вершы паэтка напаўняе сапраўдным водарам і шолахам радзімы, аж забываешся, што перад вачыма ўсяго папяровы свет. Так умелі зачароўваць толькі рамантыкі, якія, у сваю чаргу, вучыліся ў народных майстроў слова слухаць і глядзець на свет сэрцам. Следам за рамантыкамі вялікае значэнне фларыстычнай сімволіцы надавалі прадстаўнікі мадэрнізму. Д. Бічэль працягвае гэтую добрую еўрапейскую літаратурную традыцыю і нават называе ў гонар сціплых кветак братак адну са сваіх лепшых кніг. Як вядома, існуе шмат так званых этыялагічных міфаў, якія распавядаюць пра паходжанне розных раслін. Ёсць такі міф і пра браткі, паводле якога двое сірот — брат і сястра — за неўсвядомлены інцэст былі замененыя ў кветкі. Вядома, падобныя павучальныя гісторыі, якія складаў народ, рэдка трапляюць у літаратуру ў арыгінальным выглядзе. Часцей за ўсё пісьменнікі насычаюць іх актуальным для свайго часу і сябе зместам і сэнсам, аздабляюць дадатковай сімволікай. Браткі для Д. Бічэль застаюцца толькі ўвасабленнем сваяцтва, але і гэтай невялічкай часткі старажытнага міфу хапіла, каб стварыць цэлую мастацкую канцэпцыю і паказаць, наколькі свет робіцца змрочным, няўтульным і сіратлівым, калі раптам разрываюцца сувязі крэўнай і духоўнай еднасці. Такім чынам, фаўна і флора роднага краю становяцца для паэткі не толькі крыніцай эстэтычнага захаплення, але і прадметам філасофскага роздуму на адвечныя, анталагічныя і антрапалагічныя тэмы:

Маўклівае лона Радзімы —
задумлівы верас,
вымярзаў і гарэў,
але вырас і пахне… Яшчэ раз
нахіліся прад ім,
пакляніся хоць зёлкам на вернасць…

На вялікі жаль, у сучасным свеце паміж людзьмі, нават блізкімі, вельмі часта вырастаюць непераадольныя муры непаразумення, а нават варожасці. Вербальнае мастацтва XX стагоддзя, асабліва літаратура экзістэнцыялізму, паказала, наколькі глыбока адчужанасць укаранілася ў сістэму каардынат нашага быцця, уплываючы фактычна на ўвесь спектр людскіх стасункаў. Аднак не ўсё страчваецца беззваротна. Чалавеку заўсёды даецца шанс ачысціцца, вярнуцца да забытых каштоўнасцей, да Аркадыі альбо райскага саду, дзе хораша і ўтульна, дзе жыве любоў і спагада, **ДЗЕ ХОДЗЯЦЬ БАСАНОЖ**…

Вершы Д. Бічэль, створаныя цягам 1980–1990-х гадоў, адносім да «музейнага» перыяду яе творчасці. Гэта быў час пошукаў і для паэткі, і для яе лірычнай гераіні. Пошукаў не новых, а старых, адвечных ісцін, якія згубіліся ў будзённай мітусні. Таму зусім заканамерным уяўляецца нам зварот, скажам, да гістарычнай тэматыкі (вершы «Барбара», «Рагнеда», «Баторава горка» і інш.). Здаралася, некаторыя тагачасныя крытыкі папракалі паэтку за «скажэнне» гісторыі, аднак сёння мы выдатна разумеем, што гэта была таленавітая інтэрпрэтацыя мінуўшчыны, паэтызацыя старажыт-

насці, стварэнне своеасаблівага гістарычнага фону, на якім бы чытач змог убачыць праблемы сучаснасці. Гэтак у свой час рабілі рамантыкі.

Яшчэ адна заўважная змена, якая адбылася ў паэзіі Д. Бічэль у дадзены перыяд, — паступовае пашырэнне творчай прасторы за кошт геаграфіі. Побач з дамінантным вобразам «малой радзімы» з'явіўся не менш яркі вобраз «радзімы вялікай». Так, поруч з вобразам Нёмана, які па-ранейшаму, застаецца «бацькам» (цэнтральным гідронімам у мастацкай карціне свету), праз вершы паплылі не толькі яго блізкія сваякі («*Бацька Нёман з прытокамі Моўчадзь, / Гаўя, Вілія, Ведзьма, Дзітва…*»), але і другія беларускія рэкі — напрыклад, Днепр (вершы «Дняпро ў Ляўках», «Дняпро»), Бярэзіна, Сож, Прыпяць. А побач з галоўным горадам — Гародняй неўзабаве павырасталі іншыя гарады, мястэчкі ды вёскі: Вільня, Крычаў, Гярвяты, Гальшаны, Гудагай, Глінішчы… Між тым цэнтр паэтычнага свету Д. Бічэль нязменны — гэта край маленства — **ЗАГАСЦІНЕЦ**, дзе свеціць **ДАЎНЯЕ СОНЦА**, край, дзе плывуць хатнія рэкі, дзе і самой можна стацца рэчкай (тут чамусьці раптам згадваецца Ганна Лівія — гераіня рамана Джэймса Джойса «Памінкі па Фінегану»):

Нёман-братка і вучыць, і няньчыць —
Хмару, Сэрвач і Белую Ганчу!
Нёману ў няволю здаюся —
Котра, Чорная Ганча, Дануся…

Край — гэта яшчэ і людзі, са сваімі лёсамі і лёзамі, са сваімі марамі і хмарамі, але з адным на ўсіх беларускім небам. Якраз у паэзіі «музейнага» перыяду Д. Бічэль стварае цэлую галерэю цікавых вобразаў-партрэтаў: Францішка Багушэвіча і Элізы Ажэшкі, Максіма Багдановіча і Янкі Купалы, Ядвігіна Ш. і Гальяша Леўчыка, Ларысы Геніюш і Янкі Брыля, Уладзіміра Караткевіча і Васіля Быкава… Вядома, партрэты тых, каго не толькі любіла, але і ведала асабіста, выкананы больш цёплымі фарбамі, мусіць тымі самымі, што малявала тату і маму, дзетак, а потым унукаў.

Яшчэ адной адметнай рысай творчасці, якая найбольш яскрава праявілася ў так званы «музейны» перыяд, становіцца паэтычная міфатворчасць. Уладзімір Калеснік называе гэта нават «*адной з праграмных ідэй Д. Бічэль*», заўважаючы, наколькі «*паэтка тонка ўлоўлівае магічна-заклінальныя функцыі слова і смела ўжывае адпаведныя прыёмы для паэтызацыі адносін чалавека і прыроды, для напаўнення міжчалавечых зносін дзівосна казачным хараством*». Зрэшты, міфатворчасць лічыцца адной з галоўных прыкмет усёй сусветнай літаратуры як XX стагоддзя, так і пачатку новага, XXI стагоддзя. У гэтым плане Д. Бічэль — паэтка вельмі сучасная. Адзначым найбольш распаўсюджаныя тыпы мастацкага міфалагізму (паводле канцэпцыі Міхаіла Эпштэйна), якія можна сустрэць у яе вершах: гэта арыентацыя на архетыпічныя канстанты чалавечага і прыроднага быцця, узнаўленне фальклорнай свядомасці і этнічна самабытных пластоў нацыянальнага жыцця і, нарэшце, зварот да лірыка-філасофскай медытацыі. Некаторыя скептыкі могуць, канешне, уступіць тут у спрэчку: маўляў, сучасная культура, будучы вельмі рацыянальнай, кіруецца шляхам татальнай дэміфалагізацыі ўсіх сваіх формаў, у тым ліку і мастацтва, таму дзе сёння знайсці тыя першасныя арыенціры, якія дапамогуць мастаку дакладна ўзнавіць хоць бы адзін дробны элемент той жа фальклорнай свядомасці? **А НА ПАЛЕССІ** хоць бы,

«…*Дзе дываны даматканыя сохнуць на плоце, / шаластуны старадаўнія звоняць тугой…*»!

Нельга не згадаць, што і анталагічны, і антрапалагічны аспект мастацкай праблематыкі айчыннай літаратуры звязаны не толькі з язычніцкімі архетыпічнымі канстантамі, але з культурнымі кодамі хрысціянскага канону — таксама вельмі старажытнымі, фактычна равеснікамі нашага пісьменства. Дарэчы, сучасная заходнееўрапейская літаратура амаль згубіла гэтыя сувязі, аб чым сведчыць яе суцэльная рацыяналізацыя і непераадольная цяга, нават паэзіі, да эсэістычных і публіцыстычных формаў. Вядома, такая тэндэнцыя рана ці позна прыводзіць да крызісу і заняпаду вербальнага мастацтва. Славянскім літаратурам, у тым ліку і нашай, пакуль што крызіс не пагражае. Бо нашы пісьменнікі вераць у магію жывога слова, а не шукаюць змярцвелыя алгарытмы яго марфалогіі. Бо могуць з усёй шчырасцю сэрца выгукнуць: **БОЖА МОЙ, БОЖА!**

Як было ўжо адзначана, у беларускай літаратуры з даўніх часоў назіраецца цікавае спалучэнне двух пачаткаў — язычніцтва і хрысціянства. У розныя культурныя эпохі працэнтныя суадносіны паміж імі, зразумела, выглядалі па-рознаму. Гэтак і ў межах творчасці асобна ўзятага пісьменніка можа пераважаць той альбо другі пачатак. Ды і на розных творчых этапах сітуацыя часта мяняецца. Творчы шлях Д. Бічэль таксама няроўны, звілісты ў плане згаданых ваганняў паміж дзвюма традыцыямі. Нейкі час вершы паэткі трымалі раўнавагу, што, зрэшты, адпавядае асаблівасцям беларускай ментальнасці, а можа нават і не беларускай, бо ёсць крыху іншыя людзі — **КРЭСАВЯКІ** — жыхары культурнага памежжа, светапогляд якіх палягае на сінтэзаванні розных, часам нават супярэчлівых формаў свядомасці. Падобнае балансаванне, дарэчы, уласцівае для паэзіі Максіма Багдановіча. Таму прагучалі аднойчы ў ягоным горадзе словы спадкаемцаў: **ТЫ НЕ САМОТНЫ**…

Між тым і спадкаемцы маюць права абіраць свае кірункі. Творчы шлях Д. Бічэль працягваўся: яе вабіў далягляд хрысціянскай эстэтыкі. Паэтка яшчэ, праўда, час ад часу азіралася назад, глядзела на плён ранейшых творчых набыткаў, глядзела адначасова з адчуваннем і стомы, і лёгкасці. Так азіраюцца жнейкі напрыканцы тydня, азіраюцца ў чаканні, што вось-вось прыйдзе святая **НЯДЗЕЛЬКА**, азіраюцца, каб палюбавацца на свой прыгожы апошні **СНАПОК**.

Трэці, «постмузейны» перыяд творчасці, які распачынаецца на мяжы стагоддзяў, адрозніваецца ад двух папярэдніх магутным хрысціянскім пафасам. Заўважым, хрысціянская паэзія Д. Бічэль вельмі рэдка апранае бліскучы святочны арнат, аддаючы перавагу суровым строям манаха-францішканца. Аднак пад гэтай, здаецца, простай вопраткай-формай заўсёды крыецца глыбокі змест, які паслядоўна, крок за крокам, раскрывае сутнасць хрысціянскага светасузірання. Прычым робіцца гэта не назойліва, а так, каб чытач ад размовы з вершам адчуваў радасць і лёгкасць, як быццам бы ён вандруе ў далёкі, цудоўны край **НА БЕЛЫХ АБЛОКАХ СНОЎ**. Вандруе, каб апынуцца

У тым блакіце, дзе анёлаў крылы
спляліся з хмаркамі ў вяночак мілы,
сусвет трымае белы Галубок.
Сусвет трымаць яму даў права Бог.

Кожны такі верш як споведзь — ні хітрасці, ні жаднай гульні ў іх няма. Замест інтрыгі паэтка прапануе спакой і светласць. Чытаць такія творы трэба з любоўю — як збіраць кветкі, напрыклад **СТАКРОТКІ Ў ВЯНОЧАК БОЖАЙ МАЦІ**. Чалавек з атрафіраваным пачуццём любові, нават калі ён вялікі знаўца літаратуры, не знойдзе ў гэтых вершах нічога такога, што б яго здзівіла. Хіба толькі зверне ўвагу на адметнасць асобных мастацка-выяўленчых сродкаў, якімі па-ранейшаму па-майстэрску карыстаецца Д. Бічэль. Між тым кожны верш мае і сваю таямніцу, і сваё дакладнае прызначэнне, роўна як **НАРАДЖЭННЕ ЕЗУСА ХРЫСТА, НАШАГА ЗБАЎЦЫ**. Кожны верш, як добры настаўнік, цярпліва тлумачыць той ці іншы момант хрысціянскага веравучэння, спадзяецца, што яго вучань-чытач усё зразумее правільна, а калі не зразумее, то адчуе праўду сваім добрым сэрцам. Кожны верш як малітва, у якой яднаюцца любоў да Адрасата з верай быць абавязкова пачутым:

Ружанец — канат у нябёсы.
Малітва і пацеркі-слёзы.
Малітва — на беразе лодка.
Маліцца на беразе лёгка.
На беразе светла маліцца,
як поўная сэрца крыніца,
але, як засушана сэрца,
любоў дапаможа сагрэцца.

Лірыка, як род літаратуры, канешне, і так мае шмат агульнага з малітвай (у багаслоўскім разуменні тэрміна), але калі паэты робяць малітву лірычным жанрам, іх паэзія выглядае стакроць узнёслай. Шчырыя вершы-малітвы гучаць і з вуснаў Д. Бічэль («Малітва за Антоніка», «Малітва да святога Антонія», «Малітва да апостала Андрэя», «Малітва душаў да святога Андрэя Баболі» «Малітва за Яначку, які пабыў тут некалькі гадзін, і за ўсіх ненароджаных» і інш.).

Ёсць у хрысціян і самая першая малітва, самая галоўная, якой некалі навучыў сваіх вучняў Езус: **ОЙЧА НАШ**... Безумоўна, для тэолагаў гэта найбольш важны сакральны тэкст, з якім трэба абыходзіцца вельмі асцярожна пры перакладзе і інтэрпрэтацыі. Не забывайма, што малітва не захавалася на мове арыгінала (галілейскі дыялект арамейскай мовы), а бытуе сёння ў мностве перакладаў (кананічных і некананічных), а пераклад усё ж такі не можа быць тоесным арыгіналу.

З іншага боку, любая мова — арамейская, грэцкая, лацінская ці беларуская — усяго толькі мова людзей. Усе зямныя мовы, можна падазраваць, вельмі бедныя ў параўнанні з мовай Бога, таму не вельмі прыдатныя да перакладу. Ёсць толькі адна мова, якую разумеюць некаторыя людзі і якая сугучная Боскай, — гэта мова паэзіі. Такім чынам, лепшым перакладчым падобных тэкстаў будзе не лінгвіст, а паэт. Вядома, гэта ўсё прыватныя разважанні аўтара дадзенага артыкула. Наўрад ці падобным чынам думала паэтка, калі працавала над сваім варыянтам Панскай малітвы. Проста хочацца падкрэсліць, наколькі гэта і адказна, і смела, і прыгожа — не пабаяцца адкрыць для сябе новыя абсягі Слова Божага, а пасля падзяліцца таямніцай дазнання з іншымі людзьмі! У выніку атрымаўся сапраўды ўнікальны паэтычны цыкл-медытацыя, які намнога пераўзыходзіць паводле эмацыйнай напружанасці і інтэлектуаль-

най насычанасці любыя багаслоўскія інтэрпрэтацыі гэтай малітвы. Дазволім сабе тут працытаваць невялічкі ўрывак, каб пацвердзіць вышэй выказаныя думкі:

Ты мяне зернем пасеяў тут —
я тут расту…
Ойча наш, калі я перайду
праз мяжу ў прастору, у прастату,
праз генетычны код роду,
з-пад споду —
ад слова, якое адбілася ценем,
да Слова, Якое сталася Целам,
магчыма, так праясніцца
таямніца жывога жыцця —
я — Тваё, Ойча, узлюбленае дзіця…

Ёсць апроч «Малітвы Панскай» яшчэ адзін цыкл, які таксама можна па праву назваць вяршыняй не толькі ўласнай творчасці Д. Бічэль, але і ўсёй прынамсі ўсходнеславянскай хрысціянскай паэзіі: гэта «Крыжовы Шлях Збаўцы Нашага Езуса Хрыста». Апроч несумненных мастацка-эстэтычных вартасцей, адметнасць гэтага цыклу заключаецца ў магчымасці яго выкарыстання, так бы мовіць, на практыцы — у традыцыйным каталіцкім набажэнстве, якое ўзнаўляе ў памяці вернікаў асноўныя моманты пакут Хрыста. Нагадаем, набажэнства складаецца з 14 стацый, кожная з якіх звяртае ўвагу на найбольш трагічныя моманты апошніх гадзін зямнога жыцця Бога. Усе гэтыя моманты знаходзяць годнае ўвасабленне ў згаданым паэтычным цыкле, які Д. Бічэль завяршае «Малітвай на заканчэнне Крыжовага шляху». У ёй паэтка-плачка падводзіць чытача да тонкай мяжы паміж святлом веры ў выратаванне і праўдай пазнання Боскай мэты:

Езуса Кроў па кроплі праз часу імжу
утварае збаўлення хлеб белы…
Божы святар несмяротную жывую душу
корміць Хрыстовым містычным Целам.

Езус усіх нас пакутна, цярпліва вырошчвае,
нібы перамолатае пшанічнае зерне…
Мы — каласкі Тваёй Таямнічай Гостыі
на Ахвярніку Ўсеспалення…

Кожны, хто пачуў словы плачкі, урэшце ўсцешыцца і следам з ёй паўторыць: **ІДУ СЦЯЖЫНАЮ ДА БОГА**…

Крочыць да Бога можна празнымі сцяжынамі. Просты чалавек ідзе шляхам малітвы, пакаяння, веры. Паэт ідзе тым самым шляхам, але глядзіць не ў дол, а ўверх, таму коле босыя ногі апалымі зорамі вершаў — сваіх і іншых паэтаў. Сцяжына Д. Бічэль шчодра імі ўсыпана — вершамі рознай формы, з розным змястоўным напаўненнем. Але нават чужыя вершы паэтка ўмее зрабіць сваімі, асцярожна пераклаўшы іх, як часам перакладаюць з аднаго месца ў іншае старыя каштоўныя рэчы. Не забывайма, што паэтычны пераклад — самы складаны з усіх відаў перакладу. Складанасць кры-

ецца перш за ўсё ў мове, як спосабе адмысловага светасузірання: перакладаючы верш з адной мовы на іншую, перакладчык насамрэч падмяняе чужое светабачанне сваім. І калі светабачанне паэта і перакладчыка блізкія, то падмену можна будзе і не заўважыць. Таму, канечне, найлепш перакладаць творцаў, блізкіх па духу. Для Д. Бічэль такімі творцамі сталі найперш Караль Вайтыла (Папа Рымскі Ян Павел ІІ), Ян Твардоўскі, Мацей Юзаф Кананові́ч, Міраслаў Качмарэк. Хто знаёмы з паэзіяй згаданых аўтараў, ведае, наколькі складаная яна, бо апелюе ў адначассе і да душы, і да розуму чалавека, утрымлівае ў сабе мноства няпростых тропаў і сімвалаў, звязаных з асновамі хрысціянскага светасузірання. Між тым пераклады з гэтых няпростых паэтаў атрымаліся ў Д. Бічэль бліскучымі, у выніку чаго беларуская літаратура ўзбагацілася прыгожымі, глыбокімі творамі, значна пашырыла сваю эстэтычную прастору.

Тры перыяды ў паэзіі Д. Бічэль — гэта тры пакручастыя сцежкі, якія клічуць у вандроўку з паэткай, запрашаюць разам з ёй дайсці і да спрадвечнага Нёмана, і да старажытнай Гародні, і да Беларусі, **ДАЙСЦІ ДА КАЛОЖЫ**, да Пана Бога, у якім яднаецца ўсё — і Айчына, і Паэзія:

Гэтым прыгожым летам нам зноў неабходна —
сустрэцца на мосце святога Францішка ў Гродна.
Мы яшчэ зможам дайсці да святой Каложы…
у тонях Нёмана зорак наловім у кошык.

Хочацца верыць, што заўсёды будуць знаходзіцца ў гарадзенскай паэткі смелыя чытачы-спадарожнікі. Так, яны абавязкова знойдуцца, не зважаючы на сучасную рэальнасць, якая настойліва мяняе літаратурныя густы, адчуванне і разуменне паэтычнага слова, патрабуючы пастаяннай пагоні за звышновымі, супермоднымі тэндэнцыямі. Яны знойдуцца, бо зразумеюць аднойчы простую ісціну:

Тут, у лесе, ў родным краі,
не баімся воўчай зграі!
Злая сіла, кыш у мох!
З намі Нёман. З намі Бог!

## РЫЧАРД БЯЛЯЧЫЦ

## Слова пра паэта
*(да 70-годдзя з дня нараджэння Юркі Голуба)*

### Палёт Голуба



**Падчас апошніх сустрэчаў з аматарамі паэзіі Гродзеншчыны напрасілася справядлівая думка, што людзі «ідуць» на Юрку Голуба, як ідуць канкрэтна на папулярных эстраднікаў, бо добра ведаюць іх творчасць, паважаюць і любяць іх талент. Гэта пераважна больш сталыя прыхільнікі паэтычнага слова, што добра памятаюць паэта маладым, які побач з такімі грандамі беларускай літаратуры, як Васіль Быкаў, Данута Бічэль, Аляксей Карпюк, трымаўся ў Гродне ўпэўнена, па-паэтычнаму дасканала і перспектыўна. У гэтым годзе Юрыю Уладзіміравічу Голубу, аўтару шматлікіх паэтычных зборнікаў, лаўрэату прэміі імя Аркадзя Куляшова, ураджэнцу вёскі Горна, што на Зэльвеншчыне, і жыхару Гродна спаўняецца сем дзясяткаў.**

Пра паэта Юрку Голуба напісана мноства прыязных артыкулаў, лепшыя літаратуразнаўцы Беларусі даследавалі яго радкі, і ўжо няма і кропелькі сумневу, што аўтар працуе на ўзроўні класіка, беручы пад увагу хоць бы факт вывучэння яго вершаў па праграме выкладання літаратуры ў школе і вышэйшых установах. Яго творы перакладзены на іншыя мовы свету. Паэт увайшоў у літаратуру ў другой палове мінулага стагоддзя прыгожа і імкліва. Ён сталеў спачатку ў сценах сталічнага ўніверсітэта, а потым у літаратурным працэсе побач з такімі слыннымі паэтамі і пісьменнікамі, як Генадзь Бураўкін, Рыгор Барадулін, Анатоль Вялюгін, разам з маладзейшымі Алесем Жуком, Уладзімірам Някляевым, Сяргеем Законнікавым.

Юрый Уладзіміравіч не адно дзесяцігоддзе ўзначальваў Гродзенскае аддзяленне Саюза беларускіх пісьменнікаў і толькі з год назад перадаў эстафету маладзейшаму, таленавітаму празаіку Валянціну Дубатоўку, клапатліваму мецэнату ў літаратурным жыцці. Яны абое разам са сваімі сябрамі па пяры толькі за апошні час аб’ездзілі з выступленнямі амаль увесь поўдзень Гродзеншчыны — Ліду, Навагрудак, Дзятлава, Зэльву, літаратурныя імпрэзы з удзелам літаратараў прайшлі таксама ў Гродне.

Тут, на берагах Нёмана, паэта Юрку Голуба ведаюць і памятаюць з асаблівым пачуццём. Працоўныя калектывы, студэнты сустракалі яго, заўсёды ўсмешлівага, тонкага гумарыста, добразычлівага, з захапленнем і вялікай доляй удзячнасці. Нават узнёслая метафарычнасць, крыху ўскладненая вобразнасць яго радкоў звычайна супадалі з настроем слухачоў, бо быў чуцен уласны паэтычны голас, дынамічнасць інтанацый, была відаць маляўнічасць і жанравая разнастайнасць твораў.

Поле. І ў полі зроку
Скібамі час залёг.
Далей не ступлю ні кроку —
Тут супыніўся Бог.

«Рух чалавечай душы ў атачэнні самых розных зямных праяў і здарэнняў — гэта маральны і існы змест зборнікаў. Радкі бяруць пачатак у першую чаргу ў духоўных скарбах людскасці і скіраваны да ўсіх, хто жыве поруч». Гэта словы з анатацыі аднаго са зборнікаў Юркі Голуба, яны як найлепш сведчаць пра сутнасць шматлікіх вершаў паэта. А іх за гады назбіралася ці не на некалькі тамоў. І ніякія спасылкі на «цяжкія» фінансавыя стасункі не апраўдваюць затрымкі выхаду ў свет выбранага з творчасці гэтага паэта, бо тут якраз той выпадак, калі кажуць, што талент ад Бога.

Здаецца, асабіста ў мяне ёсць усе зборнікі сябра-паэта з мудрымі да слёз аўтографамі-подпісамі. А падпісаць душэўна кнігу бывае цяжэй, чым напісаць добры верш. І тут ён эксперыментатар, вынаходца. І не хочацца паглыбляцца ў філасафічнасць радкоў аднаго са зборнікаў паэта «Поруч з дажджом», дзе на вокладцы задумлівы, пільны позірк аўтара, прысеены халодным восеньскім дажджом. Менавіта лістападаўскім днём прыйшоў чалавек у свет, каб паказаць яго аптымістычна і светла, як бачыць сам паэт жыццё навокал сябе.

Жыццярадасным і прыцягальным застаўся асяродак у памяці, калі Юрка Голуб працаваў на абласной студыі тэлебачання і рыхтаваў штомесячную перадачу «Гродзеншчына літаратурная», а потым у рэдакцыі газеты «Гродзенская праўда». Без адпаведнай адукацыі, без прынукі выходзіў на экран прафесійна і запамінальна, бо займаўся сваёй пажыццёвай справай — ствараць мастацтва. З ім поруч станавіліся паэтамі нават тыя пачаткоўцы, якія толькі-толькі даверыліся пяру, а што казаць пра творцаў, што самі экзаменавалі вядучага. І быў гэта час прафесіяналаў на Гродзенскім тэлебачанні. Без крыўды і сумненняў трэба прыняць рэчаіснасць, што і цяпер людзі «ходзяць» на Юрку Голуба, калі ён час ад часу прыязджае у горад. Да слова, напрыканцы вясны паэт выдаў яшчэ адзін паэтычны зборнік пад назвай «Краявід». Несумненна, што свежыя вершы парадуюць чытача добрымі ўсходамі, а калі ўлічыць рукапісы аўтара, што томяцца ў стале, то хочацца гаварыць пра доўгае і плённае жыццё творцы. А гэта прысвячэнне паэту на свята:

Шмат фантастычных і строгіх акон
Спіць,
Як нямыя гратэскі.
З Голубам можна не думаць, што ён —
Слаўны паэт гарадзенскі.

Будзе ў вачах шмат узвышаных дзён,
Стануць янтарнымі смолы.
Помніцца толькі заўсёды, што ён
На Беларушчыне — Голуб.

Не патрыёт на приступках, але
З праўды, любові і болю.

Чым ад Каложы і Зэльвы далей,
Успамінаюць іх болей.

**Пад раніцу**

Чатыры гадзіны ночы. Восеньскай. Чытаю апавяданне Леаніда Дранько-Майсюка «Анёлак і я». Нібы гэта адно з лепшых апавяданняў беларускай літаратуры. Можа, і так. Таму чытаю доўга, а па радыё гучаць песні на роднай мове. Уперамежку думаю пра цябе, Юрка. Хочацца патэлефанаваць, але трубку, напэўна, падыме жонка. Эгаістычна, толькі было б добра, каб і ты не спаў. Напэўна, да твайго свята я мог бы зрабіць штосьці большае, чым не спаць і думаць пра цябе. Таму насуперак усяму набіраю гродзенскі нумар, каб павіншаваць цябе з днём нараджэння…

Пустая бутэлька ад «Дарыды», трэснуўшы пад нагой у цішыні, вяртае да апавядання Леаніда. Як важна, што я аўтара бачыў, гаварыў з ім, а цяпер на краі Беларусі чытаю яго твор. А яшчэ важней, што ты, галубіная душа, ёсць у мяне шмат часу і застанешся са мной, як узыдзе сонца і я буду клапаціцца пра іншае. Тады можна сесці ў аўтобус і паехаць насустрач твайму святу…

Апавяданне дачытаў. І запісваю пачутае: ратунак ад старасці — у характве паводзінаў, у сціпласці. Вось цяпер усё. Няхай усходзіць сонца. Я гатовы.

Па радыё льецца «Залатая восень». Ні слова пра паэзію. Толькі што на пытанне «што робіш?» ты адказаў: «Сяджу на кухні і пішу лозунгі». У гэтым ты ўвесь, філосаф з вялікімі добрымі вачыма. У гэтых словах твая заўсёдная патрабавальнасць да сябе. І ні на адну старонку тваіх кніг не мог праслізнуць збіты штамп, тым больш штосьці лозунгавае. Адсюль — удалы начны гумар, а мне — вучоба.

Нарэшце, і Баярскі са сваімі «кляновымі лістамі». Камфорт парушаны. А ў цябе сёння свята. Яно, як восень, што стала за акном, светлае, надзейнае і вельмі да месца. Баюся цябе перахваліць. Але гэта пры ўсім немагчыма, не пад сілу мне. Няма такой мяжы ўвогуле пры гаворцы пра вершы Юркі Голуба.

СЯРГЕЙ ЧЫГРЫН

## Згадкі пра пісьменнікаў

### Пятрусь Макаль



Позняй восенню 1980 года я, студэнт-першакурснік Белдзяржуніверсітэта, неяк асмеліўся занесці падборку вершаў у рэдакцыю часопіса «Маладосць». Дужа мне хацелася хоць адзін раз надрукавацца ў гэтым папулярным тады часопісе. У аддзеле паэзіі і прозы, а гэта быў маленькі пакойчык, сядзелі Уладзімір Дамашэвіч і Пятрусь Макаль.

Я ўпершыню ўбачыў пісьменнікаў, кнігі якіх чытаў раней. Яны сустрэлі мяне даволі шчыра і адразу запыталі, адкуль я родам.

— Са Слоніма, — адказаў я.

— А-а, наш заходнік! — усміхнуліся пісьменнікі.

Пятрусь Макаль узяў мае вершы, уважліва прачытаў, выбраў некалькі лепшых і адразу сказаў, у якім нумары «Маладосці» яны будуць апублікаваны.

Я развітаўся, але неяк не верылася, што вершы з’явяцца ў часопісе.

Прайшло некалькі месяцаў, і сапраўды першая падборка маіх вершаў з’явілася ў «Маладосці». З’явілася менавіта тады, калі сказаў Пятрусь Макаль. Ён не падмануў.

Так я ўпершыню пазнаёміўся з гэтым паэтам. Пасля сам сачыў за яго творчасцю, чытаў усё, што выходзіла з-пад яго пяра.

Пятрусь Макаль нарадзіўся 25 жніўня 1932 года ў вёсцы Крушыняны на Беласточчыне ў сялянскай сям’і. Бацькі Міхаіл і Людміла Макалі мелі кавалак зямлі. А пасля 1939 года, калі прыйшлі саветы, бацька перайшоў працаваць фінагентам у Крушынянскі сельсавет, бо прыватную зямлю ў яго забралі. Праз пяць гадоў Міхаіл Макаль не па сваёй волі з сям’ёй пераязджае ў Саратаўскую губерню. Але радавацца не было чаму. У 1946 годзе Міхаіла Макаля рэпрэсіруюць і высылаюць у Комі АССР, а жонка з сынам вяртаюцца ў Беларусь на Гродзеншчыну. Пятрусь вучыцца ў школе, а потым паступае ў Гродзенскі будаўнічы тэхнікум. Але тэхнікум пераводзяць у Магілёў, і Пятрусь Макаль, правучыўшыся два гады, паступае ў Гродзенскі педінстытут імя Янкі Купалы.

Пасля заканчэння інстытута наш зямляк працуе літкансультантам у газеце «Гродзенская праўда», дзе ў 1949 годзе друкуе свой першы верш.

Калі Петрусю Макалю споўнілася дваццаць тры гады, выходзіць у Мінску яго першы паэтычны зборнік «Першы след». Крытыка адразу заўважыла дэбют маладога паэта. У друку з’явіліся каля дзесяці рэцэнзій на яго кнігу. Назвы рэцэнзій гаварылі аб даволі ўдалым дэбюце: «Крепнущий голос» (часопіс «Советская Отчизна»), «Выпра-

баванне вытрымана» («ЛіМ»), «Малады паэтычны голас» («Гродзенская праўда»), «Маладосць — гэта пошукі» (часопіс «Беларусь») і іншыя.

Другі і трэці зборнікі Петруся Макаля «Вятрам насустрач» (1958) і «Вечны агонь» (1960) выявілі зацікаўленасць да філасофскага асэнсавання сучаснасці, да гісторыка-рэвалюцыйнай і маральна-этычнай тэмы. І ўсё ж скачком у развіцці паэта, словам яго сталасці сталі кнігі вершаў «Круглы стол» (1964) і «Акно» (1967). Асабліва глыбокай філасофскай думкай вызначаўся верш «Дзень добры, Бах!». Паэт расказаў пра сваё ўспрыманне бунтарскай музыкі вялікага кампазітара, пра сваё разуменне яе. Алег Лойка тады пісаў, што «толькі ўзмужнелы юнак, поўны гордасці за сваю Радзіму і разам з тым знаёмы з вялікімі здабыткамі сусветнай культуры, змог напісаць гэты верш. Грамадзянская сталасць абумоўлівае творчую сталасць паэта — вось аб чым красамоўна гаворыць верш П. Макаля (Лойка А. Сустрэчы з днём сённяшнім. Мінск, 1968. С. 102). А яшчэ з гэтых зборнікаў даўно хрэстаматыйным стаў верш паэта, які пачынаецца са слоў:

Мае радкі — не лесвіца ў вякі,
Што недзе за туманнай рысай неба.
Мае радкі — працяг маёй рукі,
Якой мне столькі рук пацiснуць трэба!
Усім, чыёю ласкай даражу,
Паспеў сказаць я толькі:
— Добры ранак!..
Мне не заснуць,
Пакуль я не скажу:
— Дзень добры!..
— Добры вечар!..
— Дабранач!..

Пасля Гродна Пятрусь Макаль пераязджае ў Мінск. Вучыцца ў Маскве на Вышэйшых літаратурных курсах. Спачатку працуе ў «ЛіМе», затым пэўны час быў рэдактарам па эстрадным рэпертуары Міністэрства культуры Беларусі, памочнікам галоўнага рэжысёра па рэпертуары ў Тэатры юнага гледача, старшым рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура» і рэдактарам аддзела паэзіі ў часопісе «Маладосць».

Але дзе б ні працаваў Пятрусь Макаль, яго ніколі не пакідала паэзія. «Ён быў паэтам, які востра і балюча адчуваў жыццё, чуйна і імгненна выбухаў сэрцам на ўсе яго змены і ўзрушэнні», — пісаў пра яго Казімір Камейша. За кнігу вершаў «Поле» Пятрусь Макаль у 1980 годзе атрымаў Літаратурную прэмію імя Аркадзя Куляшова. А ў 1984 годзе за зборнік паэзіі «Смак яблыка» — Дзяржаўную прэмію Беларусі імя Янкі Купалы.

Паэзія Петруся Макаля заўсёды вызначалася шырынёй погляду на свет, філасафічнасцю, лёгкай іроніяй і сарказмам. Ён быў паэтам-лірыкам, паэтам-грамадзянінам. Сусед па кватэры, журналіст Андрэй Юдчыц, пра Петруся Макаля сказаў так: «Гэта было шчасце — мець такога суседа. Паміж намі не прабегла ніколі нейкая там кошка, нават кацяня не прабегла. Ён жыў па-чалавечы — шчыра, проста, не выстаўляючы сябе. Сумленны паэт, сумленны чалавек, ён жыў па спрадвечнай беларускай

прымаўцы: «Ніколі не капай яму другому». І сапраўды, гэта было так. Яно адчувалася і ў вершах:

Дапамога павінна быць хуткай,
Дапамога павінна быць ціхуткай.
Скажыце, каму па душы дапамога,
Што пра сябе трубіць многа?..
Дапамагайце, як дождж палеткам,
Дапамагайце, як пчолы кветкам.

Пятрусь Макаль шмат пісаў пра дзяцей. У гэтых творах ён умела выкарыстоўваў беларускія фальклорныя традыцыі, узбагачаў іх, адкрываў дзецям таямніцы роднага слова, вучыў іх любіць прыроду, бацькоўскую зямлю. Юным чытачам паэт прысвяціў некалькі сваіх кніг. Сярод іх — «Хлопчык будзіць сонца» (1966), «Песня згоды» (1983), «Чарадзейная скарбонка» (1987), «Я гатую абед» (1989). Наш зямляк пісаў таксама казкі, апавяданні і нават загадкі. Іх любілі дзеці, бо яны былі напісаны вельмі шчыра, а найперш лёгка чытаюцца:

Па пакоі ходзіць робат —
У яго гумовы хобат…
Суне ўсюды доўгі нос.
А завецца… пыласос.

Пятрусь Макаль вельмі любіў тэатр. Яго жонка Галіна працавала артысткай Тэатра юнага гледача ў Мінску. Пісаў ён п’есы, і амаль ва ўсіх спектаклях, пастаўленых па яго п’есах, Галіна Макаль выконвала ролі. Сумесна з Артурам Вольскім наш зямляк напісаў драматычныя творы «За лясамі дрымучымі» і «Марынка-крапіўніца». Былі напісаны і ўласныя п’есы «Адчыніце, казляняткі!», «Дай вады, калодзеж!», а таксама лібрэта араторыі «Запрашэнне ў краіну маленства» (музыка Яўгена Глебава).

Пятрусь Макаль пражыў не так і многа — усяго 64 гады. Яго не стала ў канцы жніўня 1996 года. Нашчадкам ён пакінуў цудоўную паэзію, прозу, драматургію. Але найперш вершы:

Няма на зямлі адзіноты —
Пустэчы, падобнай да смерці.
Мы — ноты, мы — ноты, мы — ноты
У чалавечым канцэрце…

У адным з лістоў жонка паэта Галіна Іванаўна неяк напісала мне: «Вось толькі сёння змагла выканаць Вашу просьбу. Мне цяжка пісаць, таму што я ў 1982 годзе перанесла інсульт. Я буду пісаць коратка, бо цяжка: я прыкавана да ложка. Наш сын Слаўка з Афганістана вярнуўся, дзякаваць Богу, жывы. Ён скончыў Белдзяржуніверсітэт, факультэт журналістыкі. Пры жыцці бацькі ў сына выйшла маленькая кніжка вершаў, не такіх моцных, як у Петруся, але хлопец ён добры і здольны. Цяпер Слаўка працуе на тэлебачанні рэжысёрам. У мяне ўжо ёсць унук Лёшка. Вучыцца ў 7-м класе. Скардзіцца не буду, сын мне дапамагае, а больш ніхто… А жыццё, Вы ведаеце, зараз не вельмі лёгкае. Ну, нічога, дасць Бог цярпенне, вытрымаем…»

**Зоська Верас**



Здаецца, было ўсё як учора, а ўжо прайшло 30 гадоў з той першай незабыўнай сустрэчы з выдатнай беларускай паэткай, грамадскай дзяячкай, выдаўцом і проста шчырым чалавекам Зоськай Верас (Людвікай Антонаўнай Войцік) і не менш вядомым і знакамітым Лявонам Луцкевічам.

24 верасня 1987 года група слонімскіх настаўнікаў вырашыла наведаць старажытную беларускую Вільню. Разам з настаўнікамі ўдалося паехаць і мне. Калі мы прыехалі ў Вільню, то на плошчы Гедыміна нас ужо чакаў Лявон Луцкевіч. Пасля была цікавая экскурсія па нашай старажытнай сталіцы. Лявон Антонавіч яе добра ведаў і ўмеў вельмі цікава распавядаць пра завулкі і вуліцы Вільні, пра тых беларусаў, якія тут жылі, вучыліся, выдавалі кнігі і часопісы, трымалі друкарні і музеі. У мяне быў фотаапарат, і я стараўся сфатаграфаваць Лявона Антонавіча з настаўнікамі. Праўда, ён казаў: «Сяргей, ты мяне так шмат не шчоўкай, больш фатаграфуй настаўнікаў, бо з-за мяне табе ў Беларусі можа быць непрыемнасць». Калі я вяртаўся дамоў, усё думаў, якая мне з-за гэтага сціплага і адукаванага чалавека можа быць непрыемнасць. Пасля, калі я прачытаў у часопісе «Политический собеседник» артыкул Бумажковай, я ўспомніў словы Лявона Антонавіча. Бумажкова там аблівала брудам і Лявона Луцкевіча, і іншых беларускіх дзеячаў XX стагоддзя. Але і тады, і цяпер мне няма каго баяцца, бо я жыву на зямлі сваіх дзядоў і прапрадзедаў, якія тут нарадзіліся, жылі і працавалі і якія ганарыліся роднаю Вільняй і неаднаразова там бывалі і вучыліся. І любіць сваю Бацькаўшчыну ніхто і ніколі мне не забароніць, як і сустракацца з сябрамі там, дзе хочацца і калі захочацца.

А ў той дзень мы фатаграфаваліся і з Лявонам Луцкевічам, і з Зоськаю Верас, але ўжо ў яе лясной хатцы за Вільняй. Туды мы паехалі пасля віленскіх вандровак, каб адведаць Людвіку Антонаўну. Адчыніўшы дзверы, мы быццам трапілі ў беларускі музей культуры і літаратуры. Карціны славутых мастакоў, фотаздымкі, кнігі, старая мэбля — усё тут, здавалася, дыхала нашым родным, беларускім. У адным з пакойчыкаў хаткі нас сустракала Зоська Верас, якой тады было ўжо 95 гадоў. Пасля пачалася размова. Нас цікавіла ўсё, бо мы ведалі, што Людвіка Антонаўна шчыра сябравала з многімі беларускімі дзеячамі, а таксама са слонімскім паэтам Гальяшом Леўчыкам. Дарэчы, у той дзень Зоська Верас падаравала нам партрэт Гальяша Леўчыка, намаляваны беларускім мастаком з Вільні Алегам Аблажэем.

Падчас гэтай сустрэчы мы шмат новага даведаліся ад Зоські Верас пра Гальяша Леўчыка, яна паказвала нам яго пісьмы і паштоўкі, а таксама цікава распавядала і пра Максіма Багдановіча. У час успамінаў пісьменніца нават праслязілася. «Было гэта ў Менску ў 1916 годзе, — згадала Зоська Верас. — У “Беларускай хатцы” на Захар’еўскай вуліцы, 18 у сталоўцы Таварыства помачы ахвярам вайны — кожны вечар збіраліся як сябры, так і працаўнікі Камітэта Таварыства, каб разам скараталь вольны вечар, падзяліцца думкамі ды ўражаннямі пеpажытага дня. Новай тэмай нашай гутаркі быў прыезд у Менск Максіма Багдановіча. Трэба было падумаць за-

гадзя, дзе ён будзе жыць. Перабіраючы розныя магчымасці, затрымаліся на тым, што найлепш будзе наняць пакой у Змітрака Бядулі. І з Бядуляй хутка дамовіліся. Ён быў рады мець пад сваёй страхой такога госця. Нарэшце ў пачатку кастрычніка 1916 года Максім Багдановіч прыехаў у "Беларускую хатку", дзе мы цэлай грамадой чакалі яго з нецярплівасцю. Сардэчны, сціплы і просты Максім Багдановіч адразу заваяваў агульную сімпатыю. Ужо ў канцы вечара здавалася, што ён даўно з намі, што ўсім блізкі і дарагі. Тым больш трывожыла яго бледнасць і бліскучыя ад гарачкі вочы. Кашляў зусім мала. Пасля гарбаты сядзелі нядоўга. Трэба было змучанаму дарогай адпачыць. На кватэру Багдановіча адвялі Галубок і Фальскі. Дамовіліся, што Максім будзе сталавацца, як і мы ўсе, у сталоўцы, але будзе тут мець і снеданні, і вячэры. Мая маці ў той час была загадчыцай сталоўкі, і мы жылі тут на месцы. Так што мы з Максімам Багдановічам бачыліся па тры разы на дзень, а вечары, як заўсёды, праводзілі разам з цэлай нашай грамадкай: Багдановіч, Фальскі, Галубок, часта Ядвігін Ш., я і іншыя нашы сябры і знаёмыя».

— А ці гулялі вы з Максімам Багдановічам па Менску? — запытаўся я ў Зоські Верас.

— Часта гулялі вечарамі па вулках Менску, — адказала Людвіка Антонаўна.

— А ці цалаваліся з Максімам Багдановічам? — зноў дапытліва спытаўся ў яе.

Зоська Верас усміхнулася, а пасля адказала:

— Не. Але я была б і не супраць, ды Максім Багдановіч быў шчыры і сур'ёзны хлопец. Ён ведаў, што хворы на сухоты, таму не хацеў, каб ад яго перадалася гэта хвароба камусьці іншаму…

А пасля Людвіка Антонаўна раздавала аўтографы. Праўда, кніжак яе ў настаўнікаў не было, таму аўтографы яна ставіла ў сшыткі і ў нататнікі. А калі я назваў сваё прозвішча, яна сказала (ад чаго мне было прыемна і здзівіла ўсіх прысутных):

— А-а-а, Сяргейка, а я завочна ведаю цябе, чытала твае творы ў беларускай прэсе…

Яна адчыніла шуфлядку, дастала адтуль сваю кніжачку «Каласкі» і падпісала: «Паважанаму Сяргею Чыгрыну на памятку сустрэчы. Вільня. 24.09.1987 г. Зоська Верас»…

…Пакуль настаўнікі размаўлялі з Людвікай Антонаўнай і разглядалі яе хатку-музей, мы з Лявонам Антонавічам абмяняліся адрасамі, пагутарылі пра жыццё ў Беларусі, пра навінкі беларускай кнігарні.

Вяртаючыся ў Слонім, я вырашыў праз пэўны час зноў завітаць да Зоські Верас. Але такой мажлівасці ўжо не было: у 1990 годзе нехта спаліў (ці не знарок?) лясную хатку, а праз год не стала і яе гаспадыні.

**Рудольф Пастухоў**

Дваццаць адзін год таму на летніку ў вёсцы Чамяры недалёка ад Слоніма мы адзначалі 60-годдзе слонімскага паэта і грамадскага актывіста Рудольфа Пастухова. На юбілей тады прыехалі яго самыя блізкія сябры. Быў сонечны і цёплы верасень, такі ціхі, як сёлета. Былі ўсмешкі сяброў, пажаданні і вершы, прысвечаныя юбіляру. Ну, напрыклад, як гэтыя радкі Алеся Чобата:



За вёскай Чамяры
Палеткі і бары —
Прыгожа так, што не знаходзіш слова.
І хоць абрыдла жыць,
А добра тут пабыць
На сотках у Рудольфа Пастухова…

Рудольф шмат курыў, быў вельмі спакойны і шчаслівы.

— Усе чумарыкі прыедуць, — сказаў ён і ўсміхнуўся.

— Хто-хто? — перапытаў я.

— Чумарыкі. Такое ў нас сяброўскае таварыства ёсць. Мы яго самі прыдумалі і стварылі. Сюды ўваходзяць тыя, хто добра разумее гумар і жарты, хто фізічна здаровы і мае здольнасці ў літаратуры, журналістыцы, культуры, музыцы і г.д. — растлумачыў Рудольф Аляксеевіч. А пасля дадаў: — Сёння на маім юбілеі ў чумарыкі прымем і цябе. Ты ў нас будзеш самым маладым чумарыкам.

Калі сабраліся ўсе госці, пачалася працэдура прыняцця мяне ў чумарыкі. Смеху было на ўсю чамяроўскую дачу. Нават розныя гумарыстычныя перадачы не змаглі б канкурыраваць у той дзень з вясёлай кампаніяй слонімскіх чумарыкаў…

Такім запомніўся мне той апошні юбілей Рудольфа Пастухова — тутэйшага паэта, інтэлігента, шчырага, вясёлага чалавека і адданага сябра. Хто тады, у верасні 1996 года, мог падумаць, што праз год яго не стане? Раптоўна і нечакана… А мы з ім яшчэ шмат думалі і выношвалі п’есу «Камера», якая засталася незакончанай. Хацелі разам напісаць пра сталінскія лагеры і паставіць на сцэне Слонімскага драматычнага тэатра. Гэта яго верш «Курапаты» ў кастрычніку 1988 года быў надрукаваны ў газеце «Літаратура і мастацтва» ў перакладзе Івана Сяргейчыка і выклікаў шмат станоўчых водгукаў. Моцная дакладная рыфма гучала водгукамі стрэлаў, якія знішчалі тут усё жывое, нават тое, што забіць нельга:

Не Бухенвальд тут,
Не Хатынь,
А — Курапаты.
Замшэлы лес —
Куды ні кінь,
Ды скрып лапаты.
І сэрца стук
На кожны гук
Смяротна раніць,
Жалобна б’е
Паклон зямлі
Людская памяць…

Рудольф Пастухоў рыхтаваў да друку свой другі зборнік вершаў, актыўна займаўся перакладамі з беларускай мовы на рускую. А першы і адзіны ягоны зборнік вершаў выйшаў у Слонімскай друкарні ў 1994 годзе з кароткай назвай «Судьба». Прадмову да зборніка напісала Данута Бічэль, а пасляслоўе «Гісторыя аднаго з нас» — Алесь Чобат. Данута Бічэль сваю прадмову да кнігі назвала «Паэт з берагоў Шчары». Яна

пачыналася такімі радкамі: «Звычайны, чалавечы, людскі лёс… Але ці звычайны? А калі незвычайны, дык ці не таму, што паэт Рудольф Пастухоў жыве ў гэтым Краі? Ён — рускі, але тутэйшы, свой. Ён — электрык, але інтэлігент. У яго ўсё проста — і адначасова ўсё заглыблена, перакручана, ускладнена. Ён — паэт, але ўжо ў сталым веку выдае сваю кнігу. Але добрую…» Кніга, сапраўды, атрымалася добрая. А вось гэтыя радкі мне назаўсёды запалі ў душу:

Это просто ставни скрипят,
Как шаги на снегу…
…Я во сне на подушке распят —
Но к тебе распятым бегу.

Часта Рудольф Пастухоў прыносіў мне свае вершы. «Няхай будуць у тваім хатнім архіве. Можа, калі спатрэбяцца», — казаў ён. Наогул, калі мне рабілася сумна і адзінока, я тэлефанаваў Рудольфу Аляксеевічу. «Прыязджай да мяне», — казаў ён у тэлефонную трубку і чакаў майго візіту. Мы гутарылі пра жыццё, пра палітыку, пра літаратуру. Ён ніколі нікому не зайздросціў, заўсёды быў шчырым старэйшым сябрам, дарадцам, кансультантам. Такім ён і застаўся ў маёй памяці. А лёс Рудольфа Пастухова не песціў. Рана застаўся без бацькоў. Рос і выхоўваўся ў ГУЛАГу. Першы верш з'явіўся ў насценнай газеце Буйскай дзіцячай працоўнай калоніі Кастрамской вобласці (Расія) у 1951 годзе. Пра што ён пісаў, нават сам аўтар не памятаў. Шляхі-дарогі кідалі паэта па ўсім былым Савецкім Саюзе. У 1970 годзе ён прыехаў у Слонім, каб застацца тут на ўсё жыццё. Праз год у Слонімскай райгазеце з'явілася ягоная першая паэтычная падборка. А аднойчы, напісаўшы добрую нізку вершаў, паехаў Рудольф Пастухоў у «Гродзенскую праўду» да Васіля Быкава, які працаваў тады ў гэтай газеце літкансультантам. Васіль Уладзіміравіч уважліва прачытаў творы, пагутарыў з паэтам са Слоніма, а праз пэўны час лепшыя з вершаў з'явіліся на старонках абласной газеты. Пасля былі новыя публікацыі. Вершы паэта з берагоў Шчары друкаваліся ў іншых рэспубліканскіх і абласных газетах і часопісах, а таксама ў зборніках «Дзень паэзіі — 98», «Золак над Шчарай», расійскіх выданнях. Быў час, калі Рудольф Пастухоў актыўна займаўся ў Слоніме грамадска-палітычнай дзейнасцю, выбіраўся дэпутатам Слонімскага гарсавета. Ён быў першым кіраўніком Слонімскай суполкі Беларускага народнага фронту. Але заўсёды і ўсюды пісаў вершы. Пісаў іх за кратамі, у тайзе, на лесапавале, у каменным кар'еры, у Доме культуры, на Слонімскай камвольна-прадзільнай фабрыцы, дзе да пенсіі працаваў электраманцёрам. Але лепш за ўсё яму пісалася дома ў слонімскай кватэры і на летніку ў Чамярах:

Я солнце собираю по лучам,
В охапку, как большой букет сирени.
Несу тебе — пусть светит по ночам,
Убрав из жизни сумерки и тени…

Рудольфа Пастухова няма ўжо 20 гадоў. А 28 верасня 2017 года яму споўнілася б 81. Шкада, што такія людзі нас рана пакінулі. Але ў памяці тых, хто ведаў яго і чытаў ягоныя творы, паэт застанецца надоўга. Ну, як у яго паэтычных радках:

Мне очень надо встретиться с тобой,
Чтоб от тебя до смерти не уйти…






нарадзіўся 24 верасня 1958 года ў вёсцы Хадзявічы Слонімскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1985). З'яўляецца аўтарам зборнікаў паэзіі «Шчырая Шчара» (1993), «Горад без цябе» (1999), «Лірыка» (2007), «Камень Міндоўга» (2009); шматлікіх літаратуразнаўчых артыкулаў і гісторыка-краязнаўчых кніг: «Янка Купала і Слонімшчына» (1993), «Родам са Слонімшчыны» (2003), «Пакліканыя на родны парог» (2005), «Чамяры і чамяроўцы» (2006), «У пошуках слонімскіх скарбаў» (2007), «Тэатр у Слоніме» (2008), «Альбярцін» (2011), «Па слядах Купалы і Коласа» (2012), «Такі іх лёс» (2012), «Слонімскія падмуркі» (2012), «Сярод сваіх людзей» (2012), «Іншых шляхоў не было» (2013), «Легенды і паданні Слонімшчыны» (2013) і іншыя. Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве і працуе ў Слоніме.



# Эпісталярый

## Невядомы ліст жонкі Янкі Купалы да Аляксандра Жыткевіча з Вялікай Кракоткі

У музеі беларускай кнігі ў Слонімскай раённай бібліятэцы імя Якуба Коласа захоўваюцца кнігі з аўтографамі, лісты, фотаздымкі, граматы, альбомы з Вялікакракоцкай сельскай бібліятэкі імя Янкі Купалы, якая ўжо не існуе.

У 1927 годзе ў вёсцы Вялікая Кракотка вясковай моладдзю была створана і адкрыта сельская бібліятэка імя Янкі Купалы. Гэта была першая ўстанова культуры Беларусі, якой было нададзена імя Песняра беларускага народа. Бібліятэка праіснавала 80 гадоў. Яна перажыла ўсе войны, рэпрэсіі, калектывізацыю, савецкі час, а вось сучаснасць знакамітая Купалаўская бібліятэка на Слонімшчыне перажыць не змагла — яе ліквідавалі. Бібліятэку ў Вялікай Кракотцы ў свой час наведалі амаль ўсе беларускія пісьменнікі, некалькі разоў у бібліятэцы гасціла жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна Луцэвіч.

Пасля вайны бібліятэкай у Вялікай Кракотцы загадваў франтавік Аляксандр Жыткевіч. Я памятаю яго, некалькі разоў сустракаўся з ім у Вялікай Кракотцы, калі разам з паэтам Анатолем Іверсам мы там гасцілі. Гэта быў шчыры беларус, апантаны бібліятэчнай справай чалавек, які любіў кнігі, творчасць Янкі Купалы, паважаў літаратараў і шмат з імі перапісваўся, запрашаў іх у госці, сустракаўся. Аляксандр Іванавіч моцна сябраваў і з жонкай Янкі Купалы Уладзіславай Францаўнай Луцэвіч. Дзякуючы ёй у Вялікую Кракотку для бібліятэкі штодзень прыходзілі лісты, кнігі, альбомы, сувеніры ад пісьменнікаў і дзеячаў культуры. Перапісваўся Аляксандр Жыткевіч і з жонкай Янкі Купалы. Пакуль адшуканы толькі адзін ліст Уладзіславы Францаўны. Ён захоўваецца сёння ў музеі беларускай кнігі Слонімскай раённай бібліятэкі імя Якуба Коласа. Ліст заслужанай дзяячкі культуры Беларусі Уладзіславы Луцэвіч у Вялікую Кракотку быў напісаны да два месяцы да яе смерці на рускай мове. Публікуем яго ў перакладзе на беларускую мову.

*27.12.1959*

*Паважаны Аляксандр Іванавіч!*

*Вы не думайце, што я забылася пра Вас. Ад усяго сэрца дзякую за Вашу адданую вялікую працу па ўвекавечанню літаратурнай спадчыны Янкі Купалы. Я заўсёды адношуся з глыбокай павагай да Вас. Але ўжо другі год я зусім захварэла. І ўжо ў гэтым годзе прабыла некалькі месяцаў у бальніцы. Вось чаму я не пісала Вам. Стала поўнасцю інвалідам. Не хоча працаваць сэрца, ужо каля года я зусім не магу есці, стан вельмі сур'ёзны. Цяпер пачалі апухаць ногі. Вось якой я стала хворай. Ніколі не падумала б, што гэта са мной здарыцца. Буду вельмі рада, як вы, калі будзе-*



▪ *Жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францавна Луцэвіч выступае на 30-годдзі Вялікакракоцкай бібліятэкі імя Янкі Купалы Слонімскага раёна, 1957 г.*

*це ў Мінску, наведаецe мяне. У лістападзе мы пераехалі ў новы будынак музея. Вельмі зручны, прыгожы, пабудаваны на тым месцы, дзе быў наш дом. Пачынаем афармляць новую экспазіцыю, пашыраем выставу да 11–12 пакояў. Уся бяда — гэта маё дрэннае здароўе. Зусім не магу хадзіць, а хочацца працаваць і ўсюды паглядзець самой. На днях вышлю Вам альбом нашай музейнай працы «Жыццё і творчасць Янкі Купалы». Раю вам выпісаць некалькі асобнікаў праз «Бібкалектар», потым яго не будзе. Вельмі прашу пісаць мне і не злавацца, калі я не часта Вам пішу. Прашу прыняць самыя шчырыя пажаданні з Новым годам. Жадаю Вам, Вашай сям'і і ўсім чытачам і жыхарам Вялікай Кракоткі добрага здароўя, доўгіх гадоў жыцця і плённай працы на карысць нашай вялікай, дарагой савецкай радзімы. Моцна цісну Вашу руку. Заўжды з павагай да Вас Ул. Луцэвіч. Адрас музея: вуліца Янкі Купалы, № 4. Тэлефон: 2-37-10 ці 2-33-86. Мой хатні тэлефон: 3-13-66.*

Уладзіславы Францаўны Луцэвіч не стала 25 лютага 1960 года.

Захавалася некалькі здымкаў, калі яна наведвала Вялікую Кракотку. Адзін з іх сёння публікуем.

*Сяргей Чыгрын*



# Гумар і сатыра

## Таццяна Валенцік

## Усміханкі ад Тацянкі

### Знайшла выйсце

Маленькая Ірынка вельмі любіла ездзіць у госці да цёткі ў суседнюю вёску: там яна адчувала сябе ледзь не гаспадыняй. Надаюць ёй лапінак, дзіравых каструлек, розных непатрэбных рэчаў, а яна гэта ўсё ў ход пускае, бо якія тады цацкі былі: вайна толькі скончылася.

Назіраючы, як дарослыя полюць агарод, вырашыла дзяўчынка і тут пагаспадарыць. Пайшла ў грады і ўбачыла, што ўжо ёсць агуркі. Насамрэч гэта была яшчэ толькі завязь. Пазрывала яна ўсё, што можна, і панесла ў хату. Расклала на стале, на ложку, на лаве і забаўляецца. Тут заходзіць цётка. Сумелася дзяўчынка, пэўна, зразумела, што шкоду зрабіла. Як кінецца цётку абдымаць: «А цётачка, а міленька, а якая ж ты добрая гаспадынька! У цябе столькі гуркоў, што нават выраслі і на ложку, і на стале, і пад ложкам!»

Толькі рукамі развяла цётка і давай тлумачыць, каб дзяўчынка не рабіла болей так.

### Малы філосаф

Трохгадовая Волечка вельмі любіла слухаць песні Алы Пугачовай, якія ледзь не штодзённа гучалі ў хаце. Па-свойму падпявала і танчыла пад музыку.

Аднойчы восенню, калі пачаліся першыя прымаразкі, выйшла дзяўчынка на вуліцу пагуляць, а ў гэты час у суседа свінню калолі. Відаць, свінабой быў не вельмі, таму што свіння доўга пішчала, аж закладвала вушы. Волечка: «Мама, дзюдзя песню спявае». Калі мама не адрэагавала, дзяўчынка паўтарыла ізноў: «Мама, дзюдзя песню спявае!» На запытальны позірк матулі Волечка дадала: «Жизнь невозможно повернуть назад…»

Дзіўна, але калі швайка сядзіць у сэрцы, то і сапраўды назад няма выйсця. Філасаф!

### Памочніца

Маладая сям’я спраўляла наваселле. Радні сабралася многа. Толькі разышліся госці, як гаспадыня пачала прыбіраць са сталоў. Раз-пораз перакідваючыся словамі

з трохгадовай дачушкай, якая забаўлялася ў кутку, маці пачала скідваць кавалачкі ў «свіное» вядро, а некранутыя талеркі з ежай адсоўвала, каб паставіць у халадзільнік.

У гэты час на кухні зазваніў тэлефон. Маці таропка выбегла і пачала размаўляць. Сваячка дзялілася сваімі ўражаннямі. Размова зацягнулася ледзь не на паўгадзіны.

Калі зайшла ў пакой, каб працягнуць пачатае, то ўбачыла, што ўсе сталы пустыя, а ў кутку стаіць задаволеная дачушка каля трох «свіных» вёдзер і ўсміхаецца: «Мамацка, я твая памоцніца?»

«Памочніца!» — скрозь слёзы прамовіла гаспадыня...

**Падскробыш**

Апошняе дзіцятка, народжанае маці ў сталым веку, у нас называюць падскробышам. Неаднойчы чула дзяўчынка, адзінаццатая ў бацькоў, такое пра сябе і ніяк не магла зразумець, што б гэта азначала. Была яшчэ занадта малая, каб разбірацца ў дарослых справах.

Ішоў час, яна падрастала і ўсё больш унікала ў жыццёвыя перыпетыі. І калі аднойчы пачула ад матулінай знаёмай: «Во які твой падскробыш ужо вялікі!», не прамінула пацвердзіць сваю абазнанасць: «Так, тата з мамай пажартавалі, а паглядзіце што выйшла!» І, перакруціўшыся на адной назе, запытальна дадала: «Нічога сабе дзеўчынка?»

Кабеты пераглянуліся паміж сабой і толькі ўсміхнуліся: «Вось табе і падскробыш…»

**Тоша ажаніўся**

Самай любімай забаўкай у суседскага хлопчыка Даніка быў коцік Тоша. Адзін без аднаго не маглі прабыць і хвіліны. І вось Данік пайшоў у першы клас. Бегаў Тоша па надворку, шукаў свайго сябра і не знаходзіў. Сумна яму стала. Вырашыў выглянуць на вуліцу. А там — процьма машын. Замітусіўся коцік ды і трапіў пад колы.

Бацькі разгубіліся, але затым хуценька закапалі Тошу, а што сыну сказаць — не ведаюць. Вельмі балючая для яго гэтая першая страта. Прыйшоў хлопчык са школы і давай катка клікаць. А таго няма нідзе. Данік — да бацькоў з запытаннем: можа, дзе сябра яго бачылі?

Пасадзілі бацькі хлопчыка на канапу і кажуць: «Разумееш, Данік, ты падрос і ў школу пайшоў, а твой коцік таксама падрос і завёў сваю сям’ю». — «Як гэта?» — не разумее хлапчанё. Як маглі, так і расталкавалі сыну, каб хоць крыху супакоіць.

Прайшоў некаторы час. Надышла вясна. Прыбягае Данік са школы і крычыць з парога: «Тата, мама, а мой Тоша і праўда ажаніўся! Сёння я праз акно бачыў, як ён ішоў, а за ім — яго жонка і аж пяцёра дзяцей!»

**Паклёп**

У сельскую школу прыехала па размеркаванні маладая настаўніца. Першы дзень пачала са знаёмства і адразу спытала дырэктара. «Ды ён па гарэлку паехаў, — таропка адказала прыбіральшчыца. — Да завуча падыдзіце, бо сягоннячы яго можа і не быць».

Справы з уладкаваннем былі вырашаны, але дзяўчыну непакоіла думка: «Святая раніца, а дырэктар — ды па гарэлку!» Уяўляла сабе, як да яе на ўрок спеваў прыйдзе такі кіраўнік і…

Дні ішлі за днямі, а дырэктар, сталы, паважаны чалавек, ніколі нават і нападпітку не быў. «Паклёп хочуць узвесці»,— падумала настаўніца і вырашыла паўшчуваць прыбіральшчыцу. Тая зайшлася з рогату: «А мая ты родненька, нашто ж мне на яго нагаворваць, калі і праўда было так. Ён жа ездзіў у Пагарэлку на адкрытыя ўрокі, вёска ў нас такая ёсць!»

**Настаўнікі — культурны народ**

Школа… Цікавая краіна. Калі даўно мінуў школьны ўзрост, ты з сумам успамінаеш тое, на што, магчыма, і не звяртаў увагі. Узгадваеш першае каханне, першую двойку, розныя свавольствы, якія чынілі для настаўнікаў. Думалася тады, што настаўнік — з другога цеста: сур'ёзны, патрабавальны, нават смяецца рэдка. А калі мы падрасталі, то ўжо маглі і параіцца з настаўнікам, і пажартаваць, і паўспамінаць яго маладосць. Ды што тут казаць, настаўнікі — такія ж звычайныя людзі, як і ўсе. Пачула аднойчы, як мой унук казаў аднакласнікам: «Вы што, думаеце, мая бабуля не такая, як усе? Ды яна разам са мной есць аладкі з маслам!» Вочы сяброў акругліліся ад здзіўлення, а ўнук для большай упэўненасці дадаў: «І бульбу з салам! Проста яна павінна быць строгай, бо — настаўніца». Смешна сёння мне, ды і я ж такая была ў свой час: які рост, такі і розум.

Хаця не пра гэта мне хочацца напісаць. У адной школе дырэктарам доўгі час працаваў сур'ёзны і адказны мужчына. Разумны, патрабавальны. Калегі між сабой называлі яго Глобусам, бо галава ў яго была даўно лысая. Прыслалі ў школу настаўніка фізкультуры — дзяўчыну. Доўга ў дзеўках яна не пасядзела, пачало ладзіцца вяселле. Жаніх — мясцовы хлопец з простай сям'і. Бацькі жаніха запрасілі ўвесь школьны калектыў: настаўніцу ж бярэ!

Толькі паселі за сталы, Глобус узяў слова для віншавання, папрасіў усіх устаць. Хораша віншаваў, сардэчна. Усе развесяліліся, пачалі жартаваць. За добры тост — і чарка поўная за маладых. Насупраць Глобуса сядзеў гісторык, які любіў-такі кінуць кілішак. Налівае ён поўную чарку і спрабуе стоячы залпам выпіць. Уліць то ўліў у рот, а як пачаў глытаць — вадкасць пачала вылівацца. І атрымаўся такі фантанчык, які накіраваўся праз стол проста на лысіну Глобусу. Здавалася, што ўся хата зойдзецца смехам. Аднак усе правялі позіркам: што будзе? Дырэктар сурвэтачкай выцерся і сказаў: «Аж узмакрэў я ад хвалявання». Госці, апусціўшы вочы долу, хуценька паселі і давай налягаць на закуску.

Сапраўды, настаўнікі — культурны народ.

**Канфуз**

У распараджэнні раённага аддзела адукацыі было некалькі аўтамабіляў, адзін з іх — уазік, а ў народзе — «казёл». Дык вось начальнік аддзела прыехаў на ім у адну са школ з праверкай. Дырэктар школы заўважыла машыну раённага начальства яшчэ здалёк і ў імгненне вока выскачыла насустрач:

— Добры дзень, Пятро Іванавіч!

— Добры дзень!

— А я думаю, што гэта за «казёл» да нас прыехаў? Адно ж гэта вы, Пятро Іванавіч! Праходзьце, калі ласка, — ласкава запрасіла Ніна Рыгораўна…

Сканфужаны начальнік моўчкі пайшоў за дырэктарам...

**Лагічны адказ**

Раніца ў школе. Званка яшчэ не было. У фае заходзіць начальнік раённага аддзела. Бачыць на калідоры хлопчыка, які сядзіць на крэсле ля свайго кабінета пачатковых класаў. Дзверы ў клас яшчэ замкнутыя.

— Чаго ж ты тут сядзіш адзін?

— Ды настаўніцу сваю чакаю, — уздыхнуўшы, сказаў хлапчук. — Як пайшла ўчора дадому, дык яшчэ не вярнулася. Дай, думаю, пасяджу ды пачакаю. Мо прыйдзе калі-небудзь.

## ЯНКА ТРАЦЯК

### Эпіграма

Сяргей Чыгрын падышоў да 500-годдзя беларускага друку з важкім багажом: адрэдагаваў, уклаў, напісаў прадмовы і каментары да 62 кніг.

Адкуль імпэт такі, пачын?
Рэкорды Гінеса і веку:
У Слоніме Сяргей Чыгрын
Стварыў сваю бібліятэку.

Не з купленых, набытых кніг
(там ёсць свая бібліятэка),
А з кніг уласных, з кніг сваіх,
З сваёй асобнай картатэкай.

Яму б за гэта даць медаль,
Скарыны ордэн!..
Ды што зробіш...
Тут смех і грэх, як ні гадай, —
«Скарыну» тым даюць, хто дробыш!

## СЯРГЕЙ ЧЫГРЫН

*ПАРОДЫІ НА ПАЭТАЎ ЛІДЧЫНЫ*

### Ровар і бровар

Ад карчмы да бровара
Еду я на ровары…
*Станіслаў Суднік*

Вунь на польскім ровары —
Пазнаю здаля —
Едзе Стась да бровара:
Аж плыве зямля.
Травы разбягаюцца
У бакі ад ровара,
Мухі разлятаюцца —
Едзе Стась да бровара.
Слоік на багажніку
Скача і трасецца.
Хочацца так бражкі —
Аж шчыміць ля сэрца…
Вып’е ён са слоіка
Смакаты ля бровара…
І засне пад столікам,
І… забудзе ровара.

### Ганарар за верш

Я ноч не спаў,
Вам верш складаў,
І галава цяпер баліць:
З ганарарам што рабіць?
*Уладзімір Бурак*

Я ўсю ночку верш складаў,
Пасля ў раёнку твор даслаў,
Рэдактар глянуў, прачытаў
І мне нічога не сказаў.
Раёнку я ўвесь год купляў,
Ды верша там не сустракаў,
Ў сяброў пытаўся, як мне быць —
Без вершаў мне не проста жыць.

Сябры казалі: брат, пішы
Пра ўсё, што маеш на душы,
І дасылай іх у раёнку,
Бо там без вершаў мала толку…
І я пісаў і дасылаў,
Ды іх ніхто не друкаваў…
Вы прад паэтам не грашыце,
Хоць ганарар мне заплаціце.

## Аграном

Сядзіць варона на суку, кажа: «Кар-р-р…
Ці даўно на гэтым полі быў гаспадар?
Зарасла ўжо пожня лесам, бур'яном,
А калі ж сюды загляне аграном?..»
*Ірына Маркевіч*

Варона каркае над полем:
Калі ж прыедзе аграном?
І я прыехала сягоння,
Дзе зарасло ўсё бур'яном.
Чакала суткі агранома,
Каб паказаць яму палі.
Мяне ўзяла пад вечар стома,
І я заснула на зямлі.
Варона каркала у небе,
А агранома не было.
І сніўся мне кавалак хлеба,
Вароны чорнае крыло.
Я так да раніцы праспала —
Ляжала цяжка на баку.
І агранома я чакала
З варонай чорнай на суку.
Ды аграном усё не ехаў,
Што стала сумна мне самой…
А вецер пах з хлявоў даносіў,
Скуль аграном выкідваў гной.

## Пунктуацыя эгацэнтрычнасці

Шматкроп'е не стаўце Вы, клічнікі,
Хай Ваша разважлівасць гэтая
Спрыяе эгацэнтрычнасці.
*Алена Сіманчык*

Ты зайшоў да мяне з пытальнікам,
Не пастукаўся нават у дзверы.
І застаў мяне ў новым купальніку
Над аркушам чыстай паперы.
На мяне паглядзеў ты клічнікам,
Я ад позірку кропкаю стала.
Бо цябе да сябе я не клікала,
Бо цябе да сябе не чакала я.
Ты хадзіў па пакоі працяжнікам,
Часам коскаю супыняўся.
Як успомню — становіцца цяжка,
Як успомню — прыемна кахаўся:
То ў купальнік рукою залазіў,
То пяшчоціў мае калені…
Ты шматкроп'ем мяне абразіў
І двукроп'ем забраў натхненне.

## Вершы для дрэў

Гэты дуб можа нас паражыць:
Мае вершы і вашыя мары…
*Алесь Стадуб*

Я для дрэў у вёсцы першы
Напісаў вязанку вершаў.
Глог паслухаў шматгадовы
Ў рыфму складзеныя словы.
Зранку выпіў трохі хершы —
Я чытаў бярозам вершы.
Ясень слухаў, і асіна,
І каліна, і рабіна,
Ціха доўгая сасна
Вершы слухала адна.
Граб паклікаў нават клёна —
Вершы слухалі натхнёна.
Толькі сумная вярба
Мне сказала: ўсё — журба.

Ды прачнуўся стары дуб,
Пахваліў: пішы, Стадуб!

## Ты і я

> Ты — мая сцяжынка…
> Ты — агню іскрынка…
> Я — Алесь, я — Хітрун…
>
> *Алесь Хітрун*

Ты — Алесь, а я — Хітрун,
Ты — спіна, а я — бізун,
Ты — паветра, я — дзівак,
Ты — маркота, я — вахлак,
Ты — пакута, я — сцяна,
Ты — маланка, я — вайна,
Ты — бязмежжа, я — града,
Ты — пілюля, я — вада,
Ты — калодзеж, я — шкілет,
Ты — настрой, а я — партрэт,
Ты — хвароба, я — нуда,
Ты — імгненне, я — бяда…
І куды цяпер мне дзецца,
Як табою б’ецца сэрца?



# Сярод кніг

## Паэтычная вандроўка да Бога




*Бічэль, Д. Дайсці да Каложы / Данута Бічэль. — Мінск: Про Хрысто, 2017.*

Зусім нядаўна (3 снежня 2017 года ) вядомая беларуская паэтка з Гародні Данута Бічэль адзначыла свой васьмідзесяцігадовы юбілей. Добрым падарункам да дня нараджэння пісьменніцы стаў выхад яе кнігі вершаў «Дайсці да Каложы» (Мінск, выдавецтва «Про Хрысто»). Зборнік аздобілі творы, якія былі напісаныя цягам апошняга года. Праўда, некалькі вершаў усё ж перавандравала з папярэдніх кніг, аднак у крыху змененым выглядзе, таму можна лічыць іх своеасаблівымі інварыянтамі папярэдніх версій. Увогуле, адметнасць актуальнага перыяду ў творчасці Дануты Бічэль, што бачна і з апошняй кніжкі, выяўляецца ў непераадольным жаданні паэткі да ўсякага роду эксперыментаў — з вобразамі, з мовай, нават з жанравай сістэмай. Так, напрыклад, у падтытуле кнігі заўважаем, што «Дайсці да Каложы» складаюць не проста вершы, але малітвы, медытацыі і вершасказы. Такое ўдакладненне дазваляе чытачу хутчэй зразумець сутнасць паэзіі, якую прадстаўляе аўтарка кнігі:

да анёльскіх палётаў
верных людзей выводзіць
гэтых аматараў экстрэмальных прыгодаў…
Ад невылечных хваробаў адна дапамога —
вера ў Змёртвыхпаўстанне і ў Духа Святога…

Вершы Дануты Бічэль, складзеныя ў форме малітвы, сапраўды гэтак і выглядаюць: яны напісаныя простай, немудрагелістай мовай, але зачароўваюць неверагоднай глыбінёй сэнсавага напаўнення, адчуваннем містычнай сувязі з адрасатам. Вершы-медытацыі і вершасказы таксама шчыра здзіўляюць тонкімі назіраннямі паэткі за няўлоўнымі вібрацыямі ўнутранага свету чалавека ў такт знешняму:

Рэальны час не рэальны для нас.
Часу простая лінія —

гэта пясчаны гасцінец,
па якім мы з Падляскай хадзілі…

Яшчэ адна цікавая асаблівасць кнігі — яе падабенства з календарамі, тымі, што некалі выдаваліся ў асветніцкіх мэтах — з вершамі ды разнастайнымі гісторыямі, з якіх звычайны чалавек, далёкі ад кніжнай культуры, мог усё-ткі да яе наблізіцца. Гэтак і зборнік «Дайсці да Каложы» можа чытаць кожны, хто проста мае добрае сэрца, а не філалагічную адукацыю, хто моліцца разам з паэткай у касцёле пад час імшы, а не толькі цытуе модных постмадэрністаў: на кожнае вялікае каталіцкае свята тут абавязкова знойдуцца прыгожыя радкі, ёсць цікавыя вершы пра жыццё святых, апосталаў, а таксама душэўныя прысвячэнні беларускім святарам. Такім чынам, новая кніга Дануты Бічэль адкрытая для кожнага, як храм. І паэтка туды запрашае ўсіх нас без выключэння:

Давайце збірацца ў святыя суполкі,
займайце пачэсныя месцы, анёлкі!
Збярэмся — нябёсы штовечар паслухаць,
натхняцца дыханнем высокага духу!

*Анатоль Брусевіч*

## Жывыя згадкі Рычарда Бялячыца

Напісаць верш у юнацтве, каб ён адгукнуўся праз многа гадоў, азваўся радком такім значным, што даў назву цэлай кнізе — ці магчыма такое? Магчыма. Сталася. З паэтам, аўтарам больш за дзясятак паэтычных зборнікаў Рычардам Бялячыцам, які жыве сёння ў горадзе Шчучыне і нядаўна выдаў кнігу «Са мной мой дзень».

Вось ён, той даўні верш:
На час прыцішана асенні
Хто азірнуцца дапаможа?
Са мной мой дзень
Святлом і ценем,
І расставацца з ім трывожна.
А нельга, нельга не расстацца,
Хоць і смяецца, можа, хтосьці,
Хоць неспакой малююць пальцы
І побач ноч
Душой і плоццю.

Дзіўна, бо напісана быццам сёння, калі паэт ужо размяняўшы сёмы дзясятак, калі час пазначаны ўжо восеньскімі рэаліямі. І нават чутны зімо-




▪ *Бялячыц, Р. Са мной мой дзень / Рычард Бялячыц. — Гродна: ЮрСаПрынт, 2017. — 132 с.*

вы подых. Калі прыходзіць трывожны роздум пра непазбежнае расстанне са сваім днём. Больш за тое: у вершы сённяшняе ягонае жыццё, праца начнога вартаўніка, з якім заўсёды ноч — «душой і плоццю». Не, гэта занадта проста, прымітыўна, банальна — начны вартаўнік. Гэта не пра нашага паэта. Бо вартуе ён не нейкі звычайны аб’ект, а княжыя скарбы, памяць гэтай зямлі, што вярнулася дзякуючы аднаўленню ў Шчучыне палаца князёў Друцкіх-Любецкіх. «Ахоўнік мінуўшчыны» — так называе сябе. Сам аўтар здзіўляецца: напісаў гэта ў маладосці. Атрымалася пра сённяшняе. І радуецца: са мной мой дзень.

Адкрывае кнігу краязнаўчы нарыс «Між Нёманам і Котрай», дзе згадана ўсё самае значнае з духоўнай спадчыны, створанае на шчучынскай зямлі. Гэта кніга прозы, напісаная паэтам. Відаць, прыходзіць такі час, калі хочацца разняволіць сваё слова ад паэтычнае формы, пісаць як дыхаць, не зважаючы на рыфмы, памеры. Аўтар разважае аб празаічнай творчасці: «Прыходзіць у такія моманты шмат цікавых успамінаў, якія пры складанні вершаў прамільгнуць, нібы тыя электрычкі. Празаічнае вымагае спыняцца, вяртацца назад. Жыццё ідзе больш размерана, плаўна».

Зрэшты, не заўсёды ягоная проза — творчасць празаіка. На мяжы між паэзіяй і прозай. Лірычная проза, вершы ў прозе — усё гэта сустракаем у кнізе Рычарда Бялячыца. Часам лаканічныя радкі эмацыйна насычаныя, напоўненыя пачуццямі лірычнага героя. Да прыкладу, лірычныя мініяцюры «Студзень сцюдзёны», у якіх галоўны матыў — боль развітання з родным чалавекам, чытаюцца вершам:

Я прысвяціў табе паэму.
Пасля ўсяго.
І, як заўсёды,
спазніўся.
На цэлае жыццё.
Тваё.

А самае паэтычнае, шчымліва-далікатнае — у лірычнай нізцы «Крананне». Пятнаццаць мініяцюраў быццам пятнаццаць зіхоткіх пярлінаў, якія нанізаны на ланцужок пяшчоты, хвалявання, узвышэння, пакланення. Для яе, пра яе, недасяжную і такую бясконца блізкую: «Гляджуся ў люстра, якое вісіць пры ўваходзе. І баюся, што раптам у дзвярах з’явіцеся Вы і мяне назаўсёды не стане, спалоханага і непрыкметнага побач з Вамі, узвышанай і прыгожай».

«І за гарою пакланюся» — гэтая крылатая фраза Фёдара Янкоўскага даўно ўжо стала сімвалам памяці, любові і пашаны да тых, хто шчодра аддаваў вучням не толькі свае веды, але і душу. Настаўнікам, вартым удзячнасці. І няхай між людзьмі паўстала гара вечнасці, якую не пяройдзеш, але важна, каб і за ёю паклон быў спраўджаны. Так кланяецца герой Рычарда Бялячыца яму, аўтару гэтых словаў, вучонаму, прафесару-мовазнаўцу, пісьменніку Фёдару Янкоўскаму, свайму незабыўнаму выкладчыку, які калісьці не прамінуў твораў пачаткоўца ў «Маладосці», падбадзёрыў, даслаў маладому паэту свае кнігі. Быў мудрым, умеў разгледзець між студэнтаў тых, хто пазначаны талентам навукоўцы, творцы. Так, ён вылучыў са студэнцкае грамады будучага вядомага ў нашым краі мовазнаўца Тамаша Тамашэвіча. «І за гарою пакланюся» дзясяткі разоў кім толькі не цытаванае, сёння Рычардам Бялячыцам пра свайго

настаўніка. Бо варты ўдзячнае памяці. І пра аднакурсніка Тамаша Тамашэвіча, якога ўжо таксама няма з намі.

Цёплым словам згадваюцца археолаг Міхась Ткачоў, прафесар Андрэй Майсяёнак, што спрычыніліся да стварэння музейнай экспазіцыі, прысвечанай Людвіку Нарбуту (а гэта ці не адна з самых важных справаў жыцця настаўніка, шматгадовага дырэктара школы ў Дудках Рычарда Бялячыца), прафесары Аляксей Рагуля і Аляксей Пяткевіч. Але найбольш кранальны ўспамін пра маладзенькую настаўніцу Варнянскай школы Валянціну Коўтун, якая, пэўна ж, спрычынілася да выбару жыццёвага шляху вучнем-выпускніком. Нарыс «Знак сёстраў» пра іх: першую беларускую паэтку дваццатага стагоддзя Алаізу Пашкевіч і даследчыцу яе творчасці, аўтарку рамана «Крыж міласэрнасці» Валянціну Коўтун, якія «нават былі падобныя знешне ў хвіліны ўзрушэння: вытанчана прыгожыя, стройныя, артыстычна далікатныя ў адносінах». Гэта цікавыя, жывыя згадкі. Бо пра асобу, якая ў памяці назаўсёды застанецца жывою. Аўтар пераносіцца ў той далёкі час, на ўрокі ўлюбёнай настаўніцы: «А на занятках глядзела задуменная сучасніца ў акно на вясенні сад, чытала Цётчыны вершы, і нам, старшакласнікам, здавалася, што дэкламуе сама аўтарка з далёкіх, незнаёмых часоў, з Пяшчыны на Шчучыншчыне».

Партрэты, а часцей накіды да партрэтаў цікавых людзей: паэта, блізкага сябра Юркі Голуба, прафесара Ігара Жука, настаўніка-змагара Аляксандра Кашэты, што змешчаны ў першым раздзеле кнігі «Абуджэнне», не заўсёды грунтоўныя, таму не многа скажуць не вельмі абазнанаму чытачу. Хацелася б больш шырокае размовы пра іх працу, дзейнасць, творчасць. Бо яны таго варты.

Зразумела, што месца працы (натхнення!), знакаміты княскі палац, не мог быць абыдзены аўтарскай увагай. «Вернасць паланэзу» — так называецца тэкст, які ўбірае ў сябе і элементы краязнаўчага нарыса, і лірычныя запісы, што паўстаюць зназіранняў уважлівага гледача за разнастайнымі сцэнамі і сцэнкамі, што адбываюцца каля палаца, які прыцягвае натуры рамантычныя, якіх вабяць не проста гістарычныя дэкарацыі, а нешта больш значнае. Мо сам подых гісторыі…

Фантастычныя элементы таксама з’яўляюцца ў гэтым тэксце. Бо хіба можа жыць палац без прывідаў: былых гаспадароў, смелых рыцараў і прыўкрасных паняў? Яны прыходзяць, праходзячы праз сцены, з’яўляючыся са свайго пазамежнага далёка, ажываюць, размаўляюць з ім, сённяшнім захавальнікам іх спадчыны. Іх вобразы даволі схематычныя, партрэты не вельмі выразныя. Часам пэўныя партрэтныя дэталі парушаюць гістарычную дакладнасць, калі можна так сказаць, этыкет у абмалёўцы партрэту. Так, малюючы княгіню Марыю, жонку апошняга шчучынскага князя Уладзіслава Друцкага-Любецкага, аўтар настойліва (чатыры разы) гаворыць пра «пышныя чорныя валасы, *сабраныя ў тугі хвосцік*». Неверагодна, каб служанкі так несур’ёзна ўчасалі валасы княгіні. Мо тою ноччу ў палац прыходзіў прывід нейкае самазванкі? Гэты тэкст яшчэ не вырас да значнага твора, каб дапамагчы люду паспалітаму праз мастацкае слова зразумець, якія асобы тут жылі, змагаліся, упрыгожвалі гэтую зямлю, кахалі. Хочацца верыць, што паўстане на гэтым матэрыяле (а ён вельмі цікавы) гістарычная аповесць пра князя Францішка Ксаверыя і ягоную юную жонку Марыю, пра іх час, пра іх нашчадкаў, пра лёс палаца, які столькі бачыў. І памятае.

Гумарыстычныя замалёўкі, у якіх апісаны анекдатычныя сітуацыі, змешчаны ў нізцы «Бывае». Гумар не самае ўдалае ў творчасці Рычарда Бялячыца. Мо таму, што адзінота ночы не вельмі спрыяльны час, каб пісаць творы, здольныя выклікаць смех. Ці мо аўтарка гэтага тэксту не разумее гумару…

Часам з наогул добрае мовы вылушчваюцца недакладныя словы, што гучаць не вельмі дарэчна, скажаюць ураженне ад створанага вобраза. Так, між ухвальных характарыстык «аднаго са сваіх любімых выкладчыкаў», маладога тады дацэнта Аляксея Рагулю сустракаем *самаўпэўненасць*, слова, што мае адназначна адмоўнае ацэначнае значэнне. І ніяк не стасуецца з асобай гэтага прыгожага, сціплага чалавека. Ці пра закрыццё школы, якой аддадзена столькі гадоў жыцця, што сталася калі не трагедыяй, то вельмі сумнай падзеяй, аўтар піша: «Наступіў цікавейшы перыяд у маім жыцці: няма чаго рабіць. Страшная безвыходнасць». Калі меркавалася, што гэтае *цікавейшы* прагучыць у адваротным сэнсе, напоўненае іранічным падтэкстам, то яно так не прагучала. А вось граматычна няправільная фраза ўдзячнай чытачкі «Я люблю вас у прозе», якая мусіла азначаць: «Я люблю вашу прозу», пагодзімся з аўтарам, «сказана нечакана, нават смела і вобразна». Яна з тых «няправільнасцяў», якія робяць мову адметнай, насычаюць сказанае падтэкстам.

Той зачынны верш-эпіграф да кнігі перагукнуўся мне з паэтычным развітаннем нашай вялікай паэткі Ларысы Геніюш:

Бывайце, мне ўжо пара,
За мною мой дзень клапатлівы.
Каму засвеціць зара —
Той яшчэ з вас шчаслівы.

Усё жыццё чалавечае як адзін дзень. Кароткі, незваротны, напоўнены клопатамі. Шчасце — гэта і ёсць само жыццё. Чалавек мусіць быць шчаслівым ужо таму, што ізноў надыходзіць новы дзень, які яму дадзена пражыць. Герой кнігі Рычарда Бялячыца шчаслівы: яму яшчэ засвеціць зара, з ім ягоны дзень клапатлівы. Хай ён доўжыцца!

*Альжбета Кеда*

## Абаронца змястоўных формаў

Доўгая смерць еўрапейскай паэзіі пачалася з таго моманту, як аўтары лірычных жанраў сталі паступова адмаўляцца ад формы — нібыта на карысць зместу. Такая тэндэнцыя дакацілася і да беларускай вербальнай прасторы, але, слава Дыянісу, апалонаўскі тып культуры на айчыннай літаратурнай глебе прыжываецца слаба. Бо ёсць у нас пакуль абаронцы добрых традыцый вершаскладання, для якіх і форма твора, і змест маюць аднолькава важнае значэнне. Сярод іх — вядомы паэт Юрка Голуб, аўтар мноства арыгінальных зборнікаў, дзе вершы жывуць выключна па законах гармоніі, якая дасягаецца за кошт суладдзя паміж унутраным і знешнім бокам мастацкага свету. Не стала выключэннем і чарговая кніга паэзіі, што выйшла сёлета ў гарадзенскім выдавецтве «ЮрСаПрынт» і атрымала назву **«Краявід»**: кожны яе

матыў, кожнае слова ў радку, кожная рыфма спраўна працуе на дасягненне згаданага адзінства. Чытаеш такую кнігу — і ва ўяўленні ўзнікаюць вельмі яркія вобразы, як быццам бы ўсё ўбачанае аўтар перадае чытачу наўпрост, так бы мовіць, у першапачатковым выглядзе. Але кнігу трэба менавіта чытаць, пільна ўзіраючыся ў кожную літару, так, як мы ўзіраемся ў наваколле. Вядома, наваколле можна і слухаць, але краявід трэба бачыць. Усё ж такі на слых вершы Юркі Голуба ўспрымаюцца складана. Слухаючы іх, можна падумаць, што форма тут дамінуе над зместам, хоць на справе гэта не так. Проста паэт ніколі не выкарыстоўвае банальную рыфму, да таго ж вельмі любіць карыстацца самымі разнастайнымі прыёмамі ўзмацнення інтанацыйна-гукавой сістэмы тэксту:




▪ *Голуб, Ю. Краявід. Вершы, паэма / Юрка Голуб. — Гродна: ЮрСаПрынт, 2017. — 83 с.*

Збылася нядзелі надзея:
Нягодам пазначаны скон.
І мае надзею на дзею
Вунь клічны, у воклічах, склон.

Таму яшчэ раз падкрэслю: «Краявід» трэба мець перад вачыма, і тады ён раскрыецца напоўніцу — спачатку ўсімі сваімі фарбамі, пасля гукамі, а ўрэшце духмяным водарам. Карацей, сумна не будзе.

*Анатоль Брусевіч*

## Глыбокі псіхалагічны твор

Якое глыбокае і ўсёабдымнае пранікненне ў псіхалогію чалавека. І якая разнастайная вербальная перадача гэтага на старонках твора!!!

Адлюстроўваецца гэта і ў самой назве — звышлаканічнай-двухскладовай «Чужы». І ў паліфанічным асэнсаванні яе на працягу ўсёй тканіны аповесці.

Улюблёнец аўтара (і чытача) галоўны герой твора Кастусь Саўчык — выразнік галоўнай ідэі мастацкага ўвасаблення кнігі. Зазначым: удалы падбор іменаслова (яго этымонаў).

Кастусь, Качан. Канстанцін (ад лац. Constantinus < constans— стойкі, пастаянны); Саўчык, канан. Сава (з 1528 г.) < ад грэч. Sabba — суботні < араб. праца, няволя, змена; Саўчык — святочны, працавіты.

Чужы… У пэўных абставінах Кастусь становіцца такім для Алесі Ванскай (Венскі вальс?), без якой не можна жыць! Але для захавання жыцця сваіх родных, што апынуліся ў цяжкіх умовах, вымушаны на зближэнне (шлюб) з Ядзяй (Сліж, Сліжыхай). Потым і ёй стаў чужым, хоць раней быў улюблёным. Чужымі сталі для яго суседзі (Чарток). Яго ворагі, патэнцыйныя забойцы (Анчук, Чарток) атрымліваюць ад жыц-




▪ *Дубатоўка, В. Чужы: аповесць, апавяданні / Валянцін Дубатоўка. — Мінск: Кнігазбор, 2017. — 240 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 95)*

цялюбца Кастуся памілаванне («каб не сіраціць іх дзяцей»).

Чужымі для Кастуся ёсць змаганне за абарону Варшавы, уся вайна, а таксама экспансія — нямецкая, савецкая, бальшавіцкая.

І якімі не чужымі (любымі), што даюць сілы, каб пераадолець самыя неверагодныя цяжкасці, становяцца яго дзеці — дачка Насця і сынок?!! Для іх — усё жыццё будзе аддадзена…

Чытаеш і неаднойчы з прагнасцю перачытваеш аповесць, наталяючы смагу тонкаю мастацкаю повяззю слоў і той выразнай карцінай падзей, што адбываюцца ў творы.

На апошняй старонцы вокладкі кнігі партрэт аўтара: засяроджаны твар з густой чупрынай. Верагодна, Валянцін у гэты самы момант абдумвае напісанне новых мастацкіх шэдэўраў, каб пакласці на паперу акіян думак, узбагаціць мастацкі свет Бацькаўшчыны новымі творамі — аповесцямі, навеламі дый чаканымі раманамі. А рэальная здатнасць да гэтага засведчана самой кнігай «Чужы».

Хай жа нараджаюцца з-пад пяра славутага земляка чарговыя кнігі на ўслаўленне Дабра, Радасці, Шчасця жыцця!

*Павал Сцяцко*

## Вянок айчыннага літаратуразнаўства

Асацыяцыі, што найперш узнікаюць пры ўспрыняцці гэтай манаграфіі, абумоўлены не толькі яе вялікасцю Смерцю. Славутая кніга Максіма Багдановіча «Вянок», першая і адзіная ў маладзенькага класіка, выходзіла ў далёкай Вільні без удзелу аўтара: ён убачыў толькі вынік свайго кароткага творчага жыцця, увасоблены з душой і сэрцам на не вельмі якаснай паперы. У безнаглядным зборніку было шмат памылак, зніклі не толькі паасобныя вершы, але нават і цэлыя запланаваныя раздзелы, што выразна парушала агульную задуму і аўтарскую канцэпцыю. Але і ў такім выглядзе кніга ўсцешыла і падтрымала аўтара ў апошнюю хвіліну, паспрыяла (?) мажлівасці без празмернай самоты адысці з гэтага свету. А потым здарыўся сапраўдны цуд: сціплая кніжачка набыла нечаканую красу і сілу, набралася моцы, і ў выніку спрыяльных абставін склалася вектарам развіцця ўсёй нацыянальнай паэзіі XX стагоддзя. З таго часу пісаць па-нашаніўску, абыходзячы вопыт Максіма-кніжніка, сталася немагчымым нават у XXI веку. Сваю апошнюю манаграфію доктар філалогіі Ігар Жук не ўбачыў: яна выйшла праз некалькі месяцаў пасля ягонага нечакана-трагічнага сыходу…




▪ *Жук, І. Прыхінуцца да крыніцы / Ігар Жук. — Гродна: ГрДУ, 2017. — 235 с.*

…Каб раскрыць сваю канцэпцыю разумення сутнасці літаратуры, яе філасофію (у класічным успрыманні сутнасці тэрміна), Ігар Жук звяртаецца да спадчыны Янкі Купалы і Якуба Коласа, 135-годдзе з дня нараджэння якіх святкуецца сёлета. Аднак гэта проста храналагічнае супадзенне. Бо перад намі — не чарговы алілуйны хваласпеў да чарговага юбілею песняроў. Як вядома, класікі — гэта творцы, якіх ушаноўваюць усялякім чынам, але ўзамен зусім не чытаюць. А Ігар Васільевіч сваіх, родных, класікаў прачытаў. Прычым так, як да яго не чыталі (і не збіраліся чытаць)… бо стварыў уласную методыку даследавання, якая роўнавялікая пошукам еўрапейскага літаратуразнаўства. А вось апошняе ён ведаў вельмі добра, бо заўсёды вылучаўся выключнай эрудыцыяй і энцыклапедычнасцю пазнанняў…

…Невыпадкова Ігар Васільевіч з горыччу сцвярджае: «Хоць пачаў фармавацца ён [слоўнік прыгожага пісьменства] даволі даўно, усё ж гэта слоўнік дамінавальнай “монаскапіі”, унутранага духоўна-вобразнага “сябе-бачання”». Ну не можам мы прыўзняцца над мітуснёй штодзённага існавання, над марнасцю марнасцяў. Праклятыя мы. Не можам асэнсаваць сябе і сваю долю. А рабіць гэта ой як трэба. Толькі тады, лічыць Ігар Жук, мройлівае «відзенне» Бацькаўшчыны і яе глыбінная метафізіка паўстануць не варыяцыямі легкадумнай метафары, а фактам глыбіннага эстэтычна-філасофскага асэнсавання прызначанасці ўласнага лёсу. Прычым не толькі на ўзроўні вяршынных мастацкіх праяваў літаратурнага генію, але і на ўзроўні масавага эпігонскага засваення. Бо і сама літаратура, у якой болем і жыццём яе бессмяротнага творцы выведзены радок «Мне сняцца сны аб Беларусі…», вартая на тое, каб глыбінная метафізіка мастацкага светабачання не перакрывалася павярхоўна вэлюмам і маскаю легкаверна зразуметага «відзення»…

…У цэлым, гарадзенскі даследчык упершыню звязаў тэматыку твора з ягонай рытмікай. І тут Ігару Васільевічу няма роўных. Ды і ніякіх няма, трэба сказаць па справядлівасці, бо пасля Міколы Грынчыка і Івана Ралько праблемамі вершаскладання ніхто сур’ёзна не займаецца: вельмі ж гэта няўдзячная справа. Поспеху ж у гэтай сферы спрыяў і той факт, што за плячыма доктара навук паспяховая рэалізацыя праблемы рытмавага існавання празаічнага тэксту (памятаецца, як бліскуча выступіў Ігар Васільевіч на з’ездзе славістаў у Любляне, што было сапраўдным трыумфам не толькі для яго, але і для ўсёй беларускай дэлегацыі). Усё гэта разам дазволіла аўтару доказна сцвердзіць, якая прасадычная ўласцівасць надае пявучасць беларускай мове, фармуе яе плаўнасць і няспешнасць, «сапраўдную арганічную боскасць»…

У выніку глыбокіх разважанняў Ігар Жук прыходзіць да высноў, якія неабходна працытаваць: «Калі я гавару, што твор выходзіць з цела слова і становіцца *realiora* мастацкага духу, я ніяк не адмаўляю значэння той ролі і той сілы, якія належаць

структураваным моўным вобразам свету. Несумненна, беларуская мова сваю сілу аддала паэме спаўна, і, напэўна, толькі ў гэтай мове і магла нарадзіцца “Новая зямля”. Зараз жа, стомленая ад барацьбы за выжыванне, знясіленая мова стаілася ў чаканні адваротнай падтрымкі ад паэмы. І падтрымка гэтая зусім магчымая, у іх ёсць звяно зваротнай сувязі, таму што сіла, якую паэме дала мова, незвычайная — сіла патэнцыйнай метафары, глыбінных сэнсавых канатацый, на якія наладжваецца ўспрымальная свядомасць пэўнага гістарычнага часу. А ўстаноўка сённяшняй успрымальнай свядомасці арыентуецца вакол таго, як адбываецца “пераключэнне” і ўзаемапераход нязбытных якасцяў: “Новая зямля” сёння — уся цалкам метатэкстуальная метафара. Славутая энцыклапедыя сялянскага жыцця “ўспамінае” сябе зараз у новай якасці — у якасці метафары, тым самым вызваляючы “зямныя”, “сялянскія” канкрэты для іх анталагічнага асэнсавання»…

…Ігар Жук піша, што «матыў шляху на вершы “Па шляху” запнуўся». Не менш паэтычна характарызуе ён і далейшае дзейства, якое здзяйсняюць паэты разам са сваімі героямі і якое ўражвае сваім непрыкметным да апошняга прадказаннем: «А “відзенне”, як і “душа”, адляцела са шляху свайго зямнога і, разам з тым, увайшло ў новую якасць — стала тэмаю. Вялікай беларускай анталагічнай тэмаю “відзення” Бацькаўшчыны». Згодна са святым Евангеллем, у Бога ўсе людзі жывыя. Вось чаму быццё ўяўляецца бясконцым пыльным шляхам, на якім стаяць беларусы розных эпох і пакаленняў. Шукаюць яны Бацькаўшчыну. І разам з імі Ігар Васільевіч Жук, пасмяротная кніга якога становіцца вянком, што кідаецца ў Атлантыду часу як сімвал ушанавання адвечных пошукаў.

*Іван Штэйнер*

## У пошуку мінулага

Гэтую кнігу можна назваць летапісам роднай вёскі аўтаркі. Наўрад ці такую кнігу напішаш толькі з уласнай памяці. Таму праца над ёй мне ўяўляецца перадусім у пошуку знікаючых у невараць мінулага гісторыяў, імёнаў, лёсаў — амаль як этнографы шукаюць старыя легенды і песні ў фальклорных экспедыцыях. І яшчэ. Пра адну вёску, аказваецца, можна напісаць цэлую вялікую кнігу. Не ведаю, ці пра ўсіх землякоў, якія жылі ў вёсцы Шчонава на Карэліччыне ў другой палове XX стагоддзя, напісала Альжбета Кеда ў «Шчонаўскіх абразках», але тут сотні імёнаў, лёсаў, цікавых, вясёлых, займальным, сумных і трагічных гісторыяў. Улічваючы тое, што аўтар кнігі — жанчына, то і жаночы вобраз роднай вёскі бадай самы адметны і, так бы мовіць, драматургічны — ад дзіцячых гульняў, праз дзявочую маладосць да жаночых вынікаў жыцця.

З гэтай кнігі таксама можна даведацца, як жыла заходняя беларуская вёска ў 60–70 гадах, як тут працавалі і вялі ўласную гаспадарку, як праводзілі вольны час, якія танцы танцавалі на вечарынках, якія і ў каго шылі сукенкі жанчыны, якія пастаноўкі ладзілі, як праходзілі вяселлі і як адбываліся пахаванні, якую музыку і на чым гралі. Карацей, для любога беларускага даследчыка — гісторыка, этнолага, фальклорыста — у гэтай кнізе знойдзецца багаты, каштоўны матэрыял. Аднак «Шчонаўскія




▪ *Кеда, А. Шчонаўскія абразкі: кніга прозы / Альжбета Кеда. — Гродна: ЮрСаПрынт, 2017. — 260 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 92)*

абразкі» не назавеш чыста зборнікам краязнаўча-біяграфічных матэрыялаў. Гэта мастацкая кніга малой прозы. І мне яна нагадвае кнігі малой прозы Янкі Брыля. У гэтай прозе і лаканічная дасканаласць слова, і эмацыянальнасць, і пачуццёвасць, і аўтарскае стаўленне да сваіх землякоў — перадусім нейкая настальгічная любоў, на адлегласці часу ўзмоцненая. І думаецца: пашанцавала вёсцы Шчонава, якая на Карэліччыне. Трэба меркаваць, як і большасць беларускіх вёсак, памірае тая ранейшая вёска Шчонава. Адыходзяць у лепшы свет яе насельнікі, разбураюцца хаты, або займаюць іх дачнікі. Усё менш і менш застаецца людзей, якія памятаюць тое ранейшае, з XX стагоддзя, тутэйшае жыццё. Але ёсць цяпер кніга, якая Шчонава захавала на вякі. І нашчадкі шчонаўцаў цяпер могуць лёгка ўвайсці ў зніклы свет родных мясцін і блізкіх людзей. І гэта бадай асноўная вартасць такіх кніг, запатрабаванасць якіх з часам будзе толькі ўзрастаць.

*Алесь Аркуш*

## Смерць і ўваскрашэнне Дыягена

«Шчасьлівым сканаць». Пад такой назвай у гарадзенскім выдавецтве «ЮрСаПрынт» выйшла першая і пакуль што адзіная пасмяротная кніга вершаў Андрэя Пяткевіча (1966–1995), укладзеная, дарэчы, самім аўтарам, але з шэрагу прычын вымушаная чакаць друку ажно 22 гады. Імя паэта звязана з літаратурным андэграўндным рухам, што разгарнуўся ў Беларусі напрыканцы 80-х — у пачатку 90-х гадоў у знак пратэсту супраць афіцыёзу, які запаланіў ледзь не ўсю прастору тагачаснага вербальнага мастацтва. У выніку паўсталі розныя творчыя суполкі ды абвясцілі курс на аднаўленне айчыннай літаратуры, яе татальную мадэрнізацыю. У Гародні такой суполкай стаў знакаміты верш-гурт «Дыяген». А. Пяткевіч быў адным з яго стваральнікаў і актыўных удзельнікаў, аўтарам найбольш бескампрамісных вершаў, якія гурткоўцы адрасавалі сваім ідэйным і эстэтычным ворагам і ці то жартам, ці ўсур’ёз называлі «баевікамі». Яны спавядалі непакору і нонканфармізм. Гэта бачна з першых радкоў першага верша, што адкрывае кнігу «Шчасьлівым сканаць» і называецца «Credo»:

На каленях наканавана паэтам жыць.  
Ды я падымуся з каленяў.  
Хапае навокал каменняў,  
Каб ворагаў біць.

Праўда, самыя ваяўнічыя вершы так і не ўвайшлі ў кнігу: насуперак уласным грамадска-палітычным поглядам, якія, зразумела, знаходзілі ўвасабленне і ў творчасці, А. Пяткевіч быў перакананы, што любая ідэалогія шкодзіць мастацкасці. І таму ўключыў у свой дэбютны зборнік перадусім філасофскую лірыку, якая калі часам і адлюстроўвае палітыку знешняга свету, дык выключна праз прызму суб'ектыўнага аўтарскага эга:

Я прыехаў. Адкуль? І навошта?
Гэта скажуць пустыя тамы.
Заўтра светлае — голад і вошы.
Гэта мы, камуняцкія мы.




▪ *Пяткевіч, А. Б. Шчасьлівым сканаць / Андрэй Пяткевіч. — Гродна: ЮрСапрынт, 2017. — 52 с.*

Усяго ў кнігу «Шчасьлівым сканаць» увайшло 45 вершаў, напісаных пераважна ў 1991 годзе. Большасць з іх раней нідзе не публікаваліся. Усе яны адметныя сваім тонкім лірызмам, схільнасцю балансаваць на мяжы змрочнага імпрэсіянізму і лёгкага дэкадансу, таму на працягу ўсяго зборніка не перастаюць здзіўляць непрадказальнасцю і нават парадаксальнасцю паэтычных вобразаў, уваскрашаючы надзею на неўміручасць добрай паэзіі.

*Анатоль Брусевіч*

## З родным словам — праз усё жыццё

Да свайго 85-годдзя прафесар Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта, знакаміты краязнаўца, літаратуразнаўца Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч выдаў чарговае даследаванне культурнай спадчыны Гарадзеншчыны «Слова і кніга Прынёмання», у якой прасочаны здабыткі ад даўніх часоў да сучаснасці. Аўтар запрашае ў цікавую вандроўку, асабліва блізкую жыхарам Гарадзеншчыны. Усё гэта ўзышло на нашай зямлі, дзе заўсёды меліся багатыя набыткі ў галіне літаратуры, кніжнай, музычнай культуры, бо здаўна наш край быў багаты на таленты. Ён прайшоў гэтую вандроўку сам, дасканала вывучыўшы ўсе вартыя ўвагі з'явы культуры, не прамінуўшы бадай ні аднае постаці. Дбайна сабраў усё гэта пад адной вокладкай.

Пачынае аўтар з далёкага XIII стагоддзя, калі слова, «радкі кірыліцы прыгожай», паўставала дзякуючы перапісчыкам. Адметнае ў даследаванні рукапіснай кнігі — увага да тых асобаў, хто яе ствараў. Шырока цытуюцца іх аўтарскія ўстаўкі, прадмовы, пасляслоўі, у якіх выявілася спроба заявіць пра сябе, выказаць сваё, чалавечае, асабовае, тым самым пакінуць свой след у кнізе — слове напісаным, бо ж напісанае застаецца. Усе гэтыя «отцовскы сыны», «аз смиренныи» вельмі кранаюць. Яны




▪ *Пяткевіч, А. М. Слова і кніга Прынёмання: зборнік навуковых артыкулаў / А. М. Пяткевіч. — Гродна: ЮрСаПрынт, 2016. — 208 с.*

прабіваюцца да нас, сённяшніх чытачоў, праз стагоддзі, і дзякуючы такім даследчыкам, як А. М. Пяткевіч.

У гэтым раздзеле змешчана пасляслоўе да Жухавіцкага Евангелля, якое ў свой час апублікаваў Вацлаў Ластоўскі. Не можа не здзівіць вялікая ахвярнасць таго, хто напрыканцы назваў сябе: «Нягодны Лукаш Прасвітар Царквы Жухавіцкай». Вось у якіх умовах стваралася Евангелле: «…Пісаў пры лучыне ноччу, левай рукой свецячы, а правай пішучы, гэта значыць у левай трымаючы лучыну, а ў правай пяро, і то тады, калі меў на паперу які грош з заробку, каб было за што яе купіць, дабрадзея ніякага не маючы». Нішто не змянілася з тых часоў у нашым краі. Толькі тэхніка пайшла далёка наперад. Вось і гэтую кнігу шаноўны прафесар выдаў сваімі намаганнямі, сам і рэдактар, і карэктар, і фундатар.

А працаваў той прасвітар Лукаш так самааддана, бо амаль не было ў беднай Жухавіцкай царкве кнігаў. Тварыў свой чын «на гонар і хвалу Богу ў Тройцы С. адзінаму і Найсвентшай Панне Марыі і ўсім святым». Пэўна, слова такога чалавека, ягоны тастамент Небам прынятыя. А ён быў у тым, каб кніга гэтая заўсёды ў той святыні знаходзілася. Іначай — «анафема г. зн. пракляцце навек і са мною павінен будзе мець справу ў страшны дзень Суда Божага». Дык не дзіва, што столькі бедаў трывае наша зямля, нашчадкі тых, хто не выканаў ягоных запаветаў.

Здабыткі, а іх безліч, слова друкаванага занатаваныя ў другім раздзеле. Гэта ўжо не лучынны час ахвярнікаў-адзіночкаў, тут дзейнічаюць друкарні ўзору еўрапейскага. Вялікую ўвагу аддае аўтар такім установам у Любчы і Гародні. І гэта зразумела: здабыткі іх працы ўражваюць. Так, 100 кнігаў за 20 гадоў выпушчана ў друкарні Тызенгаўза. Гэта лічба!

І тут А. М. Пяткевіч таксама бачыць і паказвае чытачу асобу, якая здзяйсняе вялікі чын асветніцтва. Гэта Пётр і Ян Кміты з Любчы, Антоній Тызенгаўз і Жан Жылібер з Гародні.

Пра імкненне даследчыка не абмінуць ні аднае з’явы культуры гаворыць, да прыкладу, такі факт. Між гарадзенскіх выданняў канца XIX стагоддзя гістарычнага, краязнаўчага, этнаграфічнага плана аўтарства Я. Арлоўскага, І. Раманоўскага, М. Доўнар-Запольскага і інш. сустракаем не толькі даволі вядомую кнігу «Перажыткі старажытнага светаўспрымання ў беларусаў» А. Багдановіча, але і забытую «Пра паншчыну», выдадзеную на год раней (1894).

Прасочвае навукоўца, як змянялася мова друкаў. Калі раней гэта была старабеларуская, пазней польская, то да канца XIX стагоддзя ў большасці руская. Пранесліся над Краем «лятучыя лісткі» «Мужыцкай праўды» Кастуся Каліноўскага, на якія даследчык звяртае асаблівую ўвагу.

А ўжо ў гады Адраджэння пачатку XX стагоддзя беларускае слова хоць яшчэ і было на паўлегальным становішчы, усё ж разнеслася тысячным накладам выдадзеных у Лондане брашураў. А там паўстала і «Наша Ніва», якая на Гарадзеншчыне была добра вядомая.

Зразумела, што не прамінуў аўтар альманах «Колас беларускае нівы», выдадзены сябрамі Гродзенскага гуртка беларускай моладзі, які названы неардынарным выданнем.

Была ў гісторыі беларускага друку і гарадзенская вясна. Гэта 1919 год, калі выходзіў цэлы шэраг цікавых выданняў: газеты «Беларусь, «Родны край», «Бацькаўшчына», «Беларускі народ» і інш.

Апошні артыкул у гэтым раздзеле «Па вайне», дзе разгледжаны друкаваныя выданні да нашага часу. Бракуе, як на мой погляд, паведамлення прычынаў, чаму так мільгаюць гэтыя назвы, што прымушала перыёдыкі сыходзіць са сцэны інфармацыйнага жыцця. Зразумела, што пра многае напісаць і немагчыма, і непатрэбна. Але хоць бы пра тыя выданні, што адыгралі асаблівую ролю ў нацыянальна-асветным кірунку. Такою была газета «Пагоня», якую А. М. Пяткевіч ацэньвае вельмі высока. І яе паўстанне, і яе руйнаванне адбывалася на вачох шаноўнага аўтара. Мяркую, тое было б цікава і для моладзі, для якое гэта ўжо гісторыя, і для іншых, бо мала хто пра тыя падзеі памятае.

Раздзел «Літаратурна-мастацкае слова» — пра літаратурны працэс на Гарадзеншчыне ад філаматаў да сёння. І тых, хто ўзгадаваны ў нашым краі, і тых, хто трапіў сюды з розных прычынаў. Мноства імёнаў, мноства твораў. Так, у заключным артыкуле з лаканічнаю назваю «Сучаснікі» згаданы больш за 160 імёнаў. Укласці іх у 28-старонкавы тэкст параўнальна невялікага выдання вельмі няпроста. Аўтар выкарыстоўвае трапныя, лаканічныя, выказаныя літаральна адной фразай, а то і некалькімі словамі характарыстыкі, якія дакладна высвечваюць галоўную адметнасць літаратурнага таленту. Называецца самае значнае. Толькі ў адным выпадку дазволю не пагадзіцца: лепш было б згадаць не тэмы сучаснага палітычнага жыцця публіцыста Зянона Пазьняка, а паэму «Вялікае княства» і кнігу лірыкі «Глёрыя Патрыя» паэта Зянона.

Вельмі істотную заўвагу, засцярогу робіць дасведчаны літаратуразнаўца напрыканцы размовы пра сучасны стан літаратуры, калі з'яўляецца «немалая колькасць кніжак аматарскага ўзроўню… Выпусціўшы такі твор ці зборнік, аўтар наіўна, а то і самаўпэўнена лічыць сябе пісьменнікам. Масавы, эстэтычна не падрыхтаваны чытач таксама ўспрымае такую прадукцыю як эталон мастацкай творчасці. Такім чынам размываецца сама катэгорыя мастацкасці і самадзейная літаратура наносіць шкоду чытачу».

У раздзеле «Выявы духу» размова ідзе пра яркія постаці Гарадзеншчыны: Яўхіма Карскага, Элізу Ажэшку, Макара Краўцова і інш. І гэта зразумела і неаспрэчна. А вось артыкул «Універсітэт імя Янкі Купалы як асяродак навучання і выхавання пісьменніцкіх асоб» выклікае сёння неадназначнае ўражанне. Цалкам справядлівыя словы пра тое, што «таленты заўсёды прыходзілі ў жыццё, каб супрацьдзейнічаць грамадскай рэальнасці свайго часу з мэтай яе аздараўлення, удасканалення». Ці можна сёння назваць хоць адну асобу з нашае ВНУ, якая была б здольная «супрацьдзейнічаць»? Пытанне рытарычнае. Амаль усё тут у мінулым часе. Балюча сёння бачыць спіс тых

чатырнаццаці навукоўцаў-філолагаў, якіх аўтар называе «выдатныя ў дыдактычным і навуковым сэнсе спецыялісты, якія сапраўды могуць уздзейнічаць на фармаванне пісьменніцкіх асоб». Балюча, бо з чатырнаццаці сем ужо не працуюць. Засталася палова, і не толькі таму, што іх не стала. А не прыйшоў ніхто, хто мог бы гэтыя прагалы запоўніць. Ды і тое, як ушанавалі ў ГрДУ круглую дату прафесара, які ўсё жыццё аддаў гэтай навучальнай установе, гаворыць пра многае.

Завяршае кнігу аўтабіяграфічны нарыс «Сваё», які падзагалоўкам мае «З родным словам», бо са словам беларускім А. М. Пяткевіч усё жыццё ідзе па зямлі.

Гэта мастацкая біяграфія чытаецца як цікавы твор непрыдуманае літаратуры. Зачын гучыць як лірычны маналог чалавека, чыё сэрца напоўнена глыбокай любоўю да месца нарадзінаў: «Кожны раз, калі кіруюся да роднага парога, калі машына, ідучы са Стоўбцаў, пераваліўвае цераз чыгуначны пераезд каля Нёмана і вачам адкрываецца шырокая панрама майго мястэчка Новы Свержань, зведваю раптоўны прыліў радаснай узбуджанасці, да якой аднак прымешваецца пачуццё гаркоты і жалю — нібы шкадаванне сябе: як жа даўно ты не быў тут, як ты так мог?»

Пісьменнік расказвае пра тое, як трапіў у Гародню, на працу ў педінстытут. Гісторыя даўняя, вядомая. Але гэтым разам мяне асабліва збянтэжыла ягонае «молада-зелена!» Нотка шкадавання прамільгнула ў тым выгуку. Быццам захацеў наш шаноўны Аляксей Міхайлавіч вярнуць страчаную ў маладосці магчымасць застацца ў Мінску ў Інстытуце літаратуры. Цяжка такое ўявіць, бо вельмі многа страціла б літаратурная Гародня ў такім выпадку.

Замілаванасць да мясцінаў маленства, любоў да родных людзей, выказаная стрымана, што характэрна стылю пісьменніка. Вылучае аўтар постаць бацькі Міхаіла Антонавіча, які зрабіў асаблівы ўплыў на фармаванне ягонае асобы. Звычайны службоўца на чыгунцы, меў ён абвостранае пачуццё справядлівасці, праз што неаднойчы ўзнікалі праблемы на працы. Быў чалавекам неардынарным, шанаваў кнігу, меў матэматычныя здольнасці, добры голас, іграў на аматарскай сцэне.

Пісьменнік азіраецца на пройдзенае, якое ўспрымае па-філасофску. Не наракае, не шкадуе: «Так склаўся лёс. Благі ці шчасны, гэта ўжо не мне ацэньваць. Але мой уласны. І роднае беларускае слова ў ім заўсёды было са мной».

Як тыя далёкія ў часе асветнікі нашае зямлі, так і Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч на гонар і хвалу Прынёманскаму краю, з якім зжыўся, аддае сваю працу.

*Альжбета Кеда*

## Пра роднае з усмешкай і ўсур’ёз

Калі пагадзіцца з тым, што любы пісьменнік усё сваё жыццё піша адну кнігу, дык зборнік апавяданняў Віктара Сазонава «Суседскія былі» сапраўды ў нейкім сэнсе з’яўляецца працягам яго папярэдніх кніг — «Занатоўкі кантрабандыста», «Сандалі мітрапалітыка» і «Паэзія прозы». Аб’ядноўвае іх перадусім стыль, я б назваў яго расповедам дасціпнага апавядальніка. Наратарам з’яўляецца назіральны, вясёлы мужчына сталага ўзросту, які любіць жыццё, назірае яго праявы і з досціпам каментуе іх.

І яшчэ, складаецца ўражанне, што аўтар, перад тым як напісаць гэтыя кнігі, вывучыў на памяць «Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы» ў двух тамах Івана Лепешава і ў прыдачу «Слоўнік беларускіх прыказак». Аўтар кнігі і яго героі шчодра сыплюць тымі фразеалагічнымі народнымі мудрасцямі. Усялякія там «а каб ты язык аб плуг падраў», ці «аж пуп прыляпае ад смеху да спіны». Хаця, можа, якраз тыя славутыя два тамы «Фразеалагічнага слоўніка» можна пашырыць да трох, павыбіраўшы з кніг Сазонава невядомыя Лепешаву моўныя перліны.




▪ *Сазонаў, В. Суседскія былі / Віктар Сазонаў. — Беласток: Ніва, 2015. — 299 с.*

Але маюць «Суседскія былі» і сваю асаблівасць. У нейкім сэнсе гэта кніга пра народную этыку. Большасць апавяданняў, якія ўтвараюць яе, маюць агульную сюжэтную структуру. Спачатку аўтар апавядае нейкую жыццёвую гісторыю, у якой праявілася чалавечая хцівасць, дурата або блазнаванне, і пабачанаму ці пачутаму даюць ацэнку людзі сталага ўзросту. Часцей за ўсё яны проста высмейваюць недарэку.

І яшчэ гэтая кніга захоўвае атмасферу беларускага жыцця ў 80–90-х гадах мінулага стагоддзя. Пераважна правінцыйнага. Калі людзі мелі ўяўныя каштоўнасці, якія сфармаваліся яшчэ за савецкім часам, напрыклад пра дарагія футры, нейкія рэчы, або пра форму і змест адпачынку. Сёння ўжо не кожны малады чытач зразумее, чаму нейкай кабеце так хацелася мець «прыкід» з натуральнага, каштоўнага футра і гэта была яе мара жыцця. Або навошта гэтулькі піць моцныя трункі і лічыць, што гэта адпачынак, калі можна з’ездзіць на горны курорт у Польшчу ці Аўстрыю або аўтастопам праехаць да Кітая і назад.

Такім чынам, кніжка карысная і для чытачоў старэйшага пакалення, і для моладзі. Першыя згадаюць пра мінулыя гады, можа нават і з настальгіяй, бо маладосць, якія б сацыяльна-палітычныя ўмовы ёй ні спадарожнічалі, заўжды недэвальвуемая каштоўнасць. А моладзі — набрацца розуму і пачуць народныя мудрасці.

*Алесь Аркуш*

## Трацяк і Філдынг




▪ *Трацяк, Я. — Саветы: заходнебеларускі раман-хроніка / Янка Трацяк. — Гродна: ЮрСаПрынт, 2015. — 430 с.*

Беларуская проза на сучасным этапе ўсё больш і больш дрэйфуе ў бок малых жанраў — навелы, апавядання, эсэ, абразка. Аповесць, дарэчы, у вербальных вірах сустракаецца не гэтак часта. Ну і, вядома, на гэтым фоне айчынныя пісьменнікі-раманісты як экзатычныя птушкі, а таму кожны новы беларускі раман здольны стаць вельмі заўважным для актуальнага літпрацэсу. Сапраўднай з'явай, важнай перадусім для гарадзенскай рэгіянальнай літаратуры, стаў выхад кнігі Янкі Трацяка «Саветы» (Гродна, выдавецтва «ЮрСаПрынт»). Як сведчыць падтытул выдання, гэта не проста раман, а заходнебеларускі раман-хроніка, што робіць гэты твор увогуле ўнікальным у сваім родзе, паколькі такая жанравая разнавіднасць сустракаецца адносна рэдка нават у межах усёй сусветнай літаратуры. Таму і просяцца ў якасці паралелей не зусім тыповыя прыклады з гісторыі прыгожага пісьменства: мне, напрыклад, чытаючы раман-хроніку Янкі Трацяка, адразу згадаўся Генры Філдынг — адзін з найбуйнейшых прадстаўнікоў еўрапейскага Асветніцтва. Некалі гэты пісьменнік стварыў своеасаблівую эстэтычную праграму, якой, на яго думку, мусіць кіравацца кожны аўтар. У аснове праграмы тры важныя і тры другасныя пункты. Важныя: 1) чалавекалюбства (спадарожнік сапраўднага генія); 2) вучонасць (без яе нават геній не зможа стварыць сапраўдны твор; 3) вопыт (веданне людзей, жыцця, гісторыі, без чаго не абыдзецца самы разумны і вучоны пустэльнік). Другасныя правілы: 1) пажадана карыстацца прыёмам кантрасту; 2) пажадана замоўчваць тое, чаго нельга адлюстраваць яскрава; 3) пажадана пісаць з гумарам.

Канешне, далёка не кожны, хто возьмецца за прачытанне заходнебеларускага рамана-хронікі, зможа быць адначасова і знаўцам творчай спадчыны заходнееўрапейскага асветніка. Аднак мне здаецца, толькі так можна патлумачыць патэнцыйнаму чытачу сутнасць таго, што крыецца на чатырохсот трыццаці старонках тэксту.

Не ведаю, таксама, ці чытаў калі тую праграму Генры Філдынга Янка Трацяк, але выконвае гарадзенскі пісьменнік спраўна ўсе названыя пункты. Таму і добрая проза ў выніку атрымліваецца. Таму і рэкамендую ўсім раман «Саветы».

*Анатоль Брусевіч*



# Хроніка

**25 студзеня** ў Гродне адбылося паседжанне Гродзенскай філіі Саюза беларускіх пісьменнікаў. На сходзе вырашаліся тры асноўныя пытанні: вызначэнне плана літаратурных мерапрыемстваў на 2017 год на Гарадзеншчыне, разгляд кандыдатураў ва ўступ у незалежны саюз беларускіх літаратараў і ўручэнне пасведчанняў новым сябрам арганізацыі.

**8 лютага** ў актавай зале гродзенскага Свята-Пакроўскага сабора адбылася прэзентацыя паэтычнага зборніка «Каложскі дабравест». Кніга складзена з вершаў адзінаццаці паэтаў — удзельнікаў літаратурных сустрэч, якія праходзілі у межах міжнароднага фестывалю праваслаўных песнапенняў «Каложскі Дабравест». 21 лютага, у Міжнародны дзень роднай мовы, прэзентацыя зборніка адбылася ў галоўным корпусе Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы.

**24 сакавіка** ў Цэнтры гарадскога жыцця ў Гродне адбылася прэзентацыя 5-га нумара гарадзенскага літаратурнага альманаха «Новы замак».

У сакавіку прэзентацыя альманаха «Новы замак» адбылася ў Навагрудку.

**19 красавіка** ў Гродне ў актавай зале Інстытута біяхіміі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі пры арганізацыі паэткі Алы Петрушкевіч прайшла культурніцкая вечарына «Пад зоркай Максіма Багдановіча».

**19 красавіка** ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы з удзелам сябраў СБП адбыліся Пятыя Лідскія навуковыя чытанні, прысвечаныя 500-годдзю беларускага кнігадрукавання.

**26 красавіка** ў Гродне ў этнакраме «Цудоўня» адбылася творчая сустрэча з паэтам і літаратуразнаўцам Міхасём Скоблам.

У **траўні** сябры СБП узялі ўдзел у рэлігійна-культурніцкім свяце ў Слоніме і Жыровічах.

**18 чэрвеня** ў адзіным у Гродне грамадскім музейчыку Васіля Быкава адбылося ўшанаванне памяці пісьменніка, прысвечанае ўгодкам з дня нараджэння пісьменніка.

**6 ліпеня** ў Гродне прайшла X Усебеларуская дыктоўка. Сёлета яна была прысвечана пяцісотгоддзю беларускага кнігадрукавання. Адмысловы тэкст з гэтай нагоды прачытаў літаратуразнавец, прафесар Аляксей Пяткевіч.

**26 ліпеня** ў Гродне ў Цэнтры гарадскога жыцця прайшла творчая сустрэча з паэткай Інай Снарскай. Яе дапамагло арганізаваць Гродзенскае аддзяленне Саюза беларускіх пісьменнікаў. Іна Снарская прадставіла сваю кніжку «Вогнепаклонніца», якая выйшла ў серыі «Бібліятэчка часопіса “Дзеяслоў”».

**6 жніўня** ў Зэльве творчая інтэлігенцыя Беларусі адзначыла 107-я ўгодкі з дня нараджэння вялікай беларускай паэткі-змагаркі Ларысы Геніюш. Ушанаванне пачалося ў Зэльвенскай Свята-Троіцкай царкве паніхідай. Потым старшыня Гродзенскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Валянцін Дубатоўка ўручыў падзячную грамату СБП настаяцелю царквы ў Зэльве Георгію Субаткоўскаму за ўшанаванне памяці Геніюш, за адкрыццё ў храме прысвечанага ёй пакоя-музея і папулярызацыю твораў паэткі. Працягвалася мерапрыемства згадкамі пра паэтку-змагарку ў царкоўным доме. Сустрэчы з ёю прыгадалі пісьменнікі Уладзімір Ягоўдзік, Юрка Голуб, Аляксей Пяткевіч.

**9 жніўня** ў Гродне ў Каложскай царкве адбылася паніхіда па Ларысе Геніюш, а пазней прайшла літаратурная імпрэза з удзелам сяброў СБП.

**26 жніўня** сябры СБП узялі ўдзел у кніжнай выставе ў Зэльве на Ганненскім кірмашы.

**8 верасня**. Сябры СБП узялі ўдзел у Песках (Лідскі раён) у фэсце, прысвечанаму Дню беларускай вайсковай славы.

**21 верасня** ў Цэнтры гарадскога жыцця ў Гродне вядомы паэт і літаратуразнаўца Міхась Скобла прэзентаваў два выданні — зборнік сваіх эсэ і гутарак «Выспятак ад Скарыны» і перакладную калектыўную працу «Гісторыя Сапегаў. Жыццяпісы. Маёнткі. Фундацыі». Укладальнік расказаў пра тое, як ствараліся кнігі, якім быў шлях да іх выдання.

**23 верасня** ў Дзятлаўскім раёне прайшло абласное свята беларускай паэзіі. Прымеркаванае яно было да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання. Арганізавала свята мясцовая філія Таварыства беларускай мовы пры падтрымцы мясцовых уладаў і Гродзенскай абласной філіі Саюза беларускіх пісьменнікаў. Асноўная частка фэсту прайшла ў вёсцы Зачэпічы, дзе летась быў усталяваны памятны камень з шыльдай у гонар мясцовых народных паэтаў — Гарасіма Праменя, Петруся Граніта і Васіля Струменя. Вёў імпрэзу ведамы грамадскі актывіст і краязнавец Дзятлаўшчыны Валерый Петрыкевіч. На свяце выступалі літаратары Валянцін Дубатоўка, Сяргей Чыгрын, Міхась Скобла, Мікола Канановіч, Янка Трацяк, Віктар Сазонаў, Станіслаў Суднік. Песні пад гітару выконвалі Сяргей Чарняк, Уладзімір Хільмановіч, Зміцер Бартосік. Вершы беларускіх класікаў чыталі школьнікі са школаў Дзятлаўшчыны.

**18 кастрычніка** ў Гродне на пасяджэнні гродзенскага літаратурнага клуба ў Цэнтры гарадскога жыцця адбылася сустрэча з Віктарам Сазонавым, а пасля аматары пісьменніцтва абмеркавалі яго кніжку «Занатоўкі кантрабандыста».

**27 кастрычніка** ў Слонімскай раённай бібліятэцы імя Якуба Коласа адбылася прэзентацыя кнігі «Гісторыя Сапегаў». У ёй узялі ўдзел сябры СБП Міхась Скобла і Сяргей Чыгрын.

**2 лістапада** грамадскія актывісты Гродна, сярод якіх былі сябры СБП, на Дзяды ўшанавалі памяць гродзенскіх літаратараў, пахаваных на старых могілках па вуліцы Антонава і на могілках па праспекце Касманаўтаў.

**16 лістапада** гродзенская пісьменніца і паэтка Альжбета Кеда (Ала Петрушкевіч) у Народным клубе творчай інтэлігенцыі «Грані» прэзентавала сваю новую кнігу «Шчонаўскія абразкі».

**19 лістапада** ў зале гродзенскага Свята-Пакроўскага кафедральнага сабора адбылася вечарына памяці літаратуразнаўца Ігара Жука. Была прадстаўлена пасмяротная кніга «Прыхінуцца да крыніцы», прысвечаная творчасці народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа.

**22 лістапада** ў Лідскай раённай бібліятэцы з удзелам сябраў СБП адбылася творчая сустрэча з беларускай паэткай Данутай Бічэль, нараджэнкай Лідчыны.

**24 лістапада** ў Слонімскай раённай бібліятэцы імя Якуба Коласа ўрачыста адкрылі музейны пакой Алега Лойкі, доктара філалагічных навук, прафесара, члена-карэспандэнта Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, пісьменніка, навукоўца, перакладчыка.

**2 снежня** ў Шчучыне адбылася прэзентацыя кнігі Рычарда Бялячыца «Са мной мой дзень». Слова ад сяброў СБП бралі Валянцін Дубатоўка, Юрка Голуб, Ала Нікіпорчык, Ала Петрушкевіч.

**10 снежня** ў Цэнтры гарадскога жыцця адбыліся прэзентацыі кніг Дануты Бічэль «Дажыць да Каложы» і Андрэя Пяткевіча «Шчасьлівым сканаць».

*Падрыхтаваў Уладзімір Хільмановіч*

# Змест

## Проза старога горада



## Паэзія



## РОЗА

## Успаміны



## Пераклады



## ІТАРАТУРАЗНАЎСТВА





## ПІСТАЛЯРЫЙ





## УМАР І САТЫРА

## Сярод кніг



## Хроніка

Альманах выходзіць на беларускай мове.

Як даслаць тэкст у «Новы замак»?

У альманах прымаюцца адпаведна падрыхтаваныя тэксты. Загалоўкі і абзацы павінны быць набраны праз адзін інтэрвал і выраўнаны па левым краю: у праграме Microsoft word у пашырэнне doc альбо docx. Шрыфт: Times new roman. Не належыць рабіць водступ, каб пазначыць абзац, і самастойна размячаць шрыфты. Тэксты не фармаціраваць! Нявычытаныя і створаныя ў іншых праграмах тэксты абцяжарваюць укладальніка чарнавой працай. Памятайце: нядбайнасць аўтараў ускладняе тэхнічную падрыхтоўку альманаха, яго вёрстку.

Ахвотныя надрукавацца абавязаны даслаць свой здымак у пашырэнні JPEG памерам не менш за 1000 кб (1 мгб). Неабходна таксама сціслая біяграфічная даведка са звесткамі, якія датычаць літаратурнай творчасці. Узор даведкі — у альманаху.

Матэрыялы трэба дасылаць у электронным выглядзе на адрас:
**novyzamak@gmail.com**

«Новы замак» можна знайсці на: www.facebook.com

**12+**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**НОВЫ ЗАМАК**

*Літаратурны альманах. Гродна. MMXVII. Выпуск 6*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Алесь Пашкевіч*
Вёрстка *Ларысы Гарадзецкай*
Карэктар *Алена Спрытніч*

Падпісана да друку 30.12.2017. Фармат 70х100 $^1/_{16}$.
Рызаграфія. Папера афсетная.
Ул.-выд. арк. 12,3. Ум. друк. арк. 19,61.
Наклад 200 асобнікаў. Зак.54.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.